


**Вадзім Вераб'ёў.** ***Беларускі друкар Ян Карцан з Вялічак з-пад Ліды (? - 1611).*** *Аловак, 2013 г.*



# Ад лідскіх муроў

Літаратурна-мастацкі зборнік
2012 - 2015 гг.

**№ 8**

**г. Ліда**
**2015**

**Ад лідскіх муроў**. Літаратурна - мастацкі зборнік № 8 за 2012-2015 гг. На беларускай мове. Ліда. 2015. 440 с.
Укладальнікі: Станіслаў Суднік, Алесь Хітрун.
Галоўны рэдактар: Станіслаў Суднік.
Рэдактар раздзела паэзіі: Алесь Мацулевіч.
Рэдактар раздзела прозы: Алесь Хітрун.

У зборнік уключаны выняткі з творчага даробку лідскіх літаратараў за 2012-2015 гг. У зборнік трапілі матэрыялы, якія былі апублікаваны ў гэтыя гады або падрыхтаваны да друку. У зборнік увайшлі і іншыя матэрыялы, датычныя літаратурнага жыцця Лідчыны.

*На першай старонцы вокладкі - **Бюст Янкі Купалы.** Аўтар Яўген Лукашэвіч, г. Бярозаўка, 2015 г. Месца ўстаноўкі - Лідская цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы, фае чытальнай залы.*

# Людзі на Узвышшы

Назвай уступнага артыкула ў гэты зборнік узята назва верша Ірыны Багдановіч, які пачынаецца наступнымі радкамі:

*Кажуць хлусы: беларусы -*
*Людзі на балоце,*
*І балота іх калыска*
*Ў радасці й самоце.*
*Але мы тут скажам з верай*
*Хлусакам увішным:*
*Беларусы - гэта ўперад*
*Людзі на Узвышшы!..*

Цяжкавата сказаць, як там справа выглядае з усімі беларусамі, але аўтары твораў, змешчаных у чарговым нумары альманаха “Ад лідскіх муроў” сапраўды - на Узвышшы, на Узвышшы творчым. Некаторыя нават ужо стаяць і на падступах да Парнаса, а то і на саму гару заглядваюць.

У зборніку сабраны творы каля 40 аўтараў і перакладчыкаў, напісаныя, надрукаваныя, перакладзеныя ў перыяд 2012-2015 гадоў. Ёсць імёны, якія сустракаліся ў папярэдніх зборніках альманаха, ёсць дэбютанты, але, што праўда, адсутнічаюць многія аўтары, асабліва маладыя, якія друкаваліся ў мінулыя гады, а цяпер нідзе не праяўляюцца. Магчыма яны і працягваюць пісаць, але сувязь з літаратурнай Лідчынай у пэўны час згубілі, будзем спадзявацца, што не назаўсёды.

Затое ўпершыню далі свае творы ў альманах такія знаныя майстры пяра як Віктар Праўдзін і Валер Санько. Упершыню друкуюцца пераклады вершаў Антонія Гарэцкага і генеральнага сакратара Саюза пісьменнікаў народнай Польшчы Ежы Путраманта. Упершыню з'явіўся раздзел "Мемуары".

Вялікі перапынак паміж выхадамі 7-га і 8-га зборнікаў стварыў сітуацыю, што сабралася значная колькасць паэтычных і празаічных твораў. Таму ў 8-мы зборнік не ўключаны раздзелы "Крытыка" і "Жыццяпісы", якія меліся быць. Адсутнічае раздзел "Музыка", памёр кампазітар Вячаслаў Пыпець, а больш ніхто з музычных творцаў на супрацоўніцтва з альманахам не выйшаў.

Тым не менш 8-мы зборнік, калі і не паказвае цэльнай карціны лідскага літаратурнага жыцця, то падае даволі грунтоўны зрэз яго на сучасным этапе. Фактычна, хто ёсць у лідскім літаратурным працэсе, той ёсць і ў альманаху. Хто недзе побач, той побач.

***Станіслаў Суднік.***



# *Данута Бічэль*

*Нарадзілася ў 1937 годзе ў вёсцы Біскупцы пад Лідай, у сялянскай сям'і. Скончыла Наваградскае педагагічнае вучылішча (1957), аддзяленне беларускай мовы, літаратуры і гісторыі Гарадзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы (1962). З 1962 выкладала беларускую мову і літаратуру ў школах Гародні. З 1982 года працавала ў Гародзенскім гістарычна-археалагічным музеі. Некаторы час была загадчыцай Дома-музея Максіма Багдановіча ў Гародні.*

*У друку выступае з 1958 (газета "Літаратура і мастацтва"). У вершах, арганічна звязаных з народна-паэтычнай традыцыяй, апявае Радзіму, жыццё працаўнікоў вёскі, прыгажосць роднай зямлі.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі "Дзявочае сэрца" (1961), "Нёман ідзе" (1964), "Запалянкі" (1967), "Доля" (1972), "Ты - гэта ты" (1976), "Браткі" (1979), "Дзе ходзяць басаནож" (1983, Дзяржаўная прэмія Беларусі), "Загасцінец" (1985), "Даўняе сонца" (1987), "А на Палессі" (1990), "Божа, мой Божа" (1992), "Снапок" (1999), "На белых аблоках сноў" (2002), "Стакроткі ў вяночак Божай Маці" (2004), "Ойча наш..." (2008) і інш. Напісала паэмы і кнігі вершаў для дзяцей "Перапёлка" (1968), "Грыб-парасон" (1969), "Дзічка" (1971), "Рыжая палянка" (1971), "Дагані на кані" (1973), "Лузанцы" (1982), "Габрынька і Габрусь" (1985). Аўтар кнігі нарысаў, мемуараў і эсэ "Хадзі на мой голас" (Вроцлаў, 2008), выдала кнігу прозы "Мост святога Францішка" (2010).*

*Жыве ў Гародні.*

## ЗАГАСЦІНЕЦ

Будавалі хаты ўсе разам,
не было ні платоў, ні лазаў.
Не ва ўсіх былі свае студні…
Быў Загасцінец шматлюдны…

Вясёлы, спеўны, стракаты…
Хадзілі ў касцёл на рараты.
Хадзілі пад крыж на ружанец.
Непатрэбных, нас нараджалі.

Пасылалі каровак пасвіць.
Не вучылі абманваць і красці.
Як бульбу пад весну канчалі,
адны ў другіх пазычалі.

Кадрэлю танчылі,
цялят малых няньчылі,
кветкі на комінах малявалі,
і сварыліся, і спявалі

свае сапраўдныя песні,
што з хатамі перанеслі.

Такі быў рай на зямлі.
Ды стаміліся ўсе і пайшлі --
паасобку і без чаргі,
адзін, а пасля другі…

Ігнась за Ганнай, іх хата з краю,
адной душой ляцелі да Раю…
з раю зямнога
да светлых светлаў…
Нарэшце ўсе ўцяклі ад саветаў.

А ў цётчынай студні
вада жывая -
гаючую таямніцу трымае…
Сонейка чэрпае
цётчыну студню
ды палівае
ўсю гэту бязлюдню…

*17.05.2013 г.*

## НАСТАЛЬГІЯ ПА ДЗЯВОЧАЙ КРАІНЕ

Сэрца сціснецца -
поўначкі выйду,
пайду праз жывое балота -
наіўная наіўнота -
ва ўрачыстую, з замкамі, Ліду.

Цуд адбудзецца -
стану дарослай.
Але малады зялёны мой розум:
ад навукі мутнеў, нібы п'яны,
галаву вадзіла ў бакі,
як ішла праз мосцік драўляны,
то лятaлі ў вачах матылькі.

Дом там рос - стары і прыгожы.
У ім жыла святая сям'я.
З імі Франя, Марыся і я -
у вузкай шчылінцы грэліся,
адгароджанай
старым крэдансам.

Дабрыня панавала без межаў…
Магдалена замольвала ежу.
Нашу пані наведваў ксёндз
і нас дабраслаўляў перад сном.
Кніжкі мудрыя пані чытала,
усё жывое ў хляўку сакатала.

Мы -- не мудрыя і не хітрыя,
геаграфію блыталі з хіміяй.
А Ліда, як добрая мама,
выпраўляла нас на экзамены.
А на поплаве каля Лідзейкі
калыхалі нас салавейкі.

Гаспадыня святая наша
на мяне пагляне ды скажа:
- Ты ўмееш вершы складаць,
ці навучышся жыць прыгожа,
так, каб таленты не марнаваць
на зямныя справы і грошы?

Каб не дрэнчыў
свет гэты хворы,
на Каляды і на Вялікдзень
нас праводзіла тайна на хоры,
каб на хорах ніхто не выдаў.

Ліда - дом
прасторны, драўляны.
Ці застаўся, ці зруйнаваны?
Як жывы, то памятаць будзе:
у Лідзе нас выводзілі ў людзі!

*21.05.2013 г.*

## ЛІДСКІ ЗАМАК

У балотнай Лідзейцы
апырскваюць скроні
жаўрукі, што ўпалі з-пад хмар.
Абмялілі прадонне
рачулкі коні
крыжакоў і беглых татар.

Што тварылася ў Лідскім замку,
як чужынец грукаўся ў брамку?
Навакол разносячы беды,
вежы замка ўзарвалі шведы…

Пералётны хан Тахтамыш
начаваў пад мурамі, як мыш.
Тут хапала ўсяго яго войску,
але Вітаўт павёў іх
на Ворсклу…

Сцены замка -
паўстанцаў верныя служкі,
не лічылі смяротных страт,
як паставілі воі Касцюшкі
баявых васямнаццаць гармат.

Ад забытых дзён Гедыміна
да тых дзён, як нямецкая міна
аб муры пакрышыла зубы, -
камяні не баяліся згубы…

Ад знадворку і да скляпення
непарушна ў звёны ляглі -
упрытык сотні тысяч камення,
паўтара мільёна цаглін…

Не цураліся продкі працы,
будавалі замкі, палацы,
кармілі чужынцаў хлебам,
галадалі пад родным небам.
Не гублялі продкі надзеі,
а вучылі плаваць дзятву -
скідаючы з моста ў Лідзейку,
якая ўцякала ў Дзітву.

А Дзітву прытуляў
бацька Нёман…
А плыты плылі за паромам…

## ВЕРШ, ЗАБРАКАВАНЫ Ў ВЫДАВЕЦТВЕ

Людзі простыя,
край свой любім…
А куды ад яго пабяжыш?
Можна знікнуць у Гвадалупе
ці аддаць жыццё за чужых…

А на Нёмане пад калінаю
разальецца туга па вадзе…
Ты баішся, дзяўчо наіўнае, -
Беларусь без цябе прападзе?

Дык навошта вандроўкі далёкія?
Можна ў думках павандраваць…
Над зямлёю воблачкі лёгкія -
проста воблачкам лёгкім стаць…

У нябёсах паплаваць і згінуць
кропляй з хмаркі -
усё роўна дзе…
Ты баішся, дзяўчо наіўнае, -
Беларусь без цябе прападзе?!

## ДОЖДЖЫК

Дожджык стаіць на парозе і плача -
мокры да ніткі, такая няўдача:
з неба вяртаўся, стаміўся і змок.
А тут на дзвярах - вялізны замок.

Некалі нехта дражніў:
- Сікані!
Маму і тату дамоў прагані!
Грому з маланкай дай падрасці!
Смелых дзяцей на кані пракаці!

Дзе гаспадар, гаспадыня, іх конь?
Хлеб - на стале, у печы - агонь?
Дождж да людзей прыходзіць з дабром -
а іх тут няма, і ледзь дыхае дом...

Дожджык стаіць на каменнай прыступцы,
топчацца, нібы таўкачык у ступцы.
Можа, якая жывая душа
ў коміне ў сажы прытулак знайшла?

Дожджык разгублена ходзіць па крэйцы.
Ключ ад замка шукае ў паветцы.
Сплакаўся дожджык, стаміўся і сціх…
Ідзі пад бярозкі, там знойдзеш усіх.



*Уладзімір Васько нарадзіўся ў в. Ліпічанка Шчучынскага раёна. Працаваў у рэдакцыі "Лідскай газеты" (раней - "Уперад") з 1972 па 2000 г. Жыве ў Лідзе. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2007 г.*

*Друкаваўся ў газетах, часопісах, калектыўных зборніках паэзіі. Аўтар паэтычных кніг "Прасветленасць" (1981), "На схілах берагоў" (1997), "Кругазварот жыцця" (2011), а таксама кнігі прозы "Лясная рапсодыя" (2013).*

# *Уладзімір Васько*

## МАЯ АЙЧЫНА

Нічым не замяніць
маёй Айчыны.
Я пупавінай да яе прырос.
Тут кожны дуб магутны -
малайчына,
салодкі водар кліча да бяроз.

Мілуюць сэрца рэкі, пералескі,
пакатыя ўзгоркі ля дарог,
каля крыніц - вясёлыя пралескі,
на полі канюшына і гарох.

Жытнёвых хваль
аблічча маладое
кранаецца даверлівай рукі.
А за мяжой?
А за мяжой - не тое.
Мы там як адзіночкі -
байструкі.

## ЧАЛАВЕК-МУРАШКА

Зямля - мурашнік.
Мы ўсе - мурашы.
Ствараем нешта,
нешта здабываем
і зарабляем пэўныя грашы,
якіх удосталь
вельмі рэдка маем.
Не ўсемагутны ўсё-ткі чалавек:
не справіцца з жукамі
з Каларады,
ніяк не можа вылечыць калек,
з эстрады часам
падае да здрады.
Ну й што, што ў космас
неяк сігануў,
але ж да зорак
не дастаў рукамі?
Дык ён яшчэ так мала дасягнуў,

як і мурашка,
што паўзе на камень.
Праз тысячу гадоў мо падрасце,
і падужэе розумам і целам,
калі не стане кучаю касцей
ад зброі, што стварае агалцела.

## У ПАНЯМОНЦАХ

Красуюцца над Нёмнам
Панямонцы.
Прыпарыла. Сцішала.
Прыпякло.
І залацяцца плоткі ў лодцы,
якіх навудзіць сонца памагло.
А лілеі, што ўпрыгожылі затоку.
У кожнай з іх дзявочае святло.
І ад яго загадкавага соку
наўкола ўсё тут ярка расцвіло.
Не патрывож,
не напалохай чаплі:
ёй сніцца лёгкі, каляровы сон,
як лебедзь-цар
да берага прычаліў
і ёй адбіў даверліва паклон.
А Нёман тут,
як род людскі, - бясконцы.
Чаруе лозаў маладая плынь…
Пабудзь хоць дзень
у вёсцы Панямонцы
і цёплы след
сабе ў душы пакінь.

## АДЗІНОКАЯ ВЁСКА

Забытая вёска ў полі,
забітыя вокны ў хатах,
зачынена крама з нядолі:
людзей бо зусім малавата.
Старыя бабулькі - як цені.
Дзядулі - карчамі ля плоту.
Дарога, нібы ў здранцвенні,
чакае прылёту асоту.
Не бачна ніводнай кароўкі,
і зніклі апошнія козы.
Загінеш ты, вёска-палёўка,
і ўсё зараўняе бульдозер.

## ДОБРЫ НАСТРОЙ

Заглядзелася сонца ў раку,
асвятляючы вёрткія рыбкі.
Добры дзень спадару рыбаку!
Добрай раніцы, срэбныя блікі!
Добры дзень
стогадовым дубам!
Добры дзень, адзінокая лодка!
Добры дзень, бусляняты, і вам,
і табе, прыбярэжная плотка!
Вось дык раніца!
Вось дык размах!
Вось дзе радасці сінія сховы!
Рады сонцу казяўка і птах,
і шчупак, і пастух, і каровы.
Ну а я? Што казаць пра мяне?
Я на небе бязвоблачным сёмым.
Я ў рэальнасці ці мо ў сне?
Як мне лёгка і хораша сёння!

## ПРЫЗЯМЛЕННЕ

Задумаць што-небудзь такое,
каб свет навакольны здзівіць,
каб славай памерацца з Ноем,
галодных усіх накарміць,
у космас забрацца б - на Месяц,
на Марсе хоць раз пабываць.
Ах, думкі! Ах, мары!
Як цешаць!
Іх трэба ж практычна
здзяйсняць…

А гэта ўжо мне не пад сілу…
Дык абы пра што не зюзні.
Вазьмі лепш вунь тую кабылу
і з лесу воз дроў прывязі.

**СУСЕДЗІ**

- Прыкончу, зараза, -
крыкнуў ён злосна.
І морда зрабілася
жорсткай і грознай.
І так наляцеў,
нібы тыгр, на суседа,
як быццам нічога
святога не ведаў.
Набраўся ў тусоўках
па горла благога.
Не верыць у праўду,
не верыць у Бога.
… Ну а сусед
не сварыўся, не біўся,
апошнім кавалачкам
хлеба дзяліўся.
Сумлення свайго
не прапіў за капейкі,
вучыўся жыццю
ў Ігната Дамейкі.
І зла не рабіў
ні бандыту, ні жонцы,
ні бацьку яго,
ні матулі, ні дочцы.
А ён, паглядзі ты,
нажом пагражае…
Пустая істота,
тупая, чужая…

**СЯЛЕЦ**

Каля Нёмана ціха стаіўся Сялец.
Белых воблакаў лёгкая накіп на небе.
Ты не думай, што вёскам прыходзіць канец,
але думай аб іх, як аб масле і хлебе.
Фестывалі прайшлі ў гэтай вёсцы лясной,
але людзі жывуць і па вуліцах ходзяць,
і цюльпаны цвітуць сакавітай вясной,
і сады, хоць старыя, яшчэ пладаносяць.
Гарадскія ў Сяльцы раскупілі дамы.
І сваіх жыхароў тут жыве палавіна.
І ўпрыгожваюць ранкам дымкі каміны,
і цвіце выпускніцай пры школе каліна.
Мір уплёўся ў кветкі і лёсы людзей.
Ды была тут вайна, і былі партызаны.
І стаяць яшчэ дзоты (адзін у вадзе),
і смыляць у дзядулі даўнейшыя раны.
А чыгуначны мост аднавілі даўно.
Ён глядзіцца карцінна на фоне прыроды.
Эх, каб зняць гэты здатны пейзаж у кіно,
хоць з любой выпадковай і простай нагоды!



# Крысціна Лялько

*Крысціна Аляксееўна Лялько  беларуская пісьменніца, перакладчыца і журналістка.*

*Нарадзілася 30 сакавіка 1956, на хутары каля в. Хадзюкі, Лідскі раён). Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Беларусь». Галоўны рэдактар каталіцкіх часопісаў «Наша Вера» і «Ave Maria».*

*Першыя вершы апублікавала ў 1971 ў лідскай газеце «Уперад». Аўтар кніг прозы «Дарога пад гару», «Світанак над бярозамі» і кнігі паэзіі «На далонях любові». У яе апрацоўцы выйшаў зборнік народных казак «Хітрэй свету не будзеш». Пераклала на беларускую мову нарыс Уладзіслава Сыракомлі «Мінск», кнігі Папы Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі», «Дар і Таямніца», «Устаньце, хадзем!», «Памяць і самасвядомасць», энцыклікі «Fides et ratio», «Ecclesia de Eucharistia», Апостальскі ліст пра Ружанец «Rosarium Virginis Mariae», творы Яна Твардоўскага і іншыя тэалагічныя творы.*

* * *

*Менскай архікатэдры*
*ахвярую*

У гэтым краі, далёкім ад раю,
дзе нішчылі душы і храмы,
дзе шмат руінаў, болю і драмаў,
дзе плачуць так, як спяваюць.

У гэтым краі, далёкім ад раю,
дзе памяць крывавіць, як рана,
дзе гэтулькі знішчана і забрана,
дзе ўзятае рэдка вяртаюць.

У гэтым краі, далёкім ад раю,
насуперак здзекам і кпінам,
сваю святыню ўзняў з руінаў
люд верны роднага краю.

У гэтым краі, далёкім ад раю,
У самым цэнтры сталіцы,
Зайдзі ў святыню,
каб памаліцца
і дакрануцца да раю.

* * *

Заблудзішся ў стольнай Вільні
і выйдзеш да Вострай брамы...
Гэта анёл твой пільны
прыводзіць цябе да Мамы.

Нячутны, нябачны, чуйны, -
заўжды над табой яго крылы:
і ў горадзе непрытульным,
і ў час, калі свет нямілы.

З усіх сцяжынаў-дарогаў
адну для цябе выбірае, -
па ёй - найбліжэй да Бога
і Маці на ёй чакае.

* * *

Каляды. Маленства. Маці.
У ясельках Езус малы.
Так светла ў нашай хаце,
Так блізка да Божай хвалы.

Ялінка зіхціць святочна,
Калядкі спяваем з мамай.
І ў кожным сэрца куточку
Усё для свята прыбрана.

Такая была там казка,
У тым маленстве далёкім!
Дзякуй Богу за ласку,
За зорку ў небе высокім.

Яна й гэты год заззяе
Ў ціхі святочны вечар...
Ды хата стаіць пустая,
Без тых,
што пайшлі ў вечнасць.

* * *

Смалявічы.
Раніца. Белае поле.
Новы год затрымаў новы дзень.
Сэрца б'ецца
з прытоеным болем,
ўсё былое знікае, як цень.

Смалявічы.
Раніца. Белая ціша.
Зорка ў небе азяблым дрыжыць.
І святы Валянцін, і Францішак
дапамогуць любові ажыць.

Смалявічы.
Раніца. У светлай капліцы
светла марыць і светла маўчаць.
І аб самым таёмным маліцца,
і аб самым цяжкім забываць.

Смалявічы.
Раніца. Трэба вяртацца,
трэба думаць пра новы абсяг.
З кім сустрэцца,
а з кім развітацца?..
Новы год.
Новы дзень.
Новы шлях.



# *Ірына Багдановіч*

*Ірына Эрнстаўна Багдановіч (нар. 30 красавіка 1956, Ліда) - беларуская паэтэса і літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук. Скончыла гістарычна-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі (1983). З 1983 працуе ў Інстытуце літаратуры АН Беларусі.*

*Друкуецца з 1973. Аўтар кніг вершаў "Чаравікі маленства" (1983), "Фрэскі" (1989), "Вялікдзень" (1993), "Сармацкі альбом" (2004), "Прыватныя рымляне" (2006), "Душа лістападу" (2013) манаграфій "Янка Купала і рамантызм" (1989), "Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння" (2001). Укладальнік зборнікаў "Казімір Сваяк. Выбраныя творы" (2010) і "Вінцук Адважны. Выбраныя творы" (2011). Перакладае з польскай мовы.*

**ТЫ, ХРЫСЦЕ…**

Калі душа зусім зняможа,
Здрыгвеюць думак берагі,
Ты паднімаеш мяне, Божа,
Вядзеш праз буры і снягі,

Даеш надзею, ласку дорыш
І наталяеш смяглы дух,
І настаўляеш у пакоры,
Каб захінуць ад завірух.

А я ў жыццёвым калаўроце
Перад спакусамі й маной
Малюся ў сцішанай самоце:
Мой Божа,
будзь заўжды са мной!

Прабач памылкі і правіны,
Жаданні пышных апранах…
Ты, Хрысце, Збаўца наш адзіны,
Жыццё, і Ісціна, і Шлях.

## ТЫ - ВЕТРАЗЬ…

Дай, добры Божа, нам пакоры
З Тваёю воляй згодна жыць;
Ты - ветразь у жыццёвым моры,
Дапамажы па моры плыць.

Дай моцы Духу нам, стамлёным
Штодзённай
жорсткай барацьбой,
Каб чуцца нам дабраславёным
У шчырай злучнасці з Табой.

Нас умацуй праз сакрамэнты,
Тваё святое Цела й Кроў;
Святлом сваім на нас прамень Ты
Праз чын ахвярны святароў,

Каб сэрцы мы свае адкрылі
На таямнічыя Дары,
Цябе і бліжняга любілі,
Як і вучыў Ты на гары.

## СПЯШАЕ ДЗЕНЬ

Як хутка ночы пралятаюць,
Як шпарка прабягаюць дні!
За імі сны не паспяваюць
І справы ўсе мае, ані…

Як жа прыцішыць, запаволіць
Той шпаркі бег, імклівы рух,
Каб умясцілася ў іх болей
І сноў, і спраў, і завірух,

І спёкі летняй, і вясновай
Красы, і восеньскай слаты…
Спяшае дзень з турботай новай,
З рахункам хвілек залатых.

І я малюся Табе, Божа,
Падзяку шлю за дзень,
што зноў,
Як падарунак найпрыгожы,
Ты даў мне ў шчодрасці сваёй.

## ЛЮДЗІ НА УЗВЫШШЫ

Кажуць хлусы: беларусы -
Людзі на балоце,
І балота іх калыска
Ў радасці й самоце.
Але мы тут скажам з верай
Хлусакам увішным:
Беларусы - гэта ўперад
Людзі на Узвышшы!
А калі іх цёмны сілы
У балота цягнуць,
Молім шчыра: Божа мілы,
Выбаў з тае багны!
І праліся ў сэрцы, душы
Ласкаю нябеснай,
Каб нам цешыцца няскрушна
Доляю пачэснай.



# Алесь Стадуб

*Стадуб Алесь (Аляксандр Дзям'янавіч) нарадзіўся 24.04. 1938 г. у в. Юшавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобл. Скончыў 10 класаў у Нясвіжы. Пасля службы ў войску закончыў Усесаюзны інстытут імя Крупскай (музыка, клас гармоніі). Узначальваў маладзёжны хор у Яраслаўлі. Там закончыў філфак пядінстытута. Выкладаў у школе, працаваў у мясцовых газетах. У 1972 г. пераехаў у Ліду, дзе быў намеснікам старшыні таварыства «Веды». Друкаваўся ў абласных і рэспубліканскіх выданнях.Аўтар кніг: "Твае вочы", "Вузел (трыялеты)", "Споведзь натхненнем", "Летапіс па--чуццяў", "Калінавыя гроны", "Сюжэт на фоне адвячорку", "Водгук ісціны", "Скрыжалі", "Мільянерка" і інш. Сябра СБП з 2007 года.*

**ЛЕТА**

Дарогай трактар з сенам
Мне прэ на перарэз,
Пара - травы кашэнне,
Пуцёвак шмат у рэйс.

Яшчэ ўся ліпа ў бобках,
Сюды пчала не мкне,
Шмат цікавостак крохкіх
Да белых мух засне.

Дзень чэрвеньскі, бяссонны
Патамі ўвесь прапах,
Спаткнецца вечар сонны
На сініх лапухах.

**ЧЫТАЙЦЕ**

Чытайце ноты, як літанні,
Майго настрою спарышы.
І сум, і спеў, і спадзяванні
Лірычнай стомленай душы.

Я не лаўлю вавёрак-рыфмаў,
Крутых сюжэтаў віражы,
Я абыходжу плыткасць рыфаў,
Каб сэнс глыбіняў пераўжыць.

Я часта думаю пра потым,
Пра хор, які заменіць нас,
Мне хоць бы
пaўбемольнай нотай
Застацца на ўспамін між вас.

## СЯБРУ

Бясшумна воблакі задумныя
Аднекуль з-за мяжы без віз.
Твой першы верш,
табой прыдуманы
Бяжыць ка мне радкамі ўніз.

Пасля іх будзе шмат. Дажджамі
Адшэпчуць. Сну мо не пачуць.
Сваё - я воблака ў піжаме -
Табе малітвай прашапчу.

## ЧАЛАВЕК

Кожны - магутны, нятленны.
Кожны - падання працяг.
Кожны - народныя гены.
Кожны - кавалак жыцця.

Кожны каханню скарыўся.
Кожны - бацькоўскі працяг.
Кожны героем стварыўся.
Кожны - краіны прасцяг.

## МАДЭРАТА

На фоне ранку дня, і ночы,
І музыкі, і цішыні
Маю надзею не азмрочвай
І незнарок не падмані.

Насуперак усім жаданням
Няхай упіша ў верш рука
І неспазнанасць спадзяванняў,
І нечаканасці радка.

Мо толькі мы пасля захочам
Былога сэнс перамяніць
На фоне ранку дня, і ночы,
І музыкі, і цішыні.

## ДУЭТ

Шматкроп'і змочванняў
закрэслім,
І вочы ў вочы будуць зноў.
Па пахі сядзеш мякка ў крэсле,
Прыжмурам хвалячы віно.

Злагодзім прозу на паэзію,
Дуэт наш - у мажорны тон.
Забудзем праўду, што вярэдзіла,
Як не было, не ўспомнім той.

Ружовых мараў сэнс спакусны
Душа спазнала не адна,
Як на тваіх салодкіх вуснах
Смак нечаканага віна.

## З “НАРОДНЫМ”

Ён усміхнуўся: “Я народны”,
І кніжкай ладнаю патрос.
Няўжо да творцаў
самых годных
Вось гэты самахвал дарос?

Адчэпна дымячы цыгаркай,
Не губы грэючы - руку,
Падумаў, ідучы з ім паркам,
Няўжо я ў жарту на кручку?

А часам тым, не часам познім,
Мо на паэта меўшы нюх,
Усе мужчыны ўзростаў розных
Бліжэлі, як не ўпершыню

Паарфаваўшы думак смецце,
Змахнуўшы слоў гаркавых пыл,
Знянацку неяк гурт прыкмеціў:
Антракт размове наступіў.

Дзень нерабочы змежваў вейкі,
Адсюль падацца воліў я,
Ды раптам басам
дзядзька нейкі:
- Ну што, Кастусь, чарга твая!

І мой "народны", кашлянуўшы,
Пераключыўшы дум рычаг
І руль гаворкі павярнуўшы,
На дзіва для мяне пачаў.

Ён як артыст у час абедзенны,
Запрошаны даўней у цэх,
Усім даводзіў, як заведзены
Пра шылы вострыя і мех,

Пра грошай грэшныя аблiччы,
Пра тупасць і прыродны дар.
Ён да святых тых не залічваў,
Каму паехаў з месца дах.

Наслуханае смела неслі,
Каб расказаць, пакуль не спяць.
А ён пісаў і смела крэсліў,
Каб заўтра выступіць на "пяць".

## ДОЖДЖ

Дарога бясконцая ўсё ж
Вядзе мяне ў цёмную даль,
Сярдзіты здаецца мне дождж
Навошта слаўцо дома даў?

А ён з намаганнем скубе,
Кранае нярвовую злосць.
Што думае восень сабе?
Насустрач мне - чорнае штосьць.

Не, гэта - не конь і не страх,
А нешта ў плашчы, як і я.
А, можа, які-небудзь птах?
А, можа, хто-небудзь з звяр'я?

А дождж...
Нават ноччу не спіць,
Ты можаш паверыць? Павер!
Гарачага зараз папіць...
О мне не да вершаў цяпер.

Хоць рыфмы музычныя склаў
І цёплыя словы табе.
А дождж скора кінуўся, ўпаў,
А дождж злыбядою дзяўбе.

## ЮШАВІЧЫ

Раслі ў бяссмерце Юшавічы,
Але ўсё ж век свой аджылі.
Раслі тут Коласы, да Вінчы,
Свае гісторыі былі.

Няма ў паміне сельсавета
І школы, крылаў ветракоў.
Няўмольны час закрэсліў гэта
І крумкачоў-бальшавікоў.

Спакусы ў сад чужы вадзілі,
Спакусны сад, хоць і не рай.
А дзе ж сяброў цяпер магілы?
Яны даўней лілі праз край.

Дамашнія малых не лічаць,
А што лічыць, калі адно.
Бацькі мяне нястомна клічуць:
"Прыедзь. Наведваў нас даўно".

## ДУБ

Ля акна я студжу кіпень-чай,
Хай астыне мой чай нетаропкі,

Паглядаю на дуб неўзначай,
Жалуды ля свала, нібы кропкі.

У юнацтве яго вецер гнуў,
Ды і бура жаўжды нахіляла,
Ён маланкі прыцэл абмінуў,
Калі тая ад хмары страляла.

На дварэ ўсё дажджыць
і дажджыць,
Лістапад гоніць мокрыя хмары,
Гэты дуб можа нас перажыць:
Мае вершы і вашыя мары.

## ЖАРТ

Нядаўна сон згубіўся ў лесе,
А мо сярод людзей?
І не знайсці сябе, Алеся,
І не знайсці нідзе.

Душа там з целам засталіся,
Нібыта ў мутным сне.
Радкі вычурныя ліліся,
Што не патрэбны мне.

Усё ж спаткаў сябе ў кнігарні
Сярод цікаўных мас.
Безвыніковы дзень свой ганіў
І рассмяшыў я вас.

Калі ж заглянеце, я з краю,
Ля самай крайняй з хат,
Радкі сякерай выкрасаю,
Каб атрымаўся жарт.

## НЕМАГЧЫМА

Падлетак шукаў ідэал:
Краіну? Паехаць? Біць лынды?
Пытанняў нахлынуўся вал,
І ён да мужчыны з-пад Ліды:

- Парайце вы мне, чалавек!
І той адказаў:
- Эй, хлапчына,
Без нас Беларусь пражыве,
Ды нам без яе немагчыма!

* * *

Казаў адзін: “А мне б сасной!”
Калега: “Каб валошкаю!”
Ды ці жаданне ўспомніць той,
Каму так часта божкалі.

Мінуў ахвотнікаў дасціп,
Што рваліся быць першымі,
А мне лірычна прарасці б
У здольным хлопцы вершамі.

* * *

Я колькі сам сябе не ўспомню,
Любіў спакусны ўзлёт надзей,
Хацеў быць хлебам,
светлым промнем,
Каб добрых радаваць людзей.



# *Ганна Шаўчэнка*

*Ганна Шаўчэнка (Серэхан) - літаратуразнаўца, перакладчыца, паэтка. Нарадзілася ў 1984 г. ў мястэчку Астрына на Гарадзеншчыне. Дзяцінства і юнацтва правяла ў вёсцы Ганчары Лідскага раёна, дзе атрымала сярэднюю адукацыю.*

*Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2007), магістратуру (2008) і аспірантуру (2012) пры ім. Аўтар кніг вершаў "Запаветная жменька" (2007), "Пане, будзь заўжды са мной: Вершаваныя малітвы для дзяцей" (2010), шматлікіх публікацый, прысвечаных даследаванню польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX ст., перакладаў з польскай мовы на беларускую паэтычных твораў Антона Гарэцкага, Уладзіслава Сыракомлі, Францішка Карпінскага, Міхала Дудзінскага, а таксама кнігі апавяданняў для дзяцей кс. Яна Твардоўскага "Ад вуха да вуха. Пра ўсмешку і радасць" (Мінск, "Pro Christo", 2014).*

*Працуе ў выдавецтве Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі "Pro Christo", з'яўляецца супрацоўнікам рэдакцыі часопісаў "Наша вера" і "Ave Maria". Жыве ў Менску.*

**AVE MARIA**

Ave Maria…
Бяздонне пяшчоты.
Звонку скрыгоча вар'яцкі матыў.
Ну і няхай...
Тут мелодыя цноты...
Хтосьці бязмежжа
абдоймаў раскрыў...

Хтосьці суцешна,
няголасна кліча
Не зашчапляцца
ў кайданы нуды,
Скінуць з душы
недавер, ваяўнічасць,
Шчыра прызнацца:
"Люблю. Сапраўды".

* * *

Букет сустрэчы ў руках трымаю -
Букет пачуццяў, усмешак, слоў,
Але не тая духмень, не тая
Плыве з пялёсткаў, сухіх ліsткоў.

Даўно мы гэтыя любім кветкі,
І ўсцяж я мару іх Вам дарыць.
Чаму ж ссыхае букет наш рэдкі?
Чаму ўжо барвамі не гарыць?

Не восень стала віной звядання,
Не прахалодны яе спакой.
Напэўна, проста не ў час спатканне,
І проста наш звечарэў настрой.

Але я цешуся ў момант гэткі,
Знайшоўшы ў ім і красу, і пах,
Што сёння любыя нашы кветкі
Мы песцім зноў у сваіх руках.

* * *

Заблытаўшыся ў павуціне
Штодзённых спраў,
Так лёгка
        не напісаць верш...
            не стварыць нізку вершаў...
                не падарыць свету кнігу...
                    не пражыць жыццё...

## ВЕЧНЫ ЎСПАМІН

Неяк вечарам сяджу я ля каміна
І гартаю свой стары фотаальбом,
І плывуць мае, вяртаюцца ўспаміны
Да дзяцінства хутка пройдзеных гадоў.

Вось з забытага, старога фотаздымка
Вочкі сінія зірнулі на мяне.
І ўсміхаецца шчаслівая дзяўчынка,
І ласкавы позірк ціха дорыць мне.

Засталася яна там, у дзіўнай казцы,
Бесклапотная, ля веснічак стаіць,
У яе малым жыццёвым ранцы -
Мары, вера ў цуды, казак пераліць.

Аксамітна расцвіла яе краіна,
Але далей, за квяцістаю мяжой,
Застаюцца ў сэрцы светлыя ўспаміны,
Іх усё жыццё праносіш за сабой.

## РАПТОЎНЫ ЎСПАМІН

Калі скрабецца ў сэрцы едкі смутак,
Варушачы ўспаміны кіпцюром,
Разгортваецца ў памяці той скрутак,
Дзе я дзіцячым грэйзала пяром.

Выскокваюць там смелыя развагі
Аб светлых "хутка пройдзеных гадах";
І строга задзіраюць нос заўвагі,
Што час мне на шырэйшы крочыць шлях.

"Дзіця, - кажу сабе я, - як магло ты
Так зверху аглядаць маленства свет,
Калі ён уздымаўся пазалотай,
Гадамі над табой, як мяккі плед!

А дзе мяжа скубецца, ты пазнаеш
Не розумам, а сэрцам і слязой,
Калі загад ад Бога атрымаеш
Адчуць сябе ў жыцці зусім малой".

## ЧЫТАЮЧЫ КНІГУ ІРЫНЫ БАГДАНОВІЧ

Я пальцамі пяшчотна абдымаю
Паэтаву вясновую душу,
Агорнутую ў кнігу...
                    Прадчуваю,
Што зноў чыёсь цяпло разварушу.

Старонкі мякка-кволыя, як злыдзень,
Паціху прыадгортваю рукой,
І дыхаю табою я, "Вялікдзень",
І спешна лаўлю пах самотны твой.

## ДЗЕ ПАСЯЛЯЮЦЦА КВЕТКІ

***Маім бісерным букетам***

Сінія кветкі ў Нямеччыну едуць
Згадкаю бісернай аб Беларусі.
І па драцяна-вузельнаму следу
Кожная піша: "Я больш не вярнуся..."
Нават калі іх сустрэнуць з пашанай,
Не супакояцца перад спакусай,
Каб расчароўваць самім сабе ранак
Думкай, што спалі яны ў Беларусі.

Кветкі ліловыя ў Мінску пакіну
Несамавітым дарункам камусьці.
Тут жа для сталага, мабыць, супыну
Шмат яшчэ рукі мае іх адпусцяць.
Можа, і ў гэтых затужаць пялёсткі,
Па-немаўлячы згадаўшы даткненне
Пальцаў маіх, то лагодных, то шорсткіх...
Што ж...
            Яны сталі душы прысвячэннем.

Белыя ж кветкі адзіна расквечу
І ажыўлю ў свеце ціхім, сакральным -
Дзе для мяне ажывалі ўсе рэчы
І абяцалі быць сном незвядальным;

Дзе і мяне ўсё расквечвала мама
Ў недатыкальнай цяплічнай прасторы.
За свае белыя кветкі таксама
Тут буду пэўнай без ценю дакору.

## ТАТАВЫ РУКІ

Зноў стаім, мілы тата, з табой на пероне,
Вецер туліць мяне ўсё бліжэй да цябе.
Не хвалюйся, што мерзнуць мае ўжо далоні,
Не прастыну ў халоднай і едкай журбе.

Вось чуваць, як цярэбяць чыгунку калёсы.
Вечарэе... Цямнеюць упарта нябёсы.

У цягнік я заходжу і з гэтай хвіліны
Мушу сумку цяжкую падцягваць сама.
Ты стаіш прад акенцам з усмешкай нявіннай.
Штосьці кажаш?.. Не чую... Вагон мой - турма.

Неразбітнае шкло раздзяляе нас, тата,
Цябе бачу - абняць не даюць злыя краты.

Раптам пальцам на мутным акне хутка пішаш
"22", пасылаеш пытальны пагляд.
А!.. Ці месца сваё я знайшла?.. Нібы крышыш
Толькі дотыкам, пальцам адным шкляны рад.

І павёз мяне надпіс пытальны, празрысты
На акне пацямнелым, туманным, нячыстым...



*Міхась Мельнік нарадзіўся 7 лістапада 1949 года ў вёсцы Майсеевічы Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. З 1974 года жыве на Лідчыне. З 1984 па 2010 год выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Лідскім каледжы.*

*З 2004 па 2011 год кіраваў літаратурным аб'яднаннем "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты".*

*Суаўтар (разам з Пятром Чаборам) зборніка вершаў "Скрыжаванне" (Менск, 1996 г.), аўтар кнігі вершаў "Лодка жыцця" (Ліда, 2009 г.). Укладальнік і рэдактар анталогіі твораў лідскіх літаратараў пра беларускую мову "Шануйце роднае слова!" (2008 г.).*

# *Міхась Мельнік*

## РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

Пахнеш, як мама,
ты сырадоем.
І кожны мне твой каласок
так знаёмы,
і кожная сцежка твая,
і ручэй,
а дні без цябе -
нібы цемень начэй…,
але і ў расстанні -
табою жыву,
таму я
жыццём заўжды даражу.

## ТАБЕ

*Маёй жонцы Святлане*

Я думаю аб тым, што будзе заўтра,
Чаго не дарабіў, чаго не дасягнуў…
Я думаю аб тым, ці ж было варта
Кахаць цябе за ўсё жыццё адну.

І што б там ні было: ці сваркі, ці няўдачы,
Ці шэраг непрадбачаных падзей, -
Ды ўсёй душой сваёй і з пачуццём гарачым
Я жыў з табой, заўжды не трацячы надзей.

І зараз, праз дзясяткі год пражытых,
Пра многае шкадую, што было…
Ды толькі я хачу, каб з вернасцю адкрытай
Да скону дзён жыло ўзаемнасці цяпло.

***

Жанчына
з заснежанымі бровамі
ўвайшла ў маю цёплую хату.
Вось чаму
радуе мяне
завейная зіма.

***

Дрэўца
ссякалі без жалю,
таму што засціла вокны яно..
У хаце
стала крышку святлей,
ды затое ў душы
цёмна-цёмна!

***

Назаўсёды
растае сцяжынка
ў маленства.
З таго часу,
як мой сын
пачаў хадзіць,
беспарадак
у маім пакоі
не раздражняе мяне.



*Сіманчык Алена Мікалаеўна, нарадзілася 18 чэрвеня 1991 года ў вёсцы Мажэйкава Лідскага раёна. У 2013 годзе скончыла БДПУ імя М. Танка, факультэт спецыяльнай адукацыі, спецыяльнасць - алігафрэнапедагог; настаўнік-лагапед. Працуе ў горадзе Лідзе па сваёй спецыяльнасці ў сярэдняй школе № 15. Піша ў большасці вершы, час ад часу - невялікія апавяданні.*

# *Алена Сіманчык*

***

Я ніколі не буду лепшая.
Я заўсёды буду такая, як ёсць,
Крыху стомленай, крыху смешнаю,
Але буду такая, як ёсць.

Я не зорка, не кветка, не пацерка,
Я - імгла сярод ночы сырой.
Трохі добрая, болей нязграбная,
Але век мне застацца такой.

І раблю шмат чаго непатрэбнага,
І жыву, можа, трохі не так,
Але я - гэта я, трэба так,
Я ёсць я, мне не трэба адзнак.

Я ніколі не буду лепшая,
Я заўсёды буду такая, як ёсць,
Крыху стомленай, крыху грэшнаю,
Я такая, напэўна, вось.

***

Вечар ціха пачынаўся мяцеліцай,
Ціха дровы трашчалі ў печы,
Ну а ён за сваёй безнадзейнасцю
Не заўважваў з дзяцінства знаёмыя рэчы.

Ні матулю ля печы са стравамі,
Ні бабулю за кроснамі вечнымі,
Ні гадзіннік, адно адбіваючы,
І ні спрэчак пра справы адвечныя.

Думкай нёсся ў даліны гарачыя,
Да пяскоў са сваімі завеямі,
І сябе наракаў за няўдачы ён,
Што цяпер тут без справы марнее,

Што дарога дагэтуль не пройдзена,
Што шляхі да канца не разведаны,
Што свет яго мары не знойдзены
І што мала ён робіць, хоць ведае.

Што ў дарогу ён зноў збіраецца,
У свет пясчаны, з дажджамі гарачымі,
Што жыццё яго зноў пачынаецца
І чакаюць пяскі зноў лядачыя.

***

Не вядома нікому з нас,
Што чакае нас сёння, заўтра,
Нам пра гэта раскажа час,
А тады нашто мы жыццё выпіваем залпам?

І нашто мы ідзём туды,
Дзе дарогі няма і шляху,
Дзе няскончаны час нуды,
А зіма назаўжды для страху.

Дзе няма людзей - толькі здань
Або вопратка замест цела,
Дзе галоўнае - боль і жах,
І кахання няма - а цемра.

Мы імкнёмся хутчэй туды,
Дзе няма ні канца, ні краю,
І сябе беражом ад нуды,
Хоць і ведаем, што там усе паміраюць.

Мы вядзём сябе ў цішыню,
Па завулках душу кідаем,
І хварэем сто раз на дню,
І мільёны разоў паміраем.

***

Зрывайце з твараў маскі, людзі!
Ідзіце чыстымі вы ў свет,
І хай ні ў кога подумкі не будзе
Табе сказаць, што ты лухту вярзеш.

І на імгненне хай не будзе
У іх няўпэўненасці той,
Што ты ілжэш, а можа, хлусіш,
Ты, чалавеча, будзь самім сабой.

Хоць поўны ты заганаў розных
І дзесьці дрэнных дум і мар,
Але ідзі ты ў свет цвярозым,
Ідзі ты полем, убач абшар.

Ні перад кім ты не схіліся,
Распраў ты крылы, і ўвысь ляці,
І будзь такім усім на зайздрасць,
Такім, якім з маленства быў!

***

*Усім псіхічна здаровым прысвячаецца!*

Усе вы, разумныя розумам,
Усе вы, без кропелькі жаласці,
Разважнасці поўныя, дзенняў,
Сумненне не з вамі раджалася.
Жывіце далей ў свеце гэтым Вы,
Шматкроп'е не стаўце Вы, клічнікі,
Хай Ваша разважлівасць гэтая
Спрыяе эгацэнтрычнасці.
А мы - і без розуму добра нам,
Душою хварэем, не падаем,
Мы любім вясёлку з завеямі,
Ну, здзекуйся з нас з радасцю!
Маўклівымі нашымі словамі,
Якія ў радкі ўсё складаюцца,
Мы верым у нешта чароўнае,
Што мары такі збываюцца.
Хай буду псіхічна я хвораю,
Няшчаснаю доляй агрэтая,
Жывіце, псіхічна здаровыя,
А мы пражывём і без гэтага.

***

Усё квітнее - навакол вясна,
І радасць у сэрцы ўсё прыносіць свята вешняе,
І з той вясной квітнее і яна.
У душы яе мільёнамі, напэўна, красак болей,
І кветкі там сабраныя з ўсёй зямлі,
Яна квітнее васільком у полі,
Такія кветкі, пэўна, там ніколі не цвілі.
І сонца промні ўсе на яе накіраваны,
І лёгка так быць самаю шчаслівай на зямлі,
І ўсё святлом нябесным асвятляецца,
Такія кветкі, пэўна, там ніколі не цвілі.

***

Мінуць гады - лісты пажоўкнуць і насенне,
Напэўна, ужо ніколі не ўзрасце,
Мінуць гады - і застануцца цені
Усіх людзей, якіх так добра ведаў ты.

Мінуць гады - і насыпам жвіровым
Схаваешся ад усіх вачэй,
Мінуць гады - і толькі словы
Ніколі не памруць,
А будуць біцца ў сэрцы ўсё хутчэй.

Мінуць гады - і гэта кожны знае,
У імгненне вока праляціць жыццё,
Мінуць гады - ніхто не памірае,
А проста сходзіць ціха ў небыццё.

***

Стары дуб над абрывам стаіць,
Карані пазвісалі над пропасцю.
І бурлівая рэчка шуміць
Ля падножжа яго велічнай постаці.

І на дубе на гэтым старым
Ні лісточка зялёнага колеру,
Па вясне не праходзіць па ім
Сок жыццёвы, не падае сонейка.

І на ім вельмі часта сядзяць
Тыя птушкі, пасланнікі цёмныя,
Яны любяць на ім спачываць,
Зачапіўшыся за галіны сваімі клешнямі чорнымі.

І стаіць гэты дуб, знае ён,
Што рака абмывае карэнішчы,
Засталося яму мала дзён
Да абдымку з рачнымі стварэннямі...

***

Вечар ціхі, летні, цёплы,
Пахне зжатай збажынай,
Наваколле дорыць водар,
У сэрцы зрушвае спакой.

Па надворках і па лаўках
Людзі кучамі сядзяць,
Нехта бульбу есць так смачна,
Хтосьці казку стаў казаць.

Моладзь шумным сваім гуртам
Ужо да вогнішча ідзе,
Слаўка, званы баламутам,
Дзяўчыну за руку вядзе.

Вечар ціхі, летні, цёплы,
Не бывае ўжо такіх...
Не, бываюць, а не кожны
Зразумее, любіць іх…

***

З балкона ён сарваўся ўніз,
Такі ён лёгкі і прыгожы,
Для неба - радасны капрыз,
А для зямлі - пасланнік Божы.

Павольна, лёгка ён ляціць
У промнях сонечнага свету,
І толькі дзень яму хоць жыць,
А для яго не важна гэта.

І гэты ружы матылёк
Ляціць увысь, затым да кветкі,
Адзін дзянёк яму хоць жыць,
А для яго не важна гэта.

***

Ціхі летні вечар,
Цішыня наўкол,
Ноч крадзецца ціха,
Шэпат чаратоў.
Сонца ціха сядзе,
Цемната ідзе,
І над вухам ціха
Мірны хрушч гудзе.
У паветры пахі
Кветак ледзь не ўсіх,
Гэты летні вечар
Мне мілей другіх.
Я пайду завулкам,
Полем я пайду
Аж да той рачулкі,
Што салье нуду.
Ціхі летні вечар,
Цішыня наўкол,
Ноч крадзецца ціха,
Шэпат чаратоў.
Ціхі летні вечар
Зберагу для нас,
Ціхі летні вечар,
Нашага з табой кахання час!



*Іосіф Масян скончыў Ліпнішскую СШ Іўеўскага раёна, Лідскі індустрыяльны тэхнікум, журфак БДУ (1994 г.). Друкаваўся ў газетах "Звязда", "Чырвоная змена", "Знамя юности", "Ніва", у часопісах "Родная прырода", "Дом і сям'я" і іншых выданнях. Жыве ў Лідзе.*

# *Іосіф Масян*

## КРАСАЧКІ

Расцвіце ўсход ружавашчокі
І светлы, як дзіцячы сон…
Ды маленькіх ножак крокі
Абудзяць радасна ваш дом.

Іх, родных ясачак, матулі
Напояць ласкі малаком;
Але ж знаходзяцца "зязюлі",
Што немаўля
падкінуць у дзетдом.

Дзяржава іх адзене ды абуе
І ўсё зробіць,
каб быў шчасны лёс.
Толькі хто ж, як мама,
пашкадуе?!
Сірот не трэба,
як і не трэба слёз.

Ах, красачкі мае вы дарагія!
У падушку выплача боль…
Няхай зязюлі: шэрыя, лясныя -
Вам накуваюць радасці
пад столь!

## ВЯНОК

Душа адкрылася для болю,
Адкрылася сэрца для слёз:
Зноў сніцца мне хутар і поле
У абдымках знаёмых бяроз.

Там, дзе хата, - асот і макрыца;
Ды хтосьці ж бярозкі пасёк…
Адно ноччу завірушнай сніцца
Дзяцінства блакітны вянок!...

## НЕМАЎЛЯТКІ

Малюткі мае, немаўляткі -
Сінявокая радасць Зямлі!
Хай жывыя, матулі ды таткі,
Паліваюць пяшчотай душы

Гэта зерне свайго існавання;
Хай блакітныя бачацца сны…
Засланi iх жыццё і каханне
Ад смяротнага вока вайны.

Хай квітнеючы, светлы пачатак
Мае будучы дзень і заўжды:
Беражыце сваіх немаўлятак,
Як, калісьці ж, і нас берaглі.

## ТРЫЯЛЕТ

Сэрца маці, як чуйны радар,
Ловіць нашых пакут
адгалоскі…
Хоць далёка ад роднае вёскі -
Сэрца маці, як чуйны радар!
Ды ўзіраецца свет на Ваш боскі
У пяшчотнай адданасці твар.
Сэрца маці, як чуйны радар,
Ловіць нашых пакут адгалоскі.

## ТРЫЯЛЕТ

Як вартавы славянскай мовы,
Стаіць Скарына ля касцёла
Ды аглядае свет наўкола -
Як вартавы славянскай мовы.
А побач - ад музычнай школы
Нясуцца ўвысь
рамансаў словы…
Як вартавы славянскай мовы,
Стаіць Скарына ля касцёла.

## ТРЫЯЛЕТ

Інтуітыўна, шчыра ды ўсур'ёз
Свет гэты ўспрымаюць дзеці;
Ды, як зоркі,
усміхаюцца планеце:
Інтуітыўна, шчыра ды ўсур'ёз!
Адкіньце жа, дарослыя,
на вецер
Свой жыццёвы вопыт слёз…
Інтуітыўна, шчыра ды ўсур'ёз
Свет гэты ўспрымаюць дзеці.

***

Той жанчынаў дрэнна знае,
Хто хваліць іх
заўжды ва ўсім…
Але ж хто вечна асуджае -
Той іх не ведае зусім.

***

*"Адна супраць злыдняў
бярозкай стаю…"*
***Ларыса Геніюш.***

Быў вар'яцкі час тады,
Ды й цяпер хтось ім распяты…
І вось у Зэльве, праз гады,
Стаю ля Геніюшаў хаты.
Спаўна Вам, родная, хапіла
Здзекаў, лагернага жаху.
Якую ж мець патрэбна сілу,
Каб пад прыцэламі, без страху,
Глядзець у вочы сваім катам.
Ды словаў "Споведзі" святой
Не ўтаймавалі партакраты
І не загналі ў статак свой.
Час справядліва рассудзіў,
Хоць вышэйшы суд ёсць -
Божы.
Ён на вякі дабраславіў
Радок бясспрэчны і прыгожы.

***

Матуля! І сэрца цяплом
Сагрэла, як сонейка ўвесну,
Што імкнецца да нашых вакон.
Стала радасна, светла і цесна
Ў чатырох,
хоць і ўтульных кутках.
Рвуцца вершы,
як птушкі ў неба…
Гэта ты асвяціла мой шлях -
Ну а большага мне ж і не трэба.

***

Поўныя светлага смутку
І залацістых кастроў,
Асеннія дні так хутка
Згараюць ад ласкі вятроў.
А тыя скуголяць і свішчуць
У мутнай ад слёз вышыні…
Ды, як буслы над іржышчам,
Асеннія кружацца дні.

## ПАЭЗІЯ

Свет не можа сканаць у журбе,
Бо паэзія сэрца жывая!
І, абняўшы рыфмамі цябе,
Да загадкавых зор уздымае.
Мо там, ва ўладанні Пегаса,
З Авэнам пасецца Казярог.
Той карціне пазайздройсціў бы Пікаса,
Каб апынуцца ў тым сузор'і мог.
Ды дзякуй Лідчыны "Суквеццю",
Што пад дахам сваім нас збірае.
І пакуль паэты ёсць на свеце,
Паэзія сэрца - жывая!

*Уладзіміру Караткевічу*

Хвалі на бераг накоцяцца з плачам,
І возера Свіцязь ахутаў туман…
Тут вы калісьці ўзіраліся ў далеч:
А што бачылі там?
Можа, скіфаў курган,
Насыпаны імі ў далёкім мінулым;
Ці вояў крыжацкіх убачылі цень?..
Цяпер разумею, як па-мудраму чулым
Сэрцам глядзелі ў будучы дзень
з высі стагоддзяў і, дарэчы,
нам ад гісторыі перадалі ключы.
А хвалі з небам шэпчуцца аб нечым:
Мо, разгадаць іх таямніцу навучы…

Людское мора… Слёзы на вачах…
Ля труны збялелая Марына.
Рыдай, Расія! У апошні шлях
На руках нясеш ты свайго сына.
А ў газетах адно некалькі радкоў
Петытам непрыкметным, бы для смеху.
Нібыта паляванне на ваўкоў
Хтосьці ж перанёс на чалавека.

Ды не звязаць парваную струну
На скрыпцы чалавечага жыцця.
Дарэмна б'ецца Марына аб труну,
Як хвалі ў бераг небыцця…

Над сусветам, над роднай калыскай
Песня праўды гаючай ляціць;
Са шматлікіх касетаў і дыскаў
Непаўторны твой голас гучыць.

## "ВАЛЯНЦІНКІ"

То дождж, то мокрыя сняжынкі
Снуюць у коле ліхтароў…
Ды ляцяць па свеце
"валянцінкі":
Іх адрасат адзін - Любоў!
Яна ўвайшла стралой у грудзі
І паланіла сэрцы ўраз…
Праз стагоддзі помняць людзі
Легенды сумнай пераказ
Пра святога Валянціна,
Што дачку каменданта пакахаў
Насуперак законам Рыма -
Які ж яго і пакараў.
Кахання свет яднае пакаленні
І ўлюбёным дае свой прыют.
А што смерць? Адно імгненне,
Як апошні ў жыцці салют.

## "ВЯНОК" МАКСІМА

Свет помніць
Багдановіча Максіма
І твой, сэрцам вытканы,
"Вянок".
Ды б не стаў паэтам я, магчыма,
Каб не тваёй паэзіі урок:
Нам пакінуты ў наследдзе
Не на час, а на вякі…
І пакуль паэты ёсць на свеце -
Будуць сэрца радаваць радкі,
Вытканыя ўзорам на абрусе,
Пяром паэзіі высокай.
А васількі на нівах Беларусі
Паэта выглядаюць у аблоках…



*Сідарака Вольга Аляксеeўна. Нарадзілася 14 студзеня 1987 года ў горадзе Сянно Віцебскай вобласці. У 1997 годзе з сям'ёй пераехала ў Ліду. Вучылася ў СШ №6 і №14. У 2006 годзе скончыла Лідскі педагагічны каледж. Студэнтка Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны, факультэта псіхалогіі. Жыве ў горадзе Лідзе, выхоўвае маленькага сына.*

# *Вольга Сідарака*

## ПЯШЧОТНАЯ ЗІМА

Круціць год-калейдаскоп
Снежаньскія шкельцы.
Ахаладжу шыбай лоб,
Ды сагрэю сэрца:
Там, на вуліцы, мароз,
Лепяць бабу дзеткі…
Ты як з казкі мне прынёс
Веснавыя кветкі.
Кветкам дзівіцца зіма,
Іх красе вільготнай.
І становіцца сама
Ціхай ды пяшчотнай.

## ПАЛЁТ

Жыццё падобна на палёт.
Ці згодны вы са мною?
Вясной на дахах тае лёд,
Становіцца вадою.
Сарвецца кропля і ляціць -
Такая трапяткая!
Жыве імгненне, зіхаціць
І на зямлі знікае.
Паветраны ж улетку змей
Танцуе - ў неба рвецца.
Пацягнеш нітачку мацней -
Ён да зямлі прыб'ецца.
А вось кранае лістапад
Галінкі ў пазалоце.
І сочыць задуменны сад
За лісцем у палёце.
І снег амаль спыняе ход
Над самаю зямлёю…
Жыццё падобна на палёт.
Ці згодны вы са мною?

## СУСТРЭЧА

Бывае, што кінеш свой позірк няўмысна
На дрэва, якое расце каля дома.
А клён той стаіць, як ваяр - непахісны,
Прыгожы і моцны… Такі незнаёмы!

Ты міма яго яшчэ хлопчыкам бегаў,
Пазней - на спатканні хадзіў каля клёна.
І ён быў то белы ў даспехах са снегу,
То летне-зялёны. Чырвоны шалёна…

І толькі цяпер ты як быццам прачнешся.
Здзіўленне і радасць у гэтай сустрэчы!
З пяшчотай да цёплай кары дакранешся -
І клён адгукнецца, зашэпча аб нечым.

## БАЧЫЦЬ МУЗЫКУ

Акорд - і паветра пачне калыхацца.
Малюнкі праступяць, прастору запоўняць сабой,
Пачнуць у загадкавы, лёгкі арнамент зліваццца,
Лунаць, вальсаваць і трымцець над тваёй галавой.
Акорд - і з мелодыі крылаў празрыстых
У сэрца, у душу пылок зіхатлівы ляціць.
І музыкі гукаў - такіх далікатных і чыстых -
Снапок у паветры, як лісце асінак, дрыжыць.



# *Ганна Рэлікоўская*

*Рэлікоўская Ганна Леанардаўна нарадзілася 8 ліпеня 1964 года ў в. Кянці Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Пасля заканчэння васьмігодкі паступіла ў Ваўкавыскае педвучылішча, бо з дзяцінства марыла аб настаўніцкай працы. У 1983 годзе пачала працаваць настаўніцай пачатковых класаў у СШ № 8 г. Ліды. Дыплом гістарычнага факультэта БДУ, атрыманы ў 1991 годзе, дазволіў ёй перайсці на выкладанне гісторыі ў старэйшых класах спачатку у той жа СШ № 8, затым у СШ № 17. На працягу года (1999-2000 навучальны год) з'ўлялася старшынёй прафкама навучэнцаў Лідскага індустрыяльнага тэхнікума. Зараз працуе намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце сярэдняй школы № 11 г. Ліды. З юнацтва захапляецца вершамі, лічыць, што менавіта праз рыфму, праз асаблівы рытм, спалучэнне гукаў можна найбольш дакладна перадаць свае пачуцці, свой погляд на навакольны свет. Друкавалася са студэнцкіх гадоў у мясцовых раённых газетах, некалькі вершаў трапілі на старонкі "Настаўніцкай газеты", выбраныя творы ўвайшлі ў зборнікі паэзіі, выдадзеныя ў Лідскім раёне. Тэмы вершаў самыя разнастайныя: ад кахання і настаўніцкай працы да філасофскіх роздумаў.*

## НАКЦЮРН МАТУЛІНЫХ ПІВОНЬ

Сцірае памяць успаміны
І поўніць новым пачуццём.
Ды дзень за днём перад вачыма
Мой родны дом, матулін дом.
Пяшчота ў сэрцы не патухне,
Не згасне памяці агонь,
Пакуль пад вокнамі на кухні
Накцюрн матуліных півонь.

## НАПЯТАЯ СТРУНА

Жывём жыццё напятаю струною.
Гучыць мелодыя ў гармоніі з прыродай,
У сугучнасці і з небам, і з зямлёю,
З самім сабой, з людскім вялікім родам.
Але, бывае, дробязі хапае -
Нахабны позірк ці абраза - забаліць
І абарвецца нітачка тугая,
Жыццё - струна, і больш не затрымціць.

## ЧАРОЎНЫ КОРАК

Аднойчы прыехаў інспектар у школу,
Заходзіць у клас і здзіўляецца: там
Шум, гам на занятках і рогат вясёлы,
А сціплы настаўнік разгублены сам.
 - Як добра, інспектар, што вы завіталі.
Сам Бог вас паслаў. Дапамогі прашу.
Ніяк не спыню непакорнасці хвалі.
Ніяк не магу глянуць ім у душу.

Інспектар спыніўся, і раптам заўважыў
Ён корак драўляны на крэслах у рад.
 - Скажыце мне, дзеці, а хто з вас адкажа,
З чаго гэты корак? Які ж у ім склад?
 - Вядома, што з дрэва, - адказваюць дзеці.
 - А што яшчэ з дрэва магчыма зрабіць?
 - Дом!
 - Кнігі!
 - Карыта!
 - І лаўкі!
 - І клеці!
 - Яшчэ карабель, каб далёка заплыць.
 - Куды паплывём? Па якіх акіянах?
У якіх гарадах будзем з вамі спыняцца?
Хто будзе матросам? А хто капітанам?
З туземцамі будзем ці не? сустракацца.

Пытанні. Адказы. Малюнкі. Цікавасць
У вачах выхаванцаў бясконца гарыць.

- Які вы ўрок мне далі! Гэта ж радасць!
Цяпер так, як вы, буду дзетак вучыць, -
Настаўніка шчырая поўніць падзяка.
Інспектар спакойна прадоўжыў свой шлях,
Але цераз год у гэту школу, знянацку,
Ён зноў завітаў. І - о Божа ж мой! - жах!
Зноў вучні крычаць, брыдкасловяць, рагочуць.
А той жа настаўнік стаіць у слязах.
Не ведае ён, ну чаго яны хочуць
І як супакоіць іх гулу размах.
- Што тут адбылося? Калоцяцца сцены!
Казалі ж вы мне, что цяпер працаваць
Ужо навучыліся. Дзе ж перамены?
- Я корак чароўны не змог адшукаць!

## МАТУЛІ

І зноў табе, старэнькая жанчына,
Якой няма бліжэй і даражэй,
Свой новы верш я прысвяціць рашыла.
А як табе аддзячыць мне яшчэ?
Пяшчотны жаль маю душу сціскае,
Бо дзесьці там, у вёсачцы, адна
Сама з сабой, з каточкам размаўляе
Мая матуля з ранку да цямна.
Пад вечар тупае яна да тэлефона
І набірае лічбы, шэсць ці пяць.
Магчыма, дзеці папрыходзілі дадому,
Ім трэба ўсе навіны расказаць:
Сусед насупраць трэці раз жаніўся,
З кабетай утульным хатні стаў куток.
У хлеў да курачак уночы нехта ўбіўся.
Сабака, можа? Ці які шашок?
Матулечка мая! Цалую рукі.
Твой лашчыць голас, як вясной пялёсткі.
Цячэ размова. Цешаць сэрца гукі.
І хочацца ляцець да роднай вёскі,
За кубкам кавы да стала прысесці з мамай,
Развеяць сум, страх разагнаць паволі,
Назваць яе любімай, мілай самай
І пажадаць шчаслівай, светлай долі!

## ЛІДСКІ ЗАМАК

Прывычны для зроку лідзян,
Уздымае ён велічна вежы.
А возера, бы акіян,
Дзьме ветрыкам-подыхам свежым.

Уздыхнеш каля замкавых сцен,
Абыдзеш перыметр мурожны,
І шэраг мільгаючых сцэн
Усплыве ў галаве асцярожна.

…

Князь-воін на дужым кані.
З Прыбалтыкі рыцары ў латах.
Іх гоніць і б'е Гедымін
Далей ад ліцьвінскіх ад хатаў.

…

Ягайла і Соф'я - сям'я.
Вяселле за сценамі замка.
Зайздроснікі чуюць здаля,
Як ляскае радасна клямка.

…

Нахлынулі шведы, бы цені.
Бамбардаў шалёны рой.
Лятуць і лятуць камені.
Разбураны замак-герой.

…

У крушнях на колькі стагоддзяў,
Навокал бур’ян узрастаў,
Але пазабытым ў народзе
Ніколі ён так і не стаў.

Ажыў наш змагар на свабодзе.
І новыя сцены растуць.
Мы сёння да замка прыходзім
Гісторыю сэрцам адчуць.



# *Ганна Баборык*

***

Раніцай, абмытаю расою,
Дзень пачаўся новы, малады,
Зазвінеў духмяны луг касою,
Вербы збеглі гуртам да вады…
Поўны сонца, мернага спакою
Крочыць дзень працоўны,
гаманкі…
Дзесьці на пароме, над ракою
Заспявалі голасна жанкі.
Так прыгожа, велічна ліецца
Песня даўніх, дзедаўскіх часоў,
І шчыміць ад захаплення сэрца
Ад жаночых моцных галасоў.
Плешча Нёман хваляю крутою,
Навакол як воблакі - сады!
Раніцай, абмытаю расою,
Дзень пачаўся новы, малады.

*Баборык Ганна Уладзіміраўна, галоўны спецыяліст сектара культуры аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Лідскага райвыканкама, нарадзілася 07.08.1959 г. у в. Моцевічы Жалудоцкага раёна Гарадзенскай вобласці. Адукацыя вышэйшая, скончыла ў 1980 годзе Менскі інстытут культуры.*

*Працоўную дзейнасць пачала ў 1980 годзе на пасадзе метадыста раённага Дома культуры, з красавіка 1999 года працуе на дзяржаўнай службе. У ліпені 2013 года прызначана на пасаду галоўнага спецыяліста сектара культуры аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Лідскага райвыканкама.*

*З'яўляецца салісткай народнага ансамбля народнай музыкі "Гудскі гармонік" Гудскага цэнтра творчасці і вольнага часу, аўтар тэкстаў многіх песень, якія выконваюцца ансамблем, створаных у творчым саюзе з кіраўніком калектыву Колышка А.А., іншымі самадзейнымі кампазітарамі, аўтар урачыстай песні пра горад Ліду.*

## УСПАМІН АБ РАДЗІМЕ

Колькі ўжо раз, ад'язджаючы з дому,
Я ўспамінала радзімы куток:
Бераг, дзе ўдзень спачывала ад стомы,
Стройны, над самым абрывам, дубок.
Я ўспамінала жытнёвае поле,
Мілыя сэрцу майму васількі,
Неба радзімы, што душу спатоліць,
Песню, што гуртам падхопяць жанкі.
Мусіць, няма ва ўсім белым свеце
Гэткай прываблівай свежай красы.
Толькі ў нас, можна лёгка прыкмеціць,
Колеру жыта ў дзяўчат валасы.

***

Яснымі зорамі душы асвечаны,
Ночкай чароўнаю песня плыве.
З песняй і рутаю-мятай абвенчаны
Белыя росы ў духмянай траве.

Ветрык прылашчыў бярозку празрыстую,
Долу схіліўся высокі чарот,
Вогнішча ў неба кідаецца іскрамі -
Сёння Купалле святкуе народ!

Сіла нячыстая дарма стараецца
Наш жыватворны агонь патушыць.
Покуль агонь у душы разгараецца,
Будзе народ беларускі наш жыць!

***

Зноў да сэрца кроў прыхлынула,
Мільгацяць у вачах агні.
Я далёка цябе адкінула
Назаўсёды, і ты гані.
Дык навошта ж вяртанне гэтае
Цераз столькі гадоў і дум?

Ты, як песня мая няспетая -
Ад мелодыі тольк сум.
Усё забылася, больш не вернецца.
Адганю бабу-скруху з вачэй…
Пераменіцца, перамелецца
Усё ў шэрагу дзён і начэй.

***

Клопат матулі, каб дзеці жылі
У радасці, у шчасці, у дастатку,
Каб прыязджалі часцей, каб маглі
Усё давясці да парадку.
Моцна стаялі каб на зямлі,
З Богам у сэрцы каб ладзілі справу,
Чэсна, дастойна, як людзі жылі,
Не спадзяваліся, каб на "халяву".
Думкі матулі як птушкі ляцяць,
Хочуць дзяцей ахіліць ад навалы…
Перахрысціла: ляціце ў свет,
Добра жывіце, а не як папала.

***

Як усмешку тваю пабачу,
Жыць становіцца весялей.
Для цябе я нічога не значу,
Але птушкі пяюць званчэй,
Неба робіцца сіняе-сіняе,
Як вачэй тваіх сінява,
Я бываю тады шчаслівая,
Мяне радуе дождж і трава,
І каштанавы водар плавае
У паветры густым, як мёд,
Сонца песціць, такое ласкавае,
Лета цягнецца круглы год…
Ты ніколі не здагадаешся,
Я цябе ні аб чым не прашу,
З цеплатою мне ўсміхаешся,
Быццам льеш мне жывіцу ў душу.

***

Сакавік, сакавік -
ты вясны надзея.
Ужо зранку снегавік
на вачах "худзее"
і крыштальнаю слязой
са страхі капелі,
крык гракоў, што грамадой
на галіне селі.
Плямаў чорных не відно,
снег з зімою заадно,
Не згаджаецца на змены.
Але ж ад марозу сцены
не трашчаць, і сонца ўкрадкай
шле прамень у вокны хатаў.
Весялей глядзяць палеткі,
і лясы чакаюць кветак,
гоману і крыку птушак,
нават камароў і мушак -
бо без іх вясны не будзе.
Весялеюць нават людзі.
Рух пачаўся ў агародах,
а на вокнах ціха ўсходы
памідорнае расады
кожнаму дзянёчку рады.
Кот на лаўцы жмурыць вочы,
ён вясны таксама хоча,
цягне кіску на каханне,
ноч блукае, спіць ад рання.
Абуджаецца навокал
ўсё, куды ні кінеш вока.

***

Калі б магла я зноў пражыць
Жыццё сваё ад нараджэння,
Скажу папраўдзе, не схлушу,
Не глушачы сваё сумленне:
Няхай грашыла, ну і што ж -
Затое колькі я любіла,
Што не надломіць сэрца мне
Ніякая ліхая сіла.
Я моцы гэтулькі ў душы
Па кроплях дробных назбірала,
Што, колькі буду жыць, хачу
Кахаць, бы я недакахала.
Ірвецца ўвысь, струной звініць
Мая істота "неручная",
Тады магу я толькі жыць,
Калі люблю, калі кахаю!

***

Пачварны твар пустой надзеі
На скрыжаваннях нашых лёсаў,
А часу млын нам перамеле
І свет, і цемру, дым і росы.
Збавення не было й не будзе
Такі ўжо лёс наканаваны,
На небыццё мяне асудзіць,
Хоць і жыла я апантана.
Не, не прасіла я спакою,
Няведама якога шчасця
І хоць няўпэўненай рукою
Свой лёс сама хацела скласці.
Я знаю, нехта ёсць над намі,
Хто з уладай дабравейнай,
А свет уздыбіўся рукамі,
Што просяць долі безнадзейна.

Анёл пацалаваў дзіця,
Прыгладзіў валаскоў кудзельку
І на маленькую пасцельку
Паклаў кужэльны паясок.
І быў той паясок дарогай,
Якой памалу, напраcткі,
Праз ручаі і праз масткі
Нечы ў свет пайшоў сынок.

***

Сядзіць бусел на страсе -
Назіраю, што нясе.
Мабыць, дзіцятка тут будзе,
Кажуць мне старыя людзі.
Прынясе, дык хай нясе
Мне бяляве́нькую ўнучку…
Я яму аддзячу добра
На ўсю сваю палучку:
Мех пшаніцы, то ж яда,
Кола з воза для гнязда.
Каб над хатаю кружыў,
Каб ніколі не тужыў,
Каб вяртаўся па вясне
У сваё гняздо ка мне.
Бусел, бусел - клекатун,
Шчасця й радасці вястун.

***

Душа ад песні зварухнецца,
Духмяным хмелем абвіне,
Пяшчотаю аблашчыць сэрца
І струны-мроі здрыгане.
Ізноў ад паўнаты пачуццяў -
Слязінкі непрасохлы след,
Яна мне не дае сагнуцца,
Які б ні быў непрыхільны свет.
З мае пявучае крыніцы
Бяру я сілы для жыцця,
Мне піць з яе і не напіцца,
Яна мне - маці і дзіця.
Калі ж агорне адзінота,
З чаго няведама туга,
Яна мне - радасць і пяшчота,
Сама святлікасць, без заган.
Пры горы зноў мяне суцешыць,
І радасць з песняю паўней,
І трапным гумарам пацешыць,
Раскажа, што было даўней.
Што мы без песні? Недарэмна
Нясём яе мы праз вякі,
І векавая пераемнасць
Зрабіла наш народ такім.
Ад кожнай хаты, ад парога,
Дзе свой рабілі першы крок,
Нас, не забыўшыхся пра Бога,
Бабулі ставілі ў "танок".
Эх! Песні, пералівы кветак,
Радзімы сутнасць, соль зямлі,
Вас зберажом
для нашых дзетак,
Каб гукі родныя жылі.

**ЖАНЧЫНАМ КУЛЬТУРЫ**

Культура ў нас на раздарожжы -
куды ісці, не знаем самі.
Калі ўдарышся ты ў творчасць,
наўрад ці выгарыць з грашамі.

Калі ж ты сёння выбраў грошы,
то ты для ўсіх цяпер харошы:
для ўпраўлення, выканкама
ты самы добры, любы самы.

Калі ж яшчэ жанчына з густам,
мужчыны - проста, як ад дусту -
пад ногі падаюць без стуку…
Жыццё, браток, такая штука -
Калючкі мусіш гадаваць
І з імі жыць паспрабаваць.

***

Каля рэчкі, каля гаю
Свайго любага чакаю.
Ты прыйдзі хутчэй, каханы,
Мой салодкі, мой чаканы.
Залюблю, і зацалую,
Ды вачыма зачарую,

І спляту з расін вяночак,
Каб прыгожы быў
мой хлопчык.
За ракой пяе зязюля.
Чую, кліча ўжо матуля.

**ГІМН АГАРОДУ**

Люблю хадзіць у агарод,
Калі ўсё зеленню буяе:
Капуста, морква, буракі,
Цыбуля плот пераганяе.
У агурковым часцяку
Не знойдзеш сам сябе, бывае,
Во дзе раздолле агурку -
Тут кожны ліст яго хавае.
Але ж разгорнеш густату -
Вось ён, пупырчаты, пахучы,
Жаданы, сочны і хрумсткі,
Хаця і крышачку калючы.
Зубамі ўп'ешся - нібы ў рай
На белым коніку ўязджаеш…
Не спрабаваў? Тады, сябрук,
Жыцця зусім яшчэ не знаеш.

***

Эх, Вася, Вася, як дайшоў
Ты, дружа мой, да гэтай кропкі,
Што ў самы нараджэння дзень
Ты выпіў, можа, дзесяць стопкаў?
З сябрамі за здароўе піў,
Жадалі моцы ў ручкі, ножкі.
А як дахаты прываліў
Абняць мог хіба толькі кошку.
Падушку моцна прытуліў
І з пачуццём свайго вялічча
На ложак цела ўзваліў,
Хай жонка нават і не кліча.
Назаўтра галава баліць,
Ізноў зашкаліў ціск за планку
Вось так адзначыў у чацвер
Дзень нараджэння ты са шклянкай.

**ЖАНЧЫНАМ**

Час міласэрна ставіцца да вас...
Не страціўшы жаноцкую прывабнасць,
Вы па шляху жыццёваму ішлі,
Збярогшы маладжавасць, стаць і зграбнасць.
Няхай яны застануцца пры вас:
І гумар ваш, і розум, і цярпенне,
Хай прыкладам жыццёвы будзе шлях
Для будучага пакалення!



# *Алесь Хітрун*

*Алесь Хітрун нарадзіўся 17 жніўня 1982 года ў вёсцы Крупава Лідскага раёна. Скончыў Крупаўскую сярэднюю школу (9 класаў), скончыў Лідскае ПТВ-196 (майстар сельгаспрадпрыемства), музычную школу (клас баяна), завочна - філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (выкладчык беларускай мовы і літаратуры). Працаваў у прыватных фірмах на дрэваапрацоўцы, на будоўлі. Цяпер працуе ў Лідскім гісторыка-мастацкім музеі навуковым супрацоўнікам літаратурнага аддзела. З'яўляецца кіраўніком літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". Друкаваўся ў часопісах "Маладосць", "Вожык", "Вясёлка", "Лідскі летапісец", у штотодніку "Галасы", у газетах "ЛіМ", "15 суток", "Гродненская правда", "Маладзёжны кур'ер", "Звязда", "Настаўніцкая газета", "Принеманские вести", "Лідская газета", "Наша слова", у альманасе "Ад Лідскіх муроў". Піша вершы, апавяданні, гумарыстычныя творы, займаецца краязнаўствам, даследуе фальклор.*

**Я - АЛЕСЬ, Я - ХІТРУН**

Я з любімага, роднага поля,
Дзе жыта ласкава пяе,
Дзе вецер гуляе на волі,
Дзе сонца з-за лесу ўстае.

Я не буду ніколі Купалам,
І Пушкіным мне не быць,
Бо вершы пісаць так удала
Не сумею,
мне б колькі ні жыць.

Я, аднак, жыву творча і з Лірай
Дружыць буду як бард, як баюн.
Я жыву недалёка, за Лідай,
Невядомы пакуль вам -
Алесь я, Хітрун.

## БЕЛАРУСІ

Ты - мая зямелька,
Я - твой каранёк,
У цябе - стагоддзі,
А ў мяне - дзянёк.

Ты - мая сцяжынка,
А я - твой слядок.
Ты - агню іскрынка,
А я - як дымок.

Ты - мая матуля,
А я - твой сынок,
Да сябе прытуліш -
Я  твой слых і зрок.

Я табой ганаруся,
Бо ты - Беларусь.

## МАЁ КРЭДА

І куды б я ні паехаў,
Куды б лёс мяне ні кінуў,
Крыкну - і паўторыць рэха:
"Беларусь я не пакіну!"

## У АБАРОНУ МОВЫ

Крыкнуць хочацца: "Даволі
Мову родную таптаць!
Ды няўжо ніхто ніколі
Не сумее вам сказаць:
- А навошта так балюча
Зневажаць яе і ганьбіць?
Мова ж песняю гаючай
Ашчасліваць, не падмане.
Мова - бы вада з крыніцы,
Паспрабуйце прыгубіць,
Ёю можна наталіцца
І навечна палюбіць".

## МАЁЙ МОВЕ

З табою навек заручоны,
І разам мы церпім нягоды.
Пакуль што я не вучоны,
А ў творчасці - першыя  ўсходы.

Ды веру, што нас не раздымуць
Ні бура, ні гром, ні маланка.
А ўсходы мае ўсё ж уздыме
Твая моц і мая спадзяванка.

## КРЫНІЦА ЖЫЦЦЯ

*Маме*

Ты не шкадуй, што яшчэ год
Прайшоў, застаўся за плячыма,
Заўжды ты, як з гаючых вод,
Выходзіш кветкаю-жанчынай.

Ты не сумуй, што злёгку скроні
Пафарбаваны сівізной,
Жыццё тваё як на далоні -
Ў люстэрку памяці жывой.

Нягоды сустракаеш смела,
Адважна крочыш па жыцці,
Рукамі творыш цуды ўмела,
Нам да цябе яшчэ расці.

Як знічка-зорка, сёння дорыш
Сынам цудоўны, добры свет.
Няхай жа сонейка аздобіць
Твой на зямлі нязмыўны след.

## СЯБРАМ - ПАЭТАМ

З'явілася на свет былінка,
Кволай нарадзілася,
Злодзей-вецер яе спінку
Гнуў - яна схілілася.

Не хацела жыць малеча,
Чакала ўжо канчыны:
"Каму патрэбная калека?
Прайшлі жыцця хвіліны…"
Раптоўна неяк з-пад зямлі
Былінку штось прыгрэла,
Сябры падтрымку ёй далі,
Яна ж і пакрапчэла.
Набралась моцы - і далоў
Яе той вецер злосны,
І пацякла па жылах кроў,
Сцябельчык стаў той просты.
Былінка - гэта аўтар верша,
А вецер злы - няўдача,
А той,
хто дапамог мне першым, -
Сябры мае, няйначай.

## НАРОДНЫ ДЭПУТАТ 1940 ГОДА

Па вуліцы Ліды,
Раённым абшары
Вясёла, бадзёра
Крочыў сам Купала.

Сакавік. Адліга…
Ступіць немагчыма,
Слыннаму паэту
Ногі намачыла.

Ад імя рабочых
Сам Таўлай пагэтаму
Паднёс падарунак -
Галёшы паэту.

Перад людзьмі Ліды,
Што прыйшлі на стрэчу,
Прамову ў чытальні
Трымаў сам Купала.
І народ адзначыў:
- Няма яму роўных!
Ён абраў Купалу
У Савет Вярхоўны.

## У КОЖНАГА СВАЯ МЭТА

Жыццё не ведае мяжы,
Яно адведзена нам Богам,
Камусьці мёд, каму - ражны,
У кожнага свая дарога.

Пакінуць кожны хоча сам
Пасля сябе сцяжынку,
Піша хтосьці лёсу план,
У іншых усё - малінкай.

Але дарэмна ж усё гэта,
Трэба спадзявацца...
Патрэбна толькі адна мэта:
Са злыбядой змагацца.

## БЯЗДУМЦЫ

Знікаюць звычаі, абрады,
У нябыт адходзяць святы.
Яны іншаму так рады:
Не патрэбны ім парады,
Не трэба ім вясны гуканне,
Песенных вяснянак.
Цягне іх да мацюкання,
Да цыгарэт і п'янак.

****

Хачу я птушкай быць,
Каб узляцець высока,
Вас буду любіць,
Бо дрэнна адзінокаму.

## МАЯ МАЛІТВА

Ты прабач мяне, Божа, калі я
Дзесьці дрэннае што і ўчыніў,
Бо гады мае шчэ маладыя,
Ды іх хтосьці на ключ зачыніў.

Дай мне ключ адчыніць тыя дзверы,
Што так моцна трымаюць душу,
Не пашлі мне пакутаў без меры,
Сілы, волю дай, вельмі прашу.

Працягні сваю руку, памілуй,
Не дазволь душы ў бездань ступіць…
Дай магчымасць да самай магілы
Людзям, роднай краіне служыць.

Дай мне, Божа, і сілы, і волю…

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Нарадзіўся я ў Беларусі,
Са мной разам - і мова мая,
Я Радзімай сваёй ганаруся,
Бо тут хата мая і сям'я.

Чуцен з поля мне спеў жаўрукoвы,
Па-над хатаю - клёкат буслоў,
Золкім ранкам - рыканне каровы,
А за вёскаю - гул трактароў.

Наталяўся спаўна сырадоем
І купаўся ў рачулцы Крупкі,
Ды касу кляпаў летняй парою
І п'янеў ад самой асакі.

Сваю маці-Радзіму не кіну,
Бо яна ўзрасціла мяне…
І да самай апошняй хвіліны
Не дам ганьбіць ніколі яе.

## ПАРАДА

Той, хто змалку зямлі не любіў,
Каму родная мова абрыдла
І з крыніцы вады не папіў,
Быў нікчэмным, бясклопатным з віду.

Хто ніколі людзей не цаніў,
Лёгкі хлеб палюбіў ён з укусу,
Шкадаваў свайго поту і сіл -
Не завецца між нас беларусам.

Трэба быць змагаром за Айчыну,
Палюбіць ўсё жывое вакол,
Не хаваць мазалёў і маршчынаў
І заслужана сесці за стол,

Быць заўжды чулым сэрцам і духам,
Паспрыяць, памагчы без прымусу,
Да зямлі прыкіпець сярпом, плугам -
Толькі той варты быць беларусам!

## ПРЫСУШКА

Ты, месячык ясны, на небе нязгасны,
Вы, зоркі-свяцілы, па ўсім небасхіле,
Высокае сонца, у нябёсах аконца -
Усе сведкі прызнання: маё хай каханне
Пранікне праз дзверцы да твайго сэрца,
Да вуснаў салодкіх, вачэй дрыготкіх,
Пачуццё, як лекі, жыве хай навекі,
Тваё - да мяне, а маё - да цябе.

Хмаркі ў небе, рассцяліцеся,
Зоркі ў высі, запаліцеся,
Месяц ясны, засвяціся,
Хлопец з дзеўкай, ажаніся!



# *Марыя Масла*

*Марыя Масла (Брэйва). Нарадзілася 16 верасня 1957 года ў вёсцы Гурыны Дварышчанскага сельсавета Лідскага раёна.*

*Вучылася ў Гервяніцкай васьмігадовай школе (1964-1970 гг.). Выпускніца Лідскай школы-інтэрната (1974 г.) і Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы (1980 г.).*

*Працавала ў Няцецкай і Гярвяніцкай васьмігодках, у дзіцячым садзе №17 г. Ліды.*

*Вершы друкаваліся ў "Лідскай газеце", "Нашым слове", "Гродзенскай праўдзе", "Прынёманскіх вестках", у часопісах "Пралеска", "Вясёлка", "Ад лідскіх муроў".*

*Вершы гучалі на Лідскім і рэспубліканскім радыё, у час пасяджэнняў літаратурнага аб'яднання "Суквецце", у многіх навучальных установах г. Ліды.*

***

У музеі слова сустракаю зноў я
Блізкіх майму сэрцу, дарагіх сяброў.
І пульсуе памяць, і мінае замець
Перажытых зімаў, стомленых гадоў.

У музеі слова - поступ дзеяслова
Мудрасць і дакладнасць нам дарыць гатоў.
Будзь надзейным, слова, шчасцем і высновай,
Спраўджанымі марамі нашых землякоў!

***

Лідчына, ты - нашай долі світанак,
Лідчына, ты - маладосці прыстанак.
Лідчына, ты - залатая падкова,
Лідчына, ты пачуцця трапяткога!

## МАЯ "НІВА"

Тут поле рапсава калышацца,
Хвалюе срэбрам сенажаць,
Крылом буслінным песня пішацца,
Здалёк мелодыя чуваць!

## МОЛАДЗІ
## (Спроба гімна для каледжа)

Адзіны, моцна згуртаваны
Наш маналітны калектыў.
І светлай марай апантаны,
Ліецца песенны матыў.

Урачыста, велічна іграе
У сэрцах нашых маладых.
Знаходкай смелай выспявае,
Лагодзіць, цешыць
дбайны слых.

Пагляд у будучнасць імкнецца,
Цвярдзее ўпэўненасці крок,
Учынкам добрым адзавецца
Надзейнай мудрасці ўрок.

Сяброў трывалаю падтрымкай
Гучыць настаўніцкі наказ:
Сталейце, хлопчыкі, дзяўчынкі,
У добры час, у добры час!

*Святлане Цішук паводле кнігі*
*"На крылах белай вароны"*
*(2000 г.)*

О ты, Белая Варона,
Твая моцная карона!
Ты - мая
Сястра
І Маці.
Цябе буду шанаваці,
За цябе маліцца буду,
Каб ніколі крыўды груды
На шляху
Тваім
Не ўсталі,
Каб уважлівей чыталі
І радкі, і міжрадкоўі,
Разумелі ўсе выслоўі,
Станавіліся
Мудрэй,
І святлей,
І адважней!
З пер'я Белае Вароны -
Незвычайная карона.

*Сардэчнае пажаданне*
*жнівеньскім юбілярам*

Спелае лета ўсміхаецца,
Лашчыцца на далоні -
Шчасце сваё лаві,
Спознішся - не дагоніш!

Няхай мядовым будзе Спас
І дзеля ВАС,
І дзеля НАС!
У добры час! У добры час!

## СІНУСОІДА ШЧАСЦЯ

Мастом над безданню зноў лёс..
Там вадападу страшны плёс,
Там грому рокат,
Там аблом,
Маланкі рогат,
Буралом.
Там навальніцы буйны шквал,
Чарговых справаў перавал -
Так выпрабоўвае любоў,
Гартуе сэрца… Будзь гатоў!

## ГАСЦІНЕЦ

Гасцінец высланы абрусам,
І цешыць вока светлы шлях.
Іду шчасліва, без прымусу,
Трапеча сэрцайка ў грудзях.

Вясёлкай граюць мае вочы,
Спявае, цешыцца душа.
Тут нарадзілася аднойчы,
Тут пралягла жыцця шаша.

Завулкі, сцежкі і прыпынкі,
І вуліц цэлы карагод…
Іду я з вамі без упынку,
І сёння доўжыцца мой ход.

Малітву ціха шэпчуць вусны
Аб утрапёнасці святой:
Цярплівай будзь,
як трэба, мужнай,
Захоўвай велічны спакой!

***

Словы "любоў", "таленавітасць"…
Хутчэй за ўсё - гэта Божая літасць,
Каб мы знайшлі дарогу ў Неба.
Вось наш аплатак: будзем з хлебам!



*Алеся Аляксандраўна Бурак нарадзілася ў 1930 годзе на беларускім Палессі. Скончыла Дукорскую школу на Меншчыне і сталічны педінстытут імя Горкага. З 1954 года настаўнічала на Лідчыне. Аўтар кнігі паэзіі "Прастора дабрыні".*

# *Алеся Бурак*

## ВАЛОШКІ

Лён расціла, кужаль прала,
Кросны ўстанавіла,
Палатно з любоўю ткала,
Потым адбяліла.

Сшыла міламу сарочку,
Вышыла валошкі,
Каб ён да майго садочка
Не забыў дарожку.

Каб часцей па вечарочках
Бег да майго сэрца,
Ля валошак на сарочцы
Я змагу сагрэцца.

Калі ж мілы пацалуе,
Назаве харошаю,
Дык адразу расцвіту я
Для яго валошкаю.

## ПАСЛУХАЙЦЕ

Лячыце раны сэрца
Дабром святым, не злобай,
Лагоднасцю, любоўю,
Даверам сілам неба.

Пабойцеся гардыні,
Ганіце прэч ляноту,
Звяртайцеся да Бога,
Адчуўшы адзіноту.

Адкрыйце яму душу,
Прасіце дапамогі
У цяжкія хвіліны
Душэўнае знямогі.

Шукайце пазбаўлення
Ад крыўды, бед, абразы
У шчырасці малення
Перад святым абразам.

## АКТАВА

Цэлы стос паперы на маім стале,
І на бела-белых аркушах паперы
Мае вершы зернем у радкі ляглі,
Каб нашчадкі заўтра іх спазнаць маглі.
Як шкада, патрэбных слоў мне не стае,
Каб адзначыць вартасць дабрачынных спраў
І акрэсліць еднасць думак і праяў…
Цэлы стос паперы на маім стале…

***

Радкі маіх вершаў - падмога жыцця,
Яны, што нятленная памяць,
Мяне падымаюць над звадкай быцця
І для няўдач быццам замець.

Радкі маіх вершаў - спакусам затор,
Бо душу яны ачышчаюць,
Мае спадзяванні і думак прастор.
У жыцці маім шлях асвятляюць.

## МАСТОЧАК З ТОНЕНЬКІХ ДАШЧЭЧАК

Да калінкі над ракою ў роспачы прыйду,
Раскажу я ёй пра нашу спрэчку-злыбяду,
А ты ходзіш у сумоце берагам насупраць,
Ты пакліч - і басаног я пабягу насустрач

Цераз рэчку па масточку з тоненькіх дашчэчак,
І не стану больш жаданню я твайму пярэчыць,
Цалаваць сябе дазволю, не скажу: "Даволі!",
Шкадаваць аб тым не буду, калі страчу волю.

Лепш у згодзе і пяшчоце хай гады імчацца,
Чым з калінкай над ракою з роспаччу змагацца.
Непакоіць нас не будзе рэха даўніх спрэчак -
Цёпла ўспомніцца масточак з тоненькіх дашчэчак.

## НАСТАЛЬГІЯ

Чарнобыльскі злавесны чорны попел
Павыганяў з-пад стрэх маю радню,
Параскідаў яе па розных месцах
Жахлівы час, падобны на вайну.

А мне ўсё помняцца, успамінаюцца
Такія блізкія палескія мясціны
І святы, на якіх радня збіраецца
У добрай згодзе за сталом гасцінным.

У Варатцы святкуем мы Міколу,
Баўшы збіраюць родных на Іллю,
На Ўзвіжанне сустрэча ў Рудакове,
А ў Бабчыне ўслаўляем Пакраву.

Палоніць сэрца цеплыня, утульнасць
Сярод вясёлай, шчодрай дабрыні,
У размове шчырай кожны раз адчуеш,
Адкуль ты сам, твае дзе карані.

Тых святаў нам сягоння не хапае,
Нялёгка ўсіх сабраць за вытканым абрусам,
І часта мы другія святы адзначаем…
Шкада: знікае адчуванне беларуса.

## СЯБРАМ - АДНАДУМЦАМ

Мая радзіма там, дзе бор сасновы,
Духмянасць верасоў і водар чабаровы,
Дзе птушкі ўранні весела спяваюць,
Дзе сябрукі прыветна сустракаюць.

Мне так прыемна бачыць аднадумцаў,
Што радуюць сустрэчаю са мною,
І на былое прымушаюць азірнуцца
Сяброўства даўняе і шчырыя размовы.

Так, некалі былі мы, як князёўны-павы,
Са станам тоненькім і гордаю паставай,
З вачыма яснымі і рамантычнай марай,
І не адны хадзілі мы, а ў парах.

І цалавалі нам мужчыны рукі...
Каханне ж нашае было парукай
На долю лепшую і шчасце без падману,
Не засціла сляза вачэй туманам.

А сёння зніклі нашы стан дзявочы,
Празрыстасць позірку... Падоўжыліся ночы...
Пачуцці ж нашыя ўсё тыя ж, маладыя,
Душа і думкі - светлыя, жывыя.

Не гнуць гады нас цяжарам сваім,
Хоць многа бед спазналі мы ліхіх,
Не трацім гумару, мудрэем мы штодня
І дабрыню на сэрцы песцім, як дзіця.

Мы радуемся ласкаваму сонечнаму ўсходу
І мужна сустракаем кожную нягоду...
Нам сілы прыдаюць сябры і вера ў Бога -
А гэта ўсё каштуе дарагога.

## РОДНАЙ ДУКОРЫ

Прыпадаю да ніў тваіх, росных лугоў,
Прагна п'ю не нап'юся крынічнай вады.
Каласы напяваюць мне песні дзядоў.
Сустракае пяшчотаю бор малады.

Родны змалку куток беларускай зямлі.
Першы покліч Радзімы з узлётамі мар.
Гора першае стрэла мяне тут, калі
Над краінай пачаўся ваенны пажар.

На фронт бацька пайшоў, з маці ў бежанцы - мы,
Не вярнуўся з вайны ён, былы палітрук,
Мы ж прайшлі скрозь пякельнае жэрла вайны,
Перамогу вітаў з намі ў небе жаўрук.

Хоць чацвёрты загінуў у нашай сям'і
І жыццё нам узлегла на плечы траіх,
Утрымалі яго. Зноў цвіце на зямлі
Буйны колас у полі, як памяць жывых.

А дарога жыцця зноў мяне прывяла
Ў тое месца, дзе радасць палоніць мой боль.
Прызнаюся: у жыцці б я нямнога змагла,
Калі б сустракацца не стала з табой.

## МАТУЛІНА СЭРЦА

Без бацькі расла я старэйшай дачкою…
Падоўгу адна па-над сіняй ракою
Я з горкай калінай на лёс наракала
І крыўду ў роснай траве паласкала.

Ці то ад ракі ўдалася сінявокай,
Ці то ад калінкі - уражліва-тонкай,
Ад рос прыгажэла, рабілася чыстай,
Ад долі сірочай - пяшчотна-іскрыстай.

Цяпер зразумела, як нас ты любіла,
Без бацькі, адна, ўзгадавала-ўзрасціла
І кожную з нас на жыццёвую сцежку
Выводзіла, слёзы хавала за ўсмешкай.

І зараз аб нас тваё сэрца баліць,
Ад кожнай імкнешся бяду адхіліць.
Ты ведай, чакай, мы спяшаем заўжды
Да той непаўторна-празрыстай вады,
Да сэрца, што нашу бяду забірае,
Да белай хусцінкі, што слёзы ўцірае.

***

У нас, у беларусаў, вочы шэрыя,
Лагодныя і справядлівыя,
Разумныя і вельмі шчырыя,
Спагадныя, добразычлівыя.

## ПРАСТОРА ДАБРЫНІ

Ужо шмат гадоў на свет гляджу з акна,
Але ніколі не бываю я адна…

Прастора дабрыні маёй душы
Мне дапамагае бачыць існасць
Таго, што за акном маім ляжыць,
Самотнасць майму сэрцу ненавісна.

Я, пэўна, шчаслівейшая з людзей,
Бо іншым слова шчырае нясу,
Бо радуюся справам дабрадзеяў,
Ды і зласлівых зразумець магу.

Не трэба ідэаламі нам трызніць,
Бо кожны чалавек такі, як ёсць,
Галоўнае - нікога не пакрыўдзіць
І не прынізіць годнасці сваёй.

Люблю жыццё пакутліва, няўтольна
І кожнаму заўжды дапамагу
Цяплом сардэчным, працаю нястомнай.
Вось толькі здрады дараваць я не змагу.

Хоць шмат гадоў на свет гляджу з акна,
Але ніколі не бываю я адна.

Прастора дабрыні - маленькая кватэра,
Дзе ўладараць думкі, сэрца, пісчая папера…
Прастора дабрыні - мая прастора.
Хай абыходзяць яе немач, зло і гора.

*М. І. Р.*

Я думала, ты будзеш чыстаю расою,
Абмыеш раны ўсе, пачуцці ажывіш,
А стаў ты для мяне пякучаю слязою,
Якую не прагнаць, з якой нялёгка жыць.

І засцілае вочы едка-злым туманам,
Страшнейшым за праклён было тваё: "Бывай".
Заўжды хварэць табой, і так неспадзявана
Мне піць на горычы настоены адчай.

***

Сутарэнні думак і пачуццяў
І струны душэўнай перапеў
Не даюць, перашкаджаюць чуць мне
Раніцай птушыны звонкі спеў.

І бывае невыноснай скруха
І глухая немасць цішыні,
Каля скроняў нескончона кружыць
Непатрэбнасць моўнай дабрыні.

Ачарсцвелі людзі думкай, сэрцам,
І ад іх падмогі не чакай.
Толькі шчодра грэе на планеце
Міласцю вялікай родны край.

***

Піша восень існаванне:
Яблык поўняю павіс,
Выклікае журбаванне
Жураўліны клінапіс.

З туманамі дружыць поле,
Стынуць рэкі, даль імжыць…
Восень па-над краем долі
Пасляшаецца, бяжыць.

Існаванне - журбаванне…
Свет - імжа…
Любоў - адчай…
Ці ж патрэбна нам расстанне
Позняй восенню? - Страчай!

## РОДНЫЯ ПРАСТОРЫ

Краскі ў лузе расцвілі,
Пахне сокамі зямлі
Маладое ў поле збожжа,
Дождж прайшоў,
і пад вясёлкай,
Хваляй чыстай, хваляй звонкай,
Рэчка мкнецца ў падарожжа.

Даль сінюткая такая,
Ветрык лісце чуць гайдае,
І смяецца сонца ўладна,
А я крочу між палямі,
Між лясамі, між лугамі,
Прыгажосці падуладна,

І шкадую, што не маю
Слоў, каб гожасць свайго краю
Пераплесці тонкай песняй,
Толькі сэрца хвіляй весняй
Над прасторамі лунае
Ды ўдаль думкі парывае.

## ПРАБАЧ

*Алесю Хітруну*

Прабач, мой дружа ясназоры,
Што пра цябе пякуся,
Табе я зычу высяў зорных
На ўлонні Беларусі.

Няхай твой вобраз прамяністы
Нахабству, злу пярэчыць,
Тваіх памкненняў
добрых, чыстых
Ніхто хай не аспрэчыць.

Прабач за чуласць майго сэрца,
За роздум, мо, няўгодны,
Хай шчасна свеціць табе сонца,
Жыццё будзе пагодным.

Малюся за адну хвілінку
Размоў, сустрэч са мною.
Ты - майго сэрца палавінка,
Цяпло жыцця зямнога.

## НА АРЭЛЯХ МРОІ

На арэлях мроі я высока
Узлячу, зрок кіну на зямлю,
Залюбуюся азёрамі з асокай,
Прывітаю рэчак чысціню.

Я лясам шумлівым пакланюся
І калоссю жытняму ў палях,
Хай жывецца мірна беларусам,
І прыносіць шчасце белы птах.



*Канчэўская Ларыса Георгіеўна. Нарадзілася на в. Сахалін 9 кастрычніка 1946 г. Жыла ў Расіі, у Латвіі. З 1956 г. жыве ў Лідзе. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Была рабочай, лабарантам на заводзе электравырабаў, мастаком-афарміцелем, касірам у банку, малодшым навуковым супрацоўнікам у гарадскім архіве, інструктарам гарвыканкама, інжынерам па эстэтыцы, выкладчыкам у педвучылішчы. Пенсіянерка. Зрэдку друкавалася ў "Лідскай газеце" і газеце "Чистый мир".*

# *Ларыса Канчэўская*

## ПЕСНІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Ты ясная, уся росная, празрыстая,
Ля хуткіх пераблытаных рачулак
Гайдаеш ціха травы серабрыстыя,
Якім даеш гасцінны свой прытулак.

На золку, расхінуўшы вочы светлыя
Азёраў у пахкай зарасці альховай,
Духмянымі лугамі вабіш ветліва,
Гукаеш прахалодаю баровай.

Ахінутая гонямі, палямі
І паскамі спавіта сінярэчнымі,
Ты шчодрымі пагоркамі-грудзямі
Палеткі поіш сокамі адвечнымі.

Прыгожая мая! Вяснова-юная
І мудрая ў сівізне зімовай -
Спяваеш і вясёлыя, і сумныя
Ты песні на сваёй крынічнай мове.

## ЮРАСЬ

Пеўную рана шчэ спяваць…
Цёплы дух з авіна…
Каля студні пастаяць
Выйшаў сын Скарынаў.

Варухнецца сонны птах -
Храп трасе ўсю хату.
Расплёскаўся Млечны Шлях
У зорах-заранятах.

Чуе хлопец нібы звон,
Добрыя панове,
Божа Слова бачыць ён
Ды на роднай мове!

І ад тых сівых дымоў
У Полацку зімовым
Да краін чужых дайшоў
У сэрцы з гэтым словам.

З хлопца сціплага таго
Навуковец стане.
І дзівіліся з яго
Ведаў італьяне.

Не пашаны ён збіраў
У тым краі далёкім,
А раменьчык завязаў
На чале высокім,

І пачаў перш друкаваць
Не свае трактаты -
Закон Божы, каб чытаць
У беларускай хаце.

Справу, што для нас зрабіў,
Толькі Богу змерыць!
Усім лёсам ён злучыў
Нашу мову з верай.

***

Хадземце ноччу ў лес
Да казачных здарэнняў,
Нябёсных зорных крэс,
Юнацкіх летуценняў!

Спяшайцеся! Хутчэй!!
Да досвітку нам трэба
Пералічыць яшчэ
Ўсе дыяменты неба.

Альховы водар нас
Ахутае бы воблак
У пачувальны час,
Калі палае золак.

А птушкі, даўшы ўступ
Спачатку нерашуча,
Ужо потым запяюць
Празрыста і гаюча.

І раптам - як штодзень -
Павольна, урачыста
Сваціла ўзыдзе
Над ранкам гэтым чыстым!

І родная зямля,
І гэты свет чароўны
Стварають спакваля
Суладдзе ў нас цудоўна.

Хадземце ў лес!! Хутчэй!!!

## СПАТКАННЕ

I

Яна здалёк яго самоту адчувала…
Абодва зведаўшы душэўнае пустэчы,
Імчаць дзве знічкі ад касмічнае навалы.
Падзяка лёсу за імгненную сустрэчу!

II

І даўшы знакі моўленнем адвечным
(Яшчэ ляцець у Сусвет да розных берагоў),
У аблiччы надзвычайна чалавечым
Ледзь затрымаліся сярод зямных снягоў.

III

Яна пацалавала яго ў радзіму, у скронь.
З пяшчотай подыхам ён грэў яе далонь.

## БЕЛАСЛУПКІ

I

Віхура хістае самотную чарацінку
На тле снегавой прасторы й барвянага неба…
Адбываецца злучэнне беларускай імшарыны
З мінімалісцкай выразнасцю японскага мастацтва.

II

Рукі дрэваў такія моцныя,
Што яны намагаюцца дзеля людзей
Утрымаць цяжкі восеньскі небасхіл
І ўпрыгожыць вясновы свет.

III

З маленства любіла я
Маю знаёмую блакітную зорку,
Нават калі і не чула
Ні пра мову, ні пра чалавека,
Якія апелі яе.

IV

Яна да зморы скардзілася Богу
На сваё жыццё
І абражалася, што Ён не чуе яе,
Не будучы ўдзячнай за тое, што
Скончыўся няспынны дождж,
Завітала суседка з пачастункамі,
Што ласкава завіхаецца котачка каля спадніцы
І, наогул, яна сама бачыць, чуе, гаворыць, ходзіць
І робіць розную працу.

V

Пад цяністым палогам
Старога дрымотнага дуба на строме Нёмана
Мы з сястрой пячом у цяпельцы рыбу.
Сонейка зіхаціць на роўнядзі ракі,
І чуецца мармытанне струменьчыкаў…
Шчасце…

VI

Усё чакаю і чакаю цябе,
Не ведаю, колькі год…
Мусіць, ужо не адно жыццё.
Прыходзілі… Але гэта ўсё не ты.
Напэўна, таксама недзе сумуеш.
Пачакайма.



# *Валера Мацулевіч*

*Валера Мацулевіч нарадзіўся 4 жніўня 1983 года ў Лідзе. Скончыў Наваградскі гандлёва-эканамічны тэхнікум па спецыяльнасці "Бухгалтарскі ўлік і аўдыт". Працаваў на прадпрыемствах ААТ "Лакафарба", ААТ "Лідскі завод электравырабаў". Вершы пачаў пісаць з 19 гадоў. Друкаваўся ў газетах "Лідская газета", "Прынёманскія весткі", "Гродзенская праўда", часопісах "Ад лідскіх муроў", "Нёман", "Маладосць". Аўтар зборнікаў "Струны душы" (2011) і "Чалавек са свечкай" (2014).*

**БЫВАЮЦЬ ДНІ**

Бываюць дні, калі жыццё
Падалей хочацца паслаць,
Душа крычыць: "Запі і ўсё!
Кідай змагацца ды шукаць!"

Не ткуцца ў вершыкі радкі,
І апетыт не хоча быць,
А тэлефон, як знак тугі,
На пыльным століку маўчыць.

Ды варта стаць каля акна,
Калі ноч сцеле цішыню,
А ў небе сажы чарната -
І ўбачыш зорку там сваю.

Праменняў мяккае святло
Пяшчотна лашчыць небасхіл,
І забываецца ўсё зло
Часіны той, дзе лёс не міл.

Пакуль той зоркі ёсць краса,
Не кіне шчасцейка мяне,
Ліхой часіны ж паласа -
Яна пабудзе і міне.

**МЕСЯЧЫК**
(трыялет)

Я адзін, як месячык у небе,
А навокал - рабаўніца ноч.
І не бачна зорак цёплых воч.
Я адзін, як месячык у небе.
Светлы сум спадзе,
як срэбны дождж,
І ў садах народзіцца малебен.
Я адзін, як месячык у небе,
А навокал - рабаўніца ноч.

## ЖНІВЕНЬ

Поўніць паветра спякотаю жнівень.
Душна. І многія ў хаце сядзяць.
Не выйшаў ва двор нават вецер лянівы,
І нерухомыя дрэвы стаяць.

Мабыць, панурацца надта тугою,
Што хутка золата скінуць лістоў.
Людзі пад сонца спякотным канвоем
Крочаць паволі па зоне двароў.

Жвавым патокам, пылячы шыны
І ажыўляючы хуткасцю дзень,
Побач імкліва нясуцца машыны,
Можа, як людзям, ім хочацца ў цень.

Ходзіць нуда, як убогі бадзяга,
З клункам што цягнецца ў нейкую даль,
І, дварняком падляцеўшы нязграбным,
Ты, адзінота, мне лапу падай.

Сонныя думкі снуюць хаатычна,
Мэты няма ў іх, дый сэнс не якраз,
І на душы вяла, душна крытычна,
Як і на вуліцы ў жнівеньскі час.

## ВОСЕНЬСКІ КЛЁН
### (трыялет)

Палае клён паходняй Праметэя,
А мо як сэрца горкаўскага Данка.
Сярод скупога восеньскага ранку
Палае клён паходняй Праметэя.
Пульсуе ліст, агністы, як маланка,
У ім Любоў, і Вера, і Надзея.
Палае клён паходняй Праметэя,
А мо як сэрца горкаўскага Данка.

## ЖОДЗІНСКІ АСІЛАК

Асілак жодзінскі - БелАЗ,
Ты - зубр сярод машын,
Бы радзівілаўскі палац,
Дарос да аблачын.

Ты - роднай Беларусі дух,
Магутны і стальны,
Ты - безліч працавітых рук,
Што робяць быллю сны.

Ты як паганскі моцны дуб
З гісторыі дзядоў,
Ты - веліч мар, што гнуць біду,
Аб днях праз сто гадоў.

Ты сімвал, волат, працаўнік
І казачны герой,
Ты для мяне не грузавік,
А твар зямлі маёй!

## ЗАХАВАЙМА Ў ЧЫСЦІНІ

Захавайма ў чысціні
Нашы пушчы і палі,
І аблокі ў вышыні
Захавайма ў чысціні.

Захавайма ў чысціні
Нашы рэкі, ручаі,
І азёры ў цішыні
Захавайма ў чысціні.

Захавайма ад пакут,
Прамысловых ран-атрут,
Цела роднае зямлі
Захавайма ў чысціні.

Мудрасць з розумам няхай
Лечаць, цешаць родны край.
Ў наша заўтра зазірні:
Ці яно ж у чысціні?

## МАЙСКАЯ ЗАМАЛЁЎКА

Падалося мне позняй вясной,
Што трава стала хваляй марской,
Што як з тропікаў неба бязмежнае;
І на хвалях зялёных ў садах
Квецень яблынь на мачтах-ствалах,
Быццам ветразі яхт беласнежныя.

Светлячкі залатых дзьмухаўцоў
Нібы скарбы з мінулых часоў,
З караблёў, затануўшых у буру;
З дна марскога прыветна блішчаць,
Аб прыгодах паданнем гучаць
І настрой праганяюць пануры.

## ЗАФАРБАВАНЫ СУМ

Распусціў каляровае пер'е
Парк асенні, нібыта паўлін.
Тоне ў фарбаў стракатых бязмер'і
Сум халодных, самотных хвілін.

Кінь журбу аб вясновым блакіце,
Дыванах малахітавых траў -
Бачыш, Восень малюе графіці,
Каб яе ты таксама кахаў!

## КАЛІ ВЕЗУВІЯ ЧАРНОБЫЛЬСКАГА ЦМОК...

*Сышліся чорныя хмары*
*І неба запаланілі.*
*Смяротны чарнобыльскі цмок*
*Над светам лятаў...*
***Д. Бічэль.***

Калі Везувія Чарнобыльскага цмок
Дыхнуў у твар краіны Ефрасінні,
Атрутны водар сапсаваў на час Ёй зрок,
Змяніўшы шэрым задуменна-сіні.

Калі нябачныя траплялі у людзей
Праменні-кулі падшага анёла,
Ёй падалося, быццам зноў Біці-Гірэй
Вядзе арду на гарады і сёлы.

Калі нячысцік, а не добры дамавік
Абраў жытлом пакінутыя хаты,
А ноч мятлой прагнала з неба маладзік,
Ёй забалелі даўнія стыгматы.

Бы крэматорый, бы Сусветная Вайна,
Чарнобыль нішчыў светлую надзею.
Але праз попел усміхалася вясна,
Што Беларусь не зробіцца Пампеяй.

## КАЛЫХАНКА ЧАЛАВЕКУ

Спі, чалавеча, табе нагадаю
Вобраз вясёлкавы весняга раю.

Вось зніклі клопаты, зніклі слязінкі,
Граюць з калыскаю яблынь галінкі.

Зніклі кудысьці і шоргат, і грукі,
Сэрца натхняюць чароўныя гукі.

Зніклі кудысьці дамы і машыны,
Поіць пяшчотаю шчэбет птушыны.

Зніклі кудысьці дажджы і туманы,
Бачна святло, чуцен голас каханы.

Там, дзе калосся чуваць шапаценні,
Ходзіць Хрыстос у бялюткім адзенні...

Спі, чалавеча, а я нагадаю
Вобраз вясёлкавы весняга раю.

## МАТУЛЯ

У рачулцы ёсць вады багата,
Без вады не стала бы жыцця.
Ад матулі ёсць жыцця пачатак,
Ад яе любові пачуцця.

Пот і гразь змывае з нас рачулка -
Ад жыцця не лепшыя сляды,
У матулі сэрца б'ецца чутка,
Змыць крывёй гатова жах бяды.

Гоніць рэчка ўдзень і ўночы хвалі,
Тыя хвалі - працы мазалі,
І матуля ледзь адпачывае,
Толькі б мы шчаслівыя былі.

Рэчка хваляй пеннаю ўзбялела,
У адказ на злых вятроў парыў.
Грэх казаць: "Матуля пасівела",
Гэта Бог ёй срэбра падарыў.

## У КРАІНЕ ДЗЯЦІНСТВА БЫЛОГА ...

У краіне дзяцінства былога,
За дарослых гадоў даляглядам,
Я сябе ўспамінаю малога,
І мне пахне адтуль шакаладам.

Там ўсё побач: далёкія зоры,
У пірацкіх сцягах акіяны,
Таямнічыя волаты-горы,
І гайдаюць Тарзана ліяны.

Там не раз я даваў абяцанне,
Што як выраcту - стану пілотам.
Камянёў найкаштоўнейшых ззянне
Не было даражэй самалётаў.

Там, як ранішнік быў навагодні,
Я фарсіў у плашчы мушкецёра,
А ў адказ праз сівыя стагоддзі
Усміхаліся тыя чацвёра.

Там мяне ў летнім парку з калматай
Грывай неслі імклівыя коні;
Снег зімой, бы звярок той пухнаты,
Мне прасіўся хутчэй у далоні.

Сябраваў, не шкадуючы вочы,
Я з цікаваю кніжкай ад ранку,
Калі ж спаць я лажыўся уночы -
Рыжы кот мне спяваў калыханку.

## УСПАМІН ПРА СВЯТА

Калі вечар зімовы заўзята
Шчэрыць чорныя зубы праз шкло,

Ўспамінаецца Боскае Свята,
Што ў далёкім дзяцінстве было.

І святочыя ў вокнах карункі,
І святочны абрус на стале,
І пад ёлкай святочнай дарункі,
І святочнасць на сэрцы ў мяне.

І душа ўсё бліжэй да касцёла.
З неба снег, быццам там хмаратрус:
Гэта сядуць вячэраць анёлы -
Бог ім сцеле бялюткі абрус.

Ды ад зорачкі першай агеньчык
На ялінцы запаліць агні,
І прасіць будуць большы і меншы:
- Святло Божае, зло прагані!

А карункі - пялюшкі для Бога -
Тыя ў кожным бялеюць акне,
Каб Ён ласкай не кінуў нікога
І, вядома, прыйшоў да мяне.

## ТРЫЯЛЕТ

Начамі просіць хлеба Дабрыня,
Дванаццаць зор вакол яе хусцінкі.
Глядзіць у вокны кожнае хацінкі,
Начамі просіць хлеба Дабрыня.
Ды не пакіне цёплыя прасцінкі
Той, хто даўно забыў яе імя.
Начамі просіць хлеба Дабрыня,
Дванаццаць зор вакол яе хусцінкі.

## ЯБЛЫНІ

У валкі  сакавіцкімі граблямі
Над дамамі аблокі сабраныя.
Між дамоў сталі ў роспачы яблыні,
Беспрытульнаму лёсу адданыя.

І, нібы жабракі падцаркоўныя,
Да нябёсаў, дзе птушкі праносяцца,
Уздымаюць галін рукі чорныя,
І як Богу яны Сонцу моляцца:

- Паглядзі, як мы доляй пагарджаны,
Як усмешкай Тваёй не абуджаны,
Зімнім хамам-марозам зняважаны,
Абакрадзены восеньскай сцюжаю.

Нас дражнілі сняжынкі, ўніз скачучы,
Лёд сярдзіты лічыў падазронымі,
Ды завея, у жмені скамячыўшы,
Часам міласць шпурляла з праклёнамі.

Ці ж вачам не былі мы ласункамі?
Дзе ж аблічча падзелася зграбнае?
Адары нас за крыж падарункамі:
Урачыстасцю, веліччу вабнаю.

Снег на целе, здаецца, стагоддзямі,
Як прасцінкі, ў шматкі разадраныя.
Дай надзею скрыць здзек зімы-восені,
Дай адзенне, вясной-красой тканае.

Пакажы нам Свой твар паміж хмаркамі,
На ўсю моц пакажы, чыстым золатам.
Пакарай холад дзідамі шпаркімі,
Абаронцаю будзь нам ад холаду.

Вылі рэкі цяпла, каб імкнуліся
Ўніз да трэшчынак, да галіначак,
Так, каб сокі ўнутры ўсхалынуліся
Ў кожнай з клетачак, кожнай з жылачак.

І мы дзецьмі, за клопат удзячнымі,
Светлым летам з хвілінамі доўгімі
Маляванкамі з яблыкаў смачнымі
Расфарбуемся ў гонар твой, Добрае.

## ЯЗЫКІ

Што ні выйдзе з-пад рукі,
Абгавораць языкі.

Замясіў я неяк цеста -
Языкі сказалі: "Прэсна!"

Як не прэсны смак, то горкі -
Кажуць мне: "На сметнік толькі!"

Як не горка, значыць кісла -
Мне сказалі: "Аскаміста!"

Як не кісла, то салодка -
Кажуць: "Не прымае глотка!"

Што ж, скажу па праўдзе вам:
Не дагодзіш языкам!

Дык старацца будзь гатоў
Для сябе - не языкоў!

## НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ ВЕРШЫ

Я паліў свае вершы ў агні -
Ля агню адагрэўся вандроўнік,
Я тапіў свае вершы ў вадзе -
Той вады напіліся казулі,
Закапаў свае вершы ў зямлю -
На зямельцы ўрадзілася збожжа,
Я тады іх у сэрца зашыў -
А яно застагнала ад болю.

Баліць сэрца -
Ды адагрэўся вандроўнік,
Баліць сэрца -
Ды напіліся казулі,
Баліць сэрца -
Ды ўрадзілася збожжа.

Няхай жывуць вершы!



*Ала Вадзімаўна Юшко нарадзілася 19 траўня 1955 года ў вёсцы Кузьмічы Ваўкавыскага раёна Гарадзенскай вобласці. У 1971 годзе скончыла будаўнічае вучылішча ў Гародні. Працавала ў Лідзе, у будаўніча-мантажным трэсце №19 (штукатурам), у будаўнічай групе ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты". Зараз працуе маляром у ААТ "Лідanaфтапрадукт". Вершы піша з 2003 года. Друкавалася ў "Лідскай газеце", "Прынёманскіх вестках".*

# *Ала Юшко*

## МАМЕ

Я прыехала ў вёску дзяцінства свайго,
Пуста там, дзе бацькоўская хата стаяла,
Не пачуць мне і голас матулі маёй:
"Я ж цябе гэтак доўга чакала".
Цішыня, запусценне навокал ляжаць,
Ну а думкі плывуць, як вадзіца:
Дзе ж дарогу цяпер праз гады адшукаць,
Каб вярнуцца ў тое дзяцінства?
Мо, інакш у жыцці ўсё маім бы было,
І з матуляй часцей размаўлялі б.
Прабачэння прашу я ў матулі за ўсё
І надзею нясу на спатканне.

## ЛЮБАЯ РАДЗІМА

Сэрцу любы куточак, дарагая радзіма!
Жаўруковыя спевы і клёкат буслоў.
Я ў сэрцы нясу твой прастор неабдымны,
І хаваю любоў паміж пацерак слоў.
Толькі б неба было нібы цвет васільковы
І бярозаў касіцы вецер ціха гайдаў,
Над абшарамі песень свабодныя словы
Каравай на абрусе часцей бы чакаў.

## КУПАЛУ

Сто дваццаць пяць, як нарадзіўся,
А мне чуваць твой голас зноў:
"Нясі, дзяўчына, нашу мову,
З якой я ў вечнасць адышоў!
Яна, як кволая раслінка,
Трымціць і цягнецца к святлу,
І мову гэту святую
Я праз стагоддзі вам нясу.
Яе шануйце і люляйце,
Не дайце ў цемры затануць.
За мову гэтую і сёння
Нас беларусамі завуць!"

## "ДАЖЫНКІ"

Свята "Дажынкі" праводзіць Радзіма
У горадзе з назвай цудоўнаю - Ліда.
Быццам дзяўчына, красою чаруе,
Шчыра, як маці, усіх нас частуе.
Вам, хлебаробы, за сноп залаты
Дорыць яна незабыўныя дні,
Шчасця, здароўя за плённую працу.
Хлеб на стале - гэта наша багацце!



*Уладзімір Георгіевіч Бурак нарадзіўся 10 сакавіка 1957 года ў сям'і лідскіх настаўнікаў. Скончыў мясцовы індустрыяльны тэхнікум, дзе і працуе майстрам па тэхнічным навучанні. Аўтар кнігі твораў "Дарогі розныя бываюць".*

# *Уладзімір Бурак*

## УСХВАЛЯЮ…

Рукі маці сваёй усхваляю,
Шчэ ў дзяцінстве яны акрылялі,
Спрытна жалі, вязалі і ткалі,
Трох сястрычак на ногі паднялі.

Рукі маці сваёй ухваляю,
Што ў нягодах жыцця зберагалі
Ўсё сямейства адзінага сына
І ў працы не зналі спачыну.

Усхваляю я рукі матулі,
Што з пяшчотай да сэрца гарнулі,
Аддавалі цяпло-ласку шчыра
І сяброў частавалі гасцінна.

Усхваляю матуліны рукі,
Бо тварылі дабро без прынукі
Так увішна, і спраўна, і спорна
Ва ўмельстве сваім бездакорным.

## НАВУКА

Я вырашыў спячы пірог,
Каб пахваліцца ім я змог…
А тое цеста, што мясіў я,
Ад рук адтрэсці ўжо не змог:
Там розум трэба, а не сіла!
Так учапілася за рукі,
Што большай я не ведаў мукі,
Як збавіцца ад гэтай штукі.
Мне пальцы так яно зляпіла -
Жыццё зрабілася нямілым:
Ні лыжкі ўзяць,
ні нос пачухаць,
Адно з-пад вусаў
магу дзьмухаць
Ды пільна ў міску паглядаць…
Як цеста ў камяк скачаць?!
Не ведаў я, паверце, братцы,
Ад згубы той як ратавацца…
На шчасце, у хаце была маці,
Дапамагла яна дзіцяці -
Параду добрую дала:
Каб я не ведаў з цестам зла,
Мукі дабавіць ці вады -
Яно адчэпіцца тады.
Пірог я спёк…
Скажу вам, братцы:
Не знаеш як - не трэба брацца!

## ПАКЛАДЗІСТЫ САБАКА
### (З падгледжанага ў жыцці)

Жыў пакладзісты сабака,
Не кусаў людзей за пяты,
Порткі крыху падзярэ
Ды бадзяўся па дварэ.

Птушак не пускаў і блізка,
Бо была ў яго там міска,
Міску тую добра знаў,
Міску тую паважаў.

Ў місцы той былі прысмакі:
Косці (любяць іх сабакі!),
Бульба, хлеб, абрэзкі сала,
Словам, ежы там хапала.

Жыў, здаецца, без клапотаў...
І не меў бы ён турботы,
Не стаяла б тая міска
Каля хлева надта блізка.

А бяда была такой:
Ў хлеве быў курам пастой,
Куры ў міску заглядалі
І, бывала, ежу кралі.

І злаваў тады сабака,
Бо ганяць курэй праклятых
Дзед яму не дазваляў,
Самаго як след ганяў.

Так і жыў з курамі ў згодзе,
Покуль тыя ў агародзе
Шкоду дзеду не зрабілі -
Усе пасевы пагубілі.

На курэй дзед зазлаваў
І сабаку нацкаваў...
Ох і даў тады сабака,
Узгадаў курам праклятым

Непашану, непавагу,
Іх курыную адвагу,
Як у міскі заглядалі
І сабаку аб'ядалі.

На крыло ўзняліся птушкі,
Разляцеліся квахтушкі,
Пахаваліся ў кустах:
Вельмі моцным быў іх страх!

Тут паставіць трэба кропку
На сабачую заводку.
Ведаць сталі з той пары,
Гаспадар хто на двары.

## ДЫПЛАМАВАНЫ БАРАН

Мара ў барана была:
Кіраваць ды правіць,
Аднак пустая галава
Нікога не цікавіць.

Ён дыплом тады купіў,
Вывучыўся бэкаць,
Як пасаду атрымаць,
Ён пачаў кумекаць.

Усе другія бараны
Ўжо яму не брацця,
Да мядзведзя ў сябрукі
Вырашыў падацца.

Так бывае, што баран,
Які мае "плечы",
Жыццё людзям навакол
Брудзіць і калечыць.

## ВЫЛЕЧЫЛА

"Каб ты падох! Каб ты прапаў!
Каб ног і рук не адчуваў!
Ты - злыдзень, дурань, дармаед,
Каб ты не бачыў белы свет!
Каб у вадзе вады прасіў,
Каб лоб дурны сабе разбіў,
Ды так, каб аж да смерці
Ў вачах скакалі чэрці!" -
Так яна сказала
І ў дзверы - ды й прапала.
Разам з ёй, паверце,
Ураз прапалі чэрці.

## КЛОПАТ

Я ноч не спаў,
Вам верш складаў,
І галава цяпер баліць:
З ганарарам што рабіць?

## МАЯ МОВА

Слоў мудрагелістых не ведаю, не маю,
З усімі размаўляю зразумела
І свежавыдуманых слоў не прывячаю:
Ад навізны іх наша мова ўжо здранцвела.

Мая матуліная, песенная мова
Мне даражэй за моднае маўленне,
І беларускае прачуллівае слова
Са мною будзе жыць, як Боскае свячэнне.

## НА ЎЗМОР'І

Самлелі травы, кветкі ад спякоты,
Пякельнае, нязнанае надвор'е
Загаспадарыла да восеньскае слоты.
Мы едзем зноўку к мору па здароўе.

І толькі там палёгка і спакой,
Вада і прахалода дасць нам сілы.
І стане кожны дзень пякельны той
Душы і целу, сэрцам нашым мілы.

## ВОСЕНЬ ДЗВЕРЫ АДЧЫНЯЕ…

Наступае восень… Позна або рана?
Паржавела лісце на голлях каштанаў,
Пажаўцелі ліпы - замянілі ўборы,
Клёны ганарацца колерам барвовым.
На бярозе белай крона стала рэдкай,
Замаўкаюць птушкі, адлятае лета…
На вярбе вятрыска заплятае косы,
Пуста на палетках, не відаць пракосаў…
Сумна і маркотна, дождж слязу схавае:
Сёння восень дзверы ў дом мой адчыняе.

## МАТУЛІ

Дарагая мая ты матуля,
Ты жывеш сярод вечных турбот,
Ты заўсёды да сэрца прытуліш,
Хоць мне зараз нямала ўжо год.
Так патрэбны твае мне парады,
Так патрэбна твая мне любоў,
Я цябе прывітаць вельмі рады
І заверыць цябе зноў і зноў,
Што люблю твае ўмелыя рукі,
Што люблю твой ласкавы пагляд.
Твае словы не неслі прынукі,
Вочы змалку праводзілі ў шлях -
Шлях жыццёвы, каб быў я шчаслівым,
Каб не зведаў ніякай бяды,
Каб быў добрым заўжды, незласлівым,
Каб сумленным я быў праз гады…
Часта клопат твой, шчырае сэрца
Крыўдзіў словам бяздумным сваім…
Мне б цяпер тваёй ласкай сагрэцца
І адчуць сябе зноў маладым.



# *Ірэна Сліўко*

*Ірэна Нікадзімаўна Сліўко нарадзілася ў 1941 годзе ў в. Залейкі Іўеўскага раёна. Пасля заканчэння Залейкаўскай пачатковай школы, Навасёлкаўскай сямігодкі і Морынскай сярэдняй школы скончыла Менскі фінансавы тэхнікум па спецыяльнасці "фінансіст" і Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі ім. В. В. Куйбышава па спецыяльнасці "эканаміст". Працавала ў Астравецкім райфінаддзеле 7 гадоў, а затым у Лідскім гарфінаддзеле на пасадах эканаміста, ст. эканаміста і нач. бюджэтнага аддзела. Друкавалася ў "Лідскай газеце", у газетах "Астравецкая праўда", "Іўеўскі край", "Прынёманскія весткі"; у калектыўным зборніку "Мой горад - гонар мой", у кнізе Анастасіі Каладзяжнай "Этапы жыццёвых дарог".*

## МУЗЫКА МЕДАЛЁЎ

***Да 70-годдзя Перамогі***

І зноў кліча нас пераможны парад.
Зямля загаіла акопныя ямы.
Не спіць ветэран - былы наш салдат:
Дасюль непакояць душэўныя раны.

Крочаць сягоння пад гукі аркестра
(За мужнасць звіняць на грудзях медалі)
На Курган Бяссмяроцця - свяшчэннае месца
На вольнай маёй беларускай зямлі.

Нясуць даўні боль і сваю сівізну:
Дачасна вайна пабяліла іх скроні.
У калоне ідуць - не хаваюць слязу
Па тых, хто загінуў, памёр у палоне.

У нябыт адышлі і баі, і трывогі,
Народ не забыў шматпакутны ваш шлях.
Хай будуць шчаслівымі вашы дарогі
І радасць іскрыцца слязой у вачах.

## ПАЛЫМЯНАЕ СЭРЦА

*Да 100-годдзя Валянціна Таўлая*

Неба пакрылася шэрымі хмарамі,
Сэрца шчыміла і сціснула болем,
Не стала паэта са светлымі марамі,
З прагай свабоды, нязломнаю воляй.

Чуллівае сэрца заўчасна згарэла.
Нядоўга пражыў - усяго трыццаць тры.
З рук выбіць паперу, схіліць на калені
Этапы і турмы ніяк не змаглі.

Адважна змагаўся за волю народа,
За праўду і шчасце радзімай зямлі.
Гарэў, асвятляў беларусам дарогу,
Каб унукі і праўнукі шчасна жылі.

Шануем на Лідчыне воблік паэта
І помнім славутага сына свайго.
І вершы яго, быццам сонцам сагрэты,
Жывуць паміж нас, у іх - веліч яго.

## СВЯТЫНІ ГОРАДА

На варце магутная постаць Скарыны,
Ён першы, славуты, славянскі друкар,
І гонар, і слава ўсёй роднай краіны,
За волю, пісьменнасць руплівы змагар.

Ля возера домік - ён помнік паэзіі,
Тут жыў і тварыў барацьбіт Валянцін.
Нядоўга пражыў і праславіў пры гэтым
Зямлю Беларусі яе годны сын.

Завецца той домік музеем Таўлая,
Збіраецца ў ім многа творчых людзей,
Асоб знакамітых, якіх у нас нямала,
Тут ладзіцца мноства цікавых падзей.

З рачулачкі вузкай з балотнай травой
Прывабнаю стала Лідзейка ракой,
Калыша на хвалях больш ста лебядзей,
Сюды запрашае дарослых, дзяцей.

Масточкі над рэчкай - як сімвалы шчасця.
На сонейку ярка замочкі зіхцяць:
Сяргей і Таццяна, Мікіта і Насця…
Памогуць каханым у жыцці ўстаяць.

Мара веку збылася - мост ля бальніцы
Прасторна праёмы свае расчыніў,
Нібы птушкі ў вырай, машыны імкнуцца.
"Шчаслівай дарогі", - жадаю ўслед ім.

**КАРАНІ**

Іду я знаёмай сцяжынкай
І гляджу на туманны ўсход,
Адчуваю сябе я пушынкай,
Нібы мне ўсяго дваццаць год.

Я сустрэлася з роднай зямліцай,
Але ў сэрцы і смутак, і боль.
Не цурчаць тут жывыя крыніцы,
Цішыня, запусценне наўкол.

Але, пэўна, крыніцы жывыя,
Бо не гасне жыццё на зямлі.
З рэчкай Гаўяй навечна зліліся,
Не разняць, як і нас з караньмі.

## КЛЁН

Я расла пад раскідзістым клёнам,
Што так высіўся ў нашым двары.
Нібы ён прамяністым анёлам
Нам цяпло, прахалоду дарыў.

Засланяў у гады ліхалецця
Нас ад чорных фашысцкіх крыжоў.
І малых, і дарослых на свеце
Прыкрываў ад дажджу і вятроў.

Быццам сонейка з яснага неба,
На зямлю падаў жоўты лісток,
І са смаку кляновага хлеба
Пачынаўся і мой тут выток.

Боль нязгасны па родных палетках
Адгукнецца ў вечнай журбе…
Любы клён у цудоўных Залейках,
Я заўжды пакланюся табе!

## КАШТОЎНАСЦЬ СТАГОДДЗЯЎ

Мінулі стагоддзі з той даўняй пары,
Як сярод забалочаных рэчак, лясоў,
Крэпасці Лідскай узніклі муры -
Надзейны фарпост на шляху крыжакоў.

Тапталі яе Тахтамыш і Гірэй,
Штурмавалі яе з Перакопу татары,
Ды дух Гедыміна за іх быў мацней,
Даваў ён адпор і апошнім пачварам.

Прыйшла ты да нас з папялішчаў, руін,
Каменні ішлі на будоўлю падмуркаў.
Але патрыёты радзімых мясцін
Жадалі ўзнаўлення для рыцарскіх гульняў.

Амаль трыццаць год спачывалі каменні,
Ды ў горад мой свята - "Дажынкі" прыйшлі.
І вежы ўзняліся, узноўлены сцены,
У гладзі азёрнай абрыс свой знайшлі.

У адноўлены мур з той глыбокай даўніны
Лідзяне спяшаюцца, быццам у храм.
І вечна жыць будзе наш замак - святыня,
Каштоўнасць стагоддзяў, гігант, велікан.

## ЭЛЕГІЯ

А мне яшчэ б разок
Прайсці ля роднай хаты,
Пабачыць рэчку, дрэвы і кусты,
Крутую сцежку,
Што вяла да рэчкі,
Магутны клён,
Што высіўся ў двары.

А мне яшчэ б разок
Убачыць постаць маці
Са шчыраю ўсмешкай,
Дабрынёй у вачах,
Дыхнуць паветрам
З пахам сенажаці,
Пачуць бы на світанку
Спевы салаўя.

Яшчэ разок зірнуць бы
На касцёл-святыню,
Палеткі, бэз і бярозавы гай -
Ды толькі лес у роспачы
Глядзіць маўкліва,
Нібыта шле праклён нам
За здзічэлы рай.

А мне яшчэ б разок
Ступіць нагой у вадзіцу…
Цяпер жа там жыруе
Крапіва, лапух.
Не наталіць мне смагу
З чыстае крыніцы.
Запушчана ўсё.
Агонь жыцця патух.

## АДДАНАСЦЬ

Пацягнула да родных мясцін,
Хоць мяне там ніхто не чакае,
Хіба гронкі чырвоных рабін
Альбо кветкі
ружовых шыпшын,
Чый водар заўжды ап'яняе…

Палячу, як на крылах, да іх,
Пакланюся
дарогам-сцяжынкам,
Што ў краіну пазнання вялі,
І аблокі са мною плылі,
І радзіны былі, і памінкі…

Пастаю пад паніклай вярбой
Ды зірну на бацькоўскую хату.
Не ступіць у яе мне нагой,
Не сустрэнуць ні мама, ні тата:
Вырас лес ля магілы святой.

Пацягнула да родных мясцін,
Бо ўсё ж я тут госць пажаданы;
Клічуць продкі, і гай, і лугі,
Кліча шолах кашлатых ялін -
Усім сэрцам радзіме аддана.

*Дзмітрый Гуліцкі нарадзіўся 24 чэрвеня 1956 г. у г. Лідзе. Скончыў СШ №1 у 1973 г., БДУ, механіка-матэматычны факультэт, у 1978 г. Працуе праграмістам. Жыве ў Лідзе.*

# *Дзмітрый Гуліцкі*

## КЕША

Шэры кот, не каляровы,
За гаспадара сёння ў доме.
З кута ў кут пайшоў-прыйшоў,
Ўсё, што трэба, там знайшоў.

Няспешна, са смакам ён паеў,
Прыкрыў запас ён
медным тазам,
Смятанку на дэсерт злізаў,
Літровы слоік і прыбраў.

Цяпер на печ. Як дапаўзці?
Каб хто памог жывот знясці.
Так не, усё яму самому,
Ён не патрэбен больш нікому.

Прайшла гадзіна, дзве і тры,
І вось у хату ўвайшлі.
Усё недзе лазяць, выглядаюць,
Дзвярыма ляскаюць,
штосьці шукаюць.

- А-а-а, ты во дзе, абармот,
Шэры наш нялюдскі кот! --
Раптам хтось прамармытаў,
Я так спрасонку не пазнаў.

- Псік з хаты, вон, далоў,
Каб мы не бачылі ізноў,
Каб ты ўжо смалы напіўся,
З якой памыйкі к нам прыбіўся?

Такой абразы кот не стрымаў
І мяўкнуў, хвост трубой узняў.
- А каб вас мышак забіў,
Чым я вам тут не дагадзіў?

Чаго вы чэпіцеся да мяне,
Паспаць яшчэ не даяце?
Ці я мышэй вашых чапаў,
Ці я не так іх даглядаў?

За гэта хто хацеў ціскаў
І нат у пысу цалаваў.
Даваў за хвост сябе трымаць
І бессаромна падымаць.

У памперсах на ложак клалі
І без мяне не засыналі.
Пад шыйкай, вухам я даваў,
Хоць чэс той мяне ўжо дастаў.

Сам сябе я не бярог,
Я ледзь цягну ўжо пяты год.
І за гэтую во ўзнагароду
Вы шыеце мне тут шкоду? -

Усё выказаў, што хацеў,
Пакуль з хаты ён ляцеў.

## РЭКС

Рэкс быў сёння не ў гуморы,
Хоць бы стрэўся дзе каторы.
"Ніхто не йдзе, ну што за ліха?
Чаму за плотам усё ціха?
Чаму ніхто не пазаве,
Не свісне пару разоў мне?
Тады б я ўжо адпрацаваў,
І міску ў зубы я не браў.
І не хадзіў бы з ёй кругамі,
Не кленчыў:
"Дайце, бо здыхаю".
Учора адзін тут мне свістаў.
Ну, я яго брэхам і дастаў.
Чаго свісціш, я што, спужаўся?
На гукі дурня я паддаўся?
Так на ланцузе лятаў, круціўся,
Аж на дыбкі я станавіўся.
І выў, і слуп грыз, абхапляў,
Глядзі, во так цябе б дастаў
І, як анучу б, парваў.
Ды зноў жа гаспадар не даў.
Зноў лыч заліў і гаўкнуў мне:
- Сядзець у будзе ціха мне!
Чаго, дурны, ты тут завёўся,
На гэты добры свіст павёўся?
Як злодзея ты сустракаў?
Чаму хвастом яму віляў
І, калі трэба, паджымаў?
Мяне так вінен сустракаць,
Хвастом круціць, далонь лізаць.
Чаму ты вухам не вядзеш,
А толькі поўну міску жрэш? --

Так лаянку ён распачаў.
Але і я раз гаўкнуў, не змаўчаў.
Раве, я моўчкі ў адказ лаю,
Бо сам сябе я паважаю.
Але з буды я не пайду,
Адзін я ведаю чаму.
Божа, крый яго ты маць,
Не дасць ён ціха мне сканаць.
Няма каму мяне цаніць,
Каб гэту міску не насіць.

Каб хто пачуў мой дзіўны брэх,
Узлез бы я на самы верх.
Брахун Падбрэхіч Пустабрэхаў.
Во правадыр,
во "вождь" народа,
Няма тут слухаць больш нікога.
Яго нам трэба выбіраць
І статак наш "увазглаўляць".

Тады я б ўсім вам так панёс,
Не то што нейкі там панос.
Мой брэх бы кожны з вас пісаў,
На кожна слова "так"ківаў.
Зірнуў бы я ліхім Барбосам,
Калі пакруціш недзе носам.
Навешаў бы я ўсіх сабак,
На тых, хто слухаў абы як.

А так сяджу на ланцугу,
Падайце костку хоць адну".

## ВЕЛІКОДНЫ ВАЛЬС

Хрыстос, Хрыстос,
Хрыстос ўваскрос!
Зышоў, зышоў, зышоў з нябёс.
Я чую гэты дзіўны звон.
Цілі-цілі, ціль, бом-бом,
цілі-цілі, ціль, бом-бом.
Цірлінь, цірлінь,
цірлінь, ціў-ціў.
Я гэтай птушцы гняздо звіў.
"Траля ля-ля, - дадала я. -
Кахаю, Хрыстос, кар-кар, я".

## УЧОРА З БОГАМ

Учора з Богам размаўляў,
Чаму ён мне мазгі не даў?
- Я дурняў ўсіх падлогай збіў,
Аднога, - кажа, не дабіў.

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Хрыстос уваскрос!
З Вялікім святам я віншую,
Хутчэй за стол я прапаную.
Чырвоных яек вельмі шмат,
І рвецца ў бойку твой мацак.
Ўваскрос? Дзе? Як? Калі?
Няўжо ізноў мы праспалі?
З паўночы ён у храме там.
О наш Хрыстос, даруй ты нам.
Лабацін мы не пашкадуем.
Сапраўды ўваскрос!
Цябе віншуем!

***

Ціхутка вецер хвалі гоніць,
Плывуць няспешна, думкі тояць.
Няма нікога. Адзін лебедзь.
Ім яго думкі добра ведаць.
Яны з ім разам пасумуюць,
Пачуцці ў глыбіні ўсе чуюць,
Як тут любіліся, кахалі,
Як шыйкі ў сэрца выгіналі.



*Людміла Шот нарадзілася 1 ліпеня 1951 г. у вёсцы Копанькі Гарадзенскага раёна. У Лідзе з 1988 года. Закончыла Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт. Працавала загадчыцай дзіцячага сада № 25 ст. Ліда.*

# *Людміла Шот*

**РОДНАЯ МОВА**

Мая родная мова -
Дзіўны скарб чалавечы.
Памяць продкаў маіх,
Што калісьці жылі.
Слова дадзена Богам,
Будзе жыць яно вечна.
Яно вучыць, карае
На гэтай зямлі.

**МАЯ МОВА**

Як сонейка свеціць яскрава,
Той чысты струменьчык,
Што кожны знойдзе!
З ёй у сэрцы існуе
Каханне і мара,
Мае думкі
І веру маю беражэ.

***

Я буду з табою
Ля нашай рачушкі
Паніклай вярбою,
У шчэбеце птушкі.
На небе зоранькай,
Неадступным ценем,
Салодкай ночанькай,
Зімовай мяцеліцай.
Бялёсым рамонкам
І ранкам ласкавым,
Рабінавай гронкай,
Накінутым шалем.
І полымем жарсным,
Раптоўнай слязою,
Лісцём скрозь апаўшым,
Заўсёды з табою.

## МОЙ ГОРАД

Мой горад як песня ў сэрцы маім.
Яго я штодзённа сардэчна вітаю.
Усё так знаёма і цешыць у ім
У розных кутках майго любага краю.

З бязмежнага неба і дождж чысты лье,
Ветрык нястомны блукае,
А Бог менавіта мне сілы дае,
Ніколі не пакідае.

Тут продкі жылі калісьці мае,
Спяшаю да матчынай хаты,
Таполі шумяць лісцём па вясне
І чуюцца смех альбо жарты.

Блішчаць купалы пазалотай на сонцы
Маленькай паблізу знаёмай царквы.
І стужкі дарог жывуць рухам бясконцым,
І сняцца ўночы цудоўныя сны.

Застыўшы Курган - тая памяць людская,
І хвалі Лідзейка нястомна нясе,
Тут сэрца спакою маё не жадае
На гэтай зямельцы ў адвечнай красе.

На мой погляд жаночы ўсё толькі вабіць
Да цябе, і любоў час ад часу мацней.
Лядовы палац, аб якім маглі марыць!
Пераназваны вуліцы, новы музей…

У славутых людзях тваіх ёсць тая сіла.
Безумоўна, павінны ведаць усіх.
З іх Клімовіч, Таўлай і Краеўскі, Бірыла…
Ды прозвішчы побач тых з намі жывых.

На тыя падзеі ён вельмі багаты.
Дажынкі прайшлі вось на гэтай зямлі.
Хачу, каб у сэрцы сваім захаваці
Той скарб сваіх продкаў і дзеці змаглі.

***

Зараз клічу цябе ў знаёмы мне гай.
Карагод там бярозак так вабіць!
Завушніцы якія надзець мне, парай,
Перад імі сябе неяк скрасіць.

Там сустрэцца з табою я вельмі хачу
На мяжы ля жытнёвага поля,
Дзе валошкі, рамонкі цвітуць на шляху.
Мо, сустрэнецца некалі доля.

Паспяшай на зялёны квітнеючы луг
На каленях зямлі пакланіцца.
Пах увесь яе той адчуваецца тут,
Так хачу за яе памаліцца.

І да рэчкі таксама цябе павяду,
Дзе ад смутку так сэрца збаўляю.
Усё тое навокал табе пакажу,
Ты прыходзь, бо я, ведай, чакаю.

***

Зазіхацелі зоркі ў вышыні,
Побач іх прыгожы, відны месяц.
І адразу пасвятлела на зямлі,
Як ліхтарыкі запаленыя свецяць.

Адсюль я бачу зорачку маю,
Душу сабой якая зараз цешыць.
Асушыць ні адну яна слязу
І боль, што сцярпець я мушу, сцішыць.

Тут разам з ёй малюся я ўначы,
Яна бліжэй да Бога, я далёка.
Агеньчык той гарыць, каб зберагчы
Маю надзею над зямлёй высока.

***

Зноў раніца дорыць натхненне само;
Усіх зорак святло затушыла,
На сцежцы знаёмай стаяла, прайшло,
Нібы побач, дзяцінства шумліва.

Тое, што засталося, - святое яно.
І нікому адняць не па сіле
Маёй вочы матулі і нават цяпло
Яе рук, што дзяцей, нас, расцілі.

Тую радасць маю, як яскравы прамень
Таго сонейка, што засталося,
Ад тапаляў высокіх знаёмы мне цень,
Птушак дзіўнае многагалоссе.

Там шчаслівай, напэўна, была кожны дзень,
Ды ніколі туды не вярнуцца.
Там мой брат, ды на небе ўжо ён цяпер.
Успаміны адны застаюцца.

Не было там хлусні і не ведала здрад,
Як чаромха вясной зацвітала.
Тое, што засталося, сапраўдны мой скарб,
Бо ў сэрцы сваім захавала.

***

Цячэ рэчанька мая родная,
Побач вербачка - стаць чароўная.
Берагі маўчаць нерухомыя,
Ночы летнія зараз зорныя.

Хвалі хуткія бягуць весела.
Тут на раніцы сэрца цешыла.
- А за рэчкаю каліна зацвіла! -
Даляцела пагалоска да сяла.

За хатаю клён меладычна шуміць,
І бусліны знаёмы чуецца кліч,
Лесу шум і палёў, галасістых вятроў,
Той птушыны скрозь спеў - дзіўны казачны хор.

Усё гэта навокал - старонка мая,
Тая родная сэрцу святая зямля.
Тут матуля жыла і дзяцінства прайшло,
Усё сэрца з тых пор захавала маё.

***

У мовы роднай смак журавіны,
Вясёлкі ззянне, клёкат бусліны,
Рэчанькі спевы, ночы вяртанне,
З сонейкам ясным ранкам спатканне.

У мовы маёй голас матулі,
Хмаркі на небе вобраз пануры,
Азёр блакіт, меладычнасць поля,
Смутак хвалі, спакою раздолле.

Лясоў настрой, вятроў пазяханне,
Горыч палыну, зорнасць кахання.
Водар вясновы, сціпласць рамонка,
Мной жыцця пражытага старонка.

***

Зямлю ноч пакідае, і раніца
Зорак тых пагасіла святло.
Новы дзень на зямлі пачынаецца
Чыстым праблiскам промня свайго.

І вятры-свістуны неказістыя
Неслі нейкую там драбядзень.
Таполі ўверсе галлістыя
Засланялі ад сонца глухмень.

Зноў птушыныя спевы вяртаюцца,
Буду слухаць ужо цэлы дзень.
Усё толькі яшчэ пачынаецца
Для якіхсьці сапраўдных падзей.

Маё сэрца хвалюе і цешыць вясна,
І жыццё на зямлі прадаўжаецца.
Новы дзень, нібы храм, у які ўвайшла,
Несла свежасць сабой тая раніца.

***

Як ніколі, радасна ў хаце,
Вось і дзеткі побач каля маці.
Нібы птушкі тыя па вясне,
Пазбіраліся разам усе.

Зараз цешыцца сэрца матчына,
Пад ім насіла кожнае дзіцятка.
Усё было - ад гора да радасці,
Ні ў чым не паказвала слабасці.

Дапамагчы і цяпер стараецца,
Яшчэ ад працы не адмаўляецца.
А ёй кажуць:
                    - Матуля, прысядзь!
Хопіць табе ўжо працаваць!

Камандуй на радасць усімі ты намі:
Зяцьмі, нявесткамі, дочкамі, сынамі! -
Унукі і тыя бабульку шануюць:
Бульбу для аладак на цёрцы шаруюць.

З пяшчотай усе тут на маці глядзелі
І нешта зрабіць для яе так хацелі.
Усюды паклеілі ў хаце шпалеры,
Печ пабялілі, ды і яе прыадзелі.

Сядзіць, паглядае ля хаты на лаўцы,
Вялікая радасць на сэрцы ў маці.

***

Жыву, пакуль б'ецца
Ў грудзях маё сэрца
І вясна на зямлі,
Як дзяўчына, смяецца.
Клёкат чую буслоў,
Грозны шум навальніцы,
Бачу ўсходы
Маладыя пшаніцы.
Блакітнае неба,
Рэчкі шумлівыя хвалі,
За вёскай у лесе
Бярозкі ў гаі.

І прабачу ўсіх,
Хто калісьці мне здрадзіў.
Памалюся за душы,
Каб Бог не заўважыў.
І кахаю, цярплю тут,
Пакуль я жывая.
Вочы закрыўшы,
Стану сляпая, глухая.
Усё роўна мне будзе тады
Ўжо, напэўна.
Бо толькі тут, на зямлі,
Я на штосьці спадзеўна.

***

"Абдымаю, цалую цябе!"…
Зараз зорнае неба над намі,
Нейкі подых свой холад нясе.
У паветры застыўшыя хвалі.

Завірухі той націск заціх,
Толькі белыя гурбы ляжалі,
Як той чысты няспісаны ліст,
На якім і паведаю мары.

"Я жадаю ўбачыць цябе!"
Напісаў SMS, пасылаю.
Нібы птах даляціць і знойдзе.
Дзе б ні быў ты, я знаю.

Прачытаўшы, напэўна, сатрэш.
Без патрэбы пакутуе сэрца.
З чорных літараў створаны сэнс
На экране тым меў сваё месца.

Мне б сказаць нешта
проста ў вочы,
Адчуваць тое побач цяпло
І капрыз той загадкавай ночы,
Ліхтароў цыганскае святло.

***

Чалавечае кожнае сэрца
У грудзях нібы птах,
Якога злапалі, і ў клетцы
Трапеча ўсё так!

Цеплыні яму хочацца, волі
І тых звыклых сапраўдных слоў.
Усё тое было, каб паволі
Ды парой закіпала кроў,

Радасці той, што бывае,
Смутак так мала кранае,
І побач б'ецца другое.
Шчасце там, калі побач двое.

## РАБІНА

Чырванела ўвосень рабіна,
У каралях стаяла яна.
Зелянелі тут побач яліна
Ды з іглістаю кронай сасна.

Ля дарогі стаяла красуня,
Так і клікала да сябе.
Побач з ёй не бывала
мне сумна,
І цягнула мяне да яе.

З новай сілай каралі гарэлі.
Зачаравана імі была.
Мае думкі паволі дабрэлі,
І лагода па жылах цякла.

***

Не трывож рабінку -
Не ламай галінку.
Не тапчы сцяжынку,
Не марнуй хвілінку.

Не чакай да золку,
Не пільнуй без толку,
Не цябе кахае,
Бачыць не жадае.

Месяц ночку песціць,
Маці дочку цешыць.
Яшчэ маладая,
Павер, так бывае.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Бацькаўшчына мілая мая -
Скарб, які душу гартуе.
Родная пяшчотная зямля,
Дзе зязюлька ласкава кукуе.

Шыр палёў, азёраў глыбіня,
Стужкі рэк і замкаў таямніцы,
Неба сінь, і ночы цішыня,
І бяроз чароўных завушніцы.

Музыка званоў, бацькоўскі кут
І буслоў святое клекатанне,
Я спазнала некалі вось тут
Першае нясмелае каханне.

Шум лясоў, маўчанне валуноў,
І крыніцы, дзе вады нап'юся,
Каля вёсак могілкі дзядоў,
Ля якіх я ціха памалюся.

***

Мяне зразумей і прабач,
Душа быць вольнаю хацела.
Спяшала на лужок-багач,
Дзе водар кветак лашчыў цела.

На ўпадабаны свой дыван
Салодка разнатраўе маніць,
Бярозанькі чароўны стан
Паблізу кучарамі вабіць.

Турботай ветрык акружыў,
Умела надзяляў пяшчотай,
Станоўчы на настрой уплыў
Зрабіў з вялікаю ахвотай.

Крынічкі спевы данясло,
На небе сонейка асела.
Ішло сапраўднае цяпло,
Што сэрцу не хапала, мела.

***

Дождж барабаніць
Капрызна па даху.
Трывожыць памяць
Ён, мабыць, для страху.

Шэрыя хмары,
Зноў смутак блукае,
Знікла і мара,
Панікшы чакае.

Ветрык шалее
І хмары скрозь гоніць.
Сонца не грэе,
На неба не ўсходзіць.

Слых варушыла,
Зрок прыгнятае.
Толькі шыпшына
Свой гонар трымае.

***

За акенцам белізна
Прасціною сцелецца.
Слепіць вочы дацямна
І мяце мяцеліца.

Не дае мне сумаваць,
Мой настрой палепшыла.
Усе зоркі зараз спяць,
А яна ўсё цешыла.

Баюном маім была,
Халадком скрозь дыхала,
З таямніцаю жыла,
Чула, нават клікала.

Снегу гурбы намяла,
Відаць, задаволена.
Ля майго стаяць акна
Ёй не забаронена.

***

Стаяць высокія таполі,
І кружыць бусел над гняздом,
Рамонкі белыя на полі
І бэз пахучы пад акном.

Скрыпіць ад ветру ціха брамка,
Так заклікае да сябе.
Матуліна за ёю хатка.
Даўно ніхто ў ёй не жыве.

Навокал родныя мясціны,
Шумлівы гай непадалёк,
Гучаць знаёмыя матывы.
Шчаслівым быў любы дзянёк.

І песціў сэрца асалодай -
Мядовы водар плыў наскрозь.
Ішла знаёмаю дарогай,
Успаміналі маладосць!

***

Ісці цяжэй, калі ты не побач,
І на душы цяжар, а не слодыч.
Наогул, мяне ўсё раздражняе,
Непатрэбная думка спяшае.

Дзень у свеце і фарбы змяняе,
Уночы зоркі неба губляе,
Смутак нязносны ідзе па пятах,
Часам нават пераважае страх.

Шэры колер усё набывае,
Вочы пеляной зацяняе.
З разгубленасцю, нібы сляпая.
Ніхто не лечыць, сэнсу не мае.

***

Здзіўляе наогул неба,
Астатне ўсё тое пад ім,
І цалкам залежнасць мела,
Безупыннасць працэсу ў тым,

Сваё ад пачатку месца,
Ды патрэбу сваю ў нечым,
Як у грудзях тое сэрца,
Якое так часта калечым.

І цуда само не прыходзіць,
Яго ствараюць рукамі.
Толькі чагосьці ўжо хопіць,
Чагосьці так мала з намі.

***

Вядзі мяне, сцяжыначка, туды,
У родныя, знаёмыя куткі,
Дзе Бацькаўшчынай веяла кругом,
Бялёсы бусел кружыць над гняздом.

Ад неба зорнага ярчэй святло,
Не параўнаць матуліна цяпло,
Дзе рэчка Гаўя лашчыць берагі,
Таполі сон глыбокі сцераглі.

Каб па дарозе ўсё лягчэй пазнаць,
Дала рабінка горыч спрабаваць.
І ад рамонкаў сціпласць набыла,
Душа, як птушка, вольнаю была.

Шумяць, як мора, жыта каласы,
Варушыць ветрык ціхі валасы.
Я не баюся працы на зямлі.
Пайшлі са мной, сцяжыначка, пайшлі.

***

Ляпнуўшы брамкай, восень адышла,
Адыграла галоўную ролю,
Каля рэчанькі ціхай прайшла,
Па апусцелым падвор'і.

Смутак патрывожыла яна,
Прыгажосць патрачана былая.
У лістах пакручаных зямля
Аб вялікім балі ўспамінала.

З вечара мацнелі халады,
Даўно ў вырай птушкі адляцелі,
Гаспадарыў ветрык угары,
І хмары кроплямі дажджу блішчэлі.

***

Кліча прытулак, бацькоўскі дом
У сцены родныя вярнуцца,
Дзе вее колішнім цяплом,
І гэтак хочацца дзіцём прачнуцца.

Для душы спакой падараваць,
З бярозкай-прыгажуняй марыць,
З летнім звонкім рэхам размаўляць
І з лёсам спрабаваць паладзіць.

Зноў буслоў убачыць па вясне,
Любавацца рэчанькаю Гаўя.
Раніцай прайсціся па расе,
Дыхаць водарам разнатраўя.

За блакітным небам назіраць,
Слухаць птушак шматгалоссе,
З дабрынёй у сэрцы шанаваць,
Што пазнаць з дзяцінства давялося.

***

Хто верне мне дзень учарашні,
Як малую прыступку ў былое,
Для мяне па-сапраўднаму важны,
Як для хворага значыць здароўе!

Так другія знайшла б тады словы,
Інакш і на рэчы б глядзела,
Не вяла бы ў нетры размова,
Не спазнала пакуту, што мела.

Нагаворы, сляпая раўнівасць
Вочы засцілі пеляною,
А не зменіцца гнеў твой на міласць,
Нас аддзеліць бязмоўнасць сцяною.

Стане ноч беспрасветнай у свеце,
Усё, што здарыцца не з табою,
Не народзяцца нашы дзеці…
Не дачакаецца сэрца спакою?



*Святлана Герагозава нарадзілася ў лютым 1986 года ў Лідзе. Да 1996 года жыла з бацькамі ў г. Пінску, дзе яны працавалі пасля вучобы па накіраванні навучальнай установы. У Лідзе Святлана скончыла сярэднюю школу №15 з беларускай мовай навучання, а затым Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут (факультэт "Міжнародныя адносіны"). Атрымала спецыяльнасць "рэферэнт-перакладчык англійскай і французскай моў". Выйшла замуж, жыве ў г. Маскве, працуе у Цэнтральным апараце фонду сацыяльнага страхавання па санаторна-курортным лячэнні.*

# *Святлана Герагозава*

## ВЕЦЯРОК АСЕННІ

Вецер раніцою стукнуў у акенца,
Быццам усміхнуўся дружалюбна мне,
Прашаптаў лагодна пра цяпло, здаецца,
Каб не замярзала ў блізенькай зіме.

Ноччу сон прысніўся: ты са мною побач…
Хіба ж можна верыць тым спантанным снам?
Так хачу пачуць я твой прызыўны покліч,
Разам бы адолець перашкоды нам.

Спадзяюся, радасць прынясе нам восень,
Быццам ветрык стукне ў акенца мне,
Мы успомнім лета між зялёных соснаў,
Ты таемна словы радасці шапнеш.

## СПАДЗЯВАННЕ

Ужо даўно за поўнач. Цішыня такая.
Нехта нарадзіўся, хтосьці і памёр.
І гадзіннік стрэлкамі тэрмін адмярае,
І раптоўны выкрык у цішы замёр.

А жыццё ж чаруе новым спадзяваннем,
Побач з горам радасць, слава перамог.
Многа прыгажосці ў нашых парываннях
І ў цікавых сцежках зведаных дарог.

Мы ў жыцці сумуем, плачам і кахаем,
Часта забываем пазваніць сябрам.
І ў душы трывогу ад людзей хаваем…
Будзем жыць надзеяй: Бог паможа нам!

* * *

Ты - воблака ў сінім бязвоблачным небе.
Ты  - музыка, чутная мне ў цішыні.
Ты - свежая мякаць у чарсцвеючым хлебе.
Ты - слодыч у кіслым і церпкім віне.

Павер, без цябе не чуваць сэрца стук.
Вакол свет, гаркавы ад слёз і нягод.
І валяцца справы надзённыя з рук.
Мне дзень без цябе нібы змулены год.

## Я МАЛЮЮ

Малюю пах я з водарам язміну.
Малюю воблака і побач з ім цябе,
Малюю снег, што з колерам маліны,
І нават дождж, салодкі, як бізэ.

Малюю ноч і зоркі ў небе чыстым,
Малюю свет загадкавы зямны,
Малюю сонца фарбаю агністай
І мірны дом, дзе будзем побач мы.

Малюю смак гаркава-шакаладны
Ад пацалункаў на губах маіх.
Малюю кветкі, родныя прысады,
Малюю прыгажосць для нас дваіх.

Каханне наша беражна малюю,
Што б'ецца ў сэрцы нашым кожны дзень,
Якое шчасціць, радуе, хвалюе
І засцілае даўніх спрэчак цень.



# *Ірына Маркевіч*

*Ірына Уладзіміраўна Маркевіч нарадзілася ў 1954 г. Вырасла ў вёсцы Ельня Дакудаўскага сельсавета Лідскага раёна ў сялянскай сям'і. Вучылася ў Біскупскай васьмігадовай школе (1961-1969 гг.), Дакудаўскай сярэдняй школе (1969-1971 гг.), Гарадзенскім сельскагаспадарчым інстытуце па спецыяльнасці "аграномія" (1972-1977 гг.), Беларускім дзяржаўным універсітэце па спецыяльнасці "выкладчык біялогіі і хіміі" (1992-1996 гг.). Працавала ў калгасах Лідскага раёна спачатку паляводам, а пасля заканчэння ГСГІ - аграномам, загадчыкам участка, галоўным аграномам, сакратаром партыйнай арганізацыі калгаса "Іскра", старшынёй Дакудаўскага сельсавета і настаўніцай біялогіі і хімііі Дакудаўскай сярэдняй школы. Зараз на заслужаным адпачынку, пенсіянерка. Вершы пачала пісаць у 1999 годзе. Друкавалася ў "Лідскай газеце", выступала з вершамі на Лідскім радыё.*

**МАТУЛЯ**

Ты, напэўна, можаш забыцца
На матулін позірк і крок.
Ды можа аднойчы прысніцца
Ў іх невыказны папрок.

Маці слёзы не раз пралівала,
На ўчынкі твае паглядзеўшы,
Усё жыццё для цябе працавала,
Каб ты быў добра, смачна пад'еўшы.

Маці рана-рана ўставала
Ды на пальчыках ціха хадзіла,
І каб сну табе ўдоваль хапала,
Яна рана цябе не будзіла.

## РАЗМОВА З ВЕТРАМ

За акном лятае вецер,
У шыбы дзьме і рве страху.
- Ты скажы мне, дзе на свеце
Жывуць людзі без граху?

Дзе не п'юць, не брыдкасловяць,
Не крадуць, не б'юць сяброў?
Патрымай ты, вецер, споведзь
І ляці сабе за роў.

## АДЧЫНІЦЕ ДЗВЕРЫ

Зноўку восень жоўтым лісточкам
Паціхеньку ў акенца стукае,
Як жабрак благенькім кіёчкам,
На начлег да нас вечарам грукае.

Лісту холадна. Ён адарваўся
Ад радзімай галінкі навекі.
Мне не сорамна. Я не цураюся
Ні радні сваёй, ні зямелькі.

Дзе ж цяпло знайсці лісціку восеннню?
Людзі грэцца ідуць да людзей.
Адчыніце таму, хто ў ноч цёмную
Прыціскае свой кій да грудзей.

## ДАКУДАЎСКІЯ КРАЯВІДЫ

Нікнуць росы пад промнямі сонца.
Подых ветрыку гойдае хвалі.
Водар кветак узбуджае бясконца,
Нясе памяць у мілыя далі.

Пробліск Нёмна між сосен узнікае,
Звонкі спеў салаўёў, Пажарова,
Дзе чаромха пялёсткі губляе
І званцы зацвітаюць нанова.

Птушкі кружаць над Нёманам, кружаць -
Берагі для дзяцей абжываюць.
Ну а людзі з мясцінамі дружаць,
Дзе дзяцінства ў нябыт адпраўляюць.

Пах кастроў вечаровых, Казечна,
Спеў хлапцоў пад гітару ў сем струн
Залягае ў памяць навечна,
Ціхай стомай наводзіць на сум.

Вунь красуня ідзе беражочкам,
Ціха-ціха ўсміхнецца табе -
Сэрца стукне ў грудзях малаточкам
Пра каханне былое (ў  журбе).

Юшка з рыбы, злоўленай у рэчцы,
Пахнуць будзе табе аж да скону.
Прыязджаю ў Дакудава. Вечна
Буду ехаць сюды, як дадому.

## ПОЗНЯЙ ВОСЕННЮ

Ціха сцінаецца лёд на вадзе.
Восень за рукі зіму прывядзе.
Шапаціць пад нагамі лістота.
У душу засяляецца думак самота.

Прырода зімою адпачывае,
Каб цёпла было, усё снягамі ўкрывае:
Палі, пералескі, лясы і лугі…
Спяць нават коней сталёвых плугі.

Птушкі ў вырай зляцелі даўно.
Зайца ў лесе і то не відно.
Толькі слядоў ланцугі ўздоўж дарогі…
Можа, у людзей просіць хтосьці падмогі.

## СЭРЦА Ў ПАЛОСАХ

Не ўсё скажуць людзі ўслых,
А шануюць для шчасця малых,
Помняць, ды толькі ціха ўздыхаюць,
Калі летуценні, як хмаркі, мільгаюць.

* * *

Выплывуць белыя-белыя хмаркі.
Ціха адзавецца ветрык няшпаркі,
Гойдае воблачка ў сініх нябёсах.
Хораша ў сэрцы, што ў нейкіх палосах.

Белая, светлая - выпадзе шчасце.
Чорная-чорная - здарыцца гора.
Божачка мілы! Адкуль ты ўзялася?
Светлай, здаецца, была толькі ўчора.

Як у жыцці кожны раз скіравацца,
Каб толькі ў светлай палосцы застацца?
Як чарнату ды брыду абысці,
Каб шанцавала заўсёды ў жыцці?

Сонейка, можа, скажа ці вецер,
Як, пахадзіўшы доўга па свеце,
У светлай палосцы зноў апынуцца
І каб было на што азірнуцца.

## ПА ВЁСЦЫ СУМУЮ

Люблю над Нёманам-ракою
Ціха ляжаць ды ў неба глядзець,
Аблокі поглядам кранаць, як рукою,
І ў думках сваіх да Радзімы ляцець.

Успомню палі твае ды пералескі -
Ціха ў сэрцы ўздымаецца сум.
Сінімі кветкамі вясновай пралескі,
Полем жытнёвым гаючы той шум.

Посвіст шпака рана-ўранку пачую
Ці жаўрука звонкі спеў у нябёсах:
Сэрца заходзіцца - так я сумую,
Цягне ў вёску палашчыцца ў росах.

Бывала, пачую каровы рыканне,
Пеўніка крык ці гамонку гусей -
Тут жа прыпомню матулі маўчанне,
Дакорлівы позірк сініх вачэй.

Горад у жыцці нам дае перавагу -
Можа, не трэба так працаваць -
Па вёсцы сумую і маю адвагу
Ехаць туды, там жыццё дажываць.

## ЖЫЦЦЁВАЯ КАЛЯІНА

Душа баліць, скуголіць, плача…
Чаму няшчасце ды няўдача
Ідуць, на пяты наступаюць,
Сяброў цкуюць, варон склікаюць?

Куды ні ткнешся - усюды закрыта,
Дарога роўная размыта,
Калдобіны і там, і тут.
Не грэе нават родны кут.

Жыццё ідзе па каляіне,
Што тоне ў брудзе, вязне ў гліне…

У чыстай бы вадзе яе адмыць,
Дадому роўненька пусціць.

## СОНЦА Ў ДАЛОНЯХ
**(Казка)**

Сонца затуліла я ў далоні,
Сцішылася, думаю, як быць…
Мо, схаваць яго ў сваім улонні?
Але ж як іншым без святла пражыць?

Сонца грэе, грэе мае рукі -
Адыходзіць удалячынь бяда,
Адлятаюць крыўды, боль і мукі,
У целе застаецца чыстата.

Не пячэ чамусці Сонца цела.
Я прашу яго: "Пабудзь яшчэ
Ды спалі ўсё, што набалела.
Няхай свежа кроў па мне цячэ".

Сонца страпянулася ў далонях:
"Годзе табе грэцца ды беды паліць!
Я пайду. Між людзьмі ў лясах, на гонях
Мне работы многа - усё хоча жыць".

"Дзякуй табе, Сонейка, за ласку,
За святло тваё і дабрыню;
Трапіла з табою я ў казку,
Адпускаю - дары іншым цеплыню".

Я далоні ціха павярнула.
Яркі шар зноў ззяе ў вышыні.
Толькі промнем ясным мне кіўнула
Ды ўсміхнулася: "Мяне не палані".

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Беларуская мова!
Чаму ж з Табою нам не ганарова?
Чаму ж Цябе цураліся заўсёды
Паны і падпанкі, едучы на воды?

У вёсках на Табе ўвесь час гаварылі:
З Табой кахалі, лаяліся і на той свет хадзілі...
Была Ты зразумелаю заўжды
Ў літоўскай, польскай ды расійскай грамады.

Чаму ж цябе цураюцца ўсе сёння
Ў гарадах, пасёлках? З раніцы, спрасоння
Цябе стараюцца забыць -
На іншай, моднай гаварыць.

Ты - дыялект. Ты - мова  вёскі.
Зняважыць нават сёння Цябе проста.
А я скажу адно: "Не паддавайся ім -
Жыві, не дазваляй псаваць Тваёй крыві".

Ты - мова Коласа, Купалы,
Гаворым на Табе і мы нямала.
Даўно двухмоўе ў нас, Ты пад пятой расійскай...
Ды засталася нам і роднаю, і блізкай.

## ПРАБЛЕМА ВЁСКІ

Сядзіць варона на суку, кажа: "Кар-р-р...
Ці даўно на гэтым полі быў гаспадар?
Зарасла ўжо пожня лесам, бур'яном,
А калі ж сюды загляне аграном?
Штось не тое робяць людзі на палях.
Няўжо лётаць мне ізноўку па лясах?
Не відаць мне ні зярнятка з той зямлі.
Дзе ж чарвей мне падзяўбаці на раллі?"

Да вароны пад'язджае брыгадзір,
На край поля воз паставіў, пахадзіў,
Прыгадаў, як хутка ідуць гады -
Калісь ураджай тут, на палетку, быў багаты,
Як у гэтай вёсцы быў калгас,
Намалот высокі атрымоўвалі не раз...
Ды цяпер прыйшлі "гаспадары",
Што зямліцу не аралі гады тры,
Запусцілі пырнікам зямлю -
Пустазелле ўжо пакрыла ўсю раллю,
Вырас быльнік, пасяліўся лес...
Брыгадзір патупаў і на воз палез.

Ён падумаў: "Што ж зрабіць?
Як жа з полем гэтым быць?
Што людзям сказаць, вароне той?"
Ад яго ж залежыць мала што.

Ён палетак той аб'ехаў увесь, кругом
Ды ў цэнтр падаўся. Аграном

Так яму сказаў: "Ты не гаруй -
Ведаю пра поле, заару.
Толькі вось саляркі мала тут,
Запчастак няма - пусты кут,
Дарагое ўсё... Дык мы
Дажывёмся хутка да сумы,
Калі нам за мяса, малако,
Зерне, бульбу ды за валакно
Будуць мала так плаціць.
Як жа будзем далей жыць?"

* * *

Вы падумайце, начальнікі, у вярхах,
Што сказаць вам людзям на палях,
Той вароне, што сядзела на суку...
Памажыце. Не застаньцеся ў баку.

## ДАЯРКА

Дзе ж ты красу сваю страціла, любачка?
Ужо пасівела галоўка твая.
Полем шырокім, роснай сцяжыначкай
Бегла на ферму ранкам штодня.

Кароўкі даіла,
Дзетак расціла,
П'яніцу-мужа дадому вяла,
Крышку паспала
Ды раненька ўстала -
Так і жыццё ты сваё правяла.

А твой начальнік,
Наставіўшы "чайнік",
З раніцы зноўку "чысціць" цябе:
"Чаму ж тут карова
Не тая, не нова
І малака гэтак мала дае?"

Ён жа забыўся,
Што п'яны зваліўся
Пад тую каровачку проста ў рышток,

Як ты, даярка,
Падбегла так шпарка
Ды абмывала мурзаты раток...

Так і бывала,
Што радасці мала
Бачыла ты ў гаротным жыцці.
Ферма ды поле -
Уся твая доля.
Колькі ж ты будзеш у няшчасці брысці?

## МАЛІСЯ БОГУ ЗА МЯНЕ

Букецік кветак на магілу пакладзі.
На помніку на здымак паглядзі.
Прашапчы малітву за спакой душы.
Я даўно ў даміне тут ляжу ў цішы.

Мяне пахавалі ў ціхі светлы дзень.
Лёсу майго хвалі зніклі недзе ў цень.
Смутак быў вялікі ў маёй радні...
Не, не ліце слёзы болей вы ні-ні.

Я не адзавуся, не ўстану з зямлі,
Не скажу ні слова, помню, як жылі,
Дзе і каго кахалі, вучыліся быць
Добрымі, ласкавымі ды па лёсе плыць.

Успамінаў мноства хай будзе і вам...
Я не ўстану. Проста душа рвецца ў Храм,
Каб спакой у малітвах у Бога папрасіць,
Застацца ў нябёсах, а не ў смале быць.

У Божым Храме свечка ціха хай згарыць.
Ты часцей маліся, каб шчасліва жыць,
Закінь слова Богу й за душу маю -
У думках я з табою ў Царкве стаю.

Памаліся Богу, чуеш, мой сваяк,
Не хачу ў пекле гарэць аніяк.
Таму на магілку ты маю хадзі,
Маліся ды кветкі ля помніка кладзі.

## НАПАМІНАК

Што мне прынёс ты, напамінак
Былых часоў, былой красы?
Ты палажыў тугу на ўспаміны,
Падфарбаваў сівою фарбай валасы.

Памылкі лёсу могуць часта
Наша жыццё перамяніць.
Ужо потым доўга-доўга, з часам,
Нішто не можам мы змяніць.

Дык потым думаем, уздыхаем,
Клянём сябе і тых людзей
За тое, што мы страцілі, не маем...
Нашто сябе пазбавілі ідэй?

Час павярнуць назад ніхто не зможа.
Жыццё нам зноў не пражыць...
Таму ты выбірай, князёўна, ложа,
А ты, князь, думай, з кім ты заўтра хочаш жыць.

## СНАРАДЫ ДАЛЁКАЙ ВАЙНЫ

Чатыры гады Беларусь ваявала.
Адкаціла фашыстаў навала.
Партызаны, салдаты - усе людзі
Цвёрда верылі: болей не будзе
Падаць з неба гарачы свінец
Ды нарэшце надыдзе канец
Іх пакутам, гору з бядою…

Шмат гадоў ужо прайшло чарадою.
Але тоіць зямля Беларусі
Міны, бомбы, снарады ў акрузе.
Аж дагэтуль працуюць сапёры.
Адгалоскі вайны б'юць маторы,
Часта гінуць ад гэтага людзі.
Дык калі ўжо канец таму будзе?

Даўно прымірыліся краіны.
Засталіся толькі ўспаміны.

А снарады далёкай вайны
Не дапусцяць ніякай маны,
Скажуць дзецям, іх продкам далёкім,
Як няпроста было і нялёгка
Беларусі вайну пераржыць…

Год за годам хутка бяжыць.
Сорак пяты далёка адстаў,
Кананадай адгрукатаў.
Шчодры мір берагуць беларусы.
Але ж я за ўнукаў баюся.

## СІНЮГА

П'яны мужчына па вуліцы крочыць:
Плот абдымае, ціха хістаецца,
Нідзе і нікому нікуды не збочыць,
Толькі сабе неяк крыва ўсміхаецца.

Марозна. Вецер сцюдзёны насустрач нясецца.
Яму хоць бы што: паліто расшпіліў
Ды гэтак бяздумна кудысьці імкнецца.
Што ж ты, гаротнік, сябе так згубіў?

Следам сябрук яго, цюцька кульгавы,
Хвост затуліўшы, брыдзе абы як.
Вецер сягоння такі неласкавы:
Не любіць "сінюгу" ён аніяк.

П'яны ўчора суседзям хваліўся,
Што можа выпіць гарэлкі хоць збан.
Толькі вось сёння ад чаркі ўпіўся
Ды шкандыбае п'янюткі "балван".

Жонка даўно ад такога пабегла.
Дзеці цураюцца - бацька ж які?
Вось і цягаецца, цяжка, бы цэгла
Да ног прывязана, не ідуць шлапакі.

Што мне сказаць на такі вось малюнак?
Пэўна, не ведаць лепш долі такой,
Не піць і не нюхаць, не сохнуць ад думак,
Каб пляшка гарэлкі была пад рукой.

## МЯНУШКІ

У нашай вёсцы вялізарнай
Жыве так многа сваякоў,
Што разабраць элементарна,
Дзе хто, не могуць тут з вякоў.

Аднафамільцаў многа: Сідор і Крыпец,
Кушаль, Пагуляй, Рыбак, Даўлюд,
Чарноў - і той аднафамілец, -
Баршчэўскі - усіх так многа тут.

Як разабрацца, распазнаць усіх з ходу,
Не блытаць болей аніяк?
Прыдумаў хтось мянушкі для народу,
Каб называцца мог так кожны іх сваяк.

Вось і пайшлі ў Дакудаве Брызыльцы,
Рахвалы, Сталіны, Чырвоныя, Банадыкі,
Дырэктар, Сахарынка, Жэнік,
Джаджка - усе аднафамільцы,
Сталі насіць мянушкі сваякі.

Так і нясуць у пакаленні:
Ад бацькі - сын, ад дзеда - унук...
Спакон вякоў мянушкі як збаўленне
Ды як разгадка ад непаразумення мук.

## МАЛІТВА - ПАДЗЯКА

Добры дзень, лясочак
І лясныя богі!
Дайце мне грыбочак,
Кіньце мне пад ногі
Баравікоў белых,
Рыжыкаў, лісічак,
Трохі ягад спелых
(Чарніц ды сунічак).

Дзякую вам, богі,
За дары лясныя,
Сцежкі і дарогі,
Бары векавыя.
За паветра чыстае,
Возера празрыстае,
Энергію лясную…
"Дзякуй вам!" - кажу я.

## АБ ПРАЎДЗЕ
## І ХЛУСЛІЎЦАХ

Дзень у дзень і ноч ад ночы
Заглядай ты праўдзе ў вочы,
Хлусню надалей адгані
І ад плётак адпачні.

Праўда - горкая заўжды -
Нас збаўляе ад бяды,
Адзінокі яе стан
Выратоўвае ад ран...

Хай хлуслівец мякка сцеле,
Языком паўсюдна меле,
Толькі ж праўда не баіцца
Богу ў ногі пакланіцца.

Бог усе грахі даруе,
Таму шчасце ахвяруе,
Хто ідзе да людзей з мірам,
Праўду кажа словам шчырым.

А хлуслівец дружыць з чортам
Ды акажацца за бортам,
Калі праўды ён не любіць,
Брыдкім словам радасць губіць.

## НОВЫ ГОД У ЛЯСНОЙ ЗАЛЕ
### (Казка)

Ёлка ў лесе зіхаціць.
Зайчык пад ёю сядзіць.
Ціхенька мядзведзь з бярлогі
Цягне ўсё да ёлкі ногі.

Выбягае шэры воўк
І зубамі шчоўк ды шчоўк:
- Новы год? А я халодны.
Каму смешна? Я - галодны!

Тут лісічка хвастом віль:
- Я прабегла многа міль,
Каб сюды на Новы год
Трапіць у дружны карагод.

А ты, воўк, не будзь занудай,
Пасядзі на рэчцы з вудай,
Злаві рыбы ды паеш,
Бо дарэмна слёзы льеш. -

Падлятае курапатка:
- Ты, ліса, сказала гладка.
Няхай воўк ідзе на рэчку,
А я ела сёння грэчку.

Дык давай мы ў Новы год
У лесе зробім карагод.
Гэй! Звяры! Сюды  хадзіце!
Карагод з намі вадзіце. -

Прыйшоў лось. Прытупаў дзік.
Нават зубр у лес не знік,
А прымчаўся з Белавежы
Прытаптаць сняжок той свежы.

Прыляцелі сойкі, філін.
Крыжадзюб падумаў хвілю
І паклікаў снегіра:
- Паляцелі, ужо пара

Нам да ёлкі ў лясны зал,
Дзяцел ужо даўно казаў. -
Пазляталіся тут птушкі.
Мышкі вылезлі, нарушкі,

А вавёрачка з дупла
Арэшкі ёлцы прынясла.
Стары, мудры Лесавік
Новы год страчаць прывык,

Пасклікаў з усіх бароў
Многа птушак і звяроў.
Стала хораша ў гайку:
Падай лапу сябруку!

Дзед Мароз мяшок падняў,
Падарункі ўсім раздаў.
У навагоднім карагодзе
Заскакалі ўсе ў згодзе.

* * *

У зімовым гушчары
Усялякія звяры
Сталі ў дружны карагод
І сустрэлі Новы год.

**МАЛАЯ РАДЗІМА**

Радзіма.
У гэтым слове
Чуецца посвіст шпакоў.
Трактар працуе на полі,
Сабраўшы чароды гракоў.

Радзіма.
Бэз каля хаты,
Яблыні, вішні ў садзе.
Калодзежны жораў гарбаты
Ды дзеці за плотам у засадзе.

Радзіма.
Вёска над Нёмнам.
Гаўя з чыстай вадою.
Нарва з ямкаю-бродам,
З вясковых кароў чарадою.

Радзіма.
Закуткі. Завулкі.
Клуб, дзе моладзь танцуе.
Масточкі. Тусоўкі. Прытулкі.
Там дух маладосці пануе.

Радзіма.
Матуля. Бабуля.
Ужо дзедам сівенькім стаў тата.
На печы падсохла цыбуля.
Прыцягвае родная хата.

* * *

Удалеч мы рвёмся заўсёды -
Хтось вучыцца, недзе працуе.
Ці ўспомніш ты, мо, як з нагоды
Месяц за хмаркай танцуе?

У думках, у снах і ў марах
Ляцім на Радзіму Малую.
Пабыўшы на родных абшарах,
Яе абдымаю, цалую.

**НЕ СНІСЯ БОЛЬШ**

Чаму ты снішся мне? І з сноў
Ты такі блізкі і далёкі.
Чаму прыходзіш зноў і зноў,
Ды не прыносіш мне палёгкі?

Сядзіш, глядзіш, уздыхаеш,
Гаворыш мне: "Прыйшла бяда".
Табе і той, якую ты кахаеш, -
Я ж для цябе была так, не адна.

Што я магу табе парадзіць?
Чым жа магу дапамагчы?
Мяне ж ты кінуў,
мне ж ты здрадзіў -
Цяпер сядзі, і думай, і маўчы.

Таму рашай свае праблемы сам,
А мяне болей не трывож -
Жыццё сваё
наладзіла я з часам...
Прашу цябе, не сніся больш.

## НОГІ

Забалелі мае ногі
Ад дарогі, ад трывогі,
Ад пакут забытых дзён
Сунецца на іх праклён.

Ланцугоў жыццёвых путы
Цягнуць ногі да зямлі.
Ці ты босы, ці абуты -
Абамлелі, "загулі".

Топчаш, топчаш свае сцежкі
Ты нагамі кожны дзень,
Пакідаючы сумежкі
Ды слядоў блакітны цень.

Мы з нагамі ды рукамі
Сябраваць заўжды павінны
І ў хаце з абразамі,
І ў астрозе, хоць не вінны.

Не дай Божа страціць ногі.
Не хадзіць - амаль не жыць.
Без турбот ды без дарогі
Чалавек як труп ляжыць.

## ВЯСНА Ў ВЁСЦЫ

У вёску зноў прыйшла вясна.
Людзі - як мурашкі,
Устаюць рана, яшчэ да дня,
Як заспяюць птушкі.

Бягуць коніка шукаць,
Трактар ці машыну -
Гной патрэбна выкідаць
Ды карміць скаціну.

Соткі ўжо даўно далі
Ля лесу брыгадзіры
(Ногі іх па той раллі
Даўно не хадзілі).

У полі пырнік так парос,
Што не відно глебы,
Колас леташні прарос...
Бульбу ж садзіць трэба.

Б'юцца людзі на зямлі -
Пырнік той зграбаюць...
Цяжкімі іх дні былі.
Дзе ж падзецца? Знаюць,

Бульба вырасце калі,
Парой яе пасадзіш,
Зелле выпалеш з зямлі,
Абгоніш ды дагледзіш.

* * *

Цяжка ў вёсцы людзям жыць
Век было. Дык сёння
Моладзь ужо адтуль бяжыць
У горад, каб спрасоння
Ісці не ў поле працаваць,
А там, дзе лягчэй будзе,
Каб не зелле выграбаць,
А быць як белыя людзі.
Тут заплацяць болей ім.
Прыдбаць можна кватэру...
Ну а з вёскі ім бацькі
Ўсё дадуць без меры.

## ЛАЎКІ

На вясковай вуліцы
Ўсе да плоту туляцца.
Днём - каб не раз'ехалі,
У ноч - каб не "наехалі".

А ў нашай вёсцы - лаўкі
Каля плоту, каля брамкі,
І сядзяць на іх заўжды
Нашы бабкі і дзяды.

Днём вядуць яны размову
Пра дзяцей ды дзядзьку Вову,
Пра палітыку талкуюць,
Аб здароўі пагаруюць.

А як вечар надыходзіць,
Лаўкі моладзь не абходзіць;
Дзядзькі і цёткі пайшлі спаць,
Маладыя - пагуляць.

Смех ды жарты зноў ля лаўкі:
Весяляцца дружна дзеўкі,
А вакол іх дзецюкі
Распусцілі языкі.

Хто пра што тут зноў талкуюць,
Усе навіны абмяркуюць
Ды разыдуцца па парах
Па ўсіх лаўках. Смех на тварах

Сімпатычных, закаханых,
Марай шчасця апантаных...

. . .

Вось каб лавак не было б,
Сумна ў нас жыццё ішло б.

## ДЗЕД МАРОЗ І ЯГО НОС
## (Казка)

У нашай вёсцы Дзед Мароз
Адмарозіў сіні нос.
Быў ён гэтакі вялікі.
Жартавалі ўсе музыкі:
"Вось Мароз у нас! Мароз,
Дзе ты дзеў гіганцкі нос?"
Дзед Мароз ім у адказ:
"У балоце я загразь.
Зіма цёплая была,
Чапля нос мне аддала.
Жаба з купіны скок - скок,
Падала мне мой кіёк,
Так па носе пацягнула,
Ажно сэрца здрыганула.
Вось мой нос і пасінеў,
Хоць кідай яго за хлеў.
Ледзь з балота вылез я,
Адцураўшыся кія.
З падарункамі змок мех.
Паднялі сабакі брэх,
Як да вёскі я прыйшоў
Віншаваці малышоў.
Я за хлеўчык прытуліўся,
Адпачыць каб: прытаміўся.
Тут Снягурачка ішла,
За хлявом мяне знайшла,
Снегам як расцерла нос -
Ён узяў, назад адрос,
Стаў чырвоны ды кароткі,
Што той яблычак салодкі".

## ЗАДАВАКА

Ах, які ты задавака!
Нават шэранькі сабака
Гаўкнуць на цябе баіцца
Ды схапіць за нагавіцы.

Задавака важна ходзіць…
Смешна так сябе паводзіць.
Усім здаецца: ён начальнік,
А на самай справе - "чайнік".

Задавака зырыць зверху
І на ўсіх наводзіць вэрхал,
Важны, быццам бы варона,
Хоць надзень яму карону.

А дзе ж сціпласць, задавака?
Ды няма зусім ніякай.
Гонар ёсць, мазгоў няма,
Не шукайце іх дарма.



*Алесь Мацулевіч нарадзіўся 19 студзеня 1981 года ў Лідзе. Скончыў Лідскае педагагічнае вучылішча, Берасцейскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна (філалагічны факультэт). Працуе ў рэдакцыі "Лідскай газеты". Вершы друкаваліся на старонках "Лідскай газеты", у літаратурна-мастацкім часопісе "Верасень", у калектыўных зборніках. У 2015 годзе выйшла яго першая кніга паэзіі "Леў і ключы".*

# *Алесь Мацулевіч*

## ПАДАННЕ АБ ПАКІНУТАЙ ВАРЦЕ

Што шэпчаш, вецер з глыбіні вякоў,
што крыламі ўздымаў плашчы з крыжамі?..
На замак рушыць процьма крыжакоў.
У замку - войска, князь ды гараджане.

Спужаўся князь - і з войскам уначы
паспешна ўцёк праз патайную брамку.
Пакінуў перад тым, як уцячы,
ён жменьку вартавых на сценах замка.

На гібель пэўную пакінуў князь
няшчасных, крыжакам на разарванне:
нічога не каштуе жменьку зняць
у чырванню афарбаваным ранні.

А раніцай да брамкі вораг лез,
ад радасці ў шчыты ўдараў мячамі -
ды вартавых сустрэў мячоў тых лес,
што кроў сваю з варожаю змяшалі.

У тым баі ўся варта палягла -
ды ў замак вораг так і не прабраўся…
Паданне ходзіць: прывід ваяра
на замка сценах з тых часоў застаўся.

Калі ізноў ля замка звон мячоў,
цень да байніц ляціць па галерэі -
падставіць бесцялеснае плячо
таму, хто ў бітве ворага агрэе.

Спяшаюцца сваім дапамагчы
загінуўшых вартаўнікоў фігуры…
Што шэпчаш, вецер, і аб чым маўчыш,
пануры замак - вартаўнік пануры?..

**ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА**
**(У памяць аб падзеях 1410 года)**

Сярэдзіна ліпеня… Парыць…
Такой вось спякотнай парой
палякі, ліцвіны, татары
сышліся з тэўтонскай ардой.

Было войскам горача, цесна
на полі тым ліпеньскім днём.
Пот ліўся па скронях, па чрэслах
пад сонца пякельным агнём.

Ад поту ільсніліся коней
бакі… Вось кранаецца строй -
і стала намнога спякотней,
калі павялі войскі ў бой.

Ураз косы смерці навіслі
над полем, як цемрадзь злых хмар.
Прыйшоўся па войсках ліцвінскіх
асноўны тэўтонцаў удар.

Настаў час у ворага цэліць,
свістаць смертаноснай касе.
Князі, і баяры, і чэлядзь -
з тэўтонцамі біліся ўсе.

Ніводнай не знойдзеш паляны
ты ў лесе з людзей і сцягоў.
І білі тэўтонца смаляне,
і гродзенцы білі яго.

Дзяржанне мяча моцна пальцы
сціскалі, меч сёк крыжакоў.
І білі тэўтонца тракайцы,
і віленцы білі яго…

То тут, то там грузна валіўся
крыжак, як падрэзаны грыб.
Ягайла ў асноўным маліўся,
а Вітаўт ад крыку ахрып.

У пекла гарачае бітвы
татар пасылаў Джаладзін…
Крывёй былі травы абліты,
ды трупы - куды ні глядзі.

Ды воіна трупы не страшаць!
Тэўтонец, разгромлены будзь!
Апошнія сілы сабраўшы,
харугвы па ордэне б'юць.

Каб з ордэнам
моцным пакончыць,
махалі яшчэ і яшчэ
мячамі… Да захаду сонца
быў ордэн разгромлены ўшчэнт.

Разбіты крыжак! За Літвою
на полі лаўровы вянок!..
І лідскай харугвы крывёю
паліта таксама яно…

**ДУМЫ ХВОРАГА КАРАЛЯ АЛЯКСАНДРА НА ШЛЯХУ З ЛІДЫ Ў ВІЛЬНЮ**
**(У памяць аб падзеях 1506 года)**

Апалчэнне ўзначаліць прызваны,
апалчэнцаў кароль не павёў.
Вось ляжыць ён, паралізаваны,
у калысцы паміж двух канёў.

"Люд ліцвінскі! Час смерці мой блізка!
Без мяне перамогу здабудзь!
Павядуць войска Кішка і Глінскі
і ля Клецка татараў паб'юць.

Афарбуюць крывёю татарскай
апалчэнцы Літвы Лань-раку.
Вунь за гэта ўздымаецца чаркай
сонца справа, ва ўсходнім баку!

Уздымаецца за перамогу
сонца-чарка з крывавым віном.
Асвятляе мне ў Вільню дарогу,
цела слабае лашчыць яно.

Вунь як неба на ўсходзе зардзела!
Ды крылом засланяючы дзень,
над разбітым паралічам целам
нехта лётае, кідае цень.

Смерць-крумкач нада мною кружыцца.
Толькі веру: дзён колькі міне -
навіна аб разгроме чужынца
перад смерцю суцешыць мяне.

І пакажацца ў яркай прасторы
не крумкач, а пасланец-анёл…"
Думаў так Аляксандр, цяжка хворы,
у калысцы паміж двух канёў…

## ЛЕЎ І КЛЮЧЫ
### (У памяць аб падзеях 1590 года)

Ганарыся, нос уверх
задзяры, лідзянін:
атрымала Ліда герб -
шчыт са львом, з ключамі!

Поле ў ворагаў крыві.
Леў на ім адважны.
Хто з мячом прыйшоў - раві,
на кіпцюр насаджаны!

Поле як нябёс блакіт.
Два ключы ад раю.
Толькі мужнага рукі
ключ такі чакае.

Барані, каб уцалеў,
горад свой у войны!
Мужны, храбры будзь, як леў!
Раю будзь ты годны!

Адбівай, каб не насеў,
ворага, лідзянін!
Запавет такі нясе
герб са львом, з ключамі.

## БАДЗЯГА
### (У памяць аб падзеях 1659 года)

Я бадзяга са спаленай Ліды.
Я бяздомны жабрак-сірата.
Сваё гора, свой боль, сваю крыўду
ў гэтых словах хачу перадаць.

Змей на Ліду напаў агнядышны.
Меў той змей трыццаць тысяч галоў.
З абаронай яе, як кот з мышшу,
ён распраўіўся, змёўшы далоў.

Змей - Івана Хаванскага войска,
нацкаванае рускім царом.
І згарэў, нібы свечка тая з воску,
родны горад пад ядравы гром.

Зубы ў арміі-змея як жорны.
Заглынае мястэчкі глыток.
Быць ад попелу Беліцы чорнай.
Быць ад попелу брудным Мыто.

Вось пачвара ў салдацкім аблiччы
пажырае дамы і хлявы.
Робіць з Дворышча змей папялішча,
робіць Ваверцы хвост агнявы.

Рабаўнік па павеце пашарыў,
перабіў, папаліў, абабраў.
Я ад войска ўцякаў, ад пажараў,
і цяпер я бадзяга-жабрак.

І скрозь зубы свае, як умею,
ад душы, дзе бурліць гнеў агнём,
наўздагон агнядышнаму змею
пасылаю гарачы праклён!

## ПЕСНЯ ВУЧНЯЎ ЛІДСКАГА ПІЯРСКАГА КАЛЕГІЮМА

Зноў на лекцыі-заняткі
кліча нас званок з абеду.
Наш калегіюм піярскі -
школа розуму, храм ведаў.

Тут экзамены штомесяц,
кожнай раніцай малітва,
галава за дзень умесціць
ведаў цэлую палітру.

Гордзіеў задачак вузел
на занятках рассякаем.
Ходзім з клірыкам па лузе,
ды гербарыі збіраем.

Хай прыедзе Кацярына
ў Ліду ў пышным экіпажы -
ёй аб змове Кацiліны
мы трагедыю пакажам.

Да навукі не астынем.
Каб прэфект нас не сароміў,
шпарыць будзем на латыні
мы не горш за Цыцэронаў.

Ведаць будзем дасканала,
каб манахі не каралі,
глобус, Біблію, аналы
і граматыку з мараллю.

Хай паходняй ззяе яркай
досвед продкаў, мудрасць дзедаў.
Наш калегіюм піярскі -
школа розуму, храм ведаў.

## ЗАПОЛЬСКІ АБШАРНІК
**Памяці Ігната Дамейкі прысвячаецца**

Кіруе маёнткам Заполле
абшарнік Дамейка Ігнат.
Як пану, Дамейку ў запале
тут першую скрыпку іграць.

Аддаўся Ігнат гаспадарцы,
часопісам, кнігам па ёй.
Вучоны - чаму б не аддацца,
здзяйсняючы думак палёт?

Разводзіць пародзістых коней
і дбае аб долі сялян.
Іх дзеці, што вучацца ў школе,
Ігнату душу весяляць.

Паўзе ў адзіноце час-змейка.
Жыве ў адзіноце Ігнат.
Жыве ў адзіноце Дамейка.
За ім - паліцэйскі нагляд.

***

Калі над тваёю верандай
праносяць каметы хвасты,
ці сняцца далёкія Анды,
што будзеш даследаваць ты?

Як зорачкі россыпам ягад
пачнуць над верандай мігцець,
ці сняцца далёкі Сант'яга
і тамашні ўніверсітэт?

Ці сняцца чылійскія шахты
і тамашнія руднікі?
Ці бачыш, Дамейка, у снах ты,
як горбяцца там гарнякі?

Ці сніш акіянскую пену
і над акіянам вятры?
Табе і не сніцца, напэўна,
што ў Чылі праславішся ты?

Як ноч россып зорак запаліць,
як сон немагчыма прагнаць,
што сніш у маёнтку Заполле,
вучоны Дамейка Ігнат?

## У СВЕЦЕ РЫЦАРАЎ

Стаў нядаўна я, паверце,
членам рыцарскага клуба.

Стаў - і апынуўся ў свеце
рыцараў ды дам-галубак.

Тут даспехі, зброю носім мы.
Тут васальныя адносіны.

Для турніру, для пацехі
зброю робім і даспехі.

Праліваю пот ракой:
меч узважваю рукой.

Рыцарскі ідзе турнір.
Мы на рыцарскай гульні.

Па наплечніку б'е меч.
Дакрануцца бы да плеч!

Крыжакоў сяку сякірай.
Гляньце, меткі ўдар які мой!

Дзідаю трапляю ў цэль -
у плашча тэўтонца бель.

Звон мячоў, тарана гром -
крэпасць штурмам мы бяром.

Сходзімся грудзьмі на грудзі.
Схопліваемся ў бугурце.

Тут, у дзейнасці кіпучай,
рыцары не толькі б'юцца.

Рыцар - ён і кавалер галантны.
Ветлівасці не схавалі латы.

Ён у шахматы гуляе,
мала ў іх фігур губляе.

Рыцар - майстар танцаваць,
можа ў танцах падкаваць.

Майстар у складанні вершаў -
можа дамам од "навешаць".

Майстар паіграць на флейце.
Дамам, гукі, сны навейце!

Майстар верхавой язды -
наравісты конь, застынь!

Моц мацуем у руках мы,
ды жывём не толькі гэтым,
мы - танцоры, музыканты,
шахматысты і паэты.

## РЫЦАРСКАЕ БРАЦТВА

Павярнуўшы час хадою
на шэсць соцень годзікаў,
тут сустрэліся ў двубоі
лідскі рыцар з гродзенскім.

Ролю ворагаў іграюць,
гнеў узняўшы бураю, -
аб шчыты мячы ўдараюць,
аб даспехі бухаюць.

У абодвух спрыт і вопыт -
не сагнуць іх латамі!
Біцца і з чарцямі хопіць
моцы ў іх рагатымі!

Латы моцныя і ў ззянні -
мятымі не зробяцца!..
Аказаўся, мой лідзянін,
ты мацней за гродзенца!

Між сабою па-сяброўску
абняліся "ворагі":
"Між сабой сябры - не воўкі -
у любым мы горадзе.

Рыцараў-братоў плашчамі
ўся зямля засцелена.
Памахалі мы мячамі!
А цяпер - за келіхі!"

## СЯРЭДНЯВЕЧНЫ ТАНЕЦ

"Што за людзі скачуць?" - маму
дзеці здзіўлена пытаюць.
“Праз шэсцьсот гадоў у замку
зноў сярэднявечны танец.

Дамы скачуць, кавалеры
дружна, весела, нястомна.
Здольны, можаце паверыць,
так, пакуль не стане цёмна.

Воплескі ды: "Ойра, ойра!" -
замак ажывілі ціхі -
і нясе, здаецца, горад
у сярэднявечча віхар”.

Сын з дачушкай кажуць маме:
"Хоць узрост наш і маленькі,
хочам танцаваць, як дамы,
танцаваць, як кавалеры".

"Станеш рыцарам,
мой хлопчык.
Станеш дамаю, дачушка.
Рэканструктары-гурткоўцы
гэтым танцам вас навучаць.

У гурток - і сябрам блізкім
вам сярэднявечча стане
і ажывіць замак Лідскі
ваш сярэднявечны танец".

## У ДОМІКУ ТАЎЛАЯ

Нібы ля дзеда ўнук-паэт,
ля замка - дом-музей Таўлая.
Яго пакой, яго партрэт
і лямпа на стале старая.

Здаецца, у пакоі тым
яго і сёння чутны крокі.
Пачуй, як дыхаюць лісты,
дыханне дакументаў копій.

Пераступі цяпер парог
пад гэтым позіркам нязгасным -
зрабі з яго пакоя крок
у свет паэзіі сучаснай.

А на другім паверсе ты
майстроў паэзіі пабачыш.
"Суквецце" тут - заходзь сюды!
Глянь, колькі сэрцаў тут гарачых!

Смялей! Не цісніся ў кутку!
А мо, і ты таленавіты?!
Табе падораць кніжку тут
з аўтографам паэта Ліды!

Адчуй паэзіі цяпло,
снег лістапада, зелень мая:
нязгаснае яе святло
гарыць у доміку Таўлая.

## ДЫХАННЕ ВЯСНЫ

Да Сонца ў планет карагодзе
наш край зямны шар павярнуў -
у парку зіму мы праводзім
і дружна гукаем вясну.

"Вясна з галавой кучаравай,
прыйдзі, страх на снег нагані!"
Распальваем вогнішча жвава
і палім зіму на агні.

Па слупе палез ледзяным
па прыз
вельмі ўчэпісты хлопец.
Балеем, стаім і глядзім,
ці ўніз саслізне, ці прыхопіць?

Захоплена кідае снежкі
ў мішэнь на фанеры дзяўчына.
Ад нас усіх просьбу вясне кінь,
каб сонейка не прытушыла!

Вясны адчуваем дыханне
і пах шашлыкоў ды бліноў.
Мароз безнадзейна ўздыхае
і ўкладвае ў ножны клінок.

"Завеі мяне вінавацяць
у слабасці. Годзе! Маўчыце!
Канчаю з вясной ваяваць я:
вясну ўжо не перамагчы мне".

## БАБРОВЫЯ СЛЁЗЫ

Глядзіць двума
ствраламі стрэльба
ў бабра спалоханыя вочы -
і просьба ў тых вачах:
"Не трэба!",
і звера морду… нешта мочыць.

Сядзіць ён перад паляўнічым
і вастраносую трэ морду.
Блішчаць расінкі слёзак-знічак.
"Узяў, зубаты, плакаць моду".

Упершыню наш паляўнічы
бабровыя пабачыў слёзы.

"Бабёр расплакаўся! Глядзі ты!
Раве і не мяняе позы!

Не плач.
Цябе не буду крыўдзіць.
Ідзі, зубаты, да бабрыхі.
Ідзі ў нару. Ідзі ва ўкрыцце.
Сядзі з бабрыхаю ва ўкрыцці".

Глядзіць ён гузікамі вочак
на чалавека і сабаку -
і чалавек страляць не хоча,
убачыўшы, як ён заплакаў.

І кажа чалавек: "Не трэба".
Сляза бабра яго змякчыла.
І апускае вочы стрэльба
перад бабровымі вачыма.

## ПРАГУЛКА НА ВЫРАТАВАЛЬНЫМ КАТЭРЫ

Адчаліўшы ва ўсёй красе,
пакінуў ззаду пляж стракаты,
па гладзі возера нясе
мяне выратавальны катэр.

А возера - глядзіць яно
на п'яных позіркам халодным.
І бачу ласты я ля ног,
і кіслародныя балоны,

і рацыю каля руля -
у поўнай баявой мой катэр
па гладзі возера гуляў,
гуляка і ваяка ў латах.

У возеры няма акул.
Тут вораг для нырцоў - кілішак.
Спакойна на вадзе пакуль -
і рацыя маўчыць, не кліча.

"Спакойна - значыць, пагуляць
магу!" - раве матор і будзіць.
Гляджу - і з лодкі бачу я
выратавальніцкія будні.

Ух, пагуляў! Цяпер шыбуй
назад - туды, дзе пляж стракаты.
Прагулачным часцей ты будзь,
а не выратавальным, катэр!

## ЛЮДЗІ Ў ЦЯЛЬНЯШКАХ
**Лідскім маракам прысвячаецца**

На "палубе" мічман чакае ўсіх "нашых".
Традыцыя - без перамен.
На беразе возера людзі ў цяльняшках
збіраюцца ў Дзень ВМФ.

Для іх сёння іншыя час і прастора.
Камандуе зноў капітан.
Для іх сёння возера - Чорнае мора,
а можа - і сам акіян.

Зноў кожны з іх ходзіць па палубе чыстай -
марак ад вушэй і да пятаў.

Ваенна-марскі сцяг узняты ўрачыста
над возера тлом сіняватым.

"За тых, хто ў марах", па тры чаркі асушаць
і флоцкія ўспомняць дзянькі
матросы душою і мічманы ў душах,
жывуць успаміны ў якіх.

Успомняць аб днях рамантычных і цяжкіх.
Трывалы марскі іх саюз!
На беразе возера людзі ў цяльняшках
прыгадваюць службу сваю.

## РЫБАЧКА З НАБЯРЭЖНАЙ

Над возерам духоў плыў водар,
як кветак водар над лужком.
Яна рыбачыць трошкі воддаль
ад рыбаловаў-мужыкоў.

Яе тут за сваю прымаюць.
Яе тут ведаюць даўно.
Рыбачка вудачку трымае
і напявае заадно.

Бярэцца
мужыкам на зайздрасць
карась, шчупак, акунь ды ёрш.
Улоў яе багаты зараз -
насы мужчынам ён уцёр!

У ззянні радасці бязмежнай
твар адлюстроўвае вада.
Яна жыве па Набярэжнай -
да возера рукой падаць.

Зімой ёй дома не сядзіцца -
рыбачыць ходзіць кожны дзень.
Няхай скавана льдом вадзіца -
ды рыба водзіцца ў вадзе!

Сюды не трэба ехаць вёрсты!
Ізноў вядзерца пад рукой.
Ізноў над возерам замёрзлым
плыве вясенні пах духоў.



*Станіслаў Суднік нарадзіўся 21 верасня 1954 года ў в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна. У Лідзе жыве з 1994 года.*

*Аўтар кніг паэзіі “Пагоня за мову”, “Мой Грунвальд”, “Лідскія скрыжалі”, “Літва”.*

*Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

# *Станіслаў Суднік*

## ПЕСНІ

### КЛЁНІКІ

Стаяць за вёскай клёнікі
І ціхенька маўчаць,
А на сяле гармонікі
Штораз мацней гучаць.

Гармонікі, гармонікі,
Плыве мяхоў саф’ян,
Гармонікі, гармонікі,
А ў прыпражку баян.

Стары Татур на скрыпачцы
Урэжа незнарок,
І з лаў уміг пасыплюцца
Дзяўчаты, як гарох.

Заляскаюць абцасікі,
І завіхрыцца дол,
Танцуюць Мані з Ясямі,
Ідзе ўпрысядку стол.

Гармонікі, гармонікі,
Плыве мяхоў саф’ян,
Гармонікі, гармонікі,
А ў прыпражку баян.

Галоўня Стась з прыладкаю
Акардэон кране,
А Чэсь услед качалкаю
Па барабане ўтне.

Заходзяць сенцы ходарам,
І закурыць пружмень...
Гуляйце, хлопцы, змоладу,
Гуляйце кожны дзень.

Гармонікі, гармонікі,
Плыве мяхоў саф'ян,
Гармонікі, гармонікі,
А ў прыпражку баян.

І бубен тут, і звонікі,
Не будзе вёска спаць,
І толькі недзе клёнікі
Самотненька стаяць.

Язэпчык не ўтрымаецца,
Цымбалы загучаць,
Бягуць дзяўчаты з хлопцамі
Лявоніху скакаць.

Гармонікі, гармонікі,
Плыве мяхоў саф'ян,
Гармонікі, гармонікі,
А ў прыпражку баян.

## ШЛЯХЦЯНКА - ХУТАРАНКА
***Музычная сцэнка***

*Усе:*
Дрэмле хутар ля засценка,
Вокнамі міргае,
Маладзенькая паненка
Хлопцаў прывячае.

*Дзяўчына:*
- Я - шляхцянка-хутаранка,
Новыя снягоўцы,
Не спяшайце, пачакайце
За парогам, хлопцы.

*2 - 3 хлопцы:*
- А мы, хлопцы-засцянкоўцы,
Мы чакаць не будзем,
Налівай ты нам гарэлкі,
А то ўсіх пабудзім.

*Дзяўчына:*
- Я - шляхцянка-хутаранка,
Тонкія абцасы,
Я гарэлкі вам не маю,
Пачастую квасам.

*2 - 3 хлопцы:*
- А мы, хлопцы-засцянкоўцы,
Квас не будзем піці,
Бо квасок твой надта кіслы,
Трэба саладзіці.

*Дзяўчына:*
- Я - шляхцянка-хутаранка,
Дзеўка ганарова,
У мяне дугою бровы
І ў пасаг карова.

*2 - 3 хлопцы:*
- А мы, хлопцы-засцянкоўцы,
Зладзім справу лоўка,
Нам да густу твае бровы
І твая кароўка.

*Усе:*
Ля засценка дрэмле хутар,
Вокнамі міргае,

*Дзяўчына:*
- Не хадзіце, хлопцы, гуртам,
Аднаго чакаю.

## ЕДУ Я НА РОВАРЫ

Сонца ў неба паднялося,
Зіхаціць расою луг,
Сэрца радасцю зайшлося,
Што ажно займае дух.

*Прыпеў:*
Ад карчмы да бровара
Еду я на ровары,
Ля шынка спынюся.
Хораша жывецца,
Весела пяецца
Ў нашай Беларусі.

Шынкароўна маладая
Будзе міла сустракаць,
Пэўна, недзе выглядае,
Прытамілася чакаць.

*Прыпеў:*
Ад карчмы да бровара
Еду я на ровары,
Ля шынка спынюся.
Вецер грае ў спіцах,
Ровар сам імчыцца,
Я не прыпазнюся.

Вып'ю я гарэлкі чарку
І вяндлінай прыкушу,
Маладзенькую шынкарку
На паўтанца запрашу.

Нам стары шынкар на скрыпцы
Рэзьне радуньскі вальсок,
Мы паспеем закружыцца
Ад парога ды ў куток.

*Прыпеў:*
Ад карчмы да бровара
Еду я на ровары,
Ля шынка спынюся.
Мусіць, давядзецца
Мне паслухаць сэрца,
Тут і застануся.

## ЛЮЦЫЯНАВА ТАПОЛЯ

Адшумелі стагоддзі над краем,
Твар змяніўся самое зямлі,
Рэдка сёння ўжо хто ўспамінае,
Як даўней нашы продкі жылі,

Як аралі тут, сеялі, жалі,
Як спявалі і танчылі тут,
Як у жорсткай вайне ваявалі
Вось за гэты, за бацькаўскі кут.

А цяпер нібы не трэба
Ні зямлі нам і ні хлеба,
Ды чамусьці сэрца ўсё баліць,

Бо дасюль над дальнім полем
Люцыянава таполя
Нібы помнік вечнасці стаіць.

Тут навокал жыццё віравала,
Тут стаялі паўсюль хутары,
Раніцою работа ўскіпала
І кіпела да позняй пары.

Разагнецца араты ад плуга,
Кіне вокам вакол проста так,
Нехта крочыць з касою ад луга,
Нехта дрэва вязе на тартак...

Сёння ж выйдзі, глянь навокал,
Ні за што не ўчэпіш вокам,
Нават нот забракла салаўю.
Толькі думае над полем
Люцыянава таполя
Думу векавечную сваю.

## ДЗЕДАВА СТУДНЯ

Я з краю свайго мо б нікуды, ніколі
Не ехаў, не пхаўся без пільнай патрэбы,
Мне дома ўсяго і заўсёды даволі,
Ёсць хлеба акрайчык і нешта да хлеба.

Не трэба замежных хароства ніякіх,
Не трэба і самі мне межы-граніцы,
Не ў смак на чужыне мне ўсе іх прысмакі,
Мне іхнімі коламі ўвек не напіцца.

Ці сяду, ці лягу,
Спатоліць мне смагу
Заморскі не зможа напой,
А дзедава студня
І ў свята, і ў будні
Напоіць жывою вадой.

Мне горад і той, як каменная клетка,
Тут воку няма, каб за што зачапіцца,
Тут дрэва - не дрэва, і кветка - не кветка,
Тут з крана булькоча без смаку вадзіца.

Ці сяду, ці лягу,
Спатоліць мне смагу
З бутэлькі не зможа напой,
А дзедава студня
І ў свята, і ў будні
Напоіць жывою вадой.

І хочацца выйсці ў прасторнае поле,
І хочацца ў лес, у харомы дубравы,
І хочацца рэчкі няспутанай волі,
І росных, пахучых, нятоптаных траваў.

Ці сяду, ці лягу,
Не страшна мне смага
Ў часіну спякоты любой,
Бо дзедава студня
І ў свята, і ў будні
Напоіць святою вадой.

## ЛІДСКІ КРАЙ

Нёманам чыстым абмыты,
Небам блакітным накрыты,
Славай дзядоўскай спавіты,
Край наш красуе ў вяках.
Свецяцца ясныя зоры,
Чэзнуць нядолі разоры,
Ткуцца свабодаў узоры,
Сцелецца ў будучнасць шлях.

*Прыпеў:*
Ліда - гонар Дайнаўскае славы,
Руна шчасця на скрутку вякоў,
Светлы дзень нашай вольнай дзяржавы,
Ліда ў цэнтры зямлі, а вакол:

Сінь нябёсаў і зелень дубраваў,
Шум заводаў і пошапт жытоў,
У стагоддзях авеяны славай,
Лідскі край - гонар наш і любоў.

Цешацца працаю рукі,
Родзяцца дзеці і ўнукі,
Вольна жывём без прынукі
Мы на радзімай зямлі.
Тут нам усё Божым дарам,
Тут самі мы гаспадарым,
Тут па-сваему ўладарым,
Тут будзем жыць, як жылі.

*Прыпеў:*
Ліда - гонар Дайнаўскае славы,
Руна шчасця на скрутку вякоў,
Светлы дзень нашай вольнай дзяржавы,
Ліда ў цэнтры зямлі, а вакол:
Сінь нябёсаў і зелень дубраваў,
Шум заводаў і пошапт жытоў,
У стагоддзях авеяны славай,
Лідскі край - гонар наш і любоў.

# ПЕСНІ ПАЎСТАННЯ 1863 ГОДА

## З ДЫМАМ ПАЖАРАЎ

*Музыка Юзафа Нікаровіча*
*Словы Карнеля Уейскага*

З дымам пажараў, з кроўю ран братніх
Мы табе, Пане, б’ём наш паклон,
Скаргаю страшнай, енкам астатнім
Ад нашых модлаў сыходзіць стогн.
Мы ўжо без скаргі не знаем спеву,
З церну вянок уразаецца ў скронь,
Вечна як помнік Твайго, Пан, гневу
Цягнем к Табе мы просьбы далонь.

Колькі разоў Ты нас ні адсцёбваў,
Мы, не адмыўшыя свежых ран,
Зноўку гукаем: “А Ён жа добры,
Бо Ён наш Бацька, бо Ён наш Пан”.
І зноў да паўстання нас вера будзіць,
Каб Тваёй воляй нас вораг змог
І смеху кінуў камень на грудзі:
“А дзе ж той Бацька, а дзе ж той Бог?”

Гляньма ж у неба, ці там з зеніту
Сто сонц не ўпадзе на злыдняў знак,
Ціха і ціха сярод блакіту,
Як колісь, грае свабодны птах.
І мы ў сумнення злой паняверцы,
Перш, чым нам веру Ты вернеш зноў,
Блюзнім губамі, хоць плача сэрца:
“Суд чынь па справах, а не са слоў”.

О, Пане, Пане! З прадоння шатаў
Жудасці весткі прынёс нам час:
Сын забіў бацьку, брат забіў брата,
Каінаў мноства ёсць паміж нас.
Толькі ж, о, Пане, віна не іхня,
Хоць нашу прышласць цягнуць заплеч,
Іншыя д’яблы таму прычынай,
Вытні далонню, не рушай меч.

Глянь, мы ў няшчасці заўжды адзіны,
На Тваё лона, да тваіх зор,
Модлы плывуць, як клін журaўліны,
Да родных гнёздаў, сваіх азёр.
Крый жа нас, моцны, магутны Пане,
Дай  дачакацца Тваіх нам ласк,
Кветка пакуты вянком хай стане,
Хай нас нябесны асветліць бляск.

Мы з арханёлам Тваім на чэле
Пойдзем усе на смяртэльны бой
І на шайтана дрыгуткім целе
Мы ўздымем сцяг пераможны свой.
Змучаным брацьцям адчынім сэрцы,
Віны іх змые вольнасці дождж,
Вось тады ўчуе подлы блюзнерца
Водпаведзь нашу: “Бог быў і ёсць”.

*Пераклад з польскай  Станіслава Судніка.*

## ПЕСЕНЬКА ЖАЎНЕРА

*Словы Мечыслава Раманоўскага*

Мы, як птушкі з тых азёраў,
Сёння тут, а там за морам
Будзем недзе ўжо.

Што сніць сэрца, перасніцца,
Песні цвёрдыя, як жыцце,
Хай вядуць у бой.

Рукі цісную рукаяцці,
Шчыры ўціск, пакуль аб'явіць
З неба хвілю Бог.

Шчасце, доля - потым, можа,
Толькі Ты знаць здольны, Божа.
Што спаткае нас.

Можа, шчасце ўсмешкі мілай,
Можа, кветку на магілу
Нам рыхтуе час.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка.*



*Антоні Гарэцкі (польск.: Antoni Gorecki; 1787 - 18 верасня 1861) - беларускі польскамоўны паэт, сатырык і байкапісец; адзін з кіраўнікоў паўстання 1830-31 гадоў. Бацька А. Гарэцкага валодаў маёнткам Біскупцы ў Лідскім павеце. Антоні вучыўся ў Віленскім універсітэце, рана пазначыўся як таленавіты паэт. У 1812 далучыўся да польска-ліцвінскіх частак, якія ваявалі на баку Напалеона. У час паўстання 1830-1831 гадоў быў адным з яго кіраўнікоў. Сват Адама Міцкевіча.*

# *Антоні Гарэцкі*

## ДА СЯБРОЎСТВА

Лютню бяру ў свае рукі,
Чую натхнення прылівы,
Песні салодкія гукі
Шлю я сяброўству, шчаслівы.

Днямі маімі ўладары,
Ты, о сяброўства святое -
Частка нябёснага дару,
Склаўшая шчасце зямное!

З чым параўнаць твае плёны?
Хіба той вэрхал шалёны,
Што ў сэрцы робіць каханне,
Варты з табой параўнання?

Рэдка каханне спрыяе
Чулым, да цноты імкнецца;
За прыгажосцю ўпадае,
Як прыгажосць, прамінецца.

Толькі сяброўства не ў змане
Шчырым адно застаецца,
Гоіць і раны на сэрцы,
Што спрычыняе каханне.

Цемра заўсёды знікае
З месцаў, асветленых сонцам, -
Там, дзе сяброўства дух моцны,
Смутак прытулку не мае,

Не спакушаюць аздобы,
Бляскі багаццяў пыхлівых;
Шчырам яно - ўзнагародай,
Ды абмінае зласлівых.

Бог наш ласкавы і строгі,
Згледзеўшы цнотаў падзенне,
Даў нам сяброўства ў падмогу,
Каб весці нас да збаўлення.

*Пераклад з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*

## ДА КАРАЛЁЎ

Ці мала земляў даў Бог дабрачынны
Вам, каралі - уладцы над краямі,
Што прыхапілі нашую Айчыну,
Загналі люд наш у ярмо кіямі?

Вам зручна з тронаў раіць нам зычліва:
"Сядзець павінны ціха вы й цярпліва".
Мы вам прабачым зробленыя раны,
Але без Польшчы нам не жыць каханай!

"Кангрэс прыняў рашэнне", - нам даводзяць.
Ці можа ваш кангрэс Божыя справы
Змяніць? Ці ён стрымае паўнаводдзе
Ракі - цёк Віслы моцны і рухавы?

Больш зухавата - моц спыняць народу,
Бунтаўшчыком у вас пачаў ён звацца.
А ён жа Край бараніць і свабоду!
"Кроў не вадзіца", - помніце то, ўладцы!

Ёсць справядлівасць, што светам кіруе,
Хто іншых крыўдзіць, той сам загаруе.
Вызвальце Польшчу, апошні вам шанец,
Або смяротны свой станьчыце танец!

Так сумна ўсюды, так сціхла ўсё ў свеце,
Ах, вы завеце ту цішу спакоем?
Што гэта значыць? Што ў кожным павеце
Ведаюць людзі - ціша перад боем.

Голас народу - то голас праўдзівы,
Чуйце, тыраны, нявольнікаў стогны!
Будзе суд Божы - страшны, справядлівы,
І задрыжаць вашы й знішчацца троны!

*Пераклад з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*

## РЭСПУБЛІКА

*Байка*

Аднойчы ў лесе сабраліся з пэўнай мэтай
Жукі, сляпні і матылі, гукаючы пры гэтым:
"Тут закладзем Рэспубліку мы новую!
О, так! Рэспубліку! Славутую, мядовую!"
На тлум такі ў здзіўленні паглядалі мухі:
Што за дзяржаву тут утвораць тыя зухі?
Прайшло ўжо лета, і зіма вось-вось настане,
А мёду ўсё няма ніякага ні звання!
Адкуль жа возьмецца? Паўдня лісты чыталі,
Пасля на сойміках прыгожа прамаўлялі,
А час, які ад гэтых спраў застаўся,
Уласным асалодам прысвячаўся:
Жукі, як і раней, таўкліся ў кучы гною,
Дурэлі матылі на кветках чарадою,
А авадзень расы ўжо з раніцы напіўся
І ў думках пра ўвесь свет ён шчыра клапаціўся.
Адсюль выснова бачыцца адкрыта:
Назваць не штука вулей Рэччу Паспалітай,
Але там трэба пчолак шчыраванне,
Сумленне і сабой ахвяраванне.

*Пераклады з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*

## СОЙМІКІ

*Байка*

Каго выбраць суддзёй, раіліся людзі:
Андрэй - справядлівы, няхай Андрэй будзе!
Не, няхай будзе Пётр - слушны розум мае!
Не згадаў аніхто: Павел плён збірае!
Павел стаўся суддзёй, а ў чым жа ён шпаркі? -
Кланяецца нізка ды налівае чаркі.

*Пераклады з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*

## БІТВА НА БЯРЭЗІНЕ

Страшна бачыць месца, дзе Ты караеш, Божа!
Але ж хто пярэчыць Тваёй волі можа?
Міласцю Ты шчодры, але й перунамі,
Што ж тут адбылося з франкаў жаўнярамі?
Хіба гэта войска, рыцарства, што смела
Перамогу ў бітвах пад Мажайскам мела?
Зараз абадранцы, бледныя, без зброі
Плывуць цераз Бярэзіну гэтыя героі.
Ані брат, ні сябра ўжо тут не пазнаны,
Прагныя кідаюць скарб нарабаваны,
Той, хто мае зброю, уцячы спяшае,
Праз натоўп штыкамі шлях свой пракладае.
Ну дык уцякайце, хто куды з вас зможа,
Ўсюды прычакае справядлівасць Божа.
А ты, другі Марсе! Дзе ляціш збляднелы?
Уцякаеш спрытна ад шыхтоў збалелых,
Ад нявінных слёзаў на тваім сумленні.
Абяцаў свабоду, абяцаў збаўленне.
Наш народ няшчасны верыў табе марна,
Заняпала справа пад рукой бяздарнай.
Бог табе даверыў меч дзеля свабоды,
Каб ты з гвалту й цемры вызваляў народы,
А не хапаў троны дзеля пыхі-славы,
Паглядзі ж на вынік страшны і крывавы!
Але хто ж там б'ецца ўсё яшчэ ахвярна,
Ў кім яшчэ не згаслы вольны дух змагарны?
Паміж той мітрэнгі, дзе паразы знакі,
У шыхтах са зброяй годныя палякі.
Шаблі звон аб шаблю, штык аб штык грукоча,
Чорны дым і смерць тут разгуляцца хоча.
Кроў снягі растопіць, зіма агнём схлыне,
Хто тут не загінуў, той яшчэ загіне.
Бы ў зялёнай пушчы, у маёй айчыне,
Два зубры сыйшліся у змагарным чыне.
Б'юцца між сабою горача й зацята,
Хоць не пераможа ні адзін брат брата,
Ні адзін не ўступіць, кроў зямліцу поіць,
Хіба толькі ночка змагароў раздвоіць.

Так сыйшліся ў бітве разам на паляне
Сярод бору чорнага ваяры-славяне.
Рускіх смелы Чычагоў вядзе ў бой крывавы,
Нашых мужны Зайчык - улюбёнец славы:
У пясках Егіпта ў бой ён пераможна
Вёў свае атрады, і ў снягах ён зможа.
"Гіньма (кажа да сваіх), так айчына кліча!"
Ляцяць дружна, ўсіх ахвяр і смерць не палічыць.
Падаюць з усіх бакоў… Моваю славянскай
Енкі, стогны ўвысь ідуць да гасподы Панскай,
Ад сваіх забітых цел адлятаюць душы,
Ўміг анёлы іх бяруць і ў нябёсы рушаць.
Марна кліч таго гучыць, каму рэзь няміла,
Каб спыніліся, не йшлі сілаю на сілу.
"Стойце, мужныя вы ўсе, кроў дарма ліецца,
Той, бароніце каго, ўжо даўно ў бяспецы!
Хоць вы моцныя, бы львы, ў бітвах, расіяне,
З вас ніхто праз польскі шыхт яго не дастане!"
Ды не чуюць, бой кіпіць, на ўсю моц палае,
Аж пакуль Пан Бог з нябёс ноч не насылае.

Так Аякс і Траянін не саступілі й кроку,
Пакуль маглі біцца і ў суцэльным змроку.

Дык што ж бачым: смерці ўсё ахвяраў замала!
На каго шле перуны? Каго ўпадабала?
Бліскавіца! Правадыр Польшчы мужна гіне,
Аддае сваё жыццё волі і Айчыне.
Вы ж, зайздросныя яго годнага ўзнясення,
Гляньце, як яго крыві пырскае струменне.
Зайчык не з багацця ўзрос, што сямейства мела,
А з таго ён, брацця, ўзрос, што яму балела.
І ўзначаліў годна шыхт мужнасці і славы.
На Бярэзіне-рацэ меч тырчыць іржавы…

*Пераклад з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*



*Ежы Путрамант нарадзіўся ў 1910 годзе ў Менску. З 1925 і да 1940 года сям'я іх жыла спачатку ў горадзе Лідзе, а потым на хутары Банева (недалёка ад вёскі Дакудава Лідскага раёна). Пасля заканчэння Лідскай гімназіі Путрамант паступіў на філалагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У гэты час і пачалася яго літаратурная творчасць. Пісьменнік зблізіўся з маладымі рэвалюцыйна настроенымі пісьменнікамі, што адыграла важную ролю ў яго далейшым жыцці.*

# *Ежы Путрамант*

## ВАЕННЫ ПАРАД

Ішлі, закутыя ў сталь, за палкамі палкі,
Сцены вуліц апрануты былі ў гэбан,
І трохгранныя гузікі, быццам клыкі,
З гулам танулі ў гразі, бы ў адкрытым небе.

Ішлі наперад. Дрыжалі камяніц заломы,
У шыбы мокрыя біў бесперастанна гімн,
І, як п'яныя, званіцы ападалі з громам,
Разрываліся з громам набоі і дым.

Аж раптам змоўклі з гэтай віхурай шалёнай
І запалі ў зямлю разам з громам і стукам,
А на трыбуне дзесь паршывая варона
Скакала ды пела і ўздымала рукі.

*Пераклад з польскай Максіма Танка.*

## КАРАБІН

Каго, хлопча, ты, заснуўшы пад дрэвам пахілым,
Пабачыў у сне, да каго ўсміхаешся міла?

Золак у гліну ўтаптаны паўзе па іржышчах, прысадні
За палямі, лясамі далёка яшчэ твая радасць.

З карабінам пад пахай, з набоямі пад галавой
Ты спіш, і ў сне ты сустрэўся з краінай сваёй.

Зямля выступае з імглы, і колер яе рыжаваты,
За дальнім пагоркам не моўкнуць цяжкія гарматы.

І сніцца табе, што ты ў родны свой дом уваходзіш,
Цвітуць там вяргіні, як сонца, ў тваім агародзе.

Ты бачыш знаёмую школу у засені лісця
І тую дзяўчыну, якую кахаў ты калісьці,

І друга, які даражэй быў за роднага брата,
Юнацтва сваё, што памерла пад грукат гарматаў.

Твая незнішчальная памяць навек гэта ўсё захавае.
Былое вяртаецца зноў і ўсмешкай вітае.

А ты з захапленнем хацеў бы рукамі да сэрца
Хутчэй прытуліць ўсё, чаго ўжо няма больш на свеце.

Прачніся! Няма твайго горада, роднай хаціны,
Няма, хлопча, друга твайго і каханай дзяўчыны.

Пасечаны дрэвы, знаёмая вуліца тая,
Дзе некалі жыў ты, густою травой зарастае.

Дзе школа была, там стаяць абгарэлыя сцены.
Табе засталася з мінуўшчыны попелу жменя.

І родных сваіх не шукай, іх зямля пахавала.
Таго, што было твайму дорага сэрцу, не стала.

Нічога няма. Ты запомні ўсё гэта. Ёсцьтолькі
У цябе карабін, што трымаеш ты сёння на золку.

Ён твой праваднік і найлепшы таварыш на свеце.
Рыхтуй жа да помсты сваё набалеўшае сэрца!

Да помсты рыхтуй сваё сэрца, да новага бою.
Кустамі бліжэй падкрадаецца сонца цяжкое.

З месца крануліся хмары, на захад плывуць, як лавіна.
Старанна з расы вытры, хлопча, замок карабіна.

*Пераклад з польскай Максіма Танка.*

**ПРАЛОГ**
**(да кнігі “Лясная дарога”)**

Летнім ранкам, што зацвіў на вялізным небе,
покуль жар лісце асушыць і з траў сатрэ росы,
пойдзеш дарогай, як па ручніку з-пад хлеба,
пад гарызонт, закрыты карагодам сосен.

І не знаць, не падумаць, колькі дзіваў няўрочных
за цёмным краем бору, у нязнаным бязмоўі,
выпаўзае насустрач з расстаўшай ночы,
спадзяецца і чакае, каб ажыць нанова.

Распрамляюцца плечы соснаў і бярозаў,
чэрвень не астылы, адкрые след у дрыгве,
перад табой узнікаюць рэчы, якіх пагрозай
захліснуты, дарэмна голас на крык сарвеш.

Звыш хутка адчуеш цяжар і горычы лішак,
перад цёмным стыгматам яе дарэмна шукаеш заслону,
кожны дзень свае сілы нанова палічыш
і нанова адкінеш намашчонай далонню.

Перш, чым узыдзе пасеў з’яваў яшчэ недаспелых,
вучыся вочы хаваць і не пагарджай адчаем,
наймацнейшым пачуццем дзядоў нашых смелых,
словам чыім стала ўсё, што нас атачае.

Вось чаму скурчана перад распусным светам
марна шукаем мы ў сабе гармоніі і дабра,
хілімся да высокай сіметрыі кветак
і любім дасвецця дзвюхфарбны абраз.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка.*

## ЛЯСНАЯ ДАРОГА

Ці сонца спаўзе на адхоны выдм?
Ці пясок неба і сонца дыханнем спапеліць?
Дрыжыць пры дарозе паветра гарачы рытм,
сівеюць сасонкі, і жыве тут жук ціціндэла.

Ад купкі ядлоўцу, праз бель абрыва і далей,
да павароту, дзе вытыркае блакітны палын,
абягае па кругу краіну ў тысячу цаляў
святла і пяску ён хуткі і чуйны адзін.

А як сонца ўпячэ, што кара на пяньку
лопаць пачне, і жывіца ўскіпае,
смуглае цела хавае ў сыпучым пяску,
выцягне тонкія ногі, расцягнецца і спачывае.

Віруе трымценне ліній, як агні на свечках кадзіл,
каб змякчыць сасны сукаваты профіль.
Глянь, расталі ядлоўцы праз пару хвіль,
і плыве зелень хмар праз іголак кроплі.

Пастой, то ўбачыш, як з барваў у хісткай траве,
з плоскіх наносных лагчын між ссохлых соснаў,
з агню і пылу расце, расцвітае, жыве
царства спрытнюгі жука, незнаёмы космас.

Пастой, дарога адыдзе сама а шостай,
хмара, як губка, мокрымі пальцамі пасцірае
малюнкі на пяску, і застануцца проста
ўспаміны, што найдаўжэй зямля захавае.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка.*

## МЯСТЭЧКА

*Яну Пачынскаму*

Коні выйдуць за лес, за пясчаную ростань,
верас сцежку аточыць і згіне недзе,
вечарам па пейзажы плоскім
пошта едзе.

Дзень растане, як цень, голы профіль ціхне,
дым вячэрні з-за плоту пад могілкі вее,
Ці памяць тлее? Вочы нікнуць,
ці памяць тлее?

Гэта ўчора было, ці надысь, ці ніколі,
ці як кветкі вецер здуў з-пад вокнаў,
ціхі шэпт каштаноў і таполяў,
рад сланечнікаў ля гумнаў цёмных.

Дзверы ўжо замкнёны, хаты сціхлі,
цемра ўнутры яшчэ большая,
ноч, як ноч, як вёрсты - хвілі,
сны ў варажбу сышоўшыя.

Столькі часу, а першы ўсё-ткі рынак,
брамы насцеж рыпяць, коні рушаць да студні,
толькі словы пра заўтра колераў іншых,
і вецер нябесны звоніць аб будні.

Толькі мхі разрасліся па стрэхах, як пластыр,
як захад у воблаках чырвань пеніць,
хлыне дождж, і па кроквах з дахаў грывастых
сочных кропель сцякае зелень.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка.*

## КУЦЯ

Выцінанкі, барочныя ўзоры,
павыпальваў мароз на шкле нашых шыб,
як жа расчуць паміж вечару зораў
зямлі замарожанай крык?

Дзень укладаецца ў беласць прасцін,
лес набухае ад фіялету,
нас адратуе толькі адзін
дальні агенчык у змроку свету.

Жоўты праём квадрата акна,
брыль навісае гнілой саломы,

ззаду чорная пашча адна
стомы.

Дзякуй Табе, добры Пан Божа,
бедным заступнік праз тысячу год,
нас Ты добра стрыножыў.

Ты нас адзяваў, ад ліхога бярог,
голад даймаў - Ты падкормліваў нас
ясным небам і крошкамі зор,
холадна нам - пярынаю слаў
мяккі белы пух, што завецца снег,
падалі мы - Ты кулак стрымаў
і ўцяшаў, што надыдзе час,
і нам будзе добра, багатым - не,
бо цярпенне ў нас цнота, а сытасць грэх,
перад табою мы ў вечнай віне,
ды выбраць пара нешта кожнаму з нас.

Думкі ў нас пра барочныя ўзоры,
як цвёрда набіты жывот,
і па куцейных страў пераборы
цяжка верыцца, што нарадзіўся Бог.

Марна каўнер
расшпіляем ля шыі
па пітонах, гладкіх, слізкіх бестыях,
звон сабакам рве цішу хвілі,
шыбы: лопнулы маладзік,
соннага твару лік
вытне за парогам
агонь па стадолах,
чырвоны місіянер.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка.*

## ВІЛЬНЯ

Тут сорак касцёлаў з вежачак тонкіх,
дахі з дугаў і выпуклых ліній
тонуць ціха над вуліцай соннай
у ажурнай кармінавай сіні.

Вежы лясоў паўколам зубчатаю сенню,
шапка хмар паркалёвых у пеннасці роснай.
Над горадам жменя шчарбатых каменняў,
шэрагі пнёў і косці згарэлых соснаў.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка.*

* * *

Як ноч уздужае пад поўнач цемнатою,
а змучаныя песняй манатоннай жабы пойдуць спаць,
самотныя зоркі ва ўласную маласць глядзяць
і не бачныя нікім знікаюць за лесу сцяною.

Спадае час на часы звекаваныя,
на змрок гладкай вады, на кветкі для нікога,
тады я іду пабялелай дарогай
насустрач зоркам, што зніклі лясамі схаваныя.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка.*



# *Алег Лазоўскі*

*Алег Лазоўскі нарадзіўся 29 сакавіка 1975 года. Карэнны лідзянін. Скончыў Гарадзенскі каледж мастацтваў, зараз - студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры. Працуе мастаком-пастаноўшчыкам народнага аматарскага калектыву "Драматычны тэатр Палаца культуры горада Ліды". Аўтар перакладаў на беларускую мову асобных вершаў Уладзіміра Маякоўскага, Жака Прэвера, Назыма Хікмэта. Яго лірычная кампазіцыя "Гэта каханне" на вершы Маякоўскага і Прэвера ўганаравана 2-ім месцам на абласным конкурсе чытальнікаў (2014 г.).*

## ПЕРАСТВАРЭННІ

## З НАЗЫМА ХІКМЭТА (1902-1963 гг.)

### ВОЛАТ З ВАЧЫМА КОЛЕРУ НЯБЁС

З вачыма колеру нябёс
быў волат, што кахаў аддана
спадарыню адну,
меншую намнога ростам.
Ды ў марах бачыла яна
маленькую хацінку,
дзе пад акном сабе расце
квітнеючы бружмель.
Каханне волата, як волаты ў каханні,
ён да вялікай працы

сунуўся рукамі
і збудаваць ніяк не змог
ёй церамок -
маленькую хацінку,
дзе пад акном сабе расце
квітнеючы бружмель.
З вачыма колеру нябёс
быў волат, што кахаў аддана
спадарыню адну,
меншую намнога ростам.
Але яна
стамілася ісці з ім побач
даўжэннай волата пуцінай,
і захацелася ёй адпачыць
ва ўтульным доміку, што з садам.
- Бывай! - яна ў блакіт яму сказала.
І ад вачэй адвёў яе
заможны карлік
у маленькую хацінку,
дзе пад акном сабе расце
квітнеючы бружмель.
І волат зразумеў цяпер,
што волата каханне
няздольнае схавацца там,
у маленькае хацінцы,
дзе пад акном сабе расце
квітнеючы бружмель.

## ДА ВЕРЫ

Расце ў нутры маім дрэва - вы ўбачыць яго змаглі б, -
паходжанне мае ад сонца і да яго імкнецца,
хістаецца яго лісце, нібыта рыбіны ў агні,
і ціўкаюць плёны, нібыта гуллівыя птахі.

А на зорку, якая плыве ўва мне,
даўно сышлі вандроўнікі з ракет,
яны ўжываюць мову, што бачыцца ў сне,
дзе пахвальба з загадам не існуюць.

Ёсць белая дарога ўва мне,
валочаць мурашкі па ёй трысціны і зерне,
тут шмат машынаў і святочны спеў,
на ёй не стрэнеш  катафалкаў.

Час ува мне спыніўся, як вада,
нібы ружа чырвоная пахне,
ды пляваць я хацеў, сёння - пятніца ці серада,
што і пройдзена шмат, і ўжо болей яго не будзе.

***

Адзінае лепшае мора:
Тое, у якім ты не плаваў.
Адзінае лепшая рыбка:
Тая, якая шчэ ў моры.
Адзіныя лепшыя дні ў жыцці:
Тыя, што мы не пражылі.
І адзіна-прыгожыя словы табе:
Тыя, што шчэ я прамоўлю...

***

Палова яблыка - ёсць мы,
Палова - гэты Свет вялізны.
Палова яблыка - ёсць мы,
Палова - люд наш існы.
Палова яблыка - ёсць ты,
Палова - я.
Мы - з табою разам не адны...

*Пераклад Алега Лазоўскага.*

## З ЖАКА ПРЭВЕРА (1900-1977 гг.)

### ГЭТА КАХАННЕ

Гэта каханне,
Яно апантана,
Яно далікатна
І вельмі пяшчотна…

Гэта каханне
Добрае надта,
Вельмі бязмежнае,
Як небасхіл,
І такое благое,
Як быццам надвор'е,
Як дрэнным бывае яно…
Гэта каханне такое адданае,
Вельмі прыгожае радасным днём,
Гэта каханне такое няшчаснае,
Як заблукалае ў глуш малянё,
І стрыманае,
Быццам воін,
Якога нішто не страшыць…
Гэта каханне,
Што страх выклікала
І раптам змушала ўраз гаварыць
І таксама таміцца ад смутку.
Каханне не мае адказу
За тое, што мы прамаўчалі…
Каханне такое, як ёсць.
І ў рэшце, і на пачатку,
Вечна жывое,
Заўсёды наноў,
Тваё яно цалкам,
Маё, без астатку,
І таго, каго нават не ведае свет,
І ўсіх тых, што былі намнога раней.
Як быццам расліна, праўдзівае,
Як птушка, трапеча яно,
Пылае, як лета спякотнае,
І разам мы можам ісці
І вярнуцца,
Заснуць і прачнуцца,
Забыцца і ўраз пастарэць,
Вочы заплюшчыць, забыцца пра сонца…
І зноўку заснуць,
І марыць пра смерць,
І прачнуцца ізноў,
І смяяцца наноў,
І толькі каханне!

Упартае, быццам асліца,
І палкае, быццам жаданне,
І жорсткае, роўна як памяць,
І путавумнае, як пакаянне,
Халоднае, быццам мармур,
Прыгожае, ранку падобнае,
Цудам, пяшчотаю,
Хісткае, крохкае
З намі бязмоўна гаворыць яно
І ў нашыя вочы з усмешкай глядзіць,
І, у трымценні захоплены,
Я адчуваю,
Я моцна крычу,
Я крычу пра цябе,
Пра сябе,
Я малю ў кахання!
За цябе, за сябе і за тых, хто кахаў,
За астатніх усіх.
Я крычу:
Ты застанься!
Будзь там, дзе ты ёсць,
І там, дзе раней ты было.
Я малю: ты застанься,
Не рухайся, не адыходзь!
Мы тыя, хто ведаў цябе,
І ўсе тыя, хто здолеў забыцца,
Але ты ў пустэчы нас не пакінь!
Адно ты на гэтай зямлі, што мы маем!
Не дай нам у сцюжы агеньчык згубіць,
З кожным днём адыходзячы ў далеч,
Знак падай нам,
Усмешкай зірні,
Усё роўна адкуль,
І потым
Сярод зарасляў памяці,
У цёмнай гушчэчы яе
Раптам з'явіся,
Схіліся над намі,
Нам руку сваю працягні,
Мы свае!

*Пераклад Алега Лазоўскага.*

# З УЛАДЗІМІРА МАЯКОЎСКАГА (1893-1930 гг.)

## НЯСКОНЧАНАЕ
**(адрывак)**

**I**

Кахае? Не кахае? Я рукі ламаю
і пальцы раскідваю прэч, разламаўшы,
так рвуць, загадаўшы, пускаючы ў траўні,
венцы сустрэчных рамонкаў.

**II**

Няхай сівізну адну стрыжка шукае,
Хай срэбра гадоў павызвоньвае цьма,
Спадзеў даю, веру: давеку не прыйдзе
Да мяне пустазелле ганебных развага.

**III**

Вось і другая,
І мусіць, ты ў ложку,
А можа, й з табою
такое.
Але не рвуся
і праз тэлеграфы
не бачу ў тым сэнсу
будзіць,
непакоіць.

**IV**

Мора сыходзіць назад,
Мора ідзе на спачын,
Вынік, як кажуць, "исперчен".
Човен кахання разбіўся аб побыт.
З табою мы квітыя,
Спіс не дарэчы
Ліха ўзаемнага,
Боляў ды крыўд.

*Пераклад Алега Лазоўскага.*



*Смарагд Сліўко нарадзіўся ў 1931 г. у г. Яраслаўлі ў сям'і акцёра і паэта. З 1946 г. жыў у Беларусі. Пасля заканчэння Гарадзенскага педагагічнага інстытута з 1961 па 1966 г. працаваў настаўнікам гісторыі, рускай мовы і літаратуры ў Астравецкай СШ, куды прыехаў па запрашэнні першага сакратара Астравецкага РК КПБ С.Ц. Кабяка.Затым лёс звязаў яго з Лідчынай. З 23 гадоў займаўся рэжысурай. Вершы пачаў пісаць з 7 гадоў. Друкаваўся ў многіх часопісах, газетах. Член літаратурнага аб'яднання "Суквецце" з 1969 г. Аўтар 4-х зборнікаў паэзіі, прозы і гумару.*

*Памёр у 2006 годзе.*

# *Смарагд Сліўко*

## ДА ЧЫТАЧОЎ

Калі сумуем, ці рагочам,
Ці пад душэўны гармідар
Раптоўна нехта ўсё ж захоча
Спазнаць мой паэтычны дар.

Ён не балота, не крыніца -
Зусім звычайны ручаёк,
Магчыма, хтосьці наталіцца,
Гаючым назаве глыток.

*(Пераклад Алеся Хітруна.)*

## КАЛІ ЛАСКА, ДАЙ

Дай мне хоць пару глыткоў
Паветра крынічнае плыні,
Я стану адным з багоў,
Каб дыхаць табой без спыну.

Нешта ў небе не так,
бо з пагрозай
Сам Пярун
усё маланкаю блішча,
Дзе так пахне цыбуля мімозай,
Я цябе падыму… на гарышча.

Ты мне толькі скажы, паглядзі
Ў мае закаханыя вочы,
Са мной ты адна на адзін -
Бачыць іншых мы не захочам.

Дай водару пару глыткоў
Ад цела твайго прамяністага,
Замест сваіх вершаў гатоў
Чытаць яго, Дзева Прачыстая.

Глянь толькі навокал і ўверх,
Няма тут ні кропелькі лішняга!

Гэта ж самы высокі паверх,
Мы бліжэй да яго, Усявышняга.

Толькі дай, калі ласка, мне, дай
Хоць часцінку,
што быццам з марозу…
Я сагрэю… Ну хіба ж не рай -
Дзе пахне цыбуля мімозай!
*(Пераклад Алеся Хітруна.)*

## САБАЧАЯ ЎДЗЯЧНАСЦЬ

У цёплых руках ён прыгрэўся
І носікам тыкаўся ў пояс,
Не ведаў, што кінуць на рэйкі
Яго пад ідучы поезд.

Вагоны, бы выгнуўшы спіны,
Гатовы падняць усе колы.
Ён падаў, як лісцік з асіны,
Траву фарбаваў на адхоне.

А сілы ў сабакі столькі!
Усё залізаў… А вось пах?
Мазутаю боль пахне толькі
На ранах адрэзаных лап.

На поезд
смяртэльна пакрыўджаны,
Брахаць на яго гатоў суткі…
Цяпер ён з удзячнасцю ліжа
Другому, прыгрэўшаму, рукі.
*(Пераклад Алесі Бурак.)*

## У ВЯНОК ВІКТАРУ БАЧАРОВУ

Зноў зазвінела світанне
Вясёлкай лістоты і кветак…
Як адказаць на пытанне:
Хто ж ён, паэт наш адметны?

Смелага пэндзля мазок
На палатне ўпартым,
Каб зазвінеў каласок, --
Уздых для журбы і жартаў.

А можа, спявак-гітарыст
Мацае нервы рукою,
Каб міліцэйскі свіст
Пеў салаўём над ракою?

Ён у песні, слязе і ў сяўбе
Веснюю музыку ладзіць,
Ідзе ад сябе й да сябе,
Жыве ў неспакойным суладдзі.

Дык хто ён такі, наш паэт?
Шукаю патрэбнае слова,
Каб мой зрыфмаваны шкілет
Моцаю быў з Бачарова!
*(Пераклад Міхася Мельніка.)*

## ГІМН ЖАНЧЫНЕ

Калі нас хвалюе прыроды краса,
Пачуцці не знаюць спачыну,
Калі ў паэзію рвецца душа -
Прычыну шукайце ў жанчыне.

Нялёгкай бывае дарога жыцця,
І сілы здаюць без прычыны,
Высот дасягае надзея твая -
Падмогаю стане жанчына.

Калі ж ад зямлі табе аж да нябёс
Паставілі помнік-вяршыню,
Не будзе ў цябе ні маршчын і ні слёз -
Маршчыністай стане жанчына.

Магчыма, сам Бог запаветы нам шле.
Штодзень помніць іх мы павінны!
Мужчыны ў Сусвеце - адзін светлы цень.
Сузор'і Сусвету - жанчыны.

*(Пераклад Алесі Бурак.)*

**ГРАНІЦА**

Стаіць на прыгорку, як вежа, сасна,
Уся зрубцавана, бы Брэсцкая крэпасць.
І плёскае ў корань ёй хваля рачная,
І правярае на моц і на смеласць.
Граніца, граніца - не толькі слупы,
Дзе герб абрамляе калоссе пшаніцы.
Яна для таго, хто не хоча стральбы,
Каб дзеці не плакалі і маладзіцы.

Граніца, граніца, адсюль я клянуся
Сэрца тваё берагчы, Беларусь!
А сэрца тваё - гэта сэрца маё,
І памяць, і кроў, як дыханне тваё.

Мы на варце стаім, сцеражом ваш спакой,
І каб над Радзімаю сонца зіхцела…
Мы ў маскхалатах ляжым пад сасной,
Забыўшы сваё паслухмянае цела.
Сціскаюцца суткі ў пакутлівы міг,
І пад рукою абойма ў запасе,
Каб з лютаю злосцю ніхто не пранік
Ні на зямлі, ні ў завоблачнай трасе.

І Гродна, і Ліда ў абдымку стаяць
У братэрстве вялікім славутага Брэста,
Сюды адпускаюць любімых рабят:
Застава для іх - гэта мужнасці месца.
Стаіць на прыгорку, як вежа, сасна,
Уся зрубцавана, як Брэсцкая крэпасць,
Няхай тут пануе спакой, цішыня.
Бо наша трываласць - зямлі роднай вернасць.

*(Пераклад Ірэны Сліўко.)*

***

Бровы твае - нібы крылы ў ластаўкі,
Вейкі твае - што вячэрнія цені…
Прыгалуб мяне так, як ніхто і не ласкавіў,
А я прыдрамлю на мілых каленях.

Ты раскажы пра любоў сваю ціхую.
Ускудлач валасы мне пяшчотнай рукою.
Вочы прыплюшчу… Ты чуеш, як цікае
Гадзіннік, які мы купілі з табою?

У нас няма многага… Будуць і крызісы.
Ды будзем здаволены заўтрашнім раннем.
Багаты з табою ўзаемнаю блізкасцю,
Багаты з табою ўзаемным каханнем.

*(Пераклад Ірэны Сліўко.)*

## ДУМЫ НАСТАЎНІКА

Апошні званок празвінеў заціхаючы.
Апошнія словы і полымны баль.
Пайшлі хто куды і сябры, і таварышы.
І невядомасцю вабіць вакзал.

Настаўнік стары нахіліўся над кнігай.
Ужо не над сшыткам… Ён піша радкі.
І бачыць хлапцоў, развітаўшыхся з Лідай,
Забыўшы зусім іх грахі і грашкі.

І шэпча ў далеч, камусьці наўдзіва:
"Удачы ў жыцці! Не шкадуйце мазгоў!
Не злуйце сябе, калі хтосьці пакрыўдзіў,
І не жадайце чужых пірагоў.

Бывайце здаровымі, любыя голубы!
(Слёзы свае я схаваю ўпотай.)
Усё добра ў вас, калі вы як волаты,
Калі шчэ не знаеце тое, што потым".

*(Пераклад Ірэны Сліўко.)*

## НЕ ХОЧА НІХТО ПАМІРАЦЬ

Няўжо толькі там, у нябёсах, нам рай?
Царкоўныя казкі, не болей!
Нікому не хочацца з нас паміраць,
Хоць мы і ў смяротным звышболі.

Вясёлкаю дні адляцелі ў зеніт,
І шчэрыцца пашча прадоння,
Сплялася з касы прыдарожных ракіт
Мне пуга з "учора" і "сёння",

Каб ёю лупіць не багоў, а сябе
За розум наш рабскі, бязволле,
Каб ворагаў нам зразумець пакрысе,
Узважыць сяброўскія ролі.

А часу няма, і не трэба ілгаць,
Што там, у ЯГО, - распрывольна…
Не хоча ніхто на зямлі паміраць,
Хоць рэжа нас боль неадольны.

*(Пераклад Пятра Макарэвіча.)*

## СУМУЕ СКРЫПКА

Сумуе скрыпка і ціхенька плача,
Кранаю зноў гітарную струну.
А птушка за акном пяе і скача,
Яна вітае раннюю вясну.

Магчыма, так павінна быць, няйначай:
Пазнаць прыроды цяжка тайны сэнс.
А ўсё жыццё, то ўдача, то няўдача,
Не могуць зліцца ў камерны аркестр.

А скрыпачка пяе і горка плача,
Настрою зноў гітарную струну.
Няма надзеі дачакацца ўдачы,
Мо лепей захаваць ў душы вясну?

*(Пераклад Яўгена Петрашэвіча.)*

**ЧАГОСЬЦІ НЕ ХАПАЕ**

Я рад заўжды таму,
Арэ хто і лунае.
Але нутру майму
Чагосьці не хапае.

Улюбёны любы й мне,
Вітаю мора кветак,
Калі вакол свае,
Калі вясна і лета.

І ўсё-такі, чаму
Гвалтуе ўлада слова,
На шкоду усяму,
Часцей жа - бесталкова?

За што нам любы птах?
Вядома, за свабоду:
У яго нябесны шлях
На зайздрасць нам, народу.

Мне хораша й таму,
Што зло ў дабры згарае…
Ды сэрцу ўсё ж майму
Чагосьці не хапае.

*(Пераклад Пятра Макарэвіча.)*

**БЫВАЙЦЕ**

Мілыя, бывайце,
Не пацалую вас.
Я адлятаю чайкай.
Куды? Ў іканастас.

А можа быць, наверх,
Туды, дзе побач Бог,
Дзе з-пад нябесных стрэх
Спазнаю, што не змог.

Любімыя, жывіце.
Душа ў вас толькі рвецца
Для радасных адкрыццяў,
Для радасці на сэрцы.

Я воблакі ў нябессі
Паварушу ўрачыста.
Заўсёды з вамі, верце,
І з сонцам прамяністым.

*(Пераклад Алеся Хітруна.)*



*Таццяна Іванаўна Сямёнава нарадзілася 17 сакавіка 1935 года. Скончыла сярэднюю школу ў сяле Грачоўка Арэнбургскай вобласці. У 1952-1955 гг. вучылася ў педагагічным вучылішчы ў горадзе Бузулук Арэнбургскай вобласці. Восенню 1955 года пераехала ў горад Ліду, па месцы жыхарства мужа. Працавала ў дашкольных установах выхавальніцай, затым загадчыцай. Аўтар кнігі паэзіі "Осенний вальс".*

# *Таццяна Сямёнава*

## МУДРАСЦЬ

Мудрасць - не прафесія людская
І не сівізна на галаве.
Нават доўгае жыццё таксама
Мудрасці амаль не прыдае.

Мудрасць - гэта любячае сэрца,
Розум і пяшчотнасць у вачах,
Рукі міласэрныя, як сонца,
Добрая, спагадная душа.

Мудрасць у суладнасці з сусветам,
Цёплыя адносіны, лагоднасць,
Дапамога ў свой час і пры гэтым
Беражлівая ў парадах годнасць.

У мудрасці - духоўнае багацце,
Не імкнецца пры раскошы жыць.
Дружалюбнае мацуе брацтва,
Усенародным скарбам даражыць.

*(Пераклад Алесі Бурак.)*

## ГІМН ДАБРУ

Жывуць на свеце зло з дабром,
Ды не сябруюць між сабой.
Узнагародай нам дабро,
А зло нясе разлад і боль.

Дабро нам шчодра памагае,
А зло, як на жалезе ржа,
Шчасце-долю разбурае
Яго нікчэмная душа.

Дабро выгоды не шукае:
Яно патрэбна нам усім…
Хай уладарна працвітае
Ў людскіх учынках і ў душы!

Дабро ратуе чалавека
Ад злыбяды і ад нягод.
Няхай жыве ад веку ў векі
На сушы і прасторы вод!

*(Пераклад Алесі Бурак.)*

## ЛЮБІМАЯ ЛІДА

Па гораду квяцістаму, святочнаму і чыстаму
З асобай асалодаю іду ад краю ў край.
Тут тратуары новыя, палатачкі гандлёвыя
Таварамі запоўнены, што хочаш - выбірай!

Фігурачкі скульптурныя, не ўсе мініяцюрныя
Мой горад упрыгожылі, удзячны мы творцу,
А я схіляю галаву ля абеліска новага
І воінам праслаўленым, і кожнаму байцу.

Лідзянамі любімыя рака, азёры сінія,
У ізумруднай зелені схаваны берагі.
Сюды суботу кожную картэжы едуць важныя,
Вязуць нявест, спяшаюцца ў часе дарагім.

Ля берага высокага клянуцца хлопцы-сокалы,
Што на руках любімую насіць будуць, кахаць.
Замочак замыкаецца, ключ у ваду кідаецца,
Каб сям'ю шчаслівую не змог ніхто разняць.

Завуць фантаны модныя сваёю прахалодаю,
Струменьчыкі крыштальныя на сонейку гараць.
Усё, што намі створана, лідзянам дорым з гонарам,
А ім той дар з удзячнасцю цаніць і прымнажаць.

*(Пераклад Алесі Бурак.)*

**БЕЛАРУСІ**

Беларусь - ты дабрыня святая,
Стала ты радзімай для мяне,
Мудрая, надзейная такая,
Абаронца і браня ўдвайне.

Нізка табе ў пояс пакланюся:
Ты - мой лёс, мой свет, мая радня.
Шчасце сярод брацціяў-беларусаў,
Радасць працы, долю я знайшла.

*(Пераклад Алесі Бурак.)*



*Санько Валер Аляксеевіч нарадзіўся на Случчыне (1939). Закончыў Баранавіцкае медвучылішча (1958), завочна журфак БДУ (1967), Менскую ВПШ (1978). Працаваў у газетах, выдавецтвах. Член СЖ (1966), СП (1997), доктар народнай медыцыны, магістр нетрадыцыйнай медыцыны, член-кар. МА энергаінфармацыйных навук. Аўтар і суаўтар 17 кніг. Шосты год жыве ў Лідзе.*

# *Валер Санько*

## САМАЗАБОЙСТВА - ГРЭХ АПРАМЕТНЫ
**Апавяданне**

*У Беларусі штогод самагубнічае, робіць спробу на такое дурноцце амаль тры тысячы чалавек, у Расіі болей пяцідзесяці тысяч. Думаецца, фаталістычна-язычніцкае апавяданне пісьменніка, доктара народнай медыцыны засцеражэ намежавых ад гіблага кроку ў Тагасвеццe.*

Што памеры ўлоння жанчыны ў параўнанні з памерамі Зямлі, тое памеры Зямлі ў параўнанні з Тагасвеццем; у Ім безліч вымярэнняў, ацэнак матэрыі, руху, святла. Лабарантка Марыя Петрачэнка пра гэты свет і той свет ніколі дасюль не задумвалася. Як і большасць нармальных здаровых людзей вакол, у мілай вёсцы і раённым Добрушы, куды ездзіла на працу.

Зроблены аборт, насуперак просьбам і рашэнню мужыка, перавярнуў душу маладзіцы. Рашучае асуджэнне свякрухі, свёкра, цвёрдая навага Арцёма на развод, страх зробленага граху даканалі Марыю Петрачэнка. Жыла ў ваду апушчанай. Удар грузавіка, бальнічная палата. У мазгах жанчынкі адбыўся пераварот у ацэнках, вымярэннях.

Пасляабортны раз'езд з мужыком, дасюль родненькім і дарагім,

абражаным бязглуздасцю абортнага рашэння жонкі, падзейнічаў надта адмоўна на спакойна-упэўненую, як і большасць беларускіх маладзічак у вёсках і раённых гарадках, завочніцу Гомельскага ўніверсітэта. Ніштo не міла дваццацігадовай. Сама не разумее, што з ёю.

Стала зачаста ўзірацца ў вакно. Хвіліну, другую, паўгадзіны; увечары доўга не засынае. На пытанні бацькоў адказвае знеахвоцьна.

Калі стала затрымліваццa на гарышчы хаты, ні з таго ні з сяго падоўгу заўзіралася ў вершаліны дрэваў блізкага лесу, маці паехала ў гарадскую школу, балазе ў маленькую прыгарадную вёску з Добруша рэгулярна хадзіў гарадскі аўтобус. Штосьці нядобрае робіцца з дачкою, да доктара ісці не хоча, травяныя настоі не п'е, да шаптухі нізашта. Можа, у школе вы, начальства, мучыце яе лішнімі нагрузкамі, крыкамі, перапытвала дырэктарку занепакоеная маці.

- Апошні час яна часта ператалкоўваецца з настаўніцай Антанінай Адамаўнай Макарэня. Пагаварыце з ёю. У школе ў Марыі Сапронаўны ўсё нармальна, - дырэктар адводзіць маму Марыі Петрачэнка ў настаўніцкую.

Дзве жанчыны размаўлялі не так доўга, але завохкалі, а пасля і заслязіліся практычна ў адначассе - Антаніна Макарэня, што не прыдавала асаблівай увагі зодуму маладой каляжанкі пасля яе абортнай дураты, госця, што позна звярнулася па параду ў школу.

- Баюся, каб не звар'яцела... Сонная стала, ніштo яе не кранае, - рэдзіць старэйшая. Паўтарае пра восьвосьны штамп у пашпарт дачкі пра развод.

Антаніна Макарэня не спяшыць запаўняць журнал "Дадатковыя заняткі з вучнямі", блізіцца да крамяной яшчэ жанчыны, выдыхае страхотнае:

- Не таго вы баіцеся, не таго. - Як мякчэй сказаць матцы пра мажлівую страту дачкі, ну як? Агучваецца згадка сама: - Яна зсамагубнічаць уздумала. - Убачыла эфект ад выказанага на жанчыну, не адступіла. Адкуль бралася доказнасць развагаў, Макарэневая не ведала. - Дзіцё яна яшчэ ў вас, дзеці і алкашы на штохочна адважваюцца ў хібны момант.

Бяда Марыі Петрачэнкі яднае абедзвюх. З вынаходлівасцю бітых сталых жанчын шукаюць выйсце. Імаверна, сапраўды Марыйка ўздумала тупое, пакуль другі раз выйдзе замуж, зацяжарае, можа сцерціся з планіды.

- У мяне ёсць адзін варыянт, не хочацца ўзгадваць, - выціскае Антаніна Макарэня пасля паспешнага абмеркавання спосабаў ужыўлення ў быццё маладайкі. - Быў нядаўна ў Добрушы мой зямляк, доктар ад медінстытута і доктар народнай медыцыны. Нешта ведае з

памежавага, заглыбіннага. Дапамагае многім. У Слуцку адной сям'і моцна памог, выручыў ад аварыі, гаспадара ад самагубства. Яны практычна здалі яму адну кватэру. Ключы і ў яго. Два ці тры дні на месяц прымае ў ёй людзей.

- Кіну ўсё, паеду да яго. - Жанчына просіць Макарэневую даць адрас, тэлефон Аляксея Бялько. - Ей-Богу паеду.

- Ехаць не трэба, ён вас не прыме. Зафанабэрнічаў ці што. Грошай не бярэ, дык нос задзірае. Наязджанцы хочуць за адзін-два прыёмы вылечыцца. Не ўдаецца - скардзяцца. Праверак ён не хоча, згадзелі. Не-не, ён вас не прыме.

Як ні парадаксальна, дарогу старэйшай Петрачэнкавай да Аляксея Бялько праторыла не аднавяскоўка Антаніна Макарэня, а новы сябра вядуна добрушскі настаўнік.

Вынік быў нечаканы. Заказныя пісьмы адначасова атрымалі Марыя і яе маці.

“Марыі Петрачэнка.

1. Пазаўчора Раман Нічыпаравіч па просьбе жонкі Антаніны Макарэня размаўляў са мною па тэлефоне, прыслаў пісьмо-просьбу. Сэнс яго зваротаў - памагчы невядомай мне настаўніцы, вызначыць яе стан, вярнуць да рэаліяў школы і вёскі.

У просьбы дальніх і пра дальніх я стараюся не ўмешвацца. Паможаш не паможаш, падзякі не будзе, крыўды займець можаш.

Тут не той каленкор. Маладая справядлівіца з розуму, дабрыні і дурасці стаіць на мяжы непапраўнага, рыўка ў страхотную для здаровага чалавека несціраннасць. Марыя не ўспрымае просьбы блізкіх, парады матулі і новай школьнай дарадчыцы Антаніны Адамаўны. Яна на мяжы самагубства, так так, самагубства, адчувае гэта маці ці не здагадваецца, няхай хутчэй асэнсовіць і засцеражэ маладую неразумніцу.

Спецыяльна адсылаю асобна заказныя пісьмы вам, матуля, і табе, Марыя. Каб ты, маладая пакрыўджанка, ведала: не цябе крыўдзіць жыццё, ты аплёўваеш вакольных, а цяпер мажэшся абгнюсіць блізкіх, школу, быццё.

Будзеш ты жывая, не будзеш жывая - існасці твой псіхаваны бзык нуль. Гэтым пісьмом расчыняю табе вочы і мазгі. Нікога губствам не ўразіш, не дапячэш, адно сябе і крэўных.

Зрухі, да жалю, бываюць у асобных псіхічна кранутых. Пасля азнаямлення дадзеным лістом з часцінкаю Тагасвецця ні адзін хворы/здаровы самаахвотна не кінуўся ў апраметную цемру. Веру, ты, Марыя, зробіш жыццедайны выбар. Цяперашнія ўдары быцця, сямейныя няўладкі не будзеш успрыймаць канцом свету.

2. Дазвольце задаць вам абедзвюм нескладанае пытанне. Для чаго нараджаецца чалавек? Заплюшчыце вочы і дайце адказ, а тады чытайце далей.

Для працы, шчасця, радасці, здабывання дабротаў, гадавання дзяцей, дапамогі блізкім і знаёмым... - усё правільна. Тым не меней яно ўсё на другім плане. На першым - чалавек нараджаецца для пакутаў. Для-а па-ку-таў! Найперш для іх. Пасля ўсведамлення такога кожны жыційны прасвет радасці ў чалавека - грошы, цікавая размова, кніга, поспех, адметная сустрэча, добры ўчынак, узнагарода - шчасце, любая праца - значная, волатная.

Чалавек павінны жыць, каб не абцяжарваць слязамі і просьбамі, дакорамі і папрокамі блізкіх: сваякоў, мужыка, дзяцей, знаёмых, супрацоўнікаў. Аксіёма. Чым болей ён пішчыць, тым болей яго шкадуюць, дабрачаць і… пагарджаюць. Не выказваюць, выгляду не падаюць, у сэрцы гэтага не маюць, а на далёкіх ступеньках падсвядомасці сядзіць патай зневажэння да нясконцага просьбітніка. Лішнія турботы нікому не трэба. Важна, каб цябе сустракалі коні і ладдзі, пешкі і афіцэры як дастойнага, вартнага, а не жабрака з працягнутай рукой.

3. На першым перакрыжаванні чалавека ацэньваюць/узважваюць найперш не за добрыя справы, гэта само сабою, не за недапушчанае зло - такое само сабою разумеецца, яно на другім плане.

Найперш ацэньваецца… Не ўсім ведаць поўны адказ, стрыжнявае не кажу. Дастаткова вам наступнага. Жыць трэба не адно для працы, здзяйсненняў, пра гэта я толькі што казаў - каб не зніклі твой род, яго мінулае, гісторыя тваёй нацыі.

Сваякі будуць гідзіцца самазабойцы, з-за недамысліка народ стане бэрсіцца ўсіх яго крэўных. Аддаліцца. Як ад карослівых. Маладзейшыя сем'і будуць смяяцца з іх, абыходзіць, гідзіцца. Чалавек абавязаны годна прайсці свой метр пакутаў, не можаш метр - сантыметр, не долееш - міліметр. Але прайдзі. Не выцерпіш удары жыцця, не адкрыеш табе запланаванае, не выканаеш - рэзка сплывеш уніз, на полкі пекла. Як алкаш, бомж. Найперш ацэньваецца Там не ўзрост і прафесія, нацыя, грошы і пасада - хада ў дабрынь, цярплівасць.

Ты ўсё, Марыйка, выканала - памагла навучыцца пісаць і лічыць школьным дзеткам? Памагла годным і слабым, добрым і злым, лепшым за цябе і горшым ад цябе? Не дапамагла, як і я, лекар добры і нядобры, шчасны і няшчасны.

Мы з табою ў гэтым плане роўныя - колькі ні стараемся, усё мала зроблена, усё не поўнае, не тое...

Ніхто не можа пайсці Дахаты, пакуль не выканае запланаванае

правідэнцыйнасцю, генамі бацькоў і ўласнымі мазгамі, горам уласным і працаю. Усе абавязаныя здзяйсняцца, працаваць, тварыць. Радаваць усіх справамі і словамі. Не думаць раней часу пра Тагасвецце.

4. Ёсць тысячы няшчаснейшых за нас. Не кідаюцца ў пролубку, пад цягнік, на стрэл ці нож, не вешаюцца. Церпяць нядолю існавання. Церпяць. Не пішчаць: ніхто мяне не разумее.

5. Падышоў да галоўнага ў дадзеным пісьме.

У чалавека няма нагі, рукі. Церпіць. Прыносіць якможнае цяпло і радасць блізкім.

У другога галоўка паехала. Дзень здаецца ноччу, не верыць дабру, адвяргае цяпло, спачуванне. Часам хочацца яму адпомсціць жывым, асабліва крэўным і прыяцелям. Аднак не рэжа блізкіх, церпіць долю/нядолю. Не кідаецца з дзявятага паверха ўніз ці пад цягнік.

Адно нецямкія шкаляры, няспелыя розумам могуць з лёгкасцю атруціцца, павесіцца, кінуцца пад грузавік, каб дапячы родным, дзяўчыне, настаўніку. Недапечанцы не асягаюць: болей ніякіх учынкаў у іх Тут не будзе, навечна сыходзяць з планеты/сузор'я.

Памерлыя і забітыя не сплываюць у нябыт, а лапавухія маладзёны-самазабойцы распыляюцца, сыходзяць дымам. Дык маладое - няразвітае, цёмнае, дурадурнотнае. Ты, Марыя, сталая і думкая, хочаш упадобіцца прыдурноццю?

6. Закон існавання жывога - не сам нарадзіўся, не сам канчаешся, чалавек не мае права пасягнуць на волю Бога, перапыніць уласнае існаванне.

7. Грэх, найвялікі грэх кожнаму, хто перапыніў ручай уласнага быцця, перарэзаў нітку. Нарадзіўся - гаруй, выконвай запланаванае і заробленае, дабрачнічай, карай ворагаў прыроды і цемру, працуй, галоўнае працуй. Прыйдзе сузгодненасць, дзеці, заможнасць, гармонія.

8. Які б не быў ты раз'адчайнены, бойся падняць нож на другога. Пусціў яму кроў - узяў яго грахі на сябе, забіў - узяў грахі яго крэўных на сваіх крэўных. Тое ж і з самазабойствам.

9. Душы смелых і найгарэтных, якія вераць у Бога, а не вераць у Тагаіснасць, перад якой планета Зямля - меней лістка на дрэве, - душы самагубцаў нават не трапяць на перакрыжаванне. Яны стануць смеццем перад палонкаю ў лёдзе: туды не могуць, сюды не пускаюць, тут няўлежна, там няможна.

Самагубцы пазайдросцяць чарвяку на распаленай патэльні. На думку некаторых рэлігійных і свецкіх вучоных зашоранцаў, зямных пустакветаў, пекла для грэшніка доўжыцца секунду (трыццаць дзевяць дзён), крайне год ці стагоддзе, але пекла для іх тысячы гадоў. Душы

самагубцаў, як забойцаў або падвучальнікаў на забойства, наогул не маюць часу, не ідуць уверх ці ўніз. Ім няма пераплаўкі. Такія нежыці парушылі волю Бога. Паўтараюся, бо патрэбна паўтарыцца. Рэзка выказваюся, не магу мякчыць.

10. Баіцца самагубства любое існае на ўсіх паралелях. Так запісана на скрыжалях жыцця, урублена ў дрэва жыцця. Свядома/несвядома гэты закон шануюць усе. Думайце і бойцеся, людцы. Пакуты і радасці зямныя - мільярдная доля ў параўнанні з Тагаіснымі радасцямі і пакутамі.

11. У цябе, Марыйка, так склалася, пакуль няма дзяцей, кінуў мужык. Ну і што - канец свету, плакаць, псіхаваць? Разам з птушкамі ляцець у вырай?

Час табе супакоіцца, нікому не навязвацца. Адразу ўсё ўсталюецца. Знойдзецца чалавек для цела і душы.

12. Адумайся. Пішчы не пра боль душы тваёй. Абмазгуй становішча блізкіх пасля твайго выкідону, ускрыку, самагубства. Сябе не шкада, іх пашкадуй, сталых і маладых.

13. Самагубцаў гідзяцца родзічы, ніколі іх не ўспамінаюць, саромеюцца. Сваякоў самагубцаў не бяруць за жонку, у прымакі, у ніводную прыстойную сям'ю; іх доўга пераць няшчасці, яны змалку не засцярогвалі дзіця ад звар'яцельства зыходу, не вучылі мудрасці продкаў, расцілі як жывёлу - яда, жыллё, вопратка.

14. Самагубства не абараняе ніводная рэлігія.

15. У храмах такіх не адпяваюць.

16. На кладах самагубцаў не хаваюць. За тысячы гадоў існавання ўсе нацыі планеты засвоілі: хаця цела чалавека на кладах, яго непрыкаяная душа паміж небам і зямлёй, яна самасілам цягне да сябе з'яўных сярод помнікаў родзічаў памерлых, уцягвае ў магілы. Нездарма самазагубцаў, іхняга радства інстынктыўна асцерагаюцца нармальныя.

Палічыў абавязкам напісаць пра што вы здагадваліся і не здагадваліся, пра што не задумваліся. Выратуе вас дадзенае пісьмо, выратуе. Галовы ў вас і вашай мамы, мяркуючы па пераказанаму, мудрыя, а сэрцы добрыя.

Будзь, Марыйка, мужнай. Бойся заранняга зыходу ў неаб'ёмнасць, яе ў цябе Там не будзе, нічога не стане, адны стогны, стогны, стогны, і просьбы да жывых.

З паважэннем - А.Б.

P.S. Як-небудзь пасля выкажу поўнасцю за што найлепш ацэньваецца чалавек на першым перакрыжаванні. Учытвайцеся ў радкі, думайце. Другім уведы пісьма перадавайце. Бойцеся парушыць законы

сусветнасці. А.Б.”

Ліст страсянуў лабарантку. Прыляцела да маці, знячэўна ўбачыла такі ж у яе на стале. Сходу ацаніла стан дарагой матулі.

- Яшчэ адзін экстрасэнс знайшоўся, - словы ў маладухі вырваліся хуткія, неабдуманыя. Асуджае Аляксея Бялько і зварачанцаў да яго.

- Не глядзі хто сказаў, думай што сказаў. - Маці ўглядаецца ў дачку, асцярожна ўкладвае пісьмо ў гарсэцік. - Баяўся разумны доктар, атрымаеш яго, вось так хуценька ацэніш, як цяпер, не падумаеш, выкінеш. Таму і мне прыслаў.

Маці выслухоўвае пра сувязь Антаніны Макарэні і Рамана Кавалёва з слуцкім доктарам, прызнаецца пра нядаўні візіт у школу, размову там з Антанінай Макарэняй.

- Колькі ў нашай вёсцы самагубцаў? - з ціхенькім прыдыхам узіраецца ў малодшую дачку сялянка. Адказу не чуе. - А ў суседніх? Ніводнага. У Добрушы да Чарнобыльства таксама ні аднаго.

Жанчыны абмяркоўваюць дэталі рэзкага пісьма, выдзяляюць асобныя. Народ беларускі баіцца граху. Адвечная, затысячагадовая традыцыя не дазваляе славяніну, як і большасці народаў свету, хаваць самагубца на кладах. Самагубны адчаюга не проста труновіць сябе - навечна ганьбіць крэўных, брудніць сваякоў.

Большасць напісанага для іх навізна. Хочуць не згадзіцца, пакрытыкаваць - не могуць. Вострасць ведаў пранізвае істоты абедзвюх. Жылі працавітыя добра, ясна, чыста - і ў цемрыве. Адчуваная ўсім жывым ісціна ў жанчын не была так цвёрда выфармуляванай.

- Дачушка, хто ў нашай вёсцы і суседніх памёр пазалетась? Не, і я не памятаю. - Хрысціцца на абразы, уздыхае. - А цябе будуць памятаць. Усе. І асуджаць. Праклінацьмуць. Як усіх самазабойных вырадкаў.

Малодшая паспешна хрысціцца, абедзве застылі.

- Мне табе цяжка сёння гаварыць. Сцёпку з быхаўскіх Абідавічаў павезлі на крэмацыю ў Мінск, на сваіх кладах вяскоўцы не далі пахаваць, і ў Быхаве не дазволілі. Ва ўзбочнай канаве бацькі не захацелі.

Даўняя, усталяванае ў вёсцы традыцыя імгненіць у сэрцах дачкі і маці, трывалей асялілася ў мазгах. Не заўважаюць, што ўголас паўтараюць вычытанае з ліста.

- Пра такое не падумала, - упершыню за доўгі цяжкі месяц перамоўчванняў Марыя Петрачэнка падтульваецца да маці, вінавата вышэптвае словы падзякі і выбачэнняў. - У вырай не палячу.

- Ведаю, дачушка, ты ў мяне разумная. Ні ў які вырай заранна не паляціш.

Дачка прысаджваецца на ўслон, разам з маці хуценька пачынае лушчыць перасохлыя струкі фасолі. Жанкі з увішнай суладнасцю заканчваюць адну з чарговых восеньскіх спраў, прыязнічаюць у словах, усмешках, рухах. Пра крок у Тагасвецце не думаюць, як і большасць здаровых людзей. Ведаюць, самазабойства - грэх апраметны, яго здзяйсняюць толькі ненармальныя.

# *Уладзімір Васько*

## ВОДПАВЕДЗЬ
### Апавяданне

Скрундзь, калі не лічыць ката, жыве на хутары адзін. Яму ўжо пяцьдзесят два гады і варта было б прыдбаць жонку, якая варыла б яму ўсялякія стравы, мыла б кашулі і бялізну і разам спала б на адным ложку. Але дзе яе ўзяць? У бліжэйшых вёсках прыдатнай для сябе адзінокай жанчыны ён не знайшоў. У горадзе іх, канешне, хапае. Ці не пахіліцца ў райцэнтр? У Лідзе ён некалі працаваў і многіх ведае, а нядаўна, знаходзячыся на рынку і сустрэўшыся там са сваім былым напарнікам па рабоце, дазнаўся ад яго, што ў былым кінатэатры "Кастрычнік" па суботах праходзяць вечары для тых, каму ўжо за трыццаць.

У адзін з выхадных Скрундзь і падаўся ў горад. Пакуль звечарэла пахадзіў па вуліцах, па крамах, а калі ў вокнах "Кастрычніка" засвяціліся агні, пакіраваў туды. Перад гэтым, для храбрасці, кульнуў стаграмовую бутэлечку бальзама, узбадзёрыўся, павесялеў. І як толькі ўвайшоў ў танцавальную залу, адразу як навічок звярнуў на сябе ўвагу жанчын. А былі тут усялякія: і тыя, каму ўжо каля сарака, і тыя, каму ўжо за семдзесят. Скрундзь пэўны час стаяў і аглядаў публіку, прыкідваючы каго запрасіць на танец. Яму кінулася ў вочы адна самая маладая і самая прыгожая брунетка са ўзбітай, як капа сена, прычоскай. Яна таксама шчодра залыпала ў яго бок іскрыстымі вачыма.

Зайграла музыка. Ён ляўшою расправіў вусы і цераз усю залу пакіраваў да яе. А чаго там губляцца? Няхай бачаць, што ён, Скрундзь,

не з труслівага дзесятка. Пад час танцу ён без ўсялякай падрыхтоўкі і запытаў:

- Як вас зваць?

- Таня. А вас?

- Скрундзь. Ай, не. Скрундзь - гэта прозвішча. А зваць мяне Мацей.

Пасля танцу Мацей прывёў Таню на тое самае месца, дзе яна стаяла. І не адыходзіўся ад яе. Ды і яна сваімі далікатнымі цёплымі размовамі трымала яго каля сябе, як на прывязі. Старыя дзевы і ўдовы зайздросцілі Тані. Як яна з першага вечара заваявала такога элегантнага кавалера? Па заканчэнні вечара Таня і Скрундзь разам выйшлі на вуліцу.

- Я жыву на хутары, - прызнаўся ён. - Аўтобус у наш бок ужо не пойдзе. А мне няма дзе начаваць…

- Бедненькі… Не гаруй, пераначуеш у мяне. Толькі спаць будзем на розных ложках.

- Воля твая.

Падняліся на чацвёрты паверх дома, які стаяў не так і далёка ад "Кастрычніка". У кватэры не тое, што быў беспарадак, тут проста цары́ў вэрхал. Па ложках, па крэслах, на падлозе валяліся нейкія старыя лахманы, абутак.

- Гэта не мая кватэра, - паспяшыла апраўдацца Таня. - Тут жыла мая сяброўка, але яе пасадзілі нядаўна ў турму. Перад ад'ездам яна аддала мне ключы і папрасіла назіраць за яе дабром. Прабач, я зараз сёе-тое прыбяру.

Яна хутка пасхоплівала адусюль заношанае адзенне, абутак і перанесла ўсё ў суседні пакой.

- Як ты глядзіш на тое, калі мы па кілішку вып'ем чаго-небудзь мацнейшага за чай? - запытаў Мацей.

- Станоўча, - адказала Таня.

- Тады я збегаю ў "Ластаўку" і куплю бутэльку "чарніла". А закуска ёсць?

- Вазьмі і закускі. Хоць ліверкі.

У магазіне ён доўга не бавіўся і даволі хутка вярнуўся назад. І калі на стол паставіў бутэльку 0,7 "чарніла", Таня павесялела. А тут яшчэ поруч паклаў абадок ліверкі і паўбаханкі хлеба. Што яшчэ для пачатку трэба? Чокнуліся, прыгубілі смярдзючую атруту. Гамана ажывілася. Мацей у роспыты асабліва не лез: не хацеў быць назойлівым. Так, размаўлялі абы пра што ды ўсміхаліся адзін аднаму. Пасля ляглі спаць на розных ложках. Мацей, паварушыўшыся, не гучна кашлянуў у жменю, загаварыў:

- А можа перайсці ўсё-такі да цябе?

- Зараз. Толькі памкніся - адразу выстаўлю за дзверы, як міленькага.

Ён замаўчаў і неўзабаве заснуў. А раніцай прапанаваў ёй паехаць на хутар і там застацца жыць разам з ім. Гэта яе заінтрыгавала. Але сваю згоду яна выказала не адразу.

- А як жа гэтае дабро? - прамовіла Таня. - Яго могуць зладзеі раскрасці. Што я тады скажу сяброўцы?

- Каму гэтыя лахманы патрэбныя. Іх ні адзін чалавек задарам не возьме. Ды і мы калі-нікалі будзем наведвацца сюды.

Праходзячы каля "Еўраопта", ён папрасіў Таню пачакаць, а сам забег у магазін, каб купіць пяць буханак хлеба і кавалак сала.

- У мяне дома ёсць сушаныя грыбы, наварым супу, заскварым салам,- прымовіў ён, калі выйшаў на вуліцу. - Во будзе смаката!

Дома Мацей, сапраўды, не ўпаў тварам у гразь. Уключыў газавую плітку, паставіў на яе немалы чыгун з вадой, укінуў некалькі жменяў грыбоў…

- А цяпер ідзем, я пакажу табе свае ўладанні, - звярнуўся ён да Тані. - Грыбы няхай варацца.

Праз другія, супрацьлеглыя веснічкі яны выйшлі з двара на прастор.

- Вось, бачыш, возера. У ім рыба проста кішыць. А з трох бакоў яго акаймоўвае лес. У лесе водзяцца дзікія вепрукі, ласі, казулі, вавёркі, куніцы - усякая дзічына. Вось каб дзе ружжо раздабыць. Восенню я бы застрэліў вепрука. На ўсю зіму хапіла б сала і мяса.

- А дзе ты тое ружжо дастанеш? Яно ж не валяецца пад плотам.

- А ты ўкрадзі ў каго-небудзь.

- Зараз. Я ўжо тры гады сядзела за кражу. Хочаш, каб яшчэ на тры гады пасадзілі.

Ішла другая палавіна красавіка. Дзень быў цёплы і сонечны. Нераставала рыба. На вярбе распушыліся жаўтавата-белыя коцікі.

- Мы рыбу ловім разам з кошкаю, - пахваліўся Мацей. - Хочаш я табе пакажу, як яна ловіць?

- Давай.

- Хомця, Хомця, Хомця! Ідзі сюды, - паклікаў Мацей.

І кошка тут жа прыбегла. Каля берага, выціскаючы ікру, церліся аб мінулагоднюю азёрную траву і пясок плоткі.

- А ну, Хомця, цап-царап яе.

І кошка, як на мыш, накінулася на адну з плотак. Злавіла і ў зубах прынесла да Мацея, паклала каля яго ног. Дзесяць рыбін Мацей забірае сабе, астатнія дазваляе есці Хомці.

- Дык у цябе ж тут рай! - захаплялася наваколлем Таня.

- Лепш, чым рай,- задаволена адказаў Мацей.

Яна стаяла і любавалася лесам, возерам, удзячнымі вачыма глядзела на Мацея, пакуль той не прамовіў:

- Пайшлі, ужо нейдзе суп закіпеў. Хомця і адна справіцца з рыбай.

У чыгунку, і сапраўды, вуркатала. Мацей зрабіў меншы агеньчык, каб не перла варыва цераз край, і яны зноў выйшлі на двор. Гаспадар паказваў Тані хлявы, свіран, дрывотню, садок. Усё ёй тут было да спадобы. І, здавалася, Мацей неблагі характарам. Так здатна пра ўсё апавядае, усміхаецца, хоць да раны прыкладвай.

- А сабаку не трымаеш?

- Я не люблю сабак.

- Пры лесе не перашкодзіла б мець. Ад зладзеяў абарона.

- От, разумных сабак зараз няма, а трымаць якога дурня, каб усю ноч на месяц брахаў, не хачу.

Калі грыбны суп быў гатовы, Мацей засквярыў яго дробнымі кавалачкамі сала, падсмажанага разам з цыбуляй, даў крыху астыць і наліў у дзве міскі - адну падсунуў да Тані, другую да сябе. Духмяны пах стравы напоўніў веранду, залу, разлiўся па двары. Як толькі Таня высербала суп, задаволеная, прамовіла:

- А ты падобны на Сталіна. Такія ж вусы, твар.

- Многія так кажуць. А ў Ваверцы і Рулевічах некаторыя пляткараць, што я сын Васіля Сталіна, бо той служыў у Лідзе палкоўнікам на аэрадроме. Але кажуць, што я падобны не на Васю, а на яго бацьку Іосіфа. Аднак, як я мог быць сынам Васіля, калі мяне падчас яго службы ў Лідзе на свеце яшчэ не было. Глупства. Не вер гэтаму.

- Але ты, сапраўды, падобны на старога Сталіна.

- Мала што.

Пасля абеду яны зноў прагуляліся вакол возера, пастаялі пад старым дубам.

… Таня засталася жыць у Мацея.

У цэлым гэты год і два наступныя склаліся для іх няблага. Яны за лета і восень на ягадах і грыбах зараблялі добрыя грошы, якіх хапіла да наступнага ўраджаю дароў лесу. Да таго ж было нямала садавіны, гародніны, рыба не зводзілася ні на дзень. А вось чацвёрты год выпаў для іх няўдачным. Ураджай на ягады і грыбы аказаўся слабым - і грошай у іх хапіла толькі да Новага года.

Мацей пайшоў у кантору СВК "Світанак", каб убачыць старшыню гаспадаркі ці заатэхніка і папрасіцца ў іх прыняць яго вартаўніком на ферму, бо цяжкай работы ён выконваць не мог: перашка-

джала грыжа. Але заатэхнік, які трапіўся яму на вочы, сказаў, што месца вартаўніка занятае, а вось вакансія даяркі ёсць, і што калі твая Таня хоча працаваць даяркай, дык няхай хоць заўтра выходзіць на работу.

Мацей угаварыў Таню, і яна, хоць і буркаючы, пайшла на ферму. А назаўтра забіла ў хамут:

- Не пайду я больш туды. Там смярдзіць гноем, каровы мукаюць, быкі равуць. Я іх баюся.

- Нікуды не дзенешся. Калі хочаш жыць, трэба працаваць.

- Я сказала не пайду! І ўсё!

- Лайдачка! На маю шыю ўзабралася?! Хуценька збірайся - і ў дарогу.

- І не думаю!

- Ах, так?!

Ён расперазаў дзягу, ухапіў Таню леваю рукою за каўнер, а праваю з дзягай давай сцягаць па плячах, па мяккім месцы, па нагах. І пры кожным удары паўтараў:

- Ідзі на ферму! Ідзі на ферму! Ідзі на ферму!

А яна адказвала:

- Не пайду! Не пайду!

І так яны тузаліся з паўгадзіны.

Пасля Таня неяк выкруцілася з яго рук, адбеглася да парога і моцна выгукнула:

- Цьфу на цябе і на твой хутар, Мацюша ты недапечаны! Я паеду ў Ліду і больш сюды і носа не пакажу!...

## ЗАВІТОК
### Апавяданне

Жаўтавата-чырвонае кляновае лісце ў перамежку з ліпавым, зблытаннымі касякамі і ў адзіночку ападала з дрэў, якія растуць уздоўж вуліцы Ажэшкі. Не халодны яшчэ і не вельмі рэзкі вераснёўскі вецер разганяў яго ва ўсе бакі, даносячы да сцен педагагічнага ўніверсітэта.

Каля вялізнага акна ў прыгожай салатавай сукенцы, з кароткімі рукавамі, сядзіць студэнтка Ірына Дуліна. Яна не запісвае лекцыі па гісторыі старажытнай Грэцыі прафесара Чыжыка, а ўсё кідае позіркі то на мільгаючае лісце, то на аўдыторыю, у якой сціснана сядзяць яе аднакурснікі. Прычоска ў Дулінай, як перакаці-поле, і формай і колерам. Іншай да яе дробнага бялявага тварыка немагчыма і прыду-

маць. Паводзіны Ірыны нагадваюць паводзіны вавёркі: такія ж хуткія рухі, так жа дапытліва стрыкае яна сваімі імгненнымі позіркамі. А вавёрка, паглядзіце, хіба не так: убачыць унізе пад дрэвам грыбніка, абстраляе, абстраляе яго сваімі маленькімі пільнымі вачанятамі і, скачучы з галінкі на галінку, аглядаючыся, уцякае прэч, хоць грыбнік і не збіраецца яе даганяць.

Ірына разам з маці, якая не ўжылася ў Барнавуле са сваім мужам, прыехалі ў Гродна. Яны абмяняліся кватэрамі. А тут як раз на трэцім курсе філфака знайшлося вольнае месца: выключылі аднаго студэнта за непаспяховасць, бясконцыя пропускі заняткаў, прыхільнасць да алкаголю. У групе (на рускім аддзяленні) яе добра прынялі хлопцы і дзяўчаты за шчыры характар, знешні выгляд, уменне падтрымліваць размову. А Дубок, лірычнага складу хлопец, умеру танклявы, адразу і паклаў на яе вока.

Аднойчы ў актавай зале ўніверсітэта выступала з канцэртам нейкая вядомая маскоўская "зорка". Памяшканне было запоўнена студэнтамі, выкладчыкамі. Некаторыя нават стаялі на лаўках, пастаўленых ззаду за крэсламі. Але і на іх не было месца. Толькі каля Паўла Дубка яшчэ можна было ўціснуцца. Ірына, праходзячы збоч, спынілася насупраць і папрасілася дапамагчы ёй узабрацца на лаўку. Дубок узяў яе за рахманую маленькую ручку і пацягнуў на сябе. Ірына спрытна ўскочыла на лаўку і павярнулася тварам да сцэны. Узрушаныя блізкасцю яны стаялі, шчыльна сціснутыя першакурснікамі, і не вельмі захапляліся канцэртам. Голас спявачкі, і праўда, быў слабаваты, глухаваты, не выразны, што цяжка ўдавалася разабраць і некаторыя словы песні. Яна брала публіку сваімі выкрунтасамі і аголенымі нагамі.

Пасля канцэрту ўсе хлынулі ў раздзявалку, і Дубок, які меў намер праводзіць Ірыну дадому, згубіў яе недзе ў натоўпе. Затое на наступны дзень ён прапанаваў ёй схадзіць разам у кіно. Яна пагадзілася. Дэманстраваўся індыйскі фільм, у якім даволі здатна танцавалі і спявалі кудлаты хлопец і прыгожая, з падведзенымі бровамі, дзяўчына. Артыст, напэўна, уразіў Ірыну, бо пераходзячы цераз мост над Нёманам, яна без усялякае на тое прычыны, паварушыла слых Дубка:

- Мне падабаюцца хлопцы, у якіх на лоб спадае пакручасты завіток, як у гэтага індыйскага артыста.

- Але ж у мяне завітка няма, - расчаравана сказаў Павел, - у мяне валасы прамыя…

Яна прамаўчала і толькі скупа ўсміхнулася. Размова міжвольна пераключылася на новую тэму.

- Бачыш, - прамовіў Дубок, - вунь Каложская царква, а за ёю новы парк. Мы туды з хлопцамі ходзім рыхтавацца да летняй сесіі, загараем.

- Я ні разу там не была, але адсюль мне падаецца, што нічога цікавага там няма.

- Для мяне вельмі прывабная мясціна. Ты проста не можаш яшчэ адыйсці ад свайго Барнавула.

Яна насмешліва глянула на хлопца і выцяла:

- Магчыма і так.

Ён узяў яе за руку і не адпускаў аж пакуль не дайшлі да самага яе дома. Каля пад'езда доўга не стаялі: чаго там, заўтра ўсё роўна ўдасца ўбачыцца.

Аднойчы на вялікім перапынку Дубок, ведаючы ў сабе задаткі мастака, узяў кавалачак крэйды і пачаў маляваць на дошцы партрэты сваіх аднакурснікаў. Першай намаляваў Ірыну.

- Хто? - пытае, павярнуўшыся да аудыторыі.

- Дуліна!!!

Падабенства было бяспрэчным.

Ірыну ўсцешыла, што Павел пачаў менавіта з яе, ды і на партрэце яна аказалася прыгажэйшай, чым наяве.

Яшчэ калі-нікалі яны хадзілі разам у кіно, гулялі па горадзе.

Аднойчы Дуліна прыйшла на танцы, якія былі арганізаваны суботнім вечарам ва ўніверсітэце, з незнаёмым хлопцам. Падвяла яго да групы аднакурснікаў і кажа:

- Няхай пабудзе з вамі. Ваня яго зваць. Я на хвілінку адлучуся.

- Няхай сабе…

Студэнты паглядзелі на яго, як на іншароднае цела, і не сталі ўступаць у размову. Ён таксама маўчаў. Дубок паспрабаваў загаварыць - усё ж такі сапернік:

- Ну, як падабаюцца табе нашы дзяўчаты?

- Так сабе…

- Але ж у Ірыну, мусіць, закахаўся?

- Не ведаю… Ходзім.

Выгляд у Вані быў пакамечаны. Аднак на плоскі лоб звісала вузкая, пакручастая пасма валасоў, завіток, які, напэўна, і прывабіў Дуліну.

Неўзабаве прыйшла і яна сама, спрытна ўзяла Ваньку пад руку і ганарліва адвяла ў супрацьлеглы бок залы.

- Ну што, павесіла бараду? - кпілі сябры над Дубком.

- Яшчэ якую! Вострым клінам, як у старога казаха.

- Нічога. Перажывеш…

Усё ж апошняя кропка ў іх адносінах яшчэ не была пастаўлена. І вось на чарговай лекцыі, калі пажылы выкладчык рускай літаратуры Васілік зачытваў доўгую цытату з Бялінскага, Ірына крадком цераз Кацю, якая сядзела на адным радзе з Дубком, перадала запіску. Дубок разгарнуў лісцік і прачытаў: "Павел, ты самы добры, самы разумны, самы мілы ў групе, але я ніколі не назаву цябе каханым. Іра".

Дубок паглядзеў на Дуліну, пакруціў пальцам каля правай скроні. Пасля ўзяў аўтаручку, унізе пад яе тэкстам напісаў "Дура" і перадаў паперку праз суседку…

Гады праляцелі, як журавы ў небе. Раз'ехаліся выпускнікі па месцах сваёй працы. Дубка накіравалі ў Ліду, Дуліна засталася ў Гродне: на пятым курсе яна выйшла замуж за Ваньку, гэта і сталася прычынай, каб не адпраўляць яе ў вёску, ці райцэнтр.

… Неяк на пачатку восені Дуліна прыехала ў Ліду, заглянула ў школу, у якой Дубок працаваў дырэктарам. Ціха пастукала ў дзверы, увайшла ў яго кабінет, сціпла прывіталася.

- А, Іра, - Павел Іванавіч падняўся са свайго месца. - Як даўно мы з табой не бачыліся!

- Больш за дзесяць гадоў…

- Змянілася ты, папаўнела. Стала дароднай жанчынай. Ну як жыццё, сямейнае шчасце?

- Я самы няшчасны чалавек у свеце.

- Чаго так?

- Не клеіцца ў мяне жыццё з Ванькам. Ён храпе па начах, ад яго пастаянна патыхае перагарам. У нас няма нічога агульнага.

- Вось як!.. Ну а завіток на яго лбе пакуль трымаецца?

- Дзе там!.. Ванька ўвесь аблысеў. І толькі на самым нізе патыліцы застаўся нейкі сівы жмук.

- Шкада… А такі быў хлопец!..

- Не смейся нада мною.

- Я не смяюся. Мне, сапраўды, шкада твайго мужа, што так перайначыўся.

- Бог адабраў у мяне на той час розум.

- Усе мы ў маладосці памыляемся. Не ты першая, не ты апошняя.

- Разводзься са сваёй жонкай, а я развядуся з Ванькам, і мы зноў злучым свае лёсы.

- Ну, гэта ўжо залішне. У мяне растуць дзеці - сын і дачка, я кахаю сваю жонку і вельмі задаволены ёю. Мы шчаслівыя, і ў ніякіх пераменах не маем патрэбы. А ці помніш, якую тлустую кропку ты паставіла на нашых адносінах ва ўніверсітэце? Я не забыў пра гэта…

- Прабач…

- Але яшчэ і да тае кропкі я закахаўся ў першакурсніцу Зіну Весялоўскую. Аднойчы мы пайшлі з ёю ў поле, прагульваліся каля жыта, у якім толькі-толькі з'явіліся першыя васількі. Яна нарвала іх, спляла вянок і надзела сабе на галаву. Стала яшчэ больш прыгажэйшай. А яе васільковыя вочы засвяціліся такімі добрымі, чыстымі агеньчыкамі, што я аж уздрыгануўся. Русавалосы цуд! Я тады падумаў: "Вось каб яна напісала такую запіску, як ты, то я, напэўна, не вытрымаў бы". Два гады чакаў я, пакуль яна не скончыць універсітэт. Ні да кога не заляцаўся. Пасля мы пажаніліся і сталі самымі шчаслівымі людзьмі. Яна зараз на ўроку ў гэтай школе. Хочаш, паклічу яе? Паглядзіш…

- Не трэба. Я не раз бачыла вас ва ўніверсітэце і ў горадзе. Раўнавала.

- Няпраўда. Я не прыкмячаў гэтага…

Дубок правёў Дуліну на вуліцу, пастаялі крыху, пагаманілі.

Дрэвы былі яшчэ зялёнымі, але асобныя лісцікі пажаўцелі і ціха ападалі долу, аздабляючы прышкольны двор. Яны напомнілі Паўлу тую студэнцкую восень, калі Ірына сядзела каля акна і любавалася мільгаўшым у паветры лісцем.

- Няшчасная я, - у каторы раз паўтарыла Дуліна.

Дубок яе супакоіў:

- Я прачытаў у "Медыцынскай газеце" артыкул, у якім распавядалася пра шырокае апытванне псіхолагамі людзей адносна сямейнага жыцця, дык высветлілася, што з тысячы чалавек толькі адзін шчаслівы. Так што ты не адзінокая ў гэтым родзе…



# *Леанід Лаўрэш*

*Леанід Лявонцьевіч Лаўрэш (нар. 1 сакавіка 1963, Ліда) - беларускі краязнавец, незалежны даследчык. Скончыў электратэхнічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1985). Па адукацыі інжынер. Стваральнік гістарычна-краязнаўчага сайта pawet.net. Жыве ў Лідзе. Жанаты, мае сына. Аўтар 6 кніг і больш за 100 артыкулаў. Удзельнік творчага калектыву ГрДУ імя Я. Купалы, які па заданні Інстытута гісторыі НАНБ выконвае навукова-даследчую работу па канфесійнай гісторыі Беларусі XIX ст.*

## GAUDEAMUS IGITUR

Гэтыя гісторыі каштоўныя тым, што ўсё ў іх, з першага да апошняга слова, - праўда. Калі ж аўтар нешта выдумаў, дык прайшло ўжо столькі часу, што аспрэчыць яго ўжо няма каму.

У школе ў мяне не было праблем па ўсіх прадметах акрамя моваў. У прынцыпе, у эпоху кампутараў мая прыроджаная непісьменнасць не пераскаджае, але ў маім жыцці быў вырашальны момант, калі лёс мой літаральна вісеў на тонкай нітачцы.

У 1980 г. на ўступных экзаменах у інстытут без вялікіх праблем здаў фізіку разам з дзвюмя матэматыкамі пасля чаго з хваляваннем чакаў сачынення. Экзамен праводзіўся ў адной з вялікіх, паточных аўдыторый галоўнага корпуса нашай Політэхнікі. Я прыйшоў трохі раней, стаў каля ўвахода і пачаў чакаць. У аўдыторыю заходзілі ўжо добра знаёмыя пасля трох экзаменаў хлопцы, прывіталіся, звалі з сабой і сядалі. Я чакаў. Яна прыйшла адной з апошніх. Я ўзяў яе за руку, і мы разам увайшлі ў аўдыторыю. Экзамен цягнуўся доўга. Я старанна выводзіў літары, словаў больш складаных за "лес", "стол", "мір" я не пісаў, бо ведаў, што нараблю памылак. Вынік маёй працы мог стаць гонарам алігафрэна, але ад будучых інжынераў не патрабавалася пісаць прыгожа - галоўнае, каб без памылак. Яна праверыла маю працу і знайшла ў ёй, калі не памылюся, чатыры памылкі! Я атрымаў

адзнаку "добра" і назаўтра пачуў ад дэкана, што магу сябе лічыць студэнтам энергетычнага факультэта. А што яна? Нармальна. На другім курсе выйшла замуж і, калі не памыляюся, хутка з'ехала ў Ізраіль.

Напісаць нешта без памылак для мяне заўжды было невыканальнай задачай. Верагодна, некалькі сваіх кніжак я напісаў толькі з-за прыроджанай прыхільнасці да абсурду.

* * *

На 2-ім курсе я жыў у адным пакоі з прадстаўніком адной з азіяцкіх дзяржаў. Дык ён быў упэўнены што зямля плоская ...

Мы нейк на сцяну павесілі карту свету. Бачу "сукамернік" - водзіць рукой у раёне, Антарктыды, шукае нешта. Пытаю:

- Што страціў у пінгвінаў?

Адказвае:

- Радзіму шукаю.

- Ты, братка, трохі не там шукаеш.

- А дзе, дзе, дзе тут у вас Індыя? - запытвае ён.

- Ага - думаю, ведае, што з Індыяй "цераз гару" жыве.

- Вось - паказваю - табе Індыя, трохі вышэй за Антарктыду.

Ён абвёў пальцам па контуру Індыі і знайшоў сваю радзіму. Усмешка шчасця ахінула засіераны твар выпускніка лепшай школы сваёй радзімы, будучага інжынера (ці нават магістра?).

А я адчуў сябе Руматам Эсторскім братоў Стругацкіх - прагрэсарам з двума мячамі, каштоўным каменем-тэлекамерай у залатым абручы на галаве і вырашыў пагаварыць з прадстаўніком марксісцкіх народаў на нестандартныя тэмы.

Пытаю:

- Слухай Махабат-хан, а наша Зямля, у прынцыпе, якой формы? - і пры гэтым, зразумела, рукамі малюю ў паветры сферу.

- Круглая - як па пісаным адказвае лепшы выпускнік лепшай школы.

“О, - думаю, - разумны, так проста яго не возьмеш.” - І таму са здзіўленнем пытаюся:

- Як жа гэта можа быць? - ізноў малюю ў паветры сферу і дадаю, - вось тут угары дык ўсё зразумела, тут камфортна жыць, верагодна мы тут і жывём, але тут унізе ... упадзеш жа з Зямлі, балюча будзе!

Яго твар ахінула тысячагадовая мудрасць усходу, ён пагардліва паглядзеў на мяне і адказаў:

- Малады чалавек! (Яму было пад 30, супраць маіх 19 - вялікая

розніца). Яна не такая круглая, як ты тут рукамі махаеш, а яна вось такая круглая, - і паказвае на банку кансерваў “Мінтай” за 50 капеек, якім мы сёння вячэралі.

- Агааа! - кажу, я ўсё зразумеў! Канец маім цяжкім сумневам, бо я як раз трэці тыдзень б'юся над гэтай праблемай і не знаходжу рашэння, сапраўды - з Зямлі, якая як банка кансерваў, не ўпадзеш! Брава! Але, - кажу, - Вось задача, а на чым жа гэта "банка" трымаецца ... Я, аднекуль чуў, што на 3-х сланах, а яны на кіце, а кіт плавае па моры?

І гляджу на яго з надзеяй - ну "каханы", не падвядзі!

- ... дрэнна ж вас вучаць ў вашым СССР. Сланы - так раней думалі. А як там цяпер гэта па-навуцы, - кажа - я забыўся, ды і гэта надта складана для вас.

Размова закончылася, "сукамернік" сышоў на свой ложак слухаць індыйскую музыку, а я яшчэ доўга сядзеў з адкрытым ротам і думаў пра мудрасць нашага "роднага палітбюро", якое вырашыла экспартаваць камунізм у гэтую цудоўную краіну…

* * *

Здавалася, што пасля года індыйскай музыкі і іншых шматлікіх складанасцяў, якія ўзнікалі пры кантактах з усходам, напужаць мяне ўжо няма чым. Але, калі на наступны год я засяліўся з Ніксанам, афрыканцам з ЮАР, разумным і па-еўрапеўску адукаваным чалавекам, з'явілася праблема іншага кшталту. З першага дня ягоны "Панасонік" пераставаў граць джаз толькі тады, калі перадаваліся навіны BBC на англійскай мове (на маё пытанне, чаму ж ты, марксіст, не слухаеш Маскоўскае радыё па-англійску, ён адказаў, што прызвычаіўся да інфармацыі, а прапаганда яму не патрэбна). Да гэтага, я адносна станоўча ставіўся да джазу, але джаз цэлы дзень, джаз пад вышэйшую матэматыку, джаз пад тэарэтычныя асновы электратэхнікі - гэта было занадта. І таму амаль што адразу гэта музыка пачала выклікаць у мяне тыя ж пачуцці, што і індыйская - хацелася выкінуць у вакно магнітафон разам з гаспадаром. Потым зразумеў - у Ніксана часцеў граў добры стары свінг - Глен Мілер, Каўнт Бэйсі, Дюк Элінгтан, Луі Армстранг, з больш сучаснага джаза - Майлз Дэвіс ды, здаецца, Джон Колтрэйн. І неяк незаўважна атрымалася, што праз тры тыдні джаз спярша перастаў выклікаць адмоўную рэакцыю, як быццам перастаў быць чутным, а яшчэ праз тры тыдні я пачаў пытацца: "А хто гэта грае?", ці прапаноўваць: "А давай уключым тое, што грала пазаўчора", і сам пачаў свінгаваць у душы. Потым пачаў капіяваць джазавую музыку

на свае касеты. Супольны, адзін з лепшых у свеце джазавых альбомаў "The Geat Summit" Элінгтана і Армстранга я першы раз пачуў якраз у гэтым пакоі.

Праз 20 гадоў, калі яшчэ толькі з'явілася "Лідскае радыё" і яго супрацоўнікі спрабавалі нешта зрабіць, я з маёй дыкцыяй, якая можа спаборнічаць толькі з маёй пісьменнасцю, нават правёў невялікі цыкл джазавых перадач. Люблю рабіць абсурдныя рэчы.

* * *

Пісаць пра сваё студэнцкае жыццё?

Яно ў мяне было нейкае двухаблічнае, як той Янус. На два інтэрнаты. Памятаю святкаванне дня нараджэння, на якім немец-студэнт-палітэканом стаў дапытвацца: хто я такі?? Бо мы былі даўно знаёмыя, я стала знаходжуся ў ягоным інтэрнаце па вуліцы Свердлава, піва разам п'ем, але ўсё ж нейкі я не зусім свой. Пытаецца:

- Ты гісторык? (Гісторыкаў было шмат і схавацца сярод іх было нескладана).

Гэта цяпер я адказаў бы паважна, у стылі Воланда: "Так, я Гісторык... Сёння на Патрыяршых будзе цікавая гісторыя...", але тады я быў малады і сумленны.

- Не, - кажу, - не гісторык.

- Філосаф? (Філосафаў было значна менш, пілі яны больш і таму іх ведалі ўсе)

- Не, - кажу, - не філосаф.

- ПАЛІТЭКАНОМ? (Моцнае здзіўленне. Іх была адна група на курс, і яны ўсе ведалі адзін аднаго з першага па пяты курс).

- ... Я, - кажу, - электрык ...

Паўза. Шклянка выпадае з рук. Твар немца застывае ад усведамлення загадкавасці і бязмернасці быцця.

* * *

З Ніксанам мы жылі ў адным пакоі два гады. Кожны семестр ён пачынаў як студэнт: купляў і акуратна раскладваў алоўкі, асадкі, сшыткі і кнігі па полках і сталах, чытаў канспекты лекцый, рыхтаваўся да лабараторных прац (ці "лабаў" па-нашаму), хадзіў на заняткі. Але праз некалькі тыдняў імпэт да навукі заканчваўся, і Ніксан надоўга пагружаўся ў піва. Ён упарта смактаў шляхетны напой і пачынаў адыходзіць ад гэтага захапляльнага занятку толькі за месяц да сесіі. Працверазіўшыся з гонарам абвяшчаў, што кідае вучобу і

едзе ваяваць з расістамі. Першы раз пасля працяглага піўнога перапынку ён сядаў за пісьмовы стол і складаў рапарт у прадстаўніцтва сваёй арганізацыі ў Маскве.

Тут трэба зрабіць невялічкае адступленне. Справа ў тым, што Ніксан быў родам з ПАР - "расісцкай" дзяржавы, якая не мела дыпламатычных зносін з СССР і супраць якой Саветы практычна вялі вайну - падтрымлівалі "прагрэсіўныя" рэжымы ў Анголе і Мазамбіку (у Анголе ваявалі яшчэ і кубінскія войскі), а таксама арганізоўвалі, узбройвалі і абучалі антыўрадававую арганізацыю, сябрам якой быў і мой афрыканскі "сакамернік". Пасля стольхіх год назву гэтай арганізацыі па-англійску я забыў, тую ж назву на мове народа банту, прадстаўніком якога быў Ніксан, вымавіць ніколі не мог, а перакладалася гэтая назва як "Кап'ё нацыі" - гэта я запомніў. Дарэчы, бацька Ніксана быў афіцэрам у тым да "Кап'і нацыі" і раней праходзіў ваенную падрыхтоўку дзесьці на поўдні СССР.

Ніксан адпраўляў ліст у Маскву і пасля такога свайго ўчынку, канешне ж, меў поўнае маральнае права адпачыць перад боем і зноў пагружаўся ў піўныя хвалі. Але, нажаль, вельмі хутка, праз тыдзень, прыходзіўся ліст, у якім "таварышу Ніксану" паведамлялася, што ягоная справа - вучыцца, вучыцца і вучыцца, "як запавядаў нам вялікі Ленін", а пастраляць у яго яшчэ будзе магчымасць.

З-за гэтага гора Ніксан збіраў вялікую сходку сяброў з поўдня Афрыкі і таму зноў цвяразеў якраз тады, калі мы ўжо здавалі залікі. Зранку, пасля душу, сябар прасіў канспекты, лабы і курсавыя праекты (калі захаваліся, бо былі даўно ўжо адпрацаваныя і здадзеныя). Нейкім неверагодным высілкам волі і інтэлекту ён здаваў усе "хвасты" і дапускаўся да экзаменаў якраз тады, калі мы ўжо з'язджалі на канікулы.

Так паўтаралася некалькі разоў, і ён заўжды неяк вынырваў. А калі ж мы атрымалі і параўналі свае дыпломы, дык аказалася, я вучыўся на павышаную, падвышаную стыпендыю, але стаў толькі інжынерам, а ён стаў ажно магістрам. Савецкія замежныя дыпломы ў той час былі магістарскія, магістрамі з'язджалі за мяжу і студэнткі, якія сталі жонкамі сваіх замежных сукурснікаў. Але гэта іншая гісторыя.

Ад Ніксана, праз два гады пасля заканчэння інстытута я атрымаў ліст, у якім ён жыва апісваў нашы былыя подзвігі ў інтэрнаце. Пасля гэтага ліста я лавіў на сябе доўгія і задуменныя погляды жонкі - атрымалася так, што яна памылкова падгледзела некалькі радкоў.

* * *

Пры канцы лістапада 1983 г. добра ўліты півам Ніксан прыцяг-

нуў абсалютна новы, каляровы партрэт генеральнага сакратара ЦК КПСС "дарагога Леаніда Ільіча Брэжнева" ажно з пяццю зоркамі героя. Казаў, што ў кніжнай краме гэтая прыгажосць торкнула яго ў сэрца. Цэлы вечар усе разам - я, Ніксан і наш аднагрупнік Жора, скочам клеілі партрэт "генеральнага сакратара нашай партыі" да сцяны пакоя ў інтэрнаце. Каляровы "верны ленінец" быў надрукаваны на тоўстай, мелаванай паперы і таму штораз скручваўся і клеіцца не жадаў. Мы зноў і зноў мацавалі яго да сцяны. Гэты ідэалагічна бездакорны занятак забраў наш вечар.

Назаўтра, 19 лістапада, у сонечны восеньскі дзень, мы з Жорам чамусьці раней, чым звычайна пакінулі наш "другі" энергетычны корпус і тут жа каля яго спаткалі старасту паралельнай групы, чалавека сур'ёзнага, станоўчага і нават камуніста. Убачыўшы нас, ён жалобна прамовіў:

- Чулі ўжо? Брэжнеў памёр ...

- ... жыццё ... - сказаў я - Учора цэлы вечар клеілі, а зараз прыдзецца адрываць!

І мы разам голасна засмяяліся.

- Дык вам смешна! - зарычаў камуніст. Давялося спыніцца і некалькі хвілін каяцца ды даказваць, што нам насамрэч вельмі сумна - чалавек жа памёр. Да таго ж такі прыгожы партрэт правісеў толькі адну ноч!

Пасля 19 лістапада 1983 г. усё ў краіне пачало незваротна змяняцца ў лепшы бок, а потым знікла і сама краіна з дзіўнай назвай СССР.

* * *

На апошнім курсе, калі я ўжо не жыў у адным пакоі з Ніксанам, ён з'явіўся на заняткі з ліловымі сінякамі па ўсім твары, пасля таго як ён задраў кашулю, стала вядома - і па ўсім целе.

- Ты чаму ў плямах як леапард? - запытаўся я. І сябар распавёў мне сваю сумную гісторыю. У той час ён жыў у адным пакоі з вельмі сур'ёзным і старанным студэнтам з Афрыкі, які вучыўся на першым курсе, быў актыўным вернікам-пратэстантам і насіў гальштук, за што атрымаў мянушку "Дэпутат". А Ніксан якраз рыхтаваўся да адпраўкі "на фронт" - штодзённа піў піва і ўжо збіраўся пісаць рапарт свайму кіраўніцтву. Учора, калі ўсе былі на занятках, ён пасля чарговага піўнога заплыву ў бары "Крыніца" з цяжкасцю дабраўся да свайго пакоя - тут сілы пакінулі яго, і ён прылёг на чужы ложак. І паспаў жа нядоўга! Але вядомае сваім каварствам піва знайшло законны выхад

з яго прыгнечанага штодзённай баявой падрыхтоўкай арганізма.

- "Дэпутат" біў мяне журнальным столікам, - сказаў Ніксан, грымаса смеху і болю перакасіла яго твар.

* * *

У тыя часы ўсе, нават будучыя інжынеры 4,5 гады вывучалі розныя марксісцкія навукі: на першым курсе - гісторыю камуністычнай партыі, на другім - марксісцкую філасофію, на трэцім - палітэканомію, на чацвёртым і ў першым семестры пятага - навуковы камунізм (у той час сярод студэнтаў была папулярнай байка: "Калі б камунізм быў навукай, яго спярша б паспрабавалі на сабаках"). Пры канцы адной з лекцый па навуковым камунізме дзесьці ў 1984 г., той самы стараста-камуніст паралельнай групы, задаў дацэнту пытанне, якое яго даўно турбавала:

- Я разумею тэорыю і ўсё тое, што вы расказалі, але вось як будуць выглядаць вуліцы пры камунізме, як будзе арганізаваны гандаль у крамах, як наогул мы будзем жыць?

Тыя хто ведаў яго, бачылі, што пытаецца стараста абсалютна сур'ёзна, не жартуе, ну, насамрэч, мае ж права камуніст ведаць, для чаго ён жыве. Але ў той час сур'ёзна размаўляць пра камунізм было ўжо немагчыма, анекдотам было нават тое, што дзейсная на той момант праграма кампартыі абяцала пабудаваць камунізм да 1980 г., і заканчвалася праграма словамі: "Партыя абяцае, што сучаснае пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме". А ішоў ужо 1984 г.

Вядома ж выкладчыца вырашыла, што студэнт правакатыўна, недарэчна і нават небяспечна жартуе. Счырванеўшы, яна доўга граміла антысаветчыка, які пад выглядам старасты групы пранік у наш інстытут. Ну, насамрэч, не магла ж яна паверыць ягоным стогнам: "Што вы, што вы, я ж на цалкам сур'ёзна задаў сваё пытанне...".

Скандал неяк ціха, без вынікаў згас - час быў ўжо зусім не людажэрскі.

* * *

Пасля другога курса лёс звёў мяне з турыстамі. Тры разы мы разам пабывалі на знакамітым тады крупаўскім фестывалі ў Вязанцы. Фестываль гэты быў цалкам самадзейны і таму неверагодна цікавы. У палове мая электрычкамі ў Вязанку прыбывалі тысячы чалавек з рукзакамі, намётамі і гітарамі з усёй Беларусі. Праз нейкі час, калі

апускалася цемра, увесь лес свяціўся кастрамі. Каля галоўнага вогнішча (здаецца такіх галоўных было некалькі) бясконца выступалі выканаўцы аўтарскай песні з усяго былога Саюза. Усю ноч, пераходзячы ад вогнішча да вогнішча, можна было пачуць безліч выступаў, паразмаўляць на любыя тэмы з самымі цікавымі асобамі і, канчатковы знясілеўшы, вярнуцца да свайго вогнішча, дзе было таксама вельмі цікава і да якога таксама падыходзілі самыя розныя людзі. На крупаўскім фестывалі мы пагружаліся ў сапраўдны "Свет поўдню" Стругацкіх.

Памятаю, неяк, Ларыса (дзяўчынка з "Беларускай майстроўні", прозвішча яе не памятаю) прывяла да нашага вогнішча маладога барда, які прадставіўся: "Сяргей Сокалаў, настаўнік з Стоўбцаў" - будучага знакамітага барда Сяржука Сокалава-Воюша. Ён заспяваў па-беларуску! Песню пра крыжакаў! Нашаму захапленню не было мяжы, куды той Дольскі супраць свайго, роднага! Доўга мы не аддавалі яго іншым "вогнішчам".

Але я не пра гэта.

31 сакавіка 1984 г., разам з групай менскіх турыстаў таксама выехаў у Вязанку - у так званы "паход выхаднога дня". У лесе яшчэ ляжаў снег, і па дарозе мы па калена правальваліся ў гразь. Выйшаўшы на сваю паляну, распалілі вогнішчы, раскінулі намёты, пачалі гатаваць ежу, сушыцца і перакідвацца жартамі. Потым была гітара ля кастра, нейкія гульні, размовы і каля 2 ночы - адбой. Пакруціўшыся ў халодным мокрым намёце, я зразумеў, што заснуць не змагу - мала стаміўся. На шчасце, мяне зноў паклікалі да вогнішча. Была цудоўная, зорная ноч, трохі сагрэўшыся 100 грамамі (турысты практычна не п'юць і ніколі не пакідаюць пасля сябе смецце ў лесе!) мы пелі і размаўлялі. Ішла ноч 1 красавіка! Таму бліжэй да раніцы мы пачалі дзейнічаць. Паціху выцягнулі з усіх намётаў мокрыя турысцкія чаравікі, пазвязвалі левы з левым - правы з правым і развесілі ў лесе каля вогнішча, потым пачалі валіць усе намёты, падрыхтаваўшы пры гэтым для сябе апошні, маленькі намёт, у які планавалі схавацца пасля зладзейства. І ўжо амаль што схаваліся, калі з аднаго з паваленых намётаў выбралася першая пакрыўджаная дзяўчына. Басанож, па снезе, яна дабегла да нас, збіла апоры намёта і некалькі разоў прабегла па ім. Моцна стаптаныя дзявочымі ножкамі мы пахаваліся ў лесе, кабназіраць, як прачынаецца лагер. Напачатку, шукаючы свае чаравікі, усе марылі пра тое, каб злапаць і правучыць нас. Але, калі ў 6-00 менскае радыё сказала, што сёння 1 красавіка, і ў гэты дзень усе павінны весяліцца і жартаваць, турысты зарагаталі: "Мы ўжо жартуем і вяселімся!". Гэтак мы былі рэабілітаваны. У памяці засталася гэта самая вясёлая ў жыцці

раніца 1 красавіка і адбіткі босых ног на снезе.

* * *

У лютым 1984 г., падчас студэнцкіх канікулаў, каля Галоўпаштамта ў Лідзе я чакаў дзяўчыну. Знаёмыя з ёй мы былі яшчэ са школы, неаднаразова разыходзіліся і зноў мірыліся, адносіны гэтыя не абяцалі ніякіх добрых перспектыў, але тады цягнуўся момант чарговага замірэння. З прыпаркаванага "жыгуля" пятай мадэлі лілася класічная музыка. Трэба сказаць, што пятая мадэль толькі што з'явілася і, думаю, што прыпаркаваная зараз "ферары", выклікала б меншую зацікаўленасць з боку мінакоў. Аднак, хутка замест класічнай музыкі пачуўся трагічна-узвышаны голас дыктара, і праз некалькі хвілін я даведаўся, што памёр Андропаў, чарговы генсек "нашай партыі". Чамусьці адразу пайшла пагалоска, што ягонае месца можа заняць лідар Азейбарджана Аліеў, і таму вечарам мы вырашылі, што азейбарджанскі каньяк "Апшарон" - гэта не толькі патрыятычны але самы актуальны напой.

Быў абраны наступны "верны ленінец" Чарненка. Ён выглядаў, як цяжка хворы чалавек, якому чамусьці не даюць ціха дажыць свой век. У сакавіку наступнага, 1985 года пераддыпломная практыка праходзіла ў прыгожым Кіеве. Дзесьці ў сярэдзіне месяца адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет СССР, падчас якіх вымучаны Чарненка выступіў па тэлевізары і сказаў нешта накшталт: "Усе свае сілы аддам справе камунізму". Назаўтра чарговы раз усе тэле- і радыёстанцыі перадавалі класічную музыку, мы даведаліся, што радзіма зноў страціла лідара. Наступным стаў Гарбачоў. Але сакавік у Кіеве запомніўся тым, што я пераблытаў канверты і дзве дзяўчыны атрымалі лісты, якія прызначаліся не ім - справа ўскладнялася тым, што яны мелі розныя імёны.

* * *

Улетку 1984 г. мірнае сяброўства з маёй старой знаёмай працягвалася, але месца сустрэч перамясцілася ад Галоўпаштамта да Летняга кінатэатра ў парку. У той час яна была вельмі разумнай і прыгожай студэнткай, зараз яна разумная, прыгожая і дастаткова вядомая ў нашым горадзе жанчына.

Моладзі цяжка паверыць, але тады не было нават мабільнай сувязі! Зусім! І таму мы па звычайным тэлефоне дамовіліся сходзіць у кіно. Быў такі дзіўны спосаб адпачынку ў той час.

- Дзе сустракаемся? - спытаў я.

- Там жа, - адказала яна.

"Там жа" для мяне гэта там, дзе і ўчора - на лавачцы ў парку. Але для яе гэта было "каля кінатэатра". Не трэба апісваць нашу размову па тэлефоне ўвечары - мяне прабіваў рогат, яна пускала маланкі, але ўсё ж мы зноў дамовіліся заўтра схадзіць у кіно і сустрэцца "там жа". Вы не памыліліся - мы зноў прыйшлі ў розныя месцы ...

Не, лёс не падманеш, тое, што не тваё, ніколі ім не стане.

* * *

Да суботы 25 жніўня 1985 г. я прапрацаваў ужо тры тыдні пасля заканчэння інстытута. Не пакідала адчуванне, што ўся гэтая "праца" закончыцца, і зноў пачнецца шчаслівае студэнцкае жыццё. Лепшым лекам ад суму была паездка ў Менск. З Менска вяртаўся апошнім аўтобусам, змог купіць толькі "білет без месца" - амаль што тры гадзіны да Ліды трэба было стаяць у праходзе. Калі аўтобус паехаў, я агледзеў дзяўчат і выбраў сабе "ахвяру" - дзяўчыну, з якой можна было паразмаўляць гэтыя гадзіны дзеля ўратавання ад суму. Выбраў трапна - праз паўгода ў нас адбылося вяселле, і хутка будзем святкаваць 30 гадоў сумеснага жыцця. Гэта была мая самая выніковая паездка ў Менск.



*Мікола Шаўчэнка нарадзіўся у Лідзе, у 1965 годзе, у лепшых з бацькоў: Барыса Міколіна з Шаўчэнкаў і Людмілы Осіпавай з Хітруноў.*

*Вучыўся у першай школе, ГрДУ на гістфаку.*

*Працуе на дзвюх працах, займаецца гістарычнымі баямі, праводзіў рыцарскія фэсты у нашым кастэле.*

*Заснавальнік клюба гістарычнай рэканструкцыі Dies Magna (Дзень Велічы). Адшукаў і літаратурна апрацаваў паданне аб пакінутых латніках.*

*Творы свае прысвячае каханай, сястрычцы сваёй, дзецям сваім.*

# *Мікола Шаўчэнка*

## ПРА ВОЛАТАЎ І СКАМАНТА

Было гэта ў часы, калі сярод людзей жылі волаты, якія баранілі край наш, разам са слугамі збройнымі з суліцамі, на хуткіх конях.

Баранілі асілкі дубы святыя, ды звычаі Рода. І ніхто не прыбягаў сюды рабаваць. Ні ледзяне, ні ўрмане, бо ведалі моц волатаў.

І быў князем тады Скамант, сквапны і жорсткі. Прамовіў ён да людзей:

- Няма ворагаў, няма вайны, а колькі ежы на волатаў выдаткуеце??!!.. А колькі скуры на абутак, на адзенне??!!…А піва-та, піва колькі выпіваюць?! Калі я вас бараніць буду - у тры разы меней браць буду. За абарону, каб войска карміць…

Падумалі людзі…. і пагадзілісь. Дурныя, бо.

Пайшлі да волатаў і кажуць:

- Не патрэбны - ідзіце прэч.

Цяжка ўздыхнулі асілкі, абразіліся… Але любілі Край і людзей, болей за ўсё. І вырашылі: сыходзіць - не будуць. А зробяць - хто ў

дубы перакінецца, хто, віпіўшы сонных зёлак, паляжа спаць… І наказалі, калі патрэба якая будзе, то будзіць словамі моцнымі і травой - кветачкай роснай. Словы князю Скаманту і ваярам яго пакінулі.

І паснулі. Вецер пылам-зямлёй прысыпае, лісцем - хвояй засыпае. Курганы ўтварылісь, некаторыя мо ў 40 крокаў. Спяць волаты, чакаюць, што паклічуць Край бараніць.

А словы і зёлкі Скамант схаваў у нетрах возера патаемнага.

Прайшоў час, пачаў збіраць з сахі сам-тры, болей за волатаў. Сквапны. Бессаромны.

А маці Скаманта плакала, гледзячы на брыдоты сына, шкадавала; ад слёз утварылася рэчка, што пабегла да горада, які на плёсе быў. А на сэрцы камень вялікі стварыўся ў яе…

Плакала маці, аж да скону сына свайго, а як той сканаў, сама ў вырай адышла, а камень з душы пляснуўся, пабіўся, аскепкі аж да Лідзейкі, на бераг перад горадам вынесла. І назвалі людзі рэчку Скаманкай, а з часам, калі забыліся пра Скаманта, па вялікіх камянях (якое дзіва на дрыгве!! камяні вялікія!!) - Каменкай.

А камяні тыя адны кажуць: дрыгвой засмактала, другія: Лідзейка, крэўны Гедзіміна, на замак аднёс.

## ПРА ДАЙНАВУ І ЛІТВУ

Прыйшла на Дайнаву, якая жыла вакол Радуньскай пушчы, дзе патаемныя брамы ў вырай - Літва. Прыйшла жыць. Было гэта ў часы, калі адны абіралі сабе святароў, а другія Роду вядуноў прысвячалі і ў дуброве святой вывучалі. Прыйшла Літва, бо ціснулі іх на радзіме, дзе на востраве храм іх галоўны, як і Дайнавы. Ціснулі з ўсіх бакоў і свеі з урманамі, ляхі з багемамі, а найболей - швабы з саксамі, ды і паміж самой лютвы не было ладу, каб адбіцца. То яны, лютва, і пайшлі жыць на ўсход, дзе кроўныя жылі - дэйвы, роду аднога, але звычаяў розных. Дэйвы - гандлявалі, багацця ў іх было - не выказаць. А лютва - ваўкі-перавертні, дзёрзкія і жорсткія, на вайне народжанныя, у бойцы спавітыя, крывёю ўскормленыя. Славілі яны болей за ўсіх Святавіта і каня яго. А дэйвы-дайнавы змею каранаванаму, Азу, галовы схілялі, пошт яго, свістуноў-жывойтаў малаком частавалі. А коні змей не паважаюць. Баяцца і забіць таму іх спрабуюць. Вось і тут, конь на свістуна наскочыў, дайнава на каня, лютва на дайнаву. Вайна ў хаце!!! Гвалт!! Зачынілася дайнава ў сваім горадзе на высокім беразе, а люты, ваўкіперавертні ў аблогу іх ўзялі. Кажуць: "Многа вас, а месца - малое. Ежа скончыцца, вы нам паклоніцеся, долю для сябе кленчачы". Тыдзень прайшоў. Сядзіць дайнава сабе за забралам, песні пяюць, і

відавочна тлусцеюць. Бо па гандлёвай справе не бегаюць, сядзяць. Другі тыдзень прайшоў. Літва на прыступ не ідзе, няма дурных, б’ецца дайнаўскае адроддзе моцна, сілы ў іх паболела, бо сядзяць, адпачываючы. І выхваляюцца перад Літвой, штодня па сорак кашоў выстаўляючы, прапануючы: "Сілкуйцеся!!" Здзек і сорам лютам! І вырашылі люты даведацца адкуль столькі ежы. Быў у іх, Літвы, князеў сын, ад маці-дайнаўкі народжаны. Ён і перабег да Дайнавы, кажучы: "Бачу, багі з вамі і матуліны песні ў вушах маіх". Перабег, падмануў і наглядае і бачыць: штодня, падвячоркам, з’яўляецца побач з калодежамі ВУЖ у княскай шапцы і свістуны вакол яго. Людзі свае галовы схіляюць, свістуноў лашчаць, рыбай частуюць, малако ў гляки ліюць. А Вуж на гэта глядзіць, усміхаючыся, а пасля, вакол калодзежаў у чатыры колы па сонцу абягае. І знікае. А старэйшыя з Дайнавы падыходзяць да калодзежаў і пачынаюць чэрпаць: з аднога малако, а з другога - рыбу ўсялякую, але вугроў - найболей. А людзі ядуць гэта аж да няхочу. А здзіўленаму княжычу тлумачаць: "Дамова ў нас, мы іх паважаем, частуем, а яны нас - кормяць, зерне, жыта на раллі - сам дзесяць родзіць, быдла па трое прыносіць, а кабылы, шкада, толькі па два жарабяці. Мы Змею дзякуем і павагу яму складаем і будзе так!" Княжы сын прыдумаў нядобрае: Змей абразіцца, калі яго кроўных пакрыўдзяць. Задумаў і зрабіў! Як свістуны выпаўзлі, абвяшчаючы надыход Вужа-Князя, то на хвост іх і наступіў. Заплакалі жывойты і пайшлі да свайго Князя скардзіцца: "Дайнавы пакрыўдзілі нас!" Абразіўся Аз - Змей каранаваны, да людзей не з’яўляецца, у калодзежах - таксама нічога, толькі вада, а ёю - не наясіся! Дзень, другі, трэці - няма нічога! Пачала Дайнава пасы сцягваць, нязвыкла не есці. "Як жыць надалей?" - самі ў сябе пытаюць. А тут яшчэ Літва за гародняй зубы кажа, здзекі складае: "Ці пад'елі вы сёння? Давайце недаедкі, бо нашым свінням есці няма чаго! Недаедкі давай, па звычаю!" Вырашыла Дайнава кленчыць да Вужа. Але ж і лютва - укленчыла! Бо княжы сын ім употай усё распавёў. І з’явіўся Аз, Князь вужыны каранаваны. Перад брамай места і з’явіўся, звярнуўся да дайнавы з лютвою:

- Каторыя з вас маіх малых кроўных пакрыўдзілі? Кажыце без хлусні, бо бачу яе, а як убачу - пакараю!

- Яны! - на Літву дэйвы кажуць!

- Яны! - на Дайнаву - Літва.

І бачыць Аз, Вуж каранаваны - не хлусяць! Як так можна? Прыглядзеўся і пачуў пах крыві княжыча, які да абодвух радоў належаў. І кажа Вуж:

- Злыя вы! Кроўных ледзь не пазабівалі! Род пакрыўдзілі, не

будзе вам ад яго ежы, як раней, самі надалей здабывайце! Але пакуль вы разам - багатыя будзеце, ежу - набудзеце. Як сказаў, так і зрабіў. Пачалі дэйвы і лютва разам жыць, моцныя і заможныя былі, толькі праз нейкі час перасварыліся людзі на нашай зямлі. І блага ў Краі стала. Так заўсёды, калі няма ладу ў хаце - хата занядбае і, нават, зруйнавацца ці згарэць можа. І не стане ў народа свайго кута, і знікне народ. А ў хаце сваёй - і звычаі свае, і цёпла ў хаце ад любові ўзаемнай. Адна ў нас хата, даражэнькія!

## ПРА ШАЙБАКА

Было гэта ў часы, калі Літа -Ліда была драўляным местам на высокім беразе.

Прыйшлі на зямлю нашу ворагі - татары, якія ўжо абрабавалі ўвесь поўдзень.

Ішлі яны, татары, да горада галоўнага крыжакаў на поўнач, цягнулі за сабой нарабаванае: тры вазы золата, тры срэбра, тры скарбаў, каменняў, тры павалок. У крыжакаў спадзяваліся яшчэ па возу ўзяць усяго.

На шляху да войска, што было ўжо за два пераходы ад Ліды, у бары-дубраве старажытнай выпаўз насустрач Змей незвычайны, крокаў мо ў дзесяць даўжынёй, з чалавека таўшчынёй, і вочы ў яго - чалавечыя, на галаве ў яго - княжая шапка з каронай.

Выпаўз, ісці наперад замінае, глядзіць кожнаму ў вочы - бо чароўны погляд у яго.

Вецер у твары ваярам дзьмухнуў, ажно некаторыя пападалі.

Хан татараў - Шайбак крычыць, наперад гоніць, а коні не ідуць. Загадаў з лукаў забіць пачвару, стрэлаў гару насыпалі - ніводная не патрапіла.

Змей засмяяўся і знік, войска - наперад, а тут з лесу, з травы змеі з'явіліся, коні скачуць, падаюць, людзі шалеюць, коні ад людзей пабеглі, людзі за імі, а з лесу - ваўкі зграямі, аднаго-другога схопяць, пацягнуць, трох-чатырох пашматкаюць і знікаюць. І так увесь дзень. І вечар. І ноч да раніцы. А раніцай на ўсходзе пад крыжом Ярылы-Святавіта людзі з лесу выйшлі і пачалі забіваць. З крывавага кола адзін з дзесяці татарынаў выскачыў, у каго коні лепшыя, разам з Шайбак-ханам. Па сцежкам ратуюцца.

А людзі -люты, перакінуліся ў ваўкоў і за імі, але чамусьці не кранаюць. Зразумеў хан Шайбак: "У пастку гоняць." Але што рабіць, смерць - вось яна на хвасце, а што наперадзе - невядома.

Але ж сталі тут коні татарскія, бо Вуж - Аз з'явіўся ў атачэнні

пошта свістуноў.

Хан вішчыць: "Забіце!" А людзі - як і коні, у слупы пера-тварыліся. Нацэліўся Шайбак, стрэліў з лука, але страла вакол Вужа абляцела і ў вока Шайбаку пацэліла. І памёр хан, сканаў, як звер, бо як звер па зямлі скакаў, гарады і народ рэзаў.

І ціха ў лесе.

Заварушыліся, агледзеліся, а цела Шайбакова не пахаваць - знікла, і скарбы зніклі.

Пакінулі на месцы, дзе загінуў хан, камень са знакамі і рушылі на поўдзень. А пад Лідай ізноў Вужа Аза сустрэлі, ды забітага хана перад ім. І голас пачулі: "Пахавайце і заставайцесь, будзеце шкоду адрабляць, хто не застанецца - пашкадуе".

Пахавалі і засталіся.

І баранілі зямлю, на якой працавалі, Літву - айчыну. Добрыя, чыстыя, працавітыя людзі. А ваяры, якія мужныя, пашукаць такіх, амаль не знойдзеш.

А скарбы - і золата, і срэбра, і камяні зніклі.

Кажуць, вуж схаваў, каб кроў з іх спарахнела.

А калі не будзе крыві на іх, то ліцвіны іх і знойдуць, калі для Краю спатрэбіцца.

А калі сабе шукаць - не знойдзеш. Калі пашанцуе. А калі не - з Азам сустрэнешся.

## ЯК ЛЮДЗІ ЗАМАК БУДАВАЛІ

Загадаў Князь замак будаваць, каб было дзе бараніцца, бо злы час быў. Альбо крыжакі з поўначы, альбо крымчакі з поўдня, альбо маскалі надыдуць з усходу, а на захадзе - вочы галодныя ляхаў, братоў нашых заклятых.

Пазбіраліcь людзі і вырашылі, выхваляючыся, асобнымі тала-камі - грамадамі будаваць.

Сяляне - асобна, паны - асобна, папы з ксяндзамі, клірыкамі - асобна.

Папы ды ксяндзы выхваляліся: мы да Бога бліжэйшыя, Бог іх паслухае, як памоляцца - будзе заслона, якой і не бачылі, а наогул - яны першыя, без іх - нічога.

Пачалі прасіць Бога, модлы складаючы.

"Дай, Госпадзе, дай, зрабі!!!..."

Кленчаць, енчаць. А нічога не робіцца, яны яшчэ гучней, ужо паваліліся ад стомы асобныя - нічога не робіцца.

І тут… Як лясне пярун з неба, і чуюць яны: "Кажа Бог, каб ты

памог!".

Усе аж на зады свае шырачэзныя, тлустыя, і пападалі, зяпы паразззяўлялі….

Але ж, супраць слова Бога нічога не зробіш, пайшлі пуза трэсці, камяні да будоўлі несці.

А паны, у аксаміце, з мячамі, ды самапаламі, пазбіраліся, выхваляючыся: "Куды чорнай костцы да паноў, мы ўсе асілкі-волаты, нацягнем самых вялікіх камянёў, збудуем гмах, ворагі ад жаху нават і не падыдуць.

Знайшлі вялічэзны камень, што зіма пакінула ў нашым краі (ці то асілкі калісьці ў неба кідалі). І вырашылі яго цягнуць.

За гэта і выпілі, пасля пабіліся, каму загады аддаваць, кіраваць усімі, але ж усе на камень узбеглі з шаблямі ў руках - кіраваць, а цягнуць - няма нікога!

Як пабіліся, пасля мір складалі, за гэта і выпілі, ізноў пабіліся, пасля тастамант склалі аб замірэнні, гэта і адзначылі, колькі ўсё цягнулася - не вядома, але ж і пітво, і ежа ў іх скончыліся.

Вырашылі разысціся, назапасіць усяго і вяртацца, бо яны, панства, разам сіла і моц, кроў старажытная і косткі асаблівыя.

Разышліся, знайшлі, дзе яшчэ быдла ды збажына не з'едзеныя, нарабавалі, мячамі махаючы на ўсіх. І засталіся кожны ў асобным месцы, бо з іншымі панамі падзяліцца - абраза гонару, ды і шкада.

А камень той там і застаўся, вялікі такі, з гумно памерамі, побач з Віленскім шляхам.

А людзі звычайныя: сяляне, майстры цягнуць хто камень з галаву - сам двое, хто на колах - з вяпрука галаву камень вязе, а хто кіямі штурхае - памерамі з чалавека.

Бабы яйкі прынясуць, майстрам у пачастунак і ў вапну, каб мацней была.

Сабе жа будуюць. Усе працуюць.

Жанчыны ежу гатуюць, малыя жвір сеюць, гліну месяць, так грамадой, з клірыкамі і збудавалі.

А тут Князь з выправы вяртаецца, паглядзеў, як людзі з святарамі заслону сабе збудавалі, запытаў: "А дзе паны?" Спахмурнеў, адказ атрымаўшы - няма іх…

І загадаў прывілей выдаць.

У гародні царкву збудаваць, людзям у час набегу за агароджай хавацца, а панам, якія не працавалі, бараніць усіх, бо ўзялі зброю ў рукі. А каторыя бараніць не будуць - у цвердзь не нагой.

Вось так і сталася, паны павінны людзей і Царкву бараніць, а калі яны (паны) гэтага не робяць - у шыю, прэч іх.

## ПРА СЕНА І САЛА

Пляснуўся з неба цмок. Не звычайны цмок, з тых, якія жывуць, альбо ў дрыгве, альбо ў мала-мальскі прыстойным возеры.

Не… Блакітны цмок. З жоўтымі плямамі на пысе. Відаць, моцна пляснуўся, з галавой нешта здарылася, усе цмокі жывуць сваім жыццём, на людзей увагі не звяртаюць. А гэты да людзей - выхваляцца памерамі і моцаю, дурань-дурнем. Кажу, на галаву пляснуўся!

Усё б нічога, грамадой-навалай не такіх білі, але ж гэты - смярдзеў! Здохлы кот, лайно зялёнае, рот у піякі, разам меней смярдзяць, так - звычайны і прыстойны водар маюць.

Ну і як такога біць?

А яшчэ, прыгледзеліся - баба яна!

Ці ён! Ну, гэты цмок. Ці цмокіня…Халера яе ведае, назваць як яго, дакладней яе…Цьфу, ледзь сам дурны на галаву не стаў.

І што рабіць з цмокам? Ну…з бабай яго?! Разумней, кажучы, рабіць трэба нешта, бо тая ўжо пачала і дамы рушыць.

Падумалі… і вырашылі скарыцца….

З далёк крычаць: "Ты наш князь!! Не - наша князёўна…не…". З ёю і самыя ледзь дурнымі не сталі. "Будзеш намі кіраваць!" - прапануюць. А той, дакладней - тая: "Гонар жа які", пыха авалодала, пагаджаецца. А людзі і кажуць: "Вось толькі з поўдня людзі злыя прыходзяць, і не ведаюць мяжы нашай, мо што зрабіць можна?!" А цмок: "Насыплю граду доўгую, усю зямлю з поўдня абвалую”.

А там кіраваць вамі буду, загады аддаваць.

Ну і нарабіла, Змеевы валы да гэтага часу бачныя. Уздыхнулі людзі з палёгкай: "Кіруй!"

А тая і загадала: "Есці і адпачываць, і, каб хвост хрумпалі”, бо хрумпаны яе хвост цудоўны.

Падумалі людзі ізноў і прынеслі сала і гароху, а каб адпачыцьсена натрушылі. Тая з'ела тры вазы сала і два гароху, півам заліла, мала не возерам. І ў салому павалілася адпачываць.

А праз нейкі час, пачаў у жываце цмокавым вецер смуродны завіхаць, волі шукаць. А, як выйшаў на волю, тут людзі паходні і пакідалі здалёк, сена ўмомант ўзялося, цмок і засмажыўся.

А як засмажыўся, то яго, смажанага і з'елі; не свінням жа выкідаць, магчыма, тыя есці не будуць. А людзі, пад піва з’елі! І выхваляліся. Недзе і ў мяне кавалак застаўся, пачаставаць?

# *Святлана Герагозава*

## НЕ БЫЛО Б ШЧАСЦЯ...

Апавяданне

Саша ішла пад дажджом без парасона, хаця ён заўсёды знаходзіўся ў сумачцы. Яна ніколі не адчувала сябе такой стомленай, разгубленай і абыякавай да ўсяго, што яе акаляла: да дажджу - такога халоднага, хаця і доўгачаканага пасля засухі, да навальніцы, якая паласавала неба. Гэтая непагадзь як бы адлюстроўвала яе ўнутраны свет.

Слёзы разам з кроплямі дажджу сцякалі па твары, і яна адчувала іх салёны смак. Саша не ведала, куды патрэбна ісці. А калі апрытомнела, то ўбачыла, што стаіць перад сваім домам. Адкінула мокрыя валасы з твара, адчыніла дзверы і ўвайшла ў пад'езд. Падняўшыся на чацвёрты паверх, адчула, што дрыжыць ад холаду. Адубеўшыя рукі ніяк не маглі знайсці ключ ад кватэры.

Дома пераапранулася ў сухое адзенне. На пліту паставіла чайнік і заварыла каву. А ў галаве ўзніклі падзеі сённяшняга дня. Аднак яе думкі перарваў тэлефонны званок. Пачуўся голас сяброўкі:

- Саша, дзе ты была? Я ўжо дзве гадзіны спрабую датэлефанавацца да цябе. Як справы на рабоце?

- Мяне звольнілі, - з жалем адказала Саша.

- Што за лухту ты нясеш? Ты заўсёды гаварыла, што падабаешся свайму начальніку.

Крыўда разам з болем вырваліся з грудзей Сашы, і яна зноў залілася слязьмі.

Супакоіўшыся, Саша сказала:

- Справа вось у чым. Калі па запрашэнні начальніка я зайшла ў яго кабінет, ён цынічна прапанаваў мне правесці з ім ноч. Калі я адмовілася, ён з нахабствам схапіў мяне за плечы. Павярнуўшыся, я плюнула яму ў твар і яго звар'яцелыя ад перапою вочы. Так з-за гэтай разбэшчанай свінні я засталася без работы.

Саша ніяк не магла суняць слёзы, у горле застыў камяк.

- Перастань плакаць, ты ж ніколі не была плаксай. Паспрабую што-небудзь зрабіць для цябе. Трэба толькі падумаць.

Падбадзёраная сяброўкай, Саша заснула. Раніцай, прачнуўшыся, яна глянула ў акно. Сонейка ўсміхалася ёй, і ад гэтага стала лягчэй на сэрцы.

Саша спакойна разважала: "Нічога страшнага са мной не здарылася. Паспрабую знайсці новую работу, ды і сяброўка абяцала дапамагчы".

Зноў зазваніў тэлефон.

- Санька, я ўжо пагаварыла з начальнікам. Цябе могуць узяць да мяне на замену дэкрэтнага водпуску маёй напарніцы.

Праз гадзіну, узяўшы дакументы, Саша сустрэлася з сяброўкай. Хутка яны ўвайшлі ў вялікую залу, абстаўленую сучаснай тэхнікай, якая кідалася ў вочы і выклікала радасць.

Саша запыталася:

- Скажы, што я тут буду рабіць і якія будуць наведвальнікі? Напэўна, з багатых?

- Так, у нас вельмі дарагі салон, і ўсю змену трэба быць у добрым настроі і дагаджаць кліентам у шыншылавых футрах. А цяпер пойдзем да загадчыка.

Саша ў нерашучасці спынілася перад дзвярыма кабінета.

За сталом стаяў начальнік салона гадоў 50-ці, высокага росту. Вакол вачэй разыходзіліся маршчынкі: прыкмета весялосці і дабрыні.

- Дык гэта і ёсць Саша з залатымі рукамі, - усміхнуўшыся, сказаў ён.

- Гучна сказана, хутчэй усяго - са срэбнымі, - зусім спакойна прамовіла Саша.

- А ты яшчэ і жартаўніца. Мне падабаюцца такія людзі.

- Але вы не паглядзелі маю працоўную кніжку і пашпарт.

- Мая інтуіцыя мяне ніколі не падводзіла. Пазнаёмся з калектывам і працай. А ў канцы змены зойдзеш да мяне.

Пасля азнаямлення з калектывам Саша выйшла на вуліцу і з радасцю паглядзела на свой аўтамабіль "Пежо". Яна доўга збірала грошы, у многім сабе адмаўляла і купіла яго з дапамогай сваёй маці.

У дзяцінстве сям'я часта пераязджала з месца на месца, бо баць-

ка быў вайскоўцам. Ён для Сашы быў увасабленнем мужнасці і дабрыні. Загінуў у аварыі, калі дачцы было адзінаццаць гадоў. Цяжка было гэта перажыць у сям'і.

Праз некаторы час маці выйшла замуж. Сашы падабаўся айчым, але яна ні разу не змагла назваць яго татам.

Успаміны засмуцілі, і яна апрытомнела толькі тады, калі пачула трэск пры паркоўцы. Выйшла з машыны і ўбачыла, што ў "Мазды", якая стаяла побач, разбіта задняя фара. З пад'езду насустрач выйшаў малады смуглявы хлопец, модна апрануты. Яго яна бачыла ўпершыню. Сэрца раптам ёкнула. А ён звярнуўся да яе са словамі.

- Дзяўчынка! Вы сапраўдная расцяпа. Мая машына так свеціцца на сонцы, што яе цяжка было не заўважыць. Ну і што мне з вамі рабіць?

- Я заплачу, - апусціўшы вочы, прамовіла Саша. А пра сябе падумала: "Дзе коратка, там і рвецца".

- Мне не патрэбны грошы, супакойцеся. Ёсць толькі адзін выхад: купіць мне новую фару. Ён прыветна ўсміхнуўся. Крыху падумаўшы, спытаў.

- Можа павячэраеце сёння са мной?

У Сашы як язык адняўся: яна маўчала.

А хлопец працягваў:

- У кафэ "Эдэм"", у 17 гадзін. Вы згодны?

Саша здзівілася яго ўпэўненасці ў тым, што яна згодзіцца.

Нечакана ён сеў за руль сваёй машыны і знік з вачэй.

Саша доўга думала і чамусьці пайшла на сустрэчу.

- Я ўжо падумаў, што ты не прыедзеш, - сказаў ён, сустрэўшы яе, і дадаў:

- Але ж мы яшчэ не пазнаёміліся. Мяне завуць Аляксандр, а цябе?

Саша нават і не прыкмеціла, як ён перайшоў на "ты". Яна засмяялася:

- А мяне - Аляксандра.

На твары хлопца спачатку з'явілася здзіўленне, а праз хвілінку яны разам дружна засмяяліся. Паміж імі ўзнікла ўзаемаразуменне і цёплыя адносіны адзін да аднаго, як быццам бы яны былі знаёмыя раней.

Саша раптам успомніла сваё першае каханне. Некалі яна атрымала ліст ад свайго любага са словамі, што ён пакідае яе і едзе жыць за мяжу. Доўга пакутвала ад крыўды, падману, але слёз не было.

Хутка хмурынка ад цяжкіх успамінаў знікла з твару, таму што Саша заўважыла на сабе ўважлівы позірк новага знаёмага.

Каб перарваць хвілiннае маўчанне, Аляксандр стаў расказваць аб тым, як ён жыве. З яго слоў яна даведалася, што ён жыве адзін у 3-х пакаёвай кватэры, бацькоў не памятае, бо вырас у дзіцячым прыюце. Дасягнуў многага ў жыцці сам. У шаснаццаць гадоў паступіў у тэхнічны каледж. Пасля заканчэння абслугоўваў і рамантаваў машыны. Цяпер мае сваю станцыю абслугоўвання.

Саша ў сваю чаргу, паведаміла аб некаторых фактах сваёй біяграфіі. Закончыўшы педагагічны каледж, па прафесіі не працавала: не знайшлося месца. Тады яна закончыла курсы цырульнікаў, палюбіла гэтую прафесію. Жыве адна. Пры развітанні Аляксандр папрасіў нумар яе тэлефона, паабяцаў патэлефанаваць праз тыдзень.

Наступны дзень выдаўся хмурным, з раніцы ішоў дождж. Але Сашу гэта ніколькі не турбавала. Яна жыла ў нейкім светлым чаканні жаданага званка. Непакоіла думка: патэлефануе, ці не? Мінуў цэлы тыдзень. У суботу яна цэлы дзень наводзіла ў кватэры парадак, каб адагнаць ад сябе трывожныя думкі.

У 17 гадзін раздаўся званок. Саша кінулася да тэлефона, схапіла слухаўку і пачула прыемны голас:

- Я падумаў…

Саша не дала яму магчымасці прадоўжыць сказ.

- І я падумала. Давай павячэраем у мяне на кватэры, а потым сходзім куды-небудзь? - смела на адным дыханні прамовіла Саша.

- У колькі прыехаць?

- У восем вечара.

Саша задумалася: ці правільна яна паступіла, ці не паспяшалася з запрашэннем? Мы ж знаёмыя "без года тыдзень".

Аднак патрэбна было рыхтавацца да прыёму госця. Неўзабаве стол быў накрыты, і роўна ў 20 гадзін Аляксандр пазваніў у дзверы. Увайшоў. У руках кветкі. Усміхнуўся.

- Добры вечар! А гэты букет руж самай цудоўнай дзяўчыне, - сказаў Аляксандр і зачаравана паглядзеў ёй у вочы.

- Дзякую. Я пастаўлю іх у вазу.

- Саша, у цябе ўтульная кватэра. Прабач, калі ласка, за недалікатнае пытанне. А чаму ты адна? Падзяліся са мною сваімі праблемамі.

- Давай не будзем аб гэтым, - прамовіла яна і накіравалася на кухню. Але Аляксандр затрымаў яе за руку.

- Паслухай, Саша, ты для мяне - загадка. Калі ты хочаш выказацца, я буду ўважліва слухаць.

Сашу кранулі яго словы, але каб адцягнуць яго ўвагу, яна сказала:

- Вячэра на стале. Мая фірменная страва з крыветак, напэўна, запяклася.

- Выглядае апетытна, - зазначыў Аляксандр. - Відаць, што смаката: - пальчыкі абліжаш.

- Саша, прабач за маю настойлівасць, але мне хочацца больш аб табе даведацца і дапамагчы, калі гэта патрэбна. Павер мне, я хачу стаць для цябе сапраўдным і блізкім сябрам. Ты мне спадабалася пры першай сустрэчы, - некалькі сумеўшыся, прамовіў Аляксандр.

- Я рада, што сустрэла цябе і адчуваю, што табе можна давярыцца. Але давай лепш памаўчым аб тым, што мяне турбуе. Патрэбен час, каб усё непрыемнае забылася. Давай болей не будзем закранаць тэму маіх перажыванняў.

І неўзабаве маладыя людзі ўглыбіліся ва ўспаміны сваіх дзіцячых і школьных гадоў са сваімі радасцямі і нягодамі.

Непрыкметна прайшлі дзве гадзіны. Выйшлі на свежае паветра, схадзілі ў любімы Аляксандрам бар. Іх запаланіла не вельмі яркае асвятленне, ціхая музыка, пад якую яны танцавалі. У танцы Аляксандр аказаўся выдатным партнёрам. Пасля такой цікавай, прыемнай вечарыны, маладыя людзі развіталіся. Саша адчула, што ён хоча сказаць ёй нешта патаемнае, але не адважваецца. Яна сама вырашыла дапамагчы яму выйсці са стану лёгкай збянтэжаннасці і загаварыла першай:

- Якія сумненні цябе непакояць?

- Саша, мне патрэбна на нейкі час выехаць у іншы горад, каб дапамагчы свайму брату ўладкаваць вельмі важную справу. Ты можаш мяне зразумець?

- Чаму ты аб гэтым мяне пытаеш? Ты маеш права рабіць усё, што патрэбна, - з ноткай суму ў голасе  адказала Саша.

- Мне вельмі не хочацца пакідаць цябе адну. Але дзякую, што ты мяне зразумела.

І раптам ён пацалаваў ёй руку, а затым сваімі пацалункамі пакрыў увесь твар дзяўчыны.

- Ты вельмі прыгожая і падабаешся мне. Але калі мяне тут не будзе і ты закахаешся ў іншага, я зразумею цябе, хаця даведацца аб гэтым будзе вельмі крыўдна.

- Ты памыляешся, Аляксандр. Да спадобы мне толькі ты. Паміж намі ўжо не сяброўства, а нешта большае.

- Я буду табе тэлефанаваць, абавязкова. Ты будзеш мяне чакаць?

- Буду чакаць! Я ўмею чакаць!..

*Алесь Хітрун*

## ПА П’ЯНЦЫ І КАЗЛА НЯЧЫСЦІКАМ ПРЫЗНАЕШ

*Апавяданне*

Ах, якія некалі вечарыны былі! І насмяешся, бывала, і наскачашся, і наспяваешся. Дый ахвотнікаў на такое было: збіраліся цэлымі вёскамі. Ну і пачыналіся розныя гульні, прыгоды, забавы… І чым толькі ні цешыліся, што толькі ні прыдумлялі маладзёны-дзецюкі і мясцовыя дзяўчаты!.. Няма тут чаго таіць: і ў тыя часы гарэлкі і да гарэлкі хапала ўсім, а каму - дык і звыш меры. Вядома, сталейшыя маладзейшым залішне прыкладвацца да чаркі забаранялі, а сабе дык не шкадавалі. Што праўда, то праўда. Вось, напрыклад, Антось, які ўжо год як вярнуўся з войска і лічыўся мацаком. А тым разам давялося і яму абмежавацца ўсяго пяццю, ды і то не сказаць каб поўнымі, кілішкамі…

Па нейкай сваёй прычыне Антось мусіў бегчы дадому раней, чым скончылася вечарынка. Пры добрых прыцемках. А дарога не такая і блізкая. Гэта цяпер тут розныя таксоўкі ды маршруткі гойсаюць, а некалі за дзень і воз не праедзе. Але мацаку Антосю і не такія дарогі былі пад сілу. Што там нейкі дзесятак кіламетраў!..

І, пратэпаўшы ладны кавалак полем, ён вырашыў зрэзаць шлях і скіраваў да сваёй вёскі праз лес.

А ў лесе хавалася шмат дабра амаль з усёй вёскі. Не падумайце

толькі, што там, як цяпер часта бывае, было звалена нейкае смецце. Не, тут выкопвалі ямы і хавалі ў іх бульбу. Ямы накрываліся зверху дошкамі ды розным галлём і ламаччам, каб не прыхапіў часам няпрошаны мароз.

Крок, яшчэ крок - і Антось ужо амаль на ўскрайку лесу. Крок, яшчэ крок - і раптам штось трэснула пад яго нагамі, і знік Антось пад зямлёю… Відаць, струхнелыя былі дошкі на адным з тых праклятых бульбасховішчаў… А яма, халера на яе, глыбокая! Не дацягнуцца да верху аніяк. Выкапаў нейкі гаспадар, дык выкапаў. І лямантаваць няёмка. Але хто ж бедалагу выратуе?

Раптам непадалёк нешта замэкала. Пачуўся брэх сабак, трэск сухога ламачча. І тут спалоханы Антось убачыў, што ляціць на яго нейкі рагаты звер.

…Прайшоў час, пакуль ачомаўся. А калі прыйшоў у сябе, дык убачыў, што сядзяць яны ў яме ўдвух з казлом. Антось нават усміхнуўся і абняў казла за шыю. Так і сядзелі моўчкі. Хто б там ні быў, хай нават і казёл, але ў пастцы ўдвух весялей.

Ужо зусім сцямнела, калі побач зноў пачуўся трэск ламачча. Нехта ішоў, штось сабе паціху насвістваючы.

"Напэўна, гэта Міхась, - падумаў наш ямасед. - Гэты выратуе".

Калі трэск пачуўся зусім блізка, Антось падаў голас:

- Міхаська, гэта ты?

Крокі прыціхлі, свіст - таксама.

- Х-х-то м-м-мяне п-п-пытае? - ад перапалоху пачаў заікацца Міхась.

- Гэта ж я, Антось. У яму во трапіў. Выратуй, дружа. З вечарыны ішоў і не дайшоў.

- Дый я іду адтуль. Трохі, праўда, перабраў. Дык як мне табе дапамагчы?

- Здымай сарочку, штаны і дзягу. Звязвай іх ды кідай сюды.

Пра казла Антось пабаяўся казаць. Але ратаваць спачатку вырашыў яго, рагатага.

- Ведаеш, Міхась, я тут не адзін. Са мною мой сябрук. Спачатку выцягнеш яго, а затым - мяне, - хітраваў Антось.

- Што за сябар? А чаму ён маўчыць? Няўжо Кастусь з табою? - занепакоіўся выратоўца.

- Ён самы. Таксама лішняе перахапіў і ўваліўся сюды. Спіць цяпер. Дастанем соннага.

- Во раззява. А я думаю, дзе гэта Кастусь? Чаму не пачакаў мяне, каб ісці разам? - мармытаў Міхась, звязваючы штаны з дзягаю.

А казёл стаў зусім рахманым і на дзіва ні разу не мэкнуў. Антось

спакойна завязаў яму на рогі сваю дзягу, злучыўшы яе з дзягай Міхася. Захмялелы выратоўца, моцна ўпёршыся нагамі ў зямлю, пачаў цягнуць тую "хітрую" вяроўку, падымаць "Кастуся". Амаль выцягнуўшы яго з той цемры, Міхась застыў і пабялеў: з ямы сталі паказвацца рогі.

- Нячысцік! Ніякі гэта не Кастусь! - залямантаваў ён, выпусціўшы дзягу, і кінуўся ў вёску, як быў, у кашулі і споднiках.

Казёл зваліўся на Антося і гучна замэкаў.

Так і прасядзелі ўсю ноч Антось з казлом, прыціскаючыся адзін да аднаго. На золку іх выцягнулі пастухі.

А Міхась пусціў пагаласку па вёсцы, што ўчора сам нячысцік паклікаў яго голасам Антося, каб той выцягнуў рагаціка з ямы, прымусіўшы да таго ж распранууцца ледзь не дагала. З таго часу Міхась у рот гарэлкі не браў, як казаў, "завязаў" назаўжды без ніякага кадзіравання. У лес жа ступіў толькі праз год, ды і то пад жончынай аховай.

## КАРАЦЕЛЬКІ

За сваё жыццё тата Карла пасадзіў дрэва, выгадаваў з яго сына і збудаваў з яго дом.

Аліса з краіны Залюстэр'я не магла прыйсці да сябе.

Прыйшла смерць з сякерай і засекла Бураціну.

Пакахаў Бураціна Мальвіну. Ну і падхапіў ён смяртэльную хваробу. У яго ўзнік грыбок.

Фотакарэспандэнт здымаў дзяўчат на панэлі.

"Свіння" прыйшла загадчыку свінафермы.

Певень задзёўб слана, калі дазнаўся што той таптаў курэй.

Паднялі бабкі дзеда.

Долар трымаў курс.

У пачатку было з LOVE.

У Афрыцы скрыжавалі малпу і папугая… і атрымалася МАКАКАДУ.

## ДЫЯЛОГІ ПА ТЭЛЕФОНЕ

- Гэта салон пракату?
- Так.
- Маглі бы вы пракаціць мяне?

- Гэта тэрапеўт?
- Так.
- Маглі бы вы паслухаць мяне?

- Слухаю.
- Мяне турбуе кашаль. Паслухайце.

Тэлефануе заіка.
- Алё.
- Слухаю.
- Алё…
- Ну дык слухаю вас.
- Алё…Алё.. Алёну можна?

**КАРЭКТАРСКІЯ АГРЭХІ**

НАЗДЗІРАЦЕЛЬ.
КВАЗІМОРДА.
ШЛАНГБАУМ.
ТАНКСІСТ.
СУКАФРУКТ.
МОРГФЛОТ.
ДЗІН-БОМЖ.
КУРГАН ЛАВЫ.
ГАД ПЕЧАНІ.
ЖАННА Д'АЯРК.
АНСАМБЛЬ ПЕНСІІ І СКОКАЎ.
РОБІН ГАД.
ЛІТРАТАР.
ХЛЕБАБУЛЕЧНЫЯ ВЫРАБЫ.

**БІБЛІЯЗНАЎСТВА**

"МУМУ" - кніжны даведнік даяркі.
"КАШТАНКА" - рэцэпты салдацкай кухні.
"НОЧ ПЕРАД РАЖСТВОМ" - парады пры правядзенні першай шлюбнай ночы.
"МЁРТВЫЯ ДУШЫ" - кніжны даведнік сантэхніка.

**СТУДЭНЦКІЯ НЕДАЧУТКІ**

"ВАЛАСЫ ПАД СЯРПОМ ТВАІМ" *(У. Караткевіч).*
"ВЯРТАННЕ БРУДНАГА СЫНА" *(Рэмбрандт).*
"ДАЖЫЦЬ ДА СВАТАННЯ" *(В. Быкаў).*

"Я МУЖЫК БЕЛАРУС,
ПАН СУХІ І КАСЫ…” *(з верша Я. Купалы).*

"МЯЦЕЛЬ NIVEA,
СЦІХНУЎ ВЕЦЕР…" *(з верша М. Багдановіча).*

## ДУМКІ Ў ГОЛАС

Акуляры носяць, каб праўда ў вочы не калола.

Калі цяжка дагнаць словы ў цітрах, падумай, можа ты і наогул у іх "не даганяеш".

За словам у кішэнь лезе той, хто ведае што яна не дзіравая.

Каб узрушыць свет, трэба быць не толькі вядомай асобай, але і спраўным міліцыянерам.

З радыё слоў не выкінеш.

Пад нагамі звычайна круцяцца педалі ад ровара.

Папера патрэбна не толькі, каб пісаць па неабходнасці, але і чытаць… пры неабходнасці.

Смех працягвае жыццё. Смех бывае "заразлівы". З гэтага атрымліваецца, што людзі жывуць аднолькава, "заразіўшыся" адзін ад другога.

Смех - не грэх! А смяяцца над хворым чалавекам?

## ЦЫДУЛКІ НА СЛУПАХ

Арганізую вячэру пры свечках *(Вартаўнік могілак).*
Вышываю крыжыкам *(Святар - пенсіянер).*
Прадам труны. Акцыя. Пад кожнай накрыўкай падарунак.
Заплаці падаткі і спі спакойна *(Надпіс на могілках).*
Чарвяк адкусанага яблыка шукае сваю другую палову.
Салдат злоўленага языка абмяняе на гавяджы.

## ВЯСЁЛЫ СЛОЎНІК

АКУЛА - жонка акуліста.
АЛКАШ - жонка Ядвігіна Ш.
АЎТОРАК - членістаногае, здаўшае на правы кіроўцы.
АЎЧАРКА - шукальнік пахмяліцца.
АШАЛЕЦЬ - накінуць шаль.
БАДЗЯГА - бабуліна папруга.
БАНДЭРОЛЬ - крутыя на здымках.

БУЛЬВАР - кухар.
БУЛЬДОГ - Муму - ахвяра Герасіма.
БУШЛАТ - ранейшы прэзідэнт Амерыкі на візіце ў Латвіі.
ВЕНЕЦЫЯ - працэдура па збору крыві.
ВІТАМІН - сустрэча з Богам.
ВЫДРА - парашок для кухоннай чысткі.
ГАРБАТКА - бабулька.
ГАРЛАЧЫК - перарэзчык горла.
ГЕКТАР - Гек з пустым посудам.
ГЕРАІН - муж гераіні.
ГУМАРЫНКА - рыначная дубінка.
ДАДАТАК - расейска-беларуская згода.
ЖАБРАК - помесь жабы і рака.
КАМБРЫГ - атручаны камбікормам.
КАТУХ - адсякальшчык вушэй.
КАЧАНЯ -невялікі качан капусты.
КАШМАР - кашэчыя мары.
КУРКУМА - ліса.
ЛАСТ - муж ластаўкі.
МУРОГ - карова.
МУСЛІМ - Міністэрства ўнутраных спраў пры рэдакцыі тыднёвіка "Літаратура і мастацтва".
НАТАТНІК - бацькава папруга.
ПАКУТНІК - шкадлівы хлопец.
ПАЛЯШУК - трактарыст шукае поле.
ПАРАХОД - самагонны апарат.
ПІРОГ - карова на вадапоі.
ПЛАТФОРМА - платная форма.
РЫЧАГ - звер.
САВОК - муж савы.
САНІТАР - перавозчык тары ў зімовы час.
САНТЭХНІКА - зімовая тэхніка.
СВІНЕЦ - кныр.
СПАДЧЫНА - паніжэнне ў чыне.
СТАРШЫНА - "голая" шына.
СУПРАЦЬ - вайсковая страва.
СЫРМАК - здоба з сыру і маку.
ТВАРОГ - пісьменнік.
ТРУБАДУР - гора-сантэхнік.

# *Станіслаў Суднік*

## МАМА, ДАЙ!

Яны ішлі ўсё далей, і іх станавілася ўсё меней. Яны не ведалі, хто яны, бо не мелі назвы. Яны наогул не ўмелі гаварыць. Яны не ведалі, колькі іх, бо не ўмелі лічыць. Яны не ведалі, адкуль яны ідуць і куды, бо не маглі хоць неяк акрэсліць мясціны, па якіх рухаліся. Яны ведалі толькі, чаго яны ідуць. Яны ішлі, як і доўга перад тым, у пошуках ежы і, каб схавацца ад небяспекі. Яны не разумелі, што ёсць дзень і ноч, але разумелі, што бывае то светла, то цёмна. Яны нічога не ведалі пра вясну і лета, пра восень і зіму, яны разумелі толькі, што бывае цёпла і бывае холадна. Яны не ведалі, якія расліны можна есці і якіх есці нельга, яны знаходзілі салодкія расліны, ягады, плады і елі іх, яны знаходзілі горкія і кіслыя плады і іх не елі. Калі ж раптам салодкая ягада аказвалася ядавітай, то той, хто з'ядаў яе або паміраў, або хварэў, але выжываў. Калі паміраў, то на тым усё і заканчвалася. Не пашанцавала. Калі выжываў, то прыблізна ведаў, якая расліна яму пашкодзіла, і стараўся больш яе не чапаць. Калі ядавітую расліну распазнавала маці, то яна імкнулася не даць яе дзецям, забараняла, узнікаў досвед.

Яны елі кожную жывёліну, якую маглі злавіць, і ўцякалі ад кож-

най, якая магла з'есці іх. Досвед многіх паляванняў гаварыў ім, на каго варта паляваць, а на каго без сэнсу, бо выніку не будзе.

Сёння іх стала яшчэ менш. Сёння загінуў А-а. А-а быў найдужэйшы з іх. Яго ўсе баяліся і ўсе слухаліся. А-а быў адзіны, хто меў імя. Імя сваё ён атрымаў ад таго, што вельмі часта і з розных нагодаў крычаў: "А-а". Ці то гэта быў клік перамогі, ці папярэджанне пра небяспеку, ці што іншае. Калі чулася: "А-а", - усе ці аглядваліся на правадыра, ці кідаліся да яго, ці папярэджаныя пра нейкую небяспеку кідаліся ўцякаць.

Неўзабаве, каб перадаць нейкі знак, які ішоў ад правадыра, то той, то сёй таксама прамаўляў: "А-а". Наогул то яны чулі гукі, адрознівалі гукі, і нават маглі самі гукі падаваць. Яны лемантавалі ад болю, яны пераймалі гукі, што падаваліся звярамі ці птушкамі, маглі паказаць рык тыгра, выццё ваўка, посвіст птушак. У перадачы гэтых гукаў быў сэнс. Але кожны раз свой. Рык тыгра не заўсёды абазначаў небяспеку, а свіст птушкі не абазначаў амаль нічога.

Сёння ўсё было, як звычайна. Яны начавалі ў лесастэпе, дзе былі вялізныя дрэвы і шырокія пашы. Лесастэп быў найбольш прыдатным для жыцця.

Выйсці ў адкрыты стэп для іх было вельмі небяспечна. Яны не маглі бегаць вельмі хутка, яны не мелі моцных зубоў і кіпцюроў, не маглі ўзляцець у неба, як птушкі, ці закапацца ў норы, як дробныя звяры.

Забрацца глыбока ў глухі лес таксама не выпадала, там вельмі цяжка было знайсці ежу. А тут на мяжы лесу і стэпу ім, якія ўмелі лазіць па дрэвах і якія ўмелі бегаць па зямлі, было ямчэй. Па сваіх магчымасцях кожны з іх прайграваў навакольным жывым істотам. Ніхто з іх не мог дагнаць аленя ці антылопу. Ніхто не мог падужаць тыгра ці мядзведзя. І яны не змаглі б жыць у гэтым свеце, каб не мелі адной важнай перавагі: яны трымаліся разам вялікай групай, яны ўмелі ўзгоднела нападаць і абараняцца. У іх былі інстынкт еднасці і інстынкт адказнасці за супляменнікаў.

Ноч была халаднаватая. З першымі промнямі сонца яны пачалі вылазіць з нораў пад карэннямі дрэваў, з дуплаў, проста з разлежыстых кустоў. Ім было холадна, і ўсе хацелі есці. У іх не было поўсці, як у звяроў, ці пер'я, як у птушак. І ім было холадна. Сагрэць іх маглі толькі сонца і ўласны рух. Рух мог іх і накарміць. На ўскрайку лесу было шмат ягадных кустоў, але ягады былі яшчэ горкія. Знайсці нешта салодкае было не проста. А побач з імі жыло шмат жывёл. Адны з іх елі траву. Другія елі першых. Тыя другія былі страшныя і для іх, але калі ўдавалася завіць і забіць траваядную жывёліну, то можна было

паесці мяса і папіць крыві. Злавіць якую-небудзь вялікую жывёліну надзеі было мала, не хапала ні спрыту, ні хуткасці, ні сілы. Але што-небудзь меншае можна было спрабаваць. Некалькі з іх хавалася ў засаду за кустамі і на нізкіх гуках дрэў. А астатнія пабліжаліся да статку антылоп, ахоплівалі іх, аддзялялі некалькі і пачыналі гнаць на засаду. Калі ўсё ішло ўдала, і засаднікам удавалася схапіць адну антылопу і скруціць ёй шыю, то яе тут жа пачыналі рваць на часткі і есці. У іх не было нічога акрамя зубоў і кіпцяў, але рукі ўжо ўмелі хапаць, браць, трымаць. Рукі ўмелі трымаць палку, камень, рог, костку, але ніхто іх з сабою не насіў: трэба - бралі, не трэба - выкідвалі. Адны з іх адарваўшы кавалак мяса піхалі сабе ў рот, іншыя імкнуліся даць перш дзецям. Пары рэдка трымаліся разам, сям'і як такой не было, пары ўзнікалі і раскідваліся, хаця мелі месца і даўжэйшыя па часе сімпатыі і прывязанасці. Клопат пра дзяцей цалкам клаўся на маці, але калектыўны клопат пра малых існаваў. Іх заўсёды імкнуліся абараніць, схаваць, пакарміць.

Сёння ўсё было як звычайна. Яны заўважылі статак антылоп, што мірна пасвіліся недалёка ад зарасляў кустоў. А-а і некалькі мацнейшых пахаваліся ў кустах абапал вузкага праходу, астатнія адышліся далёка ў поле, каб ахапіць антылоп і пагнаць іх у бок кустоў. Зразумела, што антылопы ў бок кустоў ісці не хацелі, іх трэба было моцна напужаць і адрэзаць усе іншыя кірункі ўцёкаў. Загоншчыкі, хаваючыся ў траве, ачапілі статак і падняўшыся ва ўвесь рост з крыкамі пабеглі да антылопаў. Тыя, пачуўшы гвалт, кінуліся ў бок супрацьлеглы і пабеглі такі да кустоў. Засаднікі са сваіх схованак кідаліся на прабягаўшых міма жывёлін. Але схапіць і ўтрымаць адну асобіну ўдалося толькі А-а. Ён спачатку сумеў паваліць антылопу на зямлю, а пасля рэзкім рыўком скруціў ёй шыю.

- А, а, - разлеглася вакол. На гэты час танальнасць поклічу была ўрачыстая і пераможная адначасова.

Але не паспелі яшчэ ўсе сысціся да А-а, як збоку раздаўся грозны рык, і паказаўся вялікі малады леў. Леў нахабна рухаўся ў бок забітай антылопы. Усе сыпнулі ў бакі, але А-а застаўся на месцы. Ён зарычаў падобна, як і леў і даў зразумець, што не аддасць здабычу. Ён стаяў высокі, моцны, але з пустымі рукамі, гатовымі, каб схапіць драпежніка. Не раз здаралася, што драпежнік у такія моманты адступаў, але сёння леў скочыў. А-а сумеў ухіліцца, і леў амаль праляцеў міма, аднак задняй лапай усё такі зачапіў А-а, і той не ўстаяў, паляцеў на зямлю. І леў паспеў першым сабрацца для наступнага скачка. А-а толькі падымаўся, як на яго рухнула ўся маса драпежніка. На завяршэнне драмы глядзець не было каму, усе разбегліся.

Яны даўно ішлі разам: Ён і Яна. Яны сябравалі з маленства. Ён не пакінуў Яе, калі Яна зацяжарыла, Ён падтрымліваў Яе. Калі Яна нарадзіла маленькае стварэнне, Ён адрозніваў гэтае стварэнне ад усіх іншых такіх жа, разумеючы, што гэта яго дзіця. Ён стараўся падкарміць малое. Спачатку адно, а потым і другое. Такая доўгая ўзаемная прывязанасць не была характэрная, выклікала непаразуменне, асабліва з боку Таго са злымі вачыма, які імкнуўся пабыць з Ёю, і ад якога ім дваім часта даводзілася адбівацца. І, як ні дзіўна, ім гэта ўдавалася, бо іх падтрымліваў А-а. Грозным поглядам ці рыкам ён адганяў Таго ад пары, і на нейкі час усё супакойвалася.

Але сёння А-а не стала. Усё племя сабралася на невялікім узгорку. Усе выдатна ведалі, што каб выжыць, яны мусяць трымацца разам. Каб трымацца разам патрэбна, каб было за каго трымацца, патрэбны новы А-а. Пры тым усе разам яны нічога не вырашалі, вырашаў нехта адзін. Сёння гэтым адным быў Той са злымі вачыма. Той выйшаў наперад, выцяў сябе кулаком у грудзі і пракрычаў: "А-а!". Гэта мусіла абазначаць, што ён цяпер галоўны, яго павінны слухацца, ён будзе караць няпаслухмяных, ён будзе весці ўсіх, куды захоча.

Для Яго і Яе гэта была рэальная небяспека. Заступіцца больш не было каму, а ў выпадку бойкі супляменнікі проста маглі дапамагчы новаму А-а і разарваць іх на часткі - і іх, і дзяцей.

Яна паглядзела на Яго. Ён кіўнуў галавой і пайшоў наперад. Ён выйшаў на другі край узгорка. Таксама выцяў сябе кулаком у грудзі і таксама пракрычаў: "А-а!".

Двух А-а быць не магло. Значыць, павінен быў застацца адзін. Яны пайшлі насустрач адзін аднаму. Той выглядаў вышэйшым і мацнейшым. Ішоў, расставіўшы рукі, каб ямчэй схапіць супраціўніка.

Ён ішоў роўна, але ў нейкі момант нахіліўся і ўвабраў у руку ладны камень.

Ён не парушыў ніякіх правілаў, бо ніякіх правілаў не існавала. Не парушыў ніякіх законаў, бо ніякіх законаў не было. Не парушыў ніякіх нормаў маралі ці этыкі, бо не было ні нормаў, ні маралі, ні этыкі.

Былі толькі інстынкт самавыжывання, былі сіла, хуткасць, спрыт і хітрасць. Але ў дадзеным выпадку інстынкт самавыжывання ў Яго замяніўся страхам за Яе і дзяцей, таму пры Ім з усёй зброі засталіся толькі сіла, якая была яўна меншая, чым у Таго, засталіся хуткасць, спрыт і хітрасць, якая раптам на імгненне прабліскнула розумам і падказала Яму ўзяць камень. Цяпер заставалася не дапусціць, каб Той абхапіў Яго і зламаў ці хрыбет, ці шыю. Трэба бы-

ло паспець выцяць першым. Той не разумеў небяспекі ад паднятай рукі з каменем. І калі Ён кінуўся проста ў расстаўленыя рукі, радасна рвануўся сашчапіць іх, але ў тым прамежку цяжкі камень апусціўся на галаву Таго. Ён уклаў у той удар усю сілу. Увесь страх за Яе. І Той упаў, так і не сашчапіўшы рук. Яшчэ адзін удар каменем давяршыў справу. Той не дыхаў. Ён пераможна паглядзеў на ворага, выйшаў на вяршыню пагорка і голасна крыкнуў:

- А-а!

І ўсе зразумелі, што Ён - больш не Ён, Ён цяпер - А-а. Гэта і яго імя, і яго пасада. Гэта і права, і абавязак.

Але на тым усё не скончылася. А-а махнуў Ёй, і Яна падышла да яго.

- Ма, - сказаў А-а, паказваючы на яе.

Што гэта мусіла значыць? Мая, яе так завуць, ці яшчэ што? Аднак усе зразумелі, што ў іх цяпер ёсць не толькі А-а, але і Ма.

Гэта трэба было запомніць, да гэтага трэба было прывыкнуць, гэта трэба было навучыцца вымаўляць з апошнім было лягчэй, пераймаць гукі яны ўмелі. Запомніць такое доўгае і першае ў іх жыцці слова "Ма" было цяжэй. Чаму першае, бо "А-а" - гэта фактычна яшчэ працяжны гук, а "Ма" - два гукі, "Ма" - слова.

- Ма, - яшчэ раз крыкнуў А-а.

- Ма, - паўтарыла Яна.

На гэтым першы ўрок мовы закончыўся. Сонца хілілася да зямлі, а яшчэ трэба было пахаваць Таго. Яны даўно не елі сваіх супляменнікаў, але і не кідалі іх там, дзе застане смерць. Гэта таксама быў інстынкт - не прывучаць драпежнікаў да смаку свайго мяса, каб не будзіць у тых жадання паляваць на іх. Таму яны паклалі Таго ў невялікую ямку і закідалі большымі і меншымі камянямі. Магчыма, хто-небудзь і разверне тыя камені, магчыма які -небудзь ліс і падкапаецца пад камені знізу. Але большага зрабіць для нябожчыка яны не маглі і не ўмелі.

Надыходзіла халодная і галодная ноч, бо за дзень мала што ўдалося знайсці для ежы. Ім усё яшчэ не было вядома, дзе той дзень і тая ноч, яны ўсё яшчэ разумелі толькі святло і цяпло або цемру і холад. Але сёння гэтай ноччу засынала не бездапаможнае племя двухногіх, голых, галодных істотаў, хаця і яно таксама. Сёння сярод іх засыналі дзве зусім іншыя істоты, так падобныя і так адрозныя ад іх. Гэтай ноччу сярод іх засыналі два чалавекі: А-а і Ма. Чалавекі, бо мелі імёны, і калі А-а было  яшчэ паўімем - паўпоклічам, то Ма - было імя ў чыстым выглядзе.

Назаўтра ўсе маглі гэта забыць, але А-а, прачнуўшыся з пер-

шымі промнямі сонца, выйшаў на пагорак і заміж звыклага:"А-а" ціха прамовіў:

- Ма, - і абняў яе.

- Ма! - пачулася збоку, да іх падходзілі іхнія дзеці

- Ма!

Яна абняла дзетак, стараючыся сагрэць іх сваім целам. Грэць больш не было чым. Племя не ўмела яшчэ здзіраць шкуры з жывёл, ды і жывёл тых упаляваць удавалася не так шмат. Гэтаму яны навучацца пасля. А пакуль што яны толькі станавіліся людзьмі, бо ведалі ўжо два словы.

Яны сабраліся і пайшлі далей, шукаючы то вады, то яды.

А-а і Ма паспяхова вялі племя. А-а паказаў усім, што, ідучы на паляванне, трэба браць у рукі па добрым камяні, і тады іхнія сілы значна павялічваюцца. Паляванні сталі больш удалыя, але асноўнай здабычай былі птушыныя яйкі, салодкія карэнні, ягады, плады.

Аднойчы Ма падышла да дрэва з пладамі, якія мелі вялікую костачку ўнутры. Дрэва не мела ніякай назвы, не мелі назвы і плады. Усё, што цікавіла Ма, ці можна ўжо плады есці, бо калі можна, то зверху з'ядаецца мякаць, а з костачкі можна дастаць зярнятка, раскусіць ці разбіць каменем, і таксама можна есці. Ма сарвала плод, паспрабавала, мякаць была салодкая. Яна не ведала, спелы ці зялёны плод. Ён быў салодкі. Прырода сама паклапацілася, каб спелыя плады былі салодкімі, а няспелыя - кіслымі або горкімі.

Убачыўшы, што Ма есць плод, да яе падбегла дзіця, выцягнула руку:

- Ма!

- Ма!

Ма не звяртала на яго ўвагі.

- Ма, Ма!

- Мама, дай!

Просьбы малога не надта краналі Ма, але яна пачула і зразумела, што дзіця просіць плод і што гэтым словам можна прасіць.

Ма крыкнула:

- А-а!

А-а пачуў і зразумеў, што Ма кліча яго, падышоў. Ма паказала яму на плод, які вісеў высока для яе. А-а падскочыў і сарваў плод. Ма выцягнула руку і сказала:

- Дай!

І А-а зразумеў, што яна просіць плод, што так можна прасіць. А знізу зноў зарумзала малое:

- Мама, дай!

Гэта быў першы асэнсаваны сказ з двух слоў, але што гэта быў за сказ. Яны трое А-а, Ма і дзіцяня гэтым сказам пачалі гаварыць.

Неўзабаве слова "дай" будзе ведаць усё племя. Потым з'явяцца словы "сюды", "туды", "ідзі". З'явяцца назвы жывёл. Яны будуць вельмі кароткія з аднаго склада: "бык", "леў", "тыгр", "слон", "конь", "ліс", "воўк", "бэр". З'явяцца назвы дрэў таксама кароткія: "дуб", "бук", "кедр", "вяз", "клён”, "граб".

Племя А-а і Ма загаворыць, пройдзе пэўны час, пакуль дойдзе да сапраўднай мовы. Слоў будзе мала, звязкі іх будуць не заўсёды лагічныя, але калі іхняе племя сустрэнецца з чужым, нямым племем, то ў іх будзе відавочная перавага.

Што сталася з нямым племем, не вядома, а гаваркое племя жыло, множылася, падзялілася на два, потым на чатыры. Часткі пайшлі ў розныя бакі.

Яны даведаліся, што такое дзень, што такое год. Прайшлі тых гадоў многія тысячы, а першыя словы: "Мама, дай!" гучаць па ўсёй планеце дагэтуль. Гучаць ужо непадобна, малазразумела, але захоўваюць свой спрадвечны сэнс:

- Мама, дай!

Магчыма, гучыць гэта без налёту высокай духоўнасці, магчыма па-спажывецку, але так пачыналася чалавецтва:

- Мама, дай!



*Віктар Праўдзін нарадзіўся ў 1955 годзе ў г. Лідзе. Скончыў Менскую вышэйшую школу МУС СССР. Працаваў у праваахоўных органах, у часопісе "Нёман", першым намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", галоўным рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура". Аўтар кніг прозы "Візіцёр з Поўначы" (1991), "Боль (Споведзь міліцыянера)" (1996), "Эксгумацыя" (1997), "Вяртанне з апраметнай" (1999), "Шлях да Галгофы" (2002), "Нелюбімыя гінуць" і інш. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

# *Віктар Праўдзін*

## ДЗВЕРЫ

*Фантасмагарычная аповесць*

Ужо і марозы скавалі Свіслач, і снегу намяло вышэй калена, і, галоўнае, да Новага года засталося менш тыдня, а мне ўсё некалі пашыць новую шапку. І спраў, як кажуць, кот наплакаў, але толькі сягоння ўвечары запіхнуў у рукзак два футры, якія год таму выйграў у шахматы ў п'янага суседа-паляўнічага, дзве пляшкі віна "Добры кум" і пацёгся да майстра.

На завулку, куды прывяла газетная рэкламная абвестка, не было прывычнай людской мітусні, не было ліхтароў, не стаялі абапал дарогі ўснежаныя машыны, без якіх зімовую вуліцу сучаснага шумлівага Мінска і ўявіць цяжка.

Няспешна шкрэбаю абцасамі, знаходжу патрэбны дом, з цяжкасцю адчыняю прысыпаныя рыхлым снегам дзверы і праціскаюся ў вузкі, сыры, прапахлы цвіллю пад'езд. На другім паверсе адразу пстрыкнуў выключальнік, быццам мяне тут чакалі, і скупое іржавае святло выхапіла з цемры драўляныя лесвічныя прыступкі. Зрабіў крок,

другі, - дошкі пад нагамі зарыпелі. Гэтае жалобнае скавытанне імгненна падхапіла глухое рэха і шумна панеслася па калідорах, каб праз хвіліну-другую спалоханым шоргатам растварыцца ў самых цёмных закутках.

- Ты хто такі? -- Раптам над самай галавой прабасіў хрыпаты голас. - Каго шукаеш?

Мяне, быццам, токам ударыла... Спалохана, сілячыся ўбачыць хрыпатага, заікаючыся гукнуў:

- Я да шаўца... п-па аб'яве... ш-шапку хачу  пашыць...

На стромкай абшарпанай лесвіцы нікога не было і адразу густая магільная цішыня доўгімі ліпучымі шчупальцамі памацала сэрца, халоднымі колкімі мурашамі захаладзіла спіну, сцяла дыхалку.

Давячыся даўкім саленаватым камяком я прастагнаў:

- Шавец у гэтым доме?

- Мяне што?!. Зноў прадзінамілі?!. - Зацята крыкнуў нябачны і выключыў святло.

Ад цемры веяла лютым холадам. Я не мог варухнуцца, быццам, прырос да прыступак.

- Шаноўны, запаліце святло..., - вырваўся з грудзей умольны стогн.

- Табе да кушнера... знойдзеш па шыльдзе на дзвярах... - азваўся злы голас, - а што тычыцца святла, яно з семнаццатага ліпеня тысяча дзевяцьсот васемнаццатага года для цябе ў вялікім дэфіцыце... ганьба не памятаць гэтага...

- Шызафрэнік!.. - істэрычна закрычаў я. - Як можна памятаць тое, што адбылося задоўга да народзінаў?!.

Хрыпаты не адказаў. Шукаючы ў кішэнях газнічку, пальцы нервова ўздрыгвалі. У цёмных, сырых калідорах набатам гуло істэрычнае рэха:

... гань-ба...  шыза...  фрэ-нікам...

Намацаў газнічку, нягнуткімі пальцамі пстрыкнуў колцам і як толькі святло мільганула ў далоні, рэха імгненна знікла.

- Раз, два, тры,.. - лічыў я прыступкі, - сямнаццаць, васемнаццаць, дваццаць дзве...

З кожнай прыступкай дыхалася лягчэй і лягчэй, быццам выходзіў з нейкага склепа. Нечакана павеяла халодам, газнічка патухла і адразу над галавой загарэлася лямпачка. Я стаяў каля дзвярэй з чорнай шыльдай, на якой золатам зіхацела гравіроўка:

**"Якаў**
**(кушнер)**
**стукаць сем разоў!"**

Лёгкія перасцярожлівыя дотыкі да шыльды адгукнуліся стрэламі ў глыбіні пакояў. Пасля сёмага шчоўкнуў замок, дзверы пружыніста расчыніліся, зайграў Гімн СССР, і нейкая нябачная сіла ўсмактала мяне спярша ў вузкі калідор, а потым выштурханула ў вялікі, без адзінага акна прыцемнены пакой з масіўным сталом пасярэдзіне.

За сталом сядзеў сівы, як лунь, барадаты чалавек у выцвілай вайсковай гімнасцёрцы, на якой красаваліся бліскучыя гузікі з зорачкамі. На тоўстым, чырвоным носе - круглыя акуляры ў чорнай аправе з трэснутым левым шкельцам.

- Добры дзень, - павітаўся я, агледзеўся і засумняваўся, што трапіў да шаўца, бо ніштo тут не нагадвала майстэрню. Акрамя стала і крэсла аніякай мэблі не было, нават швейнай машынкі. Дзед на прывітанне не адказаў, толькі шкельцы акуляраў паблісквалі іржавым, нежывым святлом.

- Вы шыеце шапкі? - запытаўся я.

- Магу і шапку, - пасля доўгай паўзы, цяжка быццам выціснуў з сябе гаспадар і нечакана падабрэлым голасам дадаў: - А ты, міл чалавек, мяшэчак сымі, футры дастань і не хвалюйся, што інструмент не на вачах.

Ён трохі памаўчаў, выцягнуў з шуфляды стала вялікі алюміневы кубак, дзьмухнуў у сярэдзіну і паблажліва зазначыў:

- "Добры кум" - тое, што трэба... паважаю...

- Дзевятнаццаць градусаў, - задаволены тым, што з'явілася агульная тэма для размовы, з напускной бравадай ускрыкнуў я і мітусліва зашарыў рукамі ў рукзаку. Шкло дзынькнула, гаспадар груба крыкнуў:

- Асцярожна, асталоп, не разбі...

"Чарніла" не дэфіцыт, - падумаў я, - а порахам усё ж смярдзіць!.."

- Гэта я страляў, - спакойна сказаў луняваты і паклаў на стол побач з кубкам маўзер, які да гэтага мне даводзілася бачыць толькі ў старых фільмах.

Пісталет быццам загіпнатызаваў, я не мог адвесці позірку ад чорнага дула з якога яшчэ курыўся кволы ланцужок дыму. І зноў страх удушлівым кірхатым камяком перахапіў дыхалку.

- Не бойся, я сваё, відаць, адстраляў, - прыглушаным голасам сказаў стары і з непрыхаваным сумам дадаў:

- Маладосць не вернеш, але я чакаю... Чакаю, што прыйдзе час і мяне паклічуць...

Ён некалькі разоў стукнуў кулаком сябе ў грудзі, істэрычна крыкнуў:

- У старой печы агонь добра гарыць... Не, ён не гарыць, агонь палыхае ў маім сэрцы... І мяне паклічуць, як піць даць, паклічуць!.. Нехта ж павінен маладых навучыць!?..

- Не хачу быць шаўцом..., - катэгарычна заявіў я і імгненна пашкадаваў, што перапыніў майстра.

Шавец, упёршыся рукамі ў стальніцу, паволі ўстаў, бяскроўны здзервянелы твар скрывіла зневажальная, гідлівая ўсмешка, іржавыя шкельцы акуляраў цяпер прамяніліся трывожным ружовым святлом. Сінія тонкія губы злосна працадзілі:

- Якраз гэткіх, як ты і трэба вучыць!..

Лунявы грукнуў кулаком па стальніцы, ды так, што алюмініевы кубак падскокнуў, крутнуўся, і я ўбачыў у метале скразную круглую дзірачку, у якой золатам зіхацела зорачка на гузіку ад гімнасцёркі.

- Хто ты ёсць?.. Дзеля чаго жывеш і каму ў гэтым жыцці патрэбны? - пырскаючы слінай, роў стары.

- Вася я, Вася... З мамай жыву... - адчуваючы сябе бяспраўным нікчэмным чалавекам, пакаянна мармытаў я. - Кепскага не рабіў... на апазіцыйныя мітынгі не хадзіў... у ладкі пляскаў толькі на канцэртах...

- Ведаю, што не рабіў, бо ў прынцыпе нічога зрабіць не можаш! Мяне ў маладыя гады ў мяшку не злавілі б, а ты ў трыццаць - ніхто, пустое месца. І, думаю, прыцёгся сюды не шапку шыць, а жыццю вучыцца... А ты ведаеш, Вася, чым давядзецца плаціць за маю навуку?

Ад панічнага страху я быццам праглынуў словы і цяпер толькі і змог, што адмоўна матлянуць галавой.

- Каштарыс абмяркуем потым... А цяпер урок першы...

Стары выструніўся, вялікія пальцы заклаў за шырокі салдацкі рэмень - расправіў гімнасцёрку і ўрачыста выдыхнуў:

- Нас вёў у бой "ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ", і перамагаць дапамагаў "таварыш "Маўзер". А ты, Вася, нічога не зрабіў, але адразу марыш быць "ВСЕМ!" Не-е, даражэнькі, гэтак не бывае...

- Не хачу быць "ВСЕМ"!.. У войску не служыў і зброю ў рукі не вазьму!..

- Маўчы, неданосак, - пагрозліва рыкнуў стары, - твае думкі і жаданні, нават самыя патаемныя, даўно не сакрэт.

Ён паправіў акуляры і асцярожна, як самую каштоўную рэч, узяў у рукі пісталет, панюхаў дула:

- Час няўмольны, і цяпер вернаму сябру патрэбен новы гаспадар, толькі не прыблудная авечка і не п'яніца, абцяжараны думкай пра шапку з футра зайца, якая, быццам, прынясе шчасце. На авечку ваўкі знойдуцца, а ў алкаша і курачка здохне, што нясе залатыя яйкі...

Лунявы пагрозліва ўскінуў руку з пісталетам угору, шкельцы

акуляраў успыхнулі пурпуровым колерам:

- Эх, хлопец, хлопец, каб ты толькі ведаў, хто апошнім стаяў перад "таварышам "Маўзерам"?!. - Шавец апусціў руку і ласкава, як нешта жывое прыгладжваючы пісталет сумна ўздыхнуў: - Пасля нашай працы мы сталі сапраўднымі кавалямі шчасця... Мы верылі ў светлую будучыню і дзеля яе дзесяцігоддзямі кавалі, кавалі, а калі трэба было, то і закоўвалі... А цяпер што? "Вера" ў пазыкі пайшла, і адразу чэрці апанавалі святое месца, дзяржаву на анучы разадралі... Я шапкі шыю і не магу дачакацца, калі "таварыш "Маўзер" выпусціць апошнюю кулю... Тысячы, мільёны шапак, а куль - сем, толькі сем, колькі не страляю... І кожная куля сваё імя мае: Мікалай, Аляксандра, Вольга, Таццяна, Марыя, Анастасія і Аляксей. А далей - асечкі... Маўзер - пісталет без хібаў, значыцца, той хто наверсе, - лунявы шматзначна тыцнуў пальцам угору, - хоча мяне замяніць... "Ён" хоча, каб наша мара не засталася нязбытнай фантазіяй... Ведаю, што як толькі апошняя куля знойдзе ахвяру - для нас настане рай зямны. Ты, хлопча, хочаш разгульна, весела жыць?.. Даўно за табой назіраю і ведаю, што хочаш быць ваўком, а не авечкай... А калі так, трошкі падвучышся - і будзеш новым гаспадаром "таварыша "Маўзера"... У маёй навуцы не сумнявайся... Імёны напішу... Гарантую: асечак не будзе... А цяпер ідзі на кухню, на стол збяры. Перш, чым вучобу пачаць, каўтанём па чарачцы...

Шавец змоўк, шкельцы акуляраў зноў змянілі колер і цяпер праглыналі мяне чорным халодным бяздоннем. Ад гэтага пранізлівага холаду ў мяне нечакана, закружылася галава, і зноў трубыігралі Гімн, а гаспадар дырыжыраваў нябачным аркестрам... Нечакана і стол, і крэсла з шаўцом адарваліся ад падлогі, і праз секунду лунявы ўжо хістаўся ў такт музыцы пад самай столлю.

- Што з табой, вучань? - Па-блазенску рагатаў шавец. - Не піўшы ахмялеў?

Гэты д'ябальскі смех мяне імгненна ацверазіў. Музыка знікла, стол стаў на месца.

"Уцякаць ад гэтага шызафрэніка, уцякаць пакуль не позна,.." - падумаў я, падхапіў рукзак і пасунуўся спіной да адзінай дзверыны.

Стары наставіў на мяне пісталет, кляцнуў затворам:

- Выкінь дурноцце з галавы. Што, калі я пажартаваў наконт асечак, і зараз "таварыш "Маўзер" скажа сваё слова?..

- Вучыцца буду..., - нечакана для сябе прашаптаў я і раптам адчуў, што сапраўды вельмі хачу жыць... і жыць у раі зямным.

- Цяпер ты гаворыш праўду, - зарагатаў стары. - Інакш і быць не можа... Таварышу "Маўзеру" небяспечна хлусіць... А рукзачок з

футрамі пакінь, так і быць, шапку скраю...

З дзвюмя бутэлькамі ў руках я вужакай выслізнуў з пакоя, асцярожна зачыніў дубовыя дзверы і тыцнуўся ілбом у халодную клямку.

- Во ўліп дык уліп, ледзь пазбавіўся ад шызафрэніка, - з палёгкай уздыхнуў я, - каму расказаць - не паверыць...

За спінай хтосьці кашлянуў. Хацеў азірнуцца і не змог, баяўся зноў убачыць шаўца, які, бліскаючы сваімі страшнымі акулярамі, наставіў маўзер і цэліць мне ў патыліцу. Па-здрадніцку дзынкнулі бутэлькі, і гэты звон спаралізаваў цела.

"Усё... канец, - гучна тахкала ў скронях, - чорт бы пабраў гэтую шапку... цяпер згіну не за нюх табакі..."

Секунды расцягнуліся ў вечнасць, але ніхто ў мяне не страляў.

Нечакана аднекуль здалёк даляцелі прыглушаныя галасы:

- Тут нехта ёсць, - ці то запытаўся, ці то канстатаваў хуткі малады голас.

- Акрамя нас - нікога, - упэўнена адказаў прыглушаны агрубелы бас. - Напэўна, мой верны ваўкадаў ланцугом бразнуў.

- Так, ваўкадаў мухі не праспіць, не тое, што якога лазутчыка, - пагадзіўся малады. - Але ж ты не пра сабаку хацеў расказаць...

Відавочна, што бас належаў чалавеку ўладарнаму, бо далей ён гаварыў адрывіста і жорстка, быццам, аддаваў загады.

- Я, князь Міндоўг, вымушаны пайсці на змову з папам Рымскім Інакенціем шаснаццатым... Ён хоча ўручыць мне каралеўскую карону, але пры ўмове, што я з праваслаўнай веры перайду ў каталіцкую... Няхай будзе так... Няхай увесь свет думае, што мы заадно з Ватыканам, што мы ў іх пад пятой, што я стаўленік папы Рымскага... Гэта нам на руку, галоўнае займець княства, узяць лейцы ў рукі... Сяброўства з Ватыканам прыструніць ворагаў, і ў нас будзе час для ўмацавання Новагародскай дзяржавы. А потым мы станем ў поўны рост, вернем страчанае і заваюем незалежнасць. Мне нават праснілася, што княства наша будзе вялікім, ад Варажскага мора да Цёмнага... І табе, Войшалк, мой старэйшы сын, выпала быць мне паплечнікам, а потым і прадаўжальнікам роду, і наследным гаспадаром...

- Дзякую, князь, за давер, - пасля невялікай паўзы адказаў малады. - Толькі...

- Што толькі? - загарачыўся хрыпаты, - хочаш сказаць, што я прыстасаванец і веру мяняю, як наложніц? Калі згодзен - кляніся на мячы, што не здрадзіш святой справе, а калі ты не са мной, значыцца, ворагаў у мяне пабольшала...

Пагрозліва дзынкнула жалеза, і малады голас узрушана пра-

мовіў:

- Я не магу быць ворагам свайму бацьку... У нас, князь, мэта адна, а шляхі розныя... І я, Войшалк, сын Міндоўга, клянуся, што малітвай і мячом, не шкадуючы жывата свайго, буду ствараць, мацаваць і бараніць новую незалежную дзяржаву.

"Тэатр, як піць даць, тэатр", - падумаў я і не тоячыся азірнуўся.

Тое, што ўбачыў, і сапраўды было падобна на тэатральную сцэну. Прыцемненая вялікая зала, на сценах некалькі дымлівых паходняў, масіўны стол, на падлозе мядзведжая кудлатая шкура з агромністай галавой і ашчэранай пашчай, а замест вачэй нешта бліскучае, ці то шкло, ці то каменчыкі. Каля стала стаялі артысты апранутыя па-зімоваму ў доўгія да пят футры з лісіцы, у руках - выцягнутыя з похваў мячы, на галовах (чаму я імгненна пазайздросціў) шапкі з футра бабра.

"І навошта на сцэнічны гарнітур артыстаў траціць гэтулькі грошай?.. З кажухоў сто шапак пашыць можна... Сто чалавек ашчаслівілі б..." - чамусьці падумаў я і толькі раскрыў рот, каб запытацца, як выйсці на вуліцу, артыст, што стаяў да мяне спіной, крыкнуў:

- Гэй, чалавек, піва нам...

- Навошта піва, калі віно ёсць! - яшчэ не зусім аддыхаўшыся, з напускной бравадай адазваўся я і памкнуўся да артыстаў. Але не паспеў і двух крокаў зрабіць як у гарляк балюча ўпёрлася бліскучае лязо шыракаватага мяча. Дзве пары немігатлівых вачэй, аднолькава халодных у сваёй рашучасці, свідравалі мяне з непрыхаванай злосцю.

- Т-таварышы артысты, калі не хочаце віна - крутнуся ў краму па піва...

Толькі паспеў выдыхнуць я і запнуўся. Колкае лязо пад сківіцай павольі прыўздымала мяне, выцягвала, пакуль не выпрастала ў струнку.

"Усё, прапаў, - віхрам закруціліся думкі, - ніякія гэта не артысты... Божа мой, няўжо..."

- Князь, галаву адсячы паспеем, - заступіўся за мяне малады, - трэба даведацца, чыё і якое заданне выконвае лазутчык...

- Тут сакрэту няма, - ускіпеў стары, але меч трошкі апусціў, - Даніла Галіцкі з хаўруснікамі смерці маёй шукае...

- А рыжскі біскуп Андрэй чыю волю выконвае?.. Няўжо, княжа, ты думаеш, што рымскі папа апякуе цябе толькі за багатую навагародскую казну?

- Твая праўда, лазутчыка трэба дапытаць на дыбе і ...

Міндоўг змоўк на паўслове і доўгім, пранізлівым позіркам утаропіўся ў мяне. Потым зняў са сцяны паходню і некалькі разоў абышоў вакол, памацаў далонню балоневую куртку, джынсы, пацёр у пальцах

каўнер кашулі, здзіўлена зірнуў на Войшалка:

- Лазутчык юродзівы?..

- Першы раз бачу гэткія споднікі, - перасмыкнуў плячыма Войшалк, - бабы ўбачаць - засмяюць, ці каменнем закідаюць. Ён і сапраўды падобны на вар’ята.

- А мо гэтая апратка - падманка? Што ўзяць з прыдурка? Полаўцы, Даніла Галіцкі ды і пляменнікі мае Таўцівіл, Едзівіт і Вікінт на ўсё пойдуць, каб наш род са свету звесці. Памятаеш блажэннага Рэўбу, які будучыню прадказваў, а ў рукаве кінжал хаваў, падарунак палавецкага хана Цягака? Уцёрся, сабака, у давер да жонкі, а праз яе, дурніцу, і да мяне. Крумкач паганы каркаў пра смерць пад Твірымеццю, а мяне толькі лёгка параніла. Схапілі лазутчыка, кінжал знайшлі... А на дыбе, сабачы хвост, ва ўсіх грахах і прызнаўся... Гэй, сабака, - Міндоўг балюча садануў кулаком у грудзі, - хто ты, чый будзеш?..

Я глядзеў у вочы артыста і бачыў вочы драпежнага рыся. Апошнія сумненні зніклі. Кожным валаскам на сваёй скуры, кожнай кропелькай крыві я адчуў, што меч на шыі трымае той самы жахлівы князь Міндоўг. Сэрца імгненна ахутаў невыносны адчай і пякельная, смяротная туга па кароткім жыцці, па маці, якая і не здагадваецца, што хутка яе сына раздзярэ на часткі дыба. Раптоўныя, пякучыя слёзы жалю пакаціліся па шчоках, я гатовы быў укленчыць і прасіць літасці, у гэтыя хвіліны хацелася прызнавацца ва ўсіх грахах сваіх і чужых, каб толькі застацца жывым. Але ў вачах Міндоўга - ні кропелькі спагады: "рысь" не ведае жалю...

- Што і каму я дрэннага зрабіў?.. - давячыся слязьмі ледзь чутна скуголіў я, - Чым угнявіў Бога, чаму цярплю гэткія напасці?.. Спярша лунявы дзед з маўзерам, цяпер - Міндоўг... Няхай гарыць сінім полымем тая шапка... Нашто яна, калі вось-вось галаву адсякуць... Тут жа, на гэтай сцэне і адсякуць...

- Чый будзеш, хвост сабачы? - пагрозліва рыкнуў Міндоўг і лязо мяча зноў апякло шыю.

- В-в-ася... Васіль я, - вырваўся з грудзей адчайны стогн.

- Хлус! - пырскаючы слінай закрычаў раз’юшаны князь, -- Васілька, брата Данілы Галіцкага, мы добра ведаем... На дыбу юродзівага ... агнём пытаць...

Пасля гэтых слоў у вачах пацямнела, захісталіся падлога, няведама адкуль наляцеў сцюдзёны хлёсткі вецер, падхапіў, закружыў, і быццам пушынку кінуў мяне ў агромністую чорную пашчу дзвярнога праёма. Цемра, бяздонная і ліпучая, імгненна ўсмактала налітае свінцовым цяжарам непаслухмянае цела.

Востры боль працяў скроні, грудзі, і я ўспомніў, што гэткае са

мной ужо некалі было, калі дзесяцігадовым хлапчуком пераплываў Мнюту. Тады стромкае цячэнне ракі знесла ў вір, і ў адно імгненне вада, неба, блізкі, абрывісты бераг закружылі мяне ў нейкім варожым нямым танцы. Я нават спалохацца не паспеў, як апынуўся вад вадой. Здавалася, хтосьці ўхапіў за ногі, стрыножыў і пацягнуў у глыбіню. Страху не было, толькі трывожыла, што цяпер і маці, і татка, і цётачка Вера, у якой гасцявалі, знойдуць на беразе ракі малодшага брата Алеся прывязаным за нагу да маладога дубка і зразумеюць, што я за нянька...

Сілы супраціўляцца не было... я здаўся... І ў гэты момант нейкая магутная сіла выхапіла мяне з вады, лёгкія напоўніліся чыстым летнім паветрам, і боль у скронях адступіў, аціх. Я паволі расплюшчыў вочы і ўбачыў татку, які на мяне не сварыўся за прывязанага да дрэва брата, а нечакана падміргнуў, жартаўліва раскудлаціў чубрыну і весела сказаў: "Яшчэ пажывём, сынок..."

"Эх, Васіль, бедны Васіль... Уліп ты па самую макаўку, - лагодна прашаптаў хтосьці ў самае вуха. - Бацька твой памёр, і ніхто не прыйдзе на дапамогу... Цяпер сам кумекай, як з вады выйсці сухім..."

- Ты хто? - прастагнаў я, і ахрыплае крохкае рэха дробным россыпам пакацілася кудысьці ў вышыню, у самае неба.

Доўга ляжаў нерухома, напружана прыслухоўваўся да кожнага шораху, але шаптун больш не адазваўся. Нечаканы сутаргаваты боль у левай назе прымусіў устаць, зрабіць некалікі крокоў. Пад нагамі нешта дзынкнула, я нахіліўся і адразу намацаў бутэлькі.

- Не разбіў - і то добра, - рассоўваючы бутэлькі па кішэнях, сказаў я, і адразу за некалькі метраў прыветлівым залатым святлом заружавеў дзвярны праём.

"Не-е, цяпер я - стрэляны верабей, ад дзвярэй трэба ўцякаць...", - падумаў я, крутнуўся і адразу натыкнуўся на сцяну. Пашарыў рукамі з правага боку, з левага - і зазумеў, што выхад толькі за спіной. "Як бы там не было, а пекла абміну", - вырашыў я і паціху, трымаючыся сцяны, пасунуўся на святло.

Падыходзіў, і з кожным крокам меньшала маё супраціўленне. Святло, здавалася, прыдушвала волю, яно вабіла, прыцягвала, заклікала.

Пачуліся галасы. Я сцішыўся, далоньмі прыкрыў вушы. Галасы зніклі, і ў душы зацепліўся радасны агеньчык: "Я не хворы, не шызафрэнік, галава ў поўным парадку". Апусціў далоні і зноў: "бу-бу-бу-бу...".

Цікаўнасць перасіліла, але цяпер, каб сябе нічым не выдаць, вырашыў толькі паслухаць і прачыніў дзверы трошкі шырэй.

"... Пішы, пан Война, артыкул трэти..."

Чалавек гаварыў упэўнена, але я чуў не ўсё, а толькі тое, што гучала неяк па-асабліваму ўрачыста, а месцамі, нават, пагрозліва.

"... Коли бы хто змову або спикненье, або бунт учинил на здоровье наше господарское, хотя бы пан бог уховал, ижбы оная змова не была учинком пополнена, таковый за слушным доводом... честь, горло и именья тратить... теж маестат наш ображон бываеть... хто бунтовал покой взрушаючи... хто осести и опановати ... Великое князство и госпадарём на нём быти, и войско, люд служебный збирал, выводил... хто бы теж з неприятельми нашими порозуменье мел, листы до них або послы радечи против нам ... остерегаючи слал, тым неприятелем якую помоч давал... хто бы теж замок наш неприятелю здрадою подал... хто бы теж люди неприятельские... здрадливе привел... таковый... честь и горло тратить..."

Да дзвярэй не датыкаўся, але яны самі па сабе зарыпелі, расчыніліся і гамана сціхла. Я адхіснуўся, хацеў даць лататы, але каменны мех надзейна трымаў у халодных абдымках. Аднекуль зверху даляцеў раскацісты рогат лунявага шаўца:

"Зразумей, нарэшце, сваёй дурной галавой, што выбрацца з майстэрні можна толькі праз дзверы, а яны адны... Ад іх не ўцякаць, іх трэба прайсці... Гэта і ёсць этапы тваёй вучобы."

У чаканні горшага я прытуліўся да шурпатай сцяны, але праз хвіліну да слыху зноў данеслася манатонная гамана. Выбару не было.

"Няхай будзе, што будзе", - падумаў я і толькі хацеў увайсці ў пакой, як звонкі голас, зусім не той, што чуў да гэтага, істэрычна крыкнуў:

- ...Кажаш, што тутэйшыя мяне, генерал-губернатара, клічуць Мураўёвым - вешальнікам, што шляхта мной грэбуе, а просты люд баіцца?.. Што ж, няхай будзе так!.. Толькі ад свайго не адступлюся і дадзеныя імператарам надзвычайныя паўнамоцтвы скарыстаю напоўніцу... Вольніцы больш не будзе... Што не зрабіў рускі штык, зробіць руская школа... Цяпер на геаграфічных картах з’явіцца Паўночна-Заходні край... Хто хацеў рэформ - іх атрымае... Сібір вялікая!.."

- Ну ўсё.. Хопіць з мяне князёў, генералаў, імператараў!.. - адчайна крыкнуў я, абхапіў галаву рукамі і кінуўся праз вялікі ўцемнены пакой да прачыненых дзвярэй, за якімі курыўся крывавы непраглядны туман.

Убачыў генерала, які стаяў каля акна са шчэпленымі за спіной рукамі. Ён не змяніў гордай паставы, не спалохаўся і не здзівіўся, быццам, маё з'яўленне было нечым будзёным, а вось другі, па ўсім і сакратар, і памочнік, і целаахоўнік у адной асобе, не разгубіўся, імгненна кінуўся напярэймы. Віно ў кішэнях замінала і, каб хутчэй

дабегчы да выратавальнай дзверыны, я выцягнуў бутэлькі. Служка, па ўсім, прыняў бутэлькі за бомбы. Ад страху яго вочы ледзь не вылузнуліся з вачніц. Але свае абавязкі ён ведаў добра. Не паспеў я і двух крокаў зрабіць, як генеральскі памочнік вокамгненна крутнуўся да Мураўёва, раскінуў рукі ўшыркі і закрыў генерала сваім целам.

- Брава... маладзец... задаў жару... цябе баяцца... яшчэ трошкі і маўзер твой... - у самае вуха зарагатаў шавец.

У гэты момант у маёй душы і сапраўды варухнулася няведамае дагэтуль пачуццё, пачуццё сілы і перавагі, і не над кім-небудзь, а над чалавекам, які сотні людзей пакараў смерцю, тысячы адправіў на катаргу. Але, пачуўшы пра маўзер, зноў жывёльны панічны страх кіпцюрамі ўпіўся ў сэрца. Я кінуўся да прачыненай дзверыны цалкам перакананы ў тым, што цяпер абавязкова вырвуся на волю.

- Дурань... Воля, як і гарэлка, галаву толькі захмеліць, а праспішся - тут цябе жыццё і апахмеліць, садане пад самы дых... Каб адчуць сапраўдную асалоду ад свабоды - вазьмі маўзер і вярніся..., - закрычаў шавец і паспрабаваў упіхнуць мне ў руку пісталет.

Я сігануў ад лунявага, як чорт ад ладана і ўсё ж наўздагон атрымаў удар у спіну, ды гэткі моцны, што, як у тумане, праляцеў адны дзверы, другія, трэція ...

Калі плюхнуўся на зямлю - болю не адчуў. Ды што той боль, калі я, нарэшце, вырваўся на волю. Густы цёплы туман не адступаў, ён п'яніў духмяным пахам чабору, мяты і чамусьці табакі. Доўга ляжаў слухаючы нязвыклую і жаданую цішыню. У гэтыя хвіліны мая змучаная душа поўнілася радасцю і жаданай ціхамірнасцю.

Толькі гэтая ап'яняльная радасць была заўчаснай. Як толькі туман развееўся, я імгненна зразумеў, што хітры настаўнік украў у мяне і радасць і апошнюю надзею вырвацца з ягоных ліпучых лап.

- Ты ў святая святых!.. - узнёсла шаптаў недзе над галавой шавец. - "Таварыша " Маўзера" я тут атрымаў з рук самога...

- Я больш не жадаю цябе чуць... - Стогн адчаю і болю вырваўся з маіх грудзей. - Ты мне больш не настаўнік... Прападзі ты пропадам, чорт старарэжымны... Без тваёй навукі ведаю, як жыць...

Я падхапіўся на ногі і, сілячыся ўбачыць шаўца, каб запусціць у яго бутэлькай, крутнуўся ў адзін бок, другі і аслупянеў... На мяне, быццам, вядро кіпню вылілі...

Памешваючы серабрыстай мудрагелістай лыжачкай духмяную гарбату ў кубачку (вось адкуль пах чабару і мяты), на мяне вывучальна глядзеў чалавек якога я ведаў з дзяцінства. З маіх грудзей, разам з даўкім камяком вырваўся амаль бязгучны сутаргаваты шэпт:

- Л-е-е-нін?!.. Уладзімір Ільіч?!..

- Пра чорта старарэжымнага вы, баценька, трапілі ў самую кропачку... - прыязна ўсміхаючыся сказаў Уладзімір Ільіч і падаў мне руку.

- Вася... Васілій, - памятаючы шаўцову навуку, выструніўся я і паспешліва дадаў: - Жыву з мамай у Мінску, працую...

- Дзе і кім вы, Васілій, працавалі, для нас не мае аніякага значэння, - паблажліва паляпаўшы мяне па плячы, перапыніў Ленін. - Ведаеце словы з нашага гімна: "... кто был ничем, тот станет всем"... Гэта пра вас, Вася... - Ён гучна сербануў з кубачка і, не зводзячы з мяне пранізлівых вачэй, дадаў: - Вы, толькі, што сказалі галоўнае - старарэжымная навука не патрэбна, і, вы, пасылаеце яе к чорту!..

Ленін рэзка крутнуўся і ўзнёсла прамовіў:

- А што, таварыш Троцкі, прыслухаемся да голасу народа?

Толькі цяпер я ўбачыў яшчэ аднаго чалавека, мне добра вядомага па гістарычных кнігах. Троцкі ляжаў на падлозе на вялізнай карце свету і цыркулем нешта вымяраў. Ён, не перапыняючы сваёй, па ўсім, вельмі важнай справы, кінуў на мяне мімалётны позірк і незадаволена буркнуў:

- Вам, Уладзімір Ільіч, трэба вызначыцца з днямі прыёму грамадзян. Мы тут думаем... Сусветную рэвалюцыю плануем, а людзі ідуць і ідуць... Гістарычнага моманту не разумеюць... Паўгадзіны таму ўваліўся нейкі бязродны прайдзісвет Якаў, і вы ўзнагародзілі яго маўзерам, гэты...

- У мяне зброі няма... толькі віно, - сілячыся пераканаць Троцкага ў сваіх добрых намерах, паспешліва сказаў я і прыціснуў бутэлькі да грудзей.

- Што за віно? Якой маркі? - пацікавіўся гаспадар кабінета і, не чакаючы адказу, хутка загаварыў пра нешта сваё, відаць, узгадаў нейкую даўнюю спрэчку:

- Вось вам, Леў Давыдавіч, адказы на пытанні і аб царскім "сухім законе", і пра нашу рэвалюцыю. Чалавек прыехаў, а хутчэй за ўсё яго дэлегіравалі ад Паўночна-Заходняга краю, амаль за тысячу кіламетраў, і, заўважце, не са зброяй, хаця рэвалюцыя павінна ўмець абараняцца, а з віном!.. Ён хоча сказаць нам дзякуй ад імя мільёнаў працоўных і падняць тост за лепшую будучыню!.. Значыцца, шлях у нас правільны і царскія законы трэба адмяняць... "Сухі закон" у першую чаргу... Памятаеце, што ў старажытным Рыме ад Цэзара патрабаваў просты люд?.. Ён патрабаваў хлеба і відовішч!.. Гэта і сёння актуальна... Хлеб для народа мы экспрапрыіруем у буржуяў і памешчыкаў, а для народа відовішчы прыдумаем свае, рэвалюцыйныя!..

Ленін хутка падышоў да стала, нахіліўся і пачаў нешта запіс-

ваць у тоўсты занатоўнік. Троцкі дыскусіі не падтрымаў. Ён моўчкі перасмыкнуў плячыма, узяў у рукі цыркуль і схіліўся над картай. У пакоі запанавала маўклівая, бязрадасная цішыня. У гэты момант мне да няўсцерпку карцела глынуць з гарляка "Добрага кума", а яшчэ я не мог пагадзіцца з тым, што маю дзяржаву называе, няхай сабе і Ленін, нейкім там краем. Я наважыўся, набраў поўныя гудзі паветра і адным духам выпаліў:

- Мінск - не Паўночна-Заходні край! Мінск - сталіца Рэспублікі Беларусь! А віно, хоць і "чарніла," але сваё... выраблена на дзяржаўным заводзе...

Ленін адарваўся ад нататніка, уважліва паглядзеў на мяне і нечакана гучна, залівіста рассмяяўся:

- Леў Давыдавіч, таварыш Троцкі, вы чуеце?.. У іх там што, вінаграднікі?..

- Чую, Уладзімір Ільіч, чую... З вінаграднікамі будзе каму разабрацца... Мяне ж турбуе іншае... Гатовы біцца аб заклад, што Васілій - нацыяналіст, "Права нацый на самавызначэнне" не чытаў і, галоўнае, наш непарушны Саюз не прызнае.

"Ну ты і дурань, - злосна прасіпеў нябачны шавец. - Цяпер сам выблытвайся з лабірынту, вучоба закончана... Выгадную справу магла заваліць толькі тупагаловая авечка..."

- А што мы робім з нацыяналістамі? - устаючы з падлогі, ці то запытаўся, ці то канстатаваў факт маёй трагічнай будучыні Троцкі.

- Леў Давыдавіч, вы, як заўсёды, правы... Паклапаціцеся аб выкананні Дэкрэта аб абароне рэвалюцыі, а мне працаваць трэба, - страціўшы да маёй персоны ўсялякую цікаўнасць, махнуў рукой Ільіч і, трошкі памаўчаўшы, незадаволена буркнуў: - Хоць бы хто піва прынёс, баварскага ці мюнхенскага... А то з нейкім беларускім "чарнілам" ды ў кумаўі... Вось Якаў - чэсны рэвалюцыянер... Думае, гаворыць і, галоўнае, робіць усё правільна... Яго дэвіз "Апошняе слова за таварышам "Маўзерам" пераважвае разглагольстванні аб дэмакратыі ўсіх інтэлегентаў свету, разам узятых.

На твары Троцкага быццам, прыклеілася самаўпэўненая пагардлівая ўсмешка, калі ён, шырока расчыніўшы дзверы, скрозь зубы здзекліва працадзіў:

- Пр-р-рашу...

У гэтую хвіліну, нават, шкельцы акуляраў не маглі схаваць ягоныя вочы, помслівыя і халодныя ў сваёй рашучасці.

"За што выспятка атрымаў, быццам, шчанюк шалудзівы? - Пакрыўджана думаў я, няспешна пераступаючы высакаваты парожак. - Няўжо на самай справе я безнадзейны няўдачнік?.. Чым угнявіў Троц-

кага?.."(бязмежная вера ў Леніна адкідвала сумненні наконт Троцкага: гэта ён, Леў Бранштэйн, пераканаў Уладзіміра Ільіча ў маёй нікчэмнасці).

Калі дзверы за спіной зачыніліся, успомніў пра шаўца і адчайна, на ўсю моц крыкнуў:

- Дзядзька шавец, скажы праўду... рай зямны не для мяне?..

Свайго голасу не пачуў. І адчайны крык, і, як здалося, мяне самога праглынуў надрыўны гул матораў і злоснае скрыгатанне жалеза. Агледзеўся і зразумеў, што метамарфозы не скончыліся. Я стаяў пасярод шырокага, пагорыстага поля, у руках не бутэлькі з віном, а супрацьтанкавыя гранаты. Паўсюль, як кінуць вокам, гарыць няскошаная збажына. Атрутны, удушлівы дым даўкім смогам ахутаў вогненную зямлю, праз попельна-сівае неба ледзь прабіваецца шэрае святло. Д’ябальскі роў нарастаў, і раптам з гэтага чорнага смярдзючага туману паволі выпаўз вялікі танк з белымі крыжамі на баках. Ён скрыгатнуў гусеніцамі, тузануўся і стаў. Шукаючы цэль, вежа крутнулася ў адзін бок, другі, і праз хвіліну доўгае дула застыла насупраць. Чорнае сталёвае вока, здавалася, наскрозь працяла мяне вострым смертаносным холадам.

Толькі холад гэты зусім не ад страху. Прага помсты перапаўняла сэрца. Я з нянавісцю гляджу на вычварнае, смярдзючае жалеза, якое растраляла, спаліла, скурожыла маю зямлю і, прыціскаючы гранаты да грудзей, раблю некалькі крокаў. Д’ябальская машына гыркнула, выпусціла з вантроб клуб чорнага дыму і пагрозліва заскавытала насустрач.

Танк не страляе, яму падабаецца гульня ў кошкі-мышкі, падабаецца гэтая няроўная схватка, а я не магу кінуць гранаты, бо вораг хітры і блізка не падпускае. Раптам з паднябесся да мяне даляцеў ужо некалі чуты голас: "Праз пяць крокаў кідай гранаты і хавайся ў акопе".

- Тут і выспы няма, за якой можна было б схавацца, не тое што акопа..., - прымаючы голас за мроі прашаптаў я ў адказ.

"Пяць крокаў - і кідай!.." - пагрозліва пракатала неба, і адразу бліснула кароткая, агністая маланка. Яна разарвала хмары, і ў той жа міг зыркае сонца секанула промнямі па танку.

Гэта быў шанец: вораг асляплены, і я кінуўся ўперад. Адзін, два, тры, чатыры, пяць - міжвольна лічу крокі... Пад нагамі і сапраўды глыбокі акоп... Не раздумваючы, шпурляю адну гранату, за ёй другую, але ў акоп не скачу, не хаваюся... У мяне ёсць выбар: я хачу бачыць, як гранаты трапяць у цэль...

Два выбухі зліліся ў адзін, і д'ябальская машына загарэлася,

запалыхала чорным злавесным полымем, вужакай закруціўся павук на бpaнi. Я глядзеў на перадсмяротныя сударагі некалі магутнай машыны і ў першыню ў жыцці адчуваў сябе па-сапраўднаму шчаслівым.

Раптам языкатае полымя вырвалася з доўгай рулі палыхаючага танка, і ў тое ж імгненне маё цела, здалося, разляцелася на тысячы, мільёны дробных кавалачкаў... Але ні болю, ні страху не адчуў... Радасць, толькі радасць перамогі над нікчэмнай пачварай перапаўняла змораную душу, і нават нервовы смех лунявага шаўца здаўся вымучаным і нікчэмным. Я быў перакананы, што цяпер назаўсёды пазбавіўся ад яго вар'яцкай улады, што больш не будзе ні змрочных калідораў, ні д'ябальскіх дзвярэй. Цяпер нада мной толькі бясконцае, вольнае неба і мне незвычайна хораша... Хораша і ўтульна ляжаць на цёплай зямлі.

Спакой парушылі крокі. Нада мной схіліўся чалавек у шынялі і вайсковай фуражцы. На хваравітым васпаватым твары рыжаватыя вусы, у заціснутай далоні люлька, з якой цягнецца кволы сінявы дымок. Пахучая табака казыча ў носе, хачацца чыхнуць, але чамусьці не магу гэтага зрабіць.

- С такими людьми ми бистро коммунизм построим? - з каўказскім акцэнтам пытаецца вусаты, і я яго пазнаю. - Как ви считаете, товарищ Хрущёв?

- Предполагаю, товарищ Сталин, что построим к тысяча девятьсот восьмидесятому году…

- А что думают члены Политбюро?

- Они согласны.

- Никита, с кем они согласны: со мной или с тобой?

- Конечно, с вами, товарищ, Сталин.

- А что конкретно Политбюро предлагает? - пасля невялікай паўзы дапытваўся Сталін. - Ведь плох герой-победитель, ох как плох... изранен, истощён…

- Ничего, выдюжит… Подлечим, и пусть строит... Наш народ от природы могуч и тягуч… Главное, людей зажечь на великое дело, воодушевить… А вы, товарищ Сталин - вождь, народ за вами в огонь и в воду…

- Почему всё делать должен товарищ Сталин? - пыхкае люлькай Сталін і, хітравата пазіраючы на Хрушчова, пытаецца: - А ты, Никита, что принесешь в копилку коммунизма?

- Подготовлю доклад к двадцатому съезду нашей партии, - імгненна рапартуе Хрушчоў і, трошкі памаўчаўшы, узнёсла дадае: -- Иосиф Виссарионович, можете не сомневаться, за Сталина жизнь от-

дам!

- В последнее время многие так говорят… А ты сможешь с гранатой да под танк, как вот этот израненный солдат?

- Только прикажите…

- А без приказа? И не за Сталина, а за Родину?

- Я привык выполнять приказы, ваши и партии…

- А я заметил, что у тебя, Никита, на конкретные вопросы всегда какие-то неточные, расплывчатые ответы... Подозрительно это… Ты или очень хитрый, или, впрямь, по приказу не только гопака спляшешь, но и с самолёта без парашюта спрыгнешь. - Сталін некалькі разоў пыхнуў люлькай, разгладзіў вусы і ціха прамармытаў: - Думаю об этих подозрениях нужно посоветоваться с нашим другом, товарищем Берия.

Хрушчоў не пачуў апошніх слоў правадыра, а перапытаць баяўся, ведаў, што недачуць Сталіна - бяду наклікаць на сваю галаву. Таму ён па-ваеннаму пстрыкнуў абцасамі і гучна, але з трывогай у голасе прамовіў:

- Разрешите исполнять, товарищ Сталин!..

- Что исполнять? - не зразумеў паплечніка Сталін, але праз хвіліну паблажліва махнуў рукой: - Иди, Никита, работай... а ми за тобой присмотрим...

На нейкі час я страціў прытомнасць, а калі зноў расплюшчыў вейкі, не ўбачыў ні сіняга неба, ні ласкавага сонца. Наўкол было цёмна, слотна, і толькі адзінокі рыпучы ліхтар цьмяна асвятляў невялікі лапік асфальту і вузкую лаўку, на якой я туліўся. Дзесьці зусім блізка куранты адбілі адзінаццаць, і ў маёй галаве яшчэ гуло і пераклікалася гэтае "бо-о-ом бу-у-ум, бо-о-ом бу-у-бум...", як нехта скінуў ногі з лаўкі і пачаў церці вушы, ды гэтак прафесійна, што я імгненна падхапіўся, зразумеў, з кім маю справу...

Двое хлопцаў нейкі час мяне моўчкі разглядвалі, потым разам, як па камандзе, ухапілі за рукі і паставілі на ногі. Маўчуны былі ў аднолькавых чорных скураных паліто, на нагах лакіраваныя чаравікі і, галоўнае, шапкі... Убачыў - і дыхалку перахапіла... На галовах незнаёмцаў красаваліся шапкі з футра пясца. Адным словам - начальства.

У мяне нешта як абарвалася ў сярэдзіне. "Няўжо шавец не адступіўся?" - падумаў я і запалым голасам замармытаў:

- Шаноўныя, прабачце..., толькі прысеў і не заўважыў як прыснуў...

- Падыдзе?.. - не зважаючы на маё ныццё, прабасіў адзін з незнаёмцаў і ціха дадаў: - Кудлаты..., худы..., трасецца, як у трасцы...,

па вачах відаць, што тупы, як абух, а гаспадар прасіў знайсці чалавека, хоць і з перыферыі, але прыстойнага... Каб нам з ім у лужыну не сесці..

- Памыем, паголім, апранём - і будзе што трэба, - па-начальніцку расцягваючы словы, прыняў рашэнне другі.

- Людзі, даражэнькія, і праўда, навошта вам сталічны "чарнільшчык"? - адчуўшы, што ёсць шанец вылузнуць, пазбавіцца чарговых непрыемнасцей, ледзь не галасіў я.

- Змоўкні, - пагрозліва прасіпеў незнаёмец, які меўся мяне мыць, галіць, апранаць, і балюча тыцнуў у бок кулаком. - Табе выпаў вялікі гонар, будзеш прадстаўляць народ... І глядзі ў мяне, не то...

Што значыць ягонае "не то..." я ведаў добра, ужо даводзілася мець справу, і не аднойчы, з гэткімі служкамі, таму думкі пра тое, каб збегчы ці аказаць хоць нейкае супраціўленне, адразу выкінуў з галавы. Незаўважна памацаў кішэні, у якіх чакалі свайго часу две пляшкі з віном, і пакорліва, не задаючы аніякіх пытанняў, сеў у машыну. Ехалі мінут пяць, не болей, а вось куды, як не сіліўся, убачыць не змог. Вокны былі зацемненыя ды яшчэ і занавешаныя.

У тое, што адбылося потым, і паверыць цяжка. Мяне, і сапраўды, спярша завялі ў лазню і добра, з веданнем гэтай няпростай справы, адпарылі, потым услужлівы кручканосы цырульнік падстрыг і пагаліў. Замест маёй апраткі незнаёмцы прымусілі апрануць чорны ў палоску гарнітур (гэткіх ніколі не насіў), новыя чаравікі, белую кашулю і гальштук. Цырульнік спырснуў адэкалонам, і я не пазнаў сябе, калі зірнуў у люстэрка. Але гэта былі толькі кветачкі...

Калі падвялі да агромністай, пад самую столь, дзверыны, адчуў нядобрае і заўпарціўся:

- Не пайду... хоць глыток віна дайце... для смеласці...

Два ўдары пад самыя рэбры ацверазілі імгненна. Трымаючы мяне пад рукі, каб не паваліўся, старшы здзекліва прашаптаў:

- Віно дачакаецца, можаш не сумнявацца... Зробіш усё, як трэба, і чарніла тваё...

Мяне сілком упіхнулі ў пакой. Зыркае святло балюча рэзанула па вачах, і я міжвольна прыжмурыўся. Сцены, столь і асабліва велізарная люстра зіхацелі золатам. Пасярод пакоя як укапаны стаяў невысокі брывасты чалавек у маршальскім мундзіры. На кіцелі, ад пагон да самага крысся, красавалася мноства зорак, ордэнаў і медалёў. Яны зіхацелі залатымі блёскамі і брыльянтамі.

- Кх - кх -кх... - хваравіта крахтануў брывасты, цяжка падняў руку, хістануўся, і яго тут жа абступілі, падтрымалі гэткія ж дзяды, як і ён. - С-с-пасибо… д-д-рузья... -з цяжкасцю выціснуў з сябе брывасты.

Толькі цяпер я ўбачыў на далоні маршала залатую зорку. Ён,

каб трывала стаяць на нагах, вольнай рукой ухапіўся за спінку крэсла і прычмокваючы губамі, з неймаверна доўгімі перапынкамі пасля кожнага слова, працягваў:

- Я... верный ленинец... тоже Ильич... только Брежнев...хочу, чтобы эту..., так сказать..., высокую..., заслуженную награду... мне вручил...

Брывасты змоўк (па ўсім відаць, забыўся тэкст) і да яго хуценька наблізіўся хударлявы сівы дзядок у вялізных акулярах і нешта прашаптаў на вуха. Брэжнеў гучна прычмокнуў, згодна кіўнуў:

- С-спасибо, т-товарищ Суслов…, я это и хотел сказать..., но вы меня опередили... Так вот..., эту заслуженную награду... от всего..., так сказать..., народа... мне вручит... товарищ Василий...

Брэжнеў ускінуў галаву і, задаволены сабой, агледзеў прысутных, маўляў, ёсць яшчэ порах у парахаўніцах. Гром апладысментаў грымнуў у зале, і я не адразу ўцяміў, што гэта гукавы запіс, бо старыя дзяды, паплечнікі генеральнага сакратара, толькі і змаглі, што скласці рукі...

Мяне падвялі да Брэжнева, і пад няспынны гром апладысментаў я прышпіліў да зараней пазначанага месца на кіцелі зорку героя.

- С-спасибо, - са слязьмі на вачах прахрыпеў Леанід Ільіч і тры разы моцна пацалаваў мяне ў губы.

"Ці пан ці прапаў..." - падумаў я і, сілячыся перакрычаць гул апладысментаў, амаль у самае вуха крыкнуў Брэжневу:

- Віншую... А каб не апошняя, па традыцыі трэба было б замачыць...

У выцвілых вачах Леаніда Ільіча бліснуў радасны агеньчык. Ён махнуў рукой, апладысменты імгненна сціхлі, і Брэжнеў гучным памаладзелым голасам загадаў:

- Коньяка нам... не каждый день героев чевствуем... Василию самый большой фужер… Он тоже… Не так что бы… Но тоже молодец… Кое-что заслужил…

Убачыў я той фужэр, і радасна скаланулася сэрца: вось пашэнціла, дык пашэнціла!.. Гэта ж не фужэр, а што ні на ёсць - ваза... У яе хоць з галавой... І ваза не простая, па ўсім, падарунак, на гарляку - амерыканскі сцяг і гравіроўка на ангельскай мове. Прыгледзеўся: і сапраўды - падарунак. Напісанае прачытаць не змог, а вось, "Рэйган", подпіс прэзідэнта, угледзеў...

Трошкі сербануў і хацеў паставіць пасудзіну на стол, але прысутныя разам закрычалі: " За здароўе дарагога Леаніда Ільіча пі да дна, пі да дна, пі да дна!.."  І я пажадліва засмактаў халяву...

Піў доўга, не смакуючы, і ўвесь час пераможна пазіраў на

Брэжнева, на ягоных састарэлых паплечнікаў. У гэты момант я і сапраўды адчуваў сябе "народам", і мне вельмі хацелася крыкнуць: "Дзяды, дзівіцеся на нас, на вашу змену!.."

Нейкі час яны і сапраўды дзівіліся, але раптам нешта пайшло не так. Пра маё існаванне нечакана забыліся, быццам мяне і не было. Але ж як не было, калі быў, і я ўбачыў Брэжнева, толькі цяпер у труне, і паплечнікі, якія толькі што крычалі заздароўную, неслі тую труну на плячах і не ўтрымалі, грукнулася яна ў магільную яму на Чырвонай плошчы. Я і паловы вазы не апусташыў, а дзяды ўжо выносілі з Крамлёўскіх варот генсека Чарненку... Потым хуценька пахавалі Андропава. А я, народ, усё яшчэ выконваў раней дадзены загад і цяпер ужо хлябтаў з той невычэрпнай хмяльной амерыканскай пасудзіны.

А потым прыйшоў "ён", пазначаны чорнай плямінай, і адразу ўхапіўся за вазу, хацеў адабраць... Толькі са мной гэткія нумары не праходзяць... Патузаліся мы патузаліся - ды і адступіўся плямісты, але напаскудзіць паспеў, разбавіў пітво смярдзючым пойлам. Можа, я і змаўчаў бы, каб новаспечаны генсек рабіў усё ціха, без мітусні, хто-хто, а мы даўно звыкліся жыць у пастаянным крызісе... Крызіс без пачатку і канца...

Але ж мечанаму гэтага было мала, яму трэба было мяне, народ, мордай у дзярмо... Ён да крывавай помсты перасварыў людзей і, чамусьці, (як прадбачыў Троцкі), павысякаў вінаграднікі... Адным словам, насваволіў, шмат чаго нарабіў незразумелага,  а з трыбуны на ўвесь свет гаманіў, што гэта "перабудова", што цяпер мы будзем жыць у нейкім там плюралізме і амерыканскай дэмакратыі... Але чаму незразумелага?.. Нават добра зразумела, на чыю мельніцу ён ліў ваду...

Цяжка, да тлуму ў галаве і колікаў у пузе, прывыкаў я да "гарбачоўскага пойла". А як прывык - адразу ў загіпнатызаваным п'янкім тумане ўбачыў Белавежскую Пушчу... Убачыў Ельцына, Шушкевіча, Краўчука... Хаўруснікі дружна краілі карту СССР...  Потым Ельцын пранёсся на танку па Маскве, пастраляў па "Белым доме" і праз нейкі час назваў Новае тысячагоддзе "линолиумам" і перадаў уладу...

Вопытны, спрактыкаваны Пуцін адразу ўгледзеў чужога і хуценька справадзіў, выпхнуў мяне ў народ, а сам, што вышкалены кухар, імгненна вызначыў прыярытэты паміж "катлетамі і мухамі..."

... І ляжу я цяпер на лесвічнай пляцоўцы каля цеплаватай батарэі. Пад галавой у рукзаку мяккія футры пабітыя моллю. Спіну, шыю грэю, а вушы мёрзнуць... Дужа мёрзнуць... Цяпла хочацца... А яшчэ хочацца пагаварыць... Няважна з кім, абы чалавек быў... І не проста перакі-нуцца нязначнымі, пустымі слоўкамі пра здароўе і на гады разбегчыся, а душэўна пагаварыць...

Са мной гэткае некалі было, сэрца памятае душэўнасць... У Мінску, на беразе Свіслачы сустракаўся з непрызнаным паэтам і ўсю ноч гаманілі, гаманілі... Родныя душы... От, былі часы!.. Пасля тых сустрэч жыць хацелася, кожнаму ўсміхацца, братам называць...

З добрым чалавекам пагаворыш - кушнера з "Маўзерам" не ўспомніш...

Праўда, лунявы калі-нікалі прымроіцца, зыркне крывавымі акулярамі, руку ўскіне...

Пустую!?.

Думаю, кушнер-Якаў "Маўзер" згубіў...

*Друкуецца ў аўтарскім скарачэнні.*

*Ларыса Канчэўская*

## МАЛЕНЬКАЯ АПОВЕСЦЬ ПРА ЛЮБОЎ

*Гэтыя ўспаміны пачаліся з дыялогу напрыканцы лістапада 2014 г. Праз нейкі час, пасля раздрукоўкі аўдыёзапісу, сп. Ларыса дапрацавала тэкст размовы і пачала пісаць сама. Мне вельмі прыемна, што я нейкім чынам спрычыніўся да гэтых цудоўных і найцікавейшых мемуараў.*

***Леанід Лаўрэш.***

### Пралог 1
### Размова, якая паклала пачатак "Успамінам"

**Л.К.** У Лідзе я жыву з 1954 года. Тады мы прыехалі з Латвіі. Потым нейкі час жылі ў Саратаве, а ў 1956 годзе зноў вярнуліся ў Ліду. Наогул, шмат разоў пераязджалі і вельмі стаміліся ад гэтага. Бацька - вайсковец, служыў у Паўднёвым гарадку. Мы здымалі кватэры на вуліцах Ламаносава, Калініна, Лётнай, жылі ў самім гарнізоне.

**Л.Л.** *Улічваючы якасць дома № 3 па вуліцы Міцкевіча*[1]*, верагодна, бацька меў у войску досыць высокі чын?*

[1] Дом "на чатыры сям'і", пабудаваны ў сярэдзіне 1920-х гг.па праекту архітэктара Тэадора Буршэ (Teodor Bursze) у калоніі дзяржаўных дамоў у Лідзе. Гл.: Лаўрэш Леанід. Крыніцы для вывучэння гісторыі калоніі дзяржаўных дамоў у Лідзе (1920-я - 1930-я гг.) // Гістарычная ўрбаністыка:

**Л.К.** Не, ён быў маёр.

**Л.Л.** *Маёр? Атрымаў стометровую кватэру ў капітальным доме?*

**Л.К.** Не, што вы! У нас дом быў перанаселены: у нашай кватэры жылі дзве сям'і. На другім паверсе, над намі, у кватэры жылі дзве сям'і, у кватэры насупраць другога паверха жылі дзве сям'і, і ў кватэры на нашай пляцоўцы першага паверха жылі тры сям'і. Тры кватэры былі заселеныя сем'ямі афіцэраў Паўднёвага гарадка, чацвёртая - Паўночнага. А калі мы толькі пераехалі, наверсе жыў камандзір татавага палка Качанкоў. Ён сям'ёй з шасці чалавек займаў усю кватэру.

Насупраць нас былі дзверы ў кватэру, якой распараджалася КЭЧ Паўночнага гарадка. У ёй жылі тры сям'і: вайсковы лекар шпіталя, маёр Лявіцін з жонкай і дзвюмя дочкамі; пяхотны старэйшы лейтэнант Баеў з жонкай і сынам; і старшына Лядаў з жонкай і дачкой. У тыя часы людзі, якія служылі ў войску і якія заставаліся на звыштэрміновую службу, насілі званне "старшына", а з канца 70-х гадоў XX стагоддзя - "прапаршчык".

Гэтая кватэра была, відавочна, "перавалачным пунктам". Жыхары, якія жылі ў двух меншых пакоях, атрымлівалі больш зручнае жыллё і з'язджалі. І толькі ў 70-я гады склаўся пастаянны "кантынгент" ўсёй правай паловы дома.

**Л.Л.** *Кватэры першапачаткова былі трохпакаёвыя. Як яны былі пераабсталяваны?*

**Л.К.** Іх не пераабсталявалі з часоў немцаў. Надпіс на запасным выхадзе, зялёная трафарэтка "Durchgang"[2], захоўваўся да 80-х гадоў.

У сям'і было двое дзяцей і таму ў нас былі два пакоі, а суседзі займалі адзін самы вялікі пакой. Камуналка. Мы прывыклі: гэта было звычайнай справай.

Першыя суседзі былі вельмі блізкімі людзьмі. Сусед - татаў калега, ён таксама быў афіцэрам, але да таго часу дэмабілізаваўся і стацыянарна вучыўся ў Менску ў інстытуце. Яго жонка выкладала французскую мову ў школе № 3. Яны жылі з яго маці і дзіцем.

Мае бацькі выдатна паладзілі з імі, і ўсе ўрачыстасці мы святкавалі разам. У кватэры панавалі спакой і добразычлівасць. Сусед дзядзька Толя Двойкін[3] быў валагодскі, "окаў" ("пошел" да "поехал").

---

асновы метадалогіі і крыніцазнаўчая база: зб. навук. арт. Гродна, 2011. С. 362-366.; Лаўрэш Леанід. Калонія дзяржаўных дамоў у Лідзе (1920-я - 1930-я гг.) // Лідскі Летапісец №2(62) - 2013. С. 74-78. - *Л.Л.*

[2] Выхад.

[3] Двойкін Анатоль Іванавіч (11.10.1928 г.н.) - нарадзіўся ў в. Дора Уломскага р-на Валагодскай вобласці. У 1948-55 гг. служыў у Савецкай Арміі,

Цётка Іра была нясвіжскай полькай. Яны былі трохі малодшымі за маіх бацькоў і прыкметна закаханыя адно ў аднаго. Перад кожным прыездам мужа з Менска яна ішла за вароты двара, накінуўшы на плечы жакет ці паліто, і доўга задуменна стаяла пад ліпай, чакаючы яго прыходу з вакзала. Тэлефонаў тады ў хаце не было, і ў горадзе яны былі рэдкасцю, толькі ва ўстановах і на вытворчасцях. І нашы суседзі перапісваліся: па 2-3 лісты на тыдзень.

Нават у свае дзесяць гадоў я разумела, што Ірына Канстанцінаўна Двойкіна для таго цяжкага часу здзяйсняла жыццёвы подзвіг - вучыла мужа на бедную настаўніцкую зарплату, бо ён не меў (або меў маленькую) пенсіі, звольніўся з арміі ў званні старшага лейтэнанта без выслугі гадоў. У разбітых гарадах жонкі афіцэраў былі спрэс беспрацоўнымі, і сем'і ледзь зводзілі канцы з канцамі. Нашы суседзі вырашылі не спадзявацца на кар'еру вайскоўца, а стварыць сабе перспектыву ў цывільным жыцці ... Ён скончыў энергетычны факультэт, і сям'я паехала па размеркаванні ў Гародню ... Усяго ў нас было чатыры змены суседзяў па кватэры. Народ быў розны.

У доме было велізарнае гарышча, на якім сушылі бялізну. Яно прасторнае, высокае і светлае. Адчуванне, быццам ты на караблі. Мы гулялі там у "дзяцей капітана Гранта". Вельмі глыбокі склеп. У ім доўга заставаліся пасля немцаў акенцы з кратамі на дзвярах і нямецкія адтрафарэчаныя надпісы. Хадзілі чуткі, што ў вайну там утрымліваліся зняволеныя. Распавядалі, што на сценах былі надрапаны пасланні: "Нас вядуць забіваць", - і яшчэ штосьці-небудзь такое. Пра гэта казалі дарослыя, я сама не бачыла - туды мы доўга баяліся лазіць.

**Л.Л.** *А падвалы былі падобныя на камеры?*

**Л.К.** Вельмі падобныя. Магутныя дзверы і перагародкі. Дзверы з такіх тоўстых плах.

**Л.Л.** *А што ў доме было пры немцах?*

**Л.К.** Не ведаю. Казалі, што нешта накшталт камендатуры або паліцыі.

**Л.Л.** *У ваш час гэта быў проста падвал? Бульбачка захоўвалася?*

**Л.К.** У кожнай кватэры быў свой падвальны пакой. Гэта даволі глыбока, таму бульба ніколі не прарастала. Мы там захоўвалі яшчэ і паліва (вугаль, торф), хатнія кансервы. Пасля правядзення цэнтраль-

ў 1956 г. працаваў кантралёрам-прыёмшчыкам у зборачным цэху Лідскага завода "Сельгасмашынабудавання", 1956-61 гг. - вучоба ў Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі. З 1961 г. на розных пасадах працаваў у Гроднаэнерга, ў 1988 г. пайшоў на пенсію з пасады начальніка службы размеркавальных сетак "Гроднаэнерга" - *Л.Л.*

**МАКС, ЛІНА:** А нас няма ў хаце!!!

*Працягваецца звон дзвярнога званка.*

**ЛІНА:** І хто гэта нахабна лезе ў наш асабісты шалаш?

**МАКС** *(цмокае Ліну і выпускае яе з абдымкаў)*: Не! Гэты нездагадлівец не скончыць трызвоніць! Трэба ісці адчыняць! *(Выходзіць.)*

**ЛІНА** *(папраўляе халацік, валасы)*: І хто там з'явіўся? Няўжо цяжка было папярэдне патэлефанаваць? Сёння ў мяне зусім не гасцінны настрой! Трэба бегчы пераапрануцца... *(Выходзіць.)*

*Уваходзяць* ***Макс, Вольга,*** *якая нясе торт, і* ***Павел,*** *у якога бутэлька з віном.*

**МАКС:** Вось і Жартуны, суседзі... Ліна, сустракай гасцей! Чуеш?

**ГОЛАС ЛІНЫ:** Пачакайце! Хто там?

**ПАВЕЛ:** А-ууу!!!

**ВОЛЬГА** *(ставіць торт на столік)*: Гэта мыы!!! З тоортаам...

**ПАВЕЛ** *(ставіць бутэльку ля торта)*: І з віном! Саалоодкіім...

*Уваходзіць* ***Ліна****, прыгожа апранутая і пры макіяжы.*

**ЛІНА:** Ааа, воо?! І як гэта вы без папярэдняй дамоўленасці...

**ПАВЕЛ** *(падыходзіць да Ліны)*: А мы, ведаючы вашую лагодную гасціннасць, рашылі сюрпрызам.

**ВОЛЬГА:** Я адгаворвала яго! Але ён...

**ПАВЕЛ** *(бярэ руку Ліны і цалуе яе)*: У вольны дзень я не мог не наведацца да дарагіх суседзяў! Мо не выпхнеце?

**ЛІНА:** Ды ўжо ж не, калі вы, Жартуны, завіталі з салодкім віном ды з карамельным торцікам!

**ВОЛЬГА:** Мы па-суседску... Мо не ў час? Можа вы кудысь ідзеце?

**ЛІНА** *(выслабаняе сваю руку ад Паўла)*: Не, не! У самы раз! Мы нікуды не ідзём і нікога не чакалі! А вы...

**МАКС:** Гэтак!

**ПАВЕЛ:** У такім разе прашу кахаць і шанаваць Богам дадзеных вам, нам суседзяў!

**МАКС:** Мы да суседзяў таксама без камянёў за пазухай!

**ПАВЕЛ:** Ах, якая ж прыгожая і ладная мая сусеедаачкаа...

**ВОЛЬГА:** Павел, не пужай Ліну сваім заляцаннем!

**ПАВЕЛ:** Ужо і пажартаваць нельга?! Жоонаачкаа мааяя...

**ЛІНА:** О! А я ў захапленні ад галантнасці...

**ПАВЕЛ:** Рэпэтэ, сільвупле! Будзьце ласкавы, сеньёра, паўтарыце...

**МАКС:** Добрыя адносіны між суседзямі маюць передумовай у-за-е-мнасць!

**ЛІНА:** Толькі каханне павінна быць узаемным!

**ПАВЕЛ:** З вашых малінавых вуснаў, Ліначка, выпырхнула самае жаданае для мяне слова...

**ВОЛЬГА:** Паўлюк! Я бачу, што ў цябе скокнула тэмпература! Хадзем-ка мы дахаты!

**МАКС:** А віно? Торт?

**ПАВЕЛ:** Ты, мая дарагая сямейная доктарка, ставіш памылковы дыягназ!

**ВОЛЬГА:** Каб вынесці майму мужу непамылковы дыягназ, мне не патрэбныя аніякія суперсучасныя дыягнастычныя апараты!

**МАКС, ЛІНА:** Мы не супраць сямейнага Айбаліта!

**ПАВЕЛ**: Ваш сямейны доктар перад вамі, спадары! Узаемадапамога паміж суседзямі - святы абавязак!

**ЛІНА** *(бярэ віно і торт, віно перадае Максу)*: За гэткія добрыя адносіны можна і пакайфаваць! Хадземце ў сталоўку!

**МАКС** *(трымае бутэльку)*: Хадземце...

**ПАВЕЛ** *(паціскае руку Максу)*: Я абедзьвюма рукамі за касмічныя адносіны між Лагоднымі і Жартунамі! Ідземце кайфаваць! Саладзііць...

**ВОЛЬГА, ЛІНА**: Мы любім салодкае!!!

**ПАВЕЛ:** А як жа кожны з мужыкоў лююбііць аасаалоодуу...

**ВОЛЬГА:** Нястрыманасць эмоцый не ўпрыгожвае мужчынскую сутнасць! І не дадае сібірскага здароўя...

**ПАВЕЛ:** Хто аб чым, а мая любая доктарка - аб здароўі!

**ВОЛЬГА:** Даруйце нам за нашыя сямейныя перакіды перад вамі! Мы...

**ПАВЕЛ:** Не хвалюйся мая, любка! Какафонія ў сямейных адносінах не з намі нарадзілася і не ў нашай сям'і скончыць свой злыядавы гуд!

**ЛІНА:** Слоўка за слоўка - боль жонцы альбо мужу ў галоўку!

**ВОЛЬГА:** Каб не атрымаць боль у сваю галоўку, трэба дзеля прафілактыкі самому паклапаціцца і знішчыць вірус злаславасці ў сваім сэрцы, а потым...

**ПАВЕЛ:** А потым з лёгкім сэрцам можна займацца салодкім каахааннеем з...

**МАКС**: Можна...

**ПАВЕЛ:** Аднак жончынага жорсткага, хаця і разумненькага прымусу над сабой, я не пацярплю!

**ЛІНА:** Ля, ля, ля! Вы не пацерпіце? Ды, калі хлопец смалеў за мною, каб атрымаць мяне за жонку, то ён, ён павінен заўжды, як рымскі раб, паслугаваць сваёй выбранніцы!

**МАКС, ПАВЕЛ:** Паслугуем!!!

**ЛІНА:** Гуураа!!! Вольга?

**ВОЛЬГА:** Адны пустазвонныя словы! Павел!?

**МАКС:** У мяне ў руцэ вашае віно хутка закіпіць!

**ЛІНА:** А ў мяне ваш торцік паплыве крэмавым ручаём!

**МАКС, ЛІНА:** Хадземце ўжо!

**ПАВЕЛ:** Перасохла ў горле і яшчэ...

*Усе выходзяць.*
*Гучыць лірычная музыка.*
*Уваходзяць Макс і Ліна.*

**ЛІНА** *(апранутая па-іншаму, відаць павялічаны жывот)*: Вольга - ідэальная жанчына! Ты згодны? А Павел... Гэты дураслівы Жартун страляе па кожнай неўпільнаванай качцы!

**МАКС** *(апрануты па-іншаму, абдымае, цалуе Ліну)*: Табе падабаецца? А мяне ён не цікавіць! Галоўнае, каб мы з табой, мая каханенькая, у нашым сямейным, зачыненым ад усяго свету, шалашы...

**ЛІНА:** Ты, Максік, дзікун! Ты цураешся людзей! Дзе твае сябры? Аауу!!!

**МАКС:** Мне ніхто, ніхто не патрэбны акрамя цябе, мая... Найлепшым сябрам для мяне будзе мой сынок, якога ты мне народзіш! *(Апускаецца на калені, цалуе Ліну ў жывот.)*

*Чуваць звон дзвярнога званка.*

**МАКС** *(на каленях перад Лінай)*: Мы нікому не адчынім! Нас няма ў хаце!

**ЛІНА:** Нямаа... наас!

*На сцэну са столі апускаецца экран, альбо робіцца зацямненне. Нейкі час гучыць лірычная музыка.*

*Да столі падымаецца экран, ці запальваецца святло, калі было зацямненне.*

***На сцэне:***
*Папярэднія прадметы мэблі.*

*На століку ляжаць цацкі для немаўляці, на падлозе стаіць пыласос.*

*Уваходзяць Макс з аголеным торсам і Вольга ў дэкальтаванай лёгкай сукенцы з медыцынскім фанендаскопам на шыі.*

**ВОЛЬГА:** А я зайшла агледзець вашага Міколку...

**МАКС:** Ліна пацягнула малога да сваіх бацькоў, каб самой пашвэндаць па крамах! А мяне пакінула ў хаце і во - загадала...

**ВОЛЬГА:** А я дык люблю хадзіць па крамах з маім знаўцам жаноцкай моды...

**МАКС:** Ты, Вольга, іншая справа! Ты...

**ВОЛЬГА:** Не злуйся! Маладзіцы калі-нікалі трэба парадаваць сябе абновай...

**МАКС:** Каб жа, калі-нікалі! А мне кажа, што я не павінен блытацца ў яе пад нагамі, калі яна ярue ў пакупніцкім экстазе! Бачыш?

**ВОЛЬГА:** А я нават сярдую на Паўлюка, што ён па нейкіх надуманых прычынах адмаўляецца ісці са мною па пакупкі!

**МАКС:** Наперад, калі ён адмовіцца, то смела бяры мяне за твайго моцнага тавараносца! *(Дэманструе біцэпсы.)*

**ВОЛЬГА:** Я не адмоўлюся! Май на ўвазе! Гляджу, у цябе пыласос напагатове?!

**МАКС:** Я ўжо прапыласосіў... Хатняя праца асабліва не абцяжарвае мужчынскія сілы!

**ВОЛЬГА:** Папярэджваю, што фізічныя перагрузкі наносяць шкоду здароўю!

**МАКС:** Шаноўная доктарка, для мужчыны, які паважае любую жоначку, прыкласці свае сілы ў працы па хаце - гэта лёгкія трэніроўкі!

**ВОЛЬГА:** Зайздрошчу тваёй Ліне! Шчаслівая яна з табой, Макс!

**МАКС:** Ды ўжо ж намагаюся дагадзіць!

**ВОЛЬГА:** Сапраўды, мужу нельга дапускаць, каб у яго жоначкі ад празмернай хатняй працы счарсцвелі і рукі, і сэрца...

**МАКС:** Я не дапушчу! Я ласы на Аліну цеплыню і пяшчоту! Я...

**ВОЛЬГА:** Ты, сапраўды, ідэал мужа і працавітага гаспадара! Я кожны дзень стаўлю цябе ў прыклад свайму лайдаку Паўлу! Ды дзе тут! Толькі трымціць языком замест дзейнай дапамогі мне! Не тое ты, Макс! Я...

**МАКС:** Суседачка, не перахвалі малайца!

**ВОЛЬГА:** Словы ўхвалення не сапсуюць разумнага, добрага чалавека.

**МАКС:** Ды ўсё ж...

**ВОЛЬГА:** Пакінь ты сваю сціпласць! Ты не ўмееш сябе цаніць!

**МАКС:** Я не нарадзіўся пыхлівым індыком, каб зашмат уяўляць аб сабе. Даруй!

**ВОЛЬГА:** А мой Жартун, хаця і не паралель табе, але як ён умее падаваць сябе, як...

**МАКС:** Усе мы ідывідыумы роо-зныы-яя!

**ВОЛЬГА:** А, калі я дапякаю яго тваімі, вартымі пераймання найлепшымі мужчынскімі якасцямі, то ён без аніякага шкадавання раіць мне змяніць яго на цябе! Чуеш?

**МАКС:** Непераўзыдзены ён у цябе жартаўнік! Адным словам-Жартун!

**ВОЛЬГА:** Ён кажа, што ты мне падабаешся больш, чым ён! А я не пярэчу ...

**МАКС:** Твой Павел заўсёды ў лёгкім, незласлівым гуморы.

**ВОЛЬГА:** Аднак ён...

**МАКС:** А я шалёна кахаю сваю Ліну! І мяне ўлева ніякія вядзьмяркіны сілы не зацягнуць!

**ВОЛЬГА:** На жаль, ты кахаеш насуперак сілаў прыроды!

**МАКС:** Не разумею! Удакладні!

**ВОЛЬГА:** Вашыя з Алінай стыхіі Зямлі і Агню ніколі не дасягаюць гармоніі ў шлюбе! І ў нас з Паўлам...

**МАКС:** Глупства! Забабоны! Гледзячы на вашыя адносіны з Паўлам не надумаеш, што вы несумяшчальныя!

**ВОЛЬГА:** Муж і жонка,маючы нейкі ўзровень інтэлекту, павінны знаходзіць між сабой нейкія кропкі даткнення незалежна ад таго, якая прыродная стыхія кіруе імі!

**МАКС:** Можа і гэтак! Вось у вас з Паўлюком...

**ВОЛЬГА:** Індыйскі пісьменнік-гуманіст Рабіндранат Тагор казаў, што шлюб - гэта мастацтва, якое трэба кожны дзень правіць, рэстаўраваць...

**МАКС:** Відавочна... Я з усіх сілаў прагну... Але ў нас з Лінай чамусь бывае... Хаця... Я не жалюся!

**ВОЛЬГА:** Працуй, працуй!

**МАКС:** Дзякуй табе! Ты для нас з Лінай больш чым суседка! Ты і доктарка, і...

**ВОЛЬГА:** Дзякуй Богу, сёння ваш Міколка і здаровенькі і вясёленькі!

**МАКС:** Дзякуючы табе...

**ВОЛЬГА:** Усё добра, што добра скончылася!

**МАКС:** За выратаванне сына сям'я Лагодных кожны дзень павінна цалаваць табе твае чароўныя рукі!

**ВОЛЬГА** *(смяецца)*: І станавіцца на калені...

**МАКС:** Гэта за намі не заржавее! *(Становіцца на калені і бярэ руку Вольгі, якую цалуе.*)

*Уваходзіць Таццяна і са здзіўленнем спыняецца.*

**ТАЦЦЯНА:** Што гэта? Што... вы...

**ВОЛЬГА, МАКС:** Таццяна?!

**МАКС** *(устае, адпускае руку Вольгі)*: Як ты ўвайшла?

**ТАЦЦЯНА:** Ножкамі! Дзверы не замкнёныя... І ўбачыла ваш бессаромны нацюрморцік! Вы...

**МАКС:** У нас з Вольгай нічога...

**ТАЦЦЯНА:** Ага! Ваша шматзначная поза пра ўсё, пра ўсё пераканаўча распавяла...

**МАКС:** Ды я проста горача дзякаваў Вользе за Міколку!

**ВОЛЬГА:** Максім, не апраўдвайся!

**ТАЦЦЯНА:** Чаму ж яму не апраўдацца? Я, сяброўка яго любай жоначкі, бачыла тое, чаго не трэба было бачыць?!

**МАКС:** У такім разе, не марудзячы, можаш данесці Ліне!

**ВОЛЬГА:** Таццянка, сапраўды, жэст Макса толькі ўдзячнасць доктару...

**ТАЦЦЯНА:** Было ці не было ваша грэхападзенне, аднак вам павінна быць соораамнаа!

**ВОЛЬГА, МАКС:** Мы ж кажам табе...

**ТАЦЦЯНА:** Неверагодна! Муж маёй сяброўкі і яе лепшая суседка...

**ВОЛЬГА:** У цябе разгулялася фантазія!

**ТАЦЦЯНА:** Вы з Максам нафантазіравалі, а я знянацку апынулася непажаданым сведкам! Малайцы!

**МАКС:** Таццяна, ты моцна памыляешся...

**ТАЦЦЯНА:** А яшчэ клянешся Ліне, што кахаеш яе да страты пульсу! Не! Ніводнаму, нават самаму лепшаму мужу нельга давяраць! Здраднік! Не чакала...

**МАКС:** Я кахаю Ліну і не маю патрэбы ні ў кім іншым!

**ТАЦЦЯНА:** А суседка-ліпучка?

**МАКС:** Прасі прабачэння ў Вольгі!

**ТАЦЦЯНА:** І не падумаю! Мне балюча за цябе...

**ВОЛЬГА:** Табе балюча? Ці ты жонка Максіма?

**ТАЦЦЯНА:** Я сяброўка яго жоначкі з самага дзяцінства! Мы з ёй, бы сёстры! У дадатак я - хрышчоная мамка іхняга Міколкі! Я маю права...

**ВОЛЬГА:** Аднак не на мужа сяброўкі... Твая безсямейнасць...

**ТАЦЦЯНА:** Макс, ты чуеш? Твая... абняславіла мяне! Я ёй...

*(Робіць крокі да Вольгі.)*

**МАКС** *(хапае Таццяну за плечы)*: Не дурэй!

**ТАЦЦЯНА** *(вырываецца)*: Ты, Макс, гануча пад нагамі і Ліны, і тваёй...

**ВОЛЬГА:** Нізавошта дасталося нам! Даруйце, аднак мне надакучыла слухаць Таццяніну ахінею! Разбірайся, Макс, сам! Да пабачэння! *(Ідзе да выхаду.)*

*Уваходзіць Ліна.*

**ЛІНА:** Суседачка, не ўцякай, забачыўшы мяне! Я ж не застукала цябе на пару з маім прыватным мужам!

**ТАЦЦЯНА:** А яны... Яна...

**ЛІНА:** Бачу, жоначка - з хаты, а мужанёк збірае гарэмчык у хаце?!

**ВОЛЬГА:** Я зайшла паслухаць вашага Міколку!

**ТАЦЦЯНА:** Яна... Яны...

**ЛІНА:** Я пакінула свайго байструка з Гануляй! Дзякуй, суседачка! Зараз у нас няма праблемаў з яго здароўем!

**ТАЦЦЯНА:** Ведаеш, Макс і...

**ЛІНА:** Памаўчы, сяброўка! Я ведаю, што ты смалееш за Максам!

**ТАЦЦЯНА:** Ты што?

**ЛІНА:** А хочаш, я падарую яго табе сувенірам на твой дзень нараджэння?

**МАКС:** Не смешна!

**ЛІНА:** Максік, пойдзеш да Таццяны каштоўным сувенірам?

**ВОЛЬГА:** Божа мой, прыйдзе ж гэткае ліхадзейства ў галоўку маладзіцы...

**ТАЦЦЯНА:** Ты здурнела?

**ЛІНА:** Бачу-адмаўляешся? Ну, Максік, у такім разе я пакідаю цябе за сабой!

**МАКС:** Не смешна!

**ЛІНА:** З вамі ўжо нельга і пажартаваць?!

**ВОЛЬГА:** Ад недарэчных жартаў бывае...

**ЛІНА:** А ну вас! Макс, я пакінула ў пярэдняй пакеты. Занясі іх на кухню!

**МАКС:** Слухаюся, шэф! Будзе зроблена!

**ЛІНА:** Ды надзень кашулю! Бо мае дзеўкі шалеюць ад голага мужчынскага торсу! Забяры пыласос з-пад ног!

**МАКС:** Ёсць! *(Бярэ пыласос і выходзіць.)*

**ВОЛЬГА:** Ліна, я таксама пайду! Пэўна, мая Юлюшка ўжо

прачнулася...

**ЛІНА:** Праз гадзіны дзве Міколку даставяць.То прынось тады сваю прынцэсу пагуляць з ім!

**ВОЛЬГА:** Ці ты - да нас Міколку...

**ЛІНА:** Мы з нашым байструком яшчэ не надакучылі табе?

**ВОЛЬГА:** Адно, альбо два дзіцяці ў хаце - клопат адзін!

**ТАЦЦЯНА:** Я пагуляю з Міколкам...

**ВОЛЬГА:** Таццяна,ты любіш забаўляцца з сынам сяброўкі, а сама не спяшаешся ўзяць шлюб ды нарадзіць дзіця...

**ТАЦЦЯНА:** Турбуешся за мяне?

**ЛІНА:** Каб завесці дзіця, не абавязкова ўступаць у непрадказальны шлюб, во як... Я казала ёй!

**ВОЛЬГА:** Даруйце! Я турбуюся толькі з прафесійнай кропкі гледжання! Жыць у шлюбе з адным мужчынам - здаравей, чым...

**ЛІНА:** Сяброначка, на палавой глебе перасцерагайся венярычных ды снідаўскіх ...

**ТАЦЦЯНА:** Вы пра што?

**ЛІНА:** Пра тое, што ты яшчэ ў пошуку! Прагнеш займець сабе лепшага з мужоў... Дурная ідэалістка!

**ТАЦЦЯНА:** Вы абедзве шчаслівыя! Вам дасталіся Максім і Павел...

**ЛІНА.** Я ж кажу! Якраз і атрымаеш на сваю галаву ведзьмака ў абліччы цнатлівага, чыстаплюйнага прынца!

**ТАЦЦЯНА:** Адчапіцеся ад мяне! Што б вы не мармыталі, я ведаю: вы шчаслівыя!

**ВОЛЬГА, ЛІНА:** Шчаслівыя...

**ТАЦЦЯНА:** Але вам бракуе вашага шчасця, і вы...

**ЛІНА:** Сяброўка, мусі быць ты кідаеш каменчык у мой гарод? Я не ўтойваю, што не люблю прыпыняцца на адным... дасягнутым...

**ВОЛЬГА:** У некаторых самалюбак крэда: каб іх кахалі, але не яны, каб для іх усё добрае рабілі, але не яны, каб пра іх клапаціліся, але не яны!

**ЛІНА:** У самую кропку трапіла, суседачка! Я... Кавачкі б зараз...

**ТАЦЦЯНА:** Пэўна ж, твой некаханы Максік ужо зрабіў..

**ЛІНА:** Ты дурная! Ты не разумееш патаемных адносінаў у кожнай асобнай сям’і!

**ТАЦЦЯНА:** Ага! Я дурніца, а ты... вы...

**ВОЛЬГА:** Дзяўчаты, супакойцеся! Пайду я ўжо...

**ЛІНА:** А - каву?

**ВОЛЬГА:** Даруйце, але ў мяне ўжо няма часу, каб...

**ЛІНА:** Час жанчыну падганяе, бы каня дубцом сцябае!

**ВОЛЬГА:** Таленавітае выслоўе! Віншую!

**ТАЦЦЯНА:** Талентаў на Зямлі мільёны, а геніяў - адзінкі!

**ЛІНА:** Я ж у геніі не мкнуся - проста Лінаю завуся!

**ВОЛЬГА:** Не прыніжайце сябе, дзяўчаты! Кожны чалавек-асоба, якая ніколі не паўтараецца ў прыродзе!

**ТАЦЦЯНА:** А кланіраванне?

**ВОЛЬГА:** Я лічу штучнае кланіраванне людзей злачынствам! Хаця я не адмаўляю навуковых адкрыццяў на карысць жыцця ча-ла-ве-ка...

**ЛІНА:** Нават і блізняткі не бываюць абсалютна аднолькавымі...

**ТАЦЦЯНА:** А на твар аднолькавыя...

**ВОЛЬГА:** Чалавечае вока здольнае бачыць толькі паверхню прадмета, але не яго глыбока схаваную сутнасць!

**ТАЦЦЯНА:** Быццам я не ведаю...

**ВОЛЬГА:** У такім разе падумай пра надоечы бачанае табой! Ну ўсё, дзяўчаткі! Да пабачэння! *(Выходзіць.)*

**ЛІНА:** І што сакрэтнае твае зоркія вочы надоечы ўгледзелі?

**ТАЦЦЯНА:** Ты прызнаеш Вольгу сваім сямейным доктарам і амаль добразычлівай сяброўкай, але лепей было б, каб ты радзей...

*Уваходзіць Наста.*

**ЛІНА:** Мамка?!

**НАСТА:** Дабрыдзень, дзяўчаткі!

**ТАЦЦЯНА:** Прывітанне, цётачка, Наста!

**ЛІНА:** Мамка, ты бачыла Ганулю з Міколкам?

**НАСТА:** Твой Міколка сапе ў калясцы, а Гануля вачэй не адрывае ад якогась непатрэбнага рамана!

**ТАЦЦЯНА:** Трэба спытаць аб тым рамане! Цікава...

**ЛІНА:** Раманы трэба не чытаць, а... Хадземце лепш каву піць!

**НАСТА:** Я аднесла торбу з прадуктамі на кухню. Максімка пачаў разбіраць яе. Па ўсёй кухні з'едлівы пах ад вашай кавы...

**ЛІНА:** Ма-маа!!!

**НАСТА**: Ды ўжо ідзіце цешцеся сваім любімым напоем! А мае пачастункі...

**ТАЦЦЯНА**: Патураеце вы сваёй Ліне, цётачка Наста!

**НАСТА:** Яна ж мая дачушка!

ЛІНА: Зайздросціш, Таццянка?

**ТАЦЦЯНА:** Я шкадую тваю мамку, а ты дарослая...

**ЛІНА:** На тое ў нас матулі, каб дапамагаць нам!

**НАСТА:** І дарослым дзецям не бывае лішняй мамкіна дапамога! Ідзіце ўжо! Я пабуду тут. Адпачну трохі...

**ЛІНА** *(цмокае Насту)*: Не сумуй, мамка! Хутка твой унучок

з'явіцца...

*Ліна, Таццяна выходзяць.*

*Наста адшуквае сурвэтку і выцірае ёй пыл з мэблі. Уваходзіць Павел.*

**ПАВЕЛ:** Маё сардэчнае прывітанне спадарыні Насцёне! Вы, як заўсёды наводзіце марафет у шалашы любай дачушкі?!

**НАСТА** *(прыпыняе працу)*: Дзень добры і табе, Паўлючок! *(Кладзе сурвэтку на месца.)* Дык вось, хоць забі, не магу стрымацца...

**ПАВЕЛ:** Праўду кажаце, што індывідыуму не па сілах перайначыць ягонае ЭГА, закладзенае ў яго прашчурамі! Вось і я...

**НАСТА:** Сапраўды! Чалавек - дзіця прыроды. Ветру, сонцу брат ён родны!

**ПАВЕЛ:** Ну, Настасся Рыгораўна, народны фальклор ваш так і ззяе! І ваша Ліна...

**НАСТА**: А твая, Паўлючок, мова...

**ПАВЕЛ:** Даражэнькая, не ганьце нашу сучасную, неабцяжараную сціпласцю, мову! Бо ў ёй цяпер буяюць, шалеюць сакавітыя фарбы прыйшоўшых вольнасцяў!

**НАСТА:** Во, во! Цяпер занадта залішне ў вас вольнасцяў!

**ПАВЕЛ:** Шаноўная, радавацца трэба, што вашы нашчадкі... Няўжо вам не да спадобы мы, маладыя? Няўжо я і Макс не...

**НАСТА:** Мінуў мой час углядацца ў... Маладое-маладым! Аднак вы, галубочкі мае...

**ПАВЕЛ:** Дарэмна вы пагарджаеце сваёй жаноцкасцю! Пазіраючы на вас, я бачу Марыю Антуанету ў самым росквіце...

**НАСТА:** Вох і Паўлючок! Умееш ты салодкім словам затлуміць галаву слабой жанчыне!

**ПАВЕЛ:** Я не Арфей, які сваім чароўным, салодкім спевам заварожваў, падпарадкоўваў сваёй волі ўсё навокал і асабліва даверлівых...

**НАСТА:** У цябе, хлопец, і так хапае лёгкага нахабства дзеля заварожвання...

**ПАВЕЛ:** Няўжо вы гэтак дрэнна думаеце пра мяне? Я пакрыўдзіўся...

**НАСТА:** Крыўда, бы вецер, закране, патузае, пагайдае душу, як тонкую гнуткую галінку, а праз нейкі час і пакіне яе ў спакоі. Не хвалюйся!

**ПАВЕЛ:** Не бачу Ліны! Яе няма ў хаце?

**НАСТА:** З чаго гэта ты пра Ліну пытаешся?

**ПАВЕЛ:** Даўно не бачыў маю любую суседачку...

**НАСТА:** І жоначку маеш прыветную і разумную, і дачушку-кветачку...

**ПАВЕЛ:** Маю!!!

**НАСТА:** А сам усё да суседак...

**ПАВЕЛ:** Вох, і пільнае вока ў вас, спадарынька! А наведваю я часцяком сваіх любых суседзяў, каб...

**НАСТА:** Вабіў бы ты свой вольны час з сваёй сям'ёй! Ёй, ліслівы каток, як цёплае паветра, кожнадзённа патрэбна твая ласка! А ты ўсё зіркаеш па баках...

**ПАВЕЛ:** За каго вы мяне прымаеце? Я самы ўзорны сем'янін -кот, які...

**НАСТА:** Самы ўзорны сем'янін, каго я ведаю, дык гэта мой любы зяцёк Максімка!

**ПАВЕЛ:** Мусі быць... Цешчына вока бачыць глыбока! Гэтак жа?

**НАСТА:** І не спрачайся!

**ПАВЕЛ:** Як можна? З вашага дазволу я паўзіраюся на свежую прэсу! *(Бярэ з часопіснага століка газету.)*

**НАСТА:** Бяры! Ды не забудзься потым вярнуць гаспадарам! Ідзі ўжо! Ідзі, заўзяты чытач!

**ПАВЕЛ:** Хоць вы і гоніце мяне, але я вас горача, горача... А гэтую свяжуткую перыёдыку, будзьце ўпэўнены, праз хвіліны вярну! Мая сцежка ў гэтую суседскую хату пратаптаная мной, і ўжо ніколі не зарасце... *(Выходзіць.)*

*Зацямненне сцэны ці апускаецца экран. Нядоўга гучыць сцішаная музыка.*

*Запальваецца святло ці ўздымаецца экран.*

***На сцэне:***

*Часопісны столік, які сервіраваны на дзве персоны сталовымі прыборамі, посудам з закускамі і напоямі. Крэсла ці банкетка, на якім кінута мужчынскае і жаночае верхняе адзенне.*

*Ложак ці тахта, на якім пад белай прасцінай бачна капашэнне двух целаў.*

*Чуваць гукі пацалункаў і гулкае мужчынскае і жаночае дыханне.*

**ГОЛАС ЛІНЫ:** Усёё... Я... усё... усё...

**ГОЛАС ПАЎЛА:** Яшчээ... троошкіі... Даапаамаажыы... Дзякуй! Фуу!!!

*Пад прасцінай скончылася капашэнне.*

**ГОЛАС ЛІНЫ:** Ну, наталіўся асалодай з маёй гарачай крынічкі? Прызнавайся, што я ў сэксе маю бясспрэчную перавагу перад тваёй Вольгай?! Прызнавайся зараз жа!

**ГОЛАС ПАЎЛА:** Салодкая цукерка!

**ГОЛАС ЛІНЫ:** І гэта ўсё тваё азначэнне?А дзе тваё пяшчотнае слова любасці? Ты яшчэ не казаў мне, што шалёна кахаеш тваю салодкую цукерку! Можа дрэйфіш, мой любы асілак з суседняй кватэры?

*Капашэнне пад прасцінай.*

**ГОЛАС ПАЎЛА:** Не каазыычыы! Хопііць! Хоопііць! Я здааюсяя!

**ГОЛАС ЛІНЫ:** Буду казытаць, пакуль не вымавіш запаветнае прызнанне!

**ГОЛАС ПАЎЛА:** Ліінуусяя! Прашу цябе… Няўжо табе праспешыла пачуць слова, якое даўнютка заляпана брудам хлуслівых прызнанняў?

**ГОЛАС ЛІНЫ:** Хачу! Хачу! І не хлуслівае, а чыстае, шчырае! Калі табе цяжка вымавіць яго, то я дапамагу табе маімі моцнымі, доўгімі пацалуункаамії!

*Чуваць цмоканне.*

**ГОЛАС ПАЎЛА:** Хопіць! Прашу цябе! Няўжо не ўцяміш, што спеўна-эратычныя словы мужчын - гэта ярка расквечаны дысплэй падману?

**ГОЛАС ЛІНЫ:** А што тут разумець? Калі кахаеш, не трымай у сабе! Гавары! Я прагну пачуць! Вунь мой Макс нават без маіх напамінаў штохвілінна кажа мне пра сваё найвялікшае каханне да мяне!

**ГОЛАС ПАЎЛА:** У нас з табой іншыя адносіны...

**ГОЛАС ЛІНЫ:** Нахабнік! Прыстасаванец! У нас з табой якія іншыя адносіны? Ці мы з табой... Карыстаешся мною сабе ў ахвотку! А для мяне шкадуеш вымавіць доўгачаканага мной аднаго слова! Ты...

**ГОЛАС ПАЎЛА:** Не пачынай нанова! Прашу цябе, Ліінаачкаа! *(Выторквае галаву з-пад прасціны, пазірае на наручны гадзіннік.)* Дарэчы, якая зараз гадзіна? Ну і ну!

**ГОЛАС ЛІНЫ:** У нас з табой яшчэ вагон часу, каб паўтарыыць...

**ПАВЕЛ:** Няўжо табе было недастаткова? *(Адкідвае з сябе прасціну, на ім толькі плаўкі, і апускае босыя ногі на падлогу.)*

**ЛІНА** *(адкідвае прасціню з плячэй, на ёй апрануты ліфік ці голыя грудзі, і яна абхоплівае Паўла за шыю)*: Паўлючок, я гатовая пааўтаарыыць! Даавааай! Макс яшчэ няхутка прыдзе з працы!

**ПАВЕЛ:** Гвалтуеш беднага безабароннага мужыка?! Можа, які з мужыкоў і стоік і можа ўстрымацца ад салодкага віна...

**ЛІНА:** А ніякі! А ніхто!

**ПАВЕЛ** (*цмокае Ліну, здымае яе рукі з плячэй)*: Даруй, Ліначка! Я мушу...

*Уваходзіць Макс.*

**ЛІНА, ПАВЕЛ:** Маакс?!

*Ліна, седзячы ў ложку, хутка цягне прасціну да шыі. Павел хутка ўстае, бярэ свае штаны і нацягвае іх.*

**МАКС** *(аслупянеў)*: Выы?! Ліна?! Павел?! Выы...

**ПАВЕЛ:** Макс, даруй... Нам трэба пагаварыыць...

**МАКС** *(ідзе да Паўла)*: Пагаварыць?! Мы пагавоорыым... Поотыым... А зараз згінь! Пайшоў воон. Воон!!!

**ПАВЕЛ:** Ты павінен... Маакс...

**МАКС** *(ідзе да століка)*: Я кажу: ідзі воон!

**ПАВЕЛ:** Ліна, мне застацца?

**ЛІНА:** Не трэба! Мы разбярэмся самі!

*Павел выходзіць.*

**МАКС** *(са століка бярэ сталовы нож*): Мая рука... не здрыганецца! Не! Я...

**ЛІНА:** Маакс! Не шалей! Паачаакаай! Дааруууй... Не трээбаа... Ааа!!

*Макс б’е Ліну нажом.*
*На белай прасціне расцякаецца чырвоная пляма.*

*З А С Л О Н А.*

*Сумна гучаць саборныя званы.*

*Мікола Шаўчэнка*

**ЛІДЗЕЙКА І ЛІДКА**
**ці паданні ліцвінскіх лясоў**

***П'еса ў дзвюх дзеях з танцамі ды песнямі***

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:**

**ЛІДКА** - хударлявая маленькая дзяўчына з вялікімі вачыма, вайдэлотка, траўніца.

**ЛІДЗЕЙКА** - крывекрывейтэ, волхв, адзін з трох Сведкаў; пераверацень, ваўкалака.

**ПАНІ ВАНДАЛІНА** - асоба няпэўнага ўзросту, ведзьма, палюе на Лідзейку, каб скарыстацца яго моцаю.

**ЯЗЭП** - брамнік пані Вандаліны, пераапрануты Лідзейка.

**ПАНАС** - сведка дзеяў, кум сваёй кумы.

**КУМА ЛЯКСАНДРА** - недзе існуе, прывячае Панаса.

**МУЗЫКІ, МОЛАДЗЬ** з навакольных вёсак.

*Як яны граюць, як яны пяюць, а танчаць !!!*

## Дзея I

*Пані Вандаліна пяе "За туманам", у руцэ кубак.*
*Уваходзіць Лідка.*

**ЛІДКА:** Пані Вандаліна, я ад Яся Крывога. У яго, памятаеце, карова хварэла, то я ўзвар зрабіла, як маці вучыла, словы, як вы наказалі, прашаптала… То карова, як цёлка гуляцца пачала, і кроў з малака знікла. А Ясь Крывы грошы мне даў і каўбасы тры, то… я адну паспрабавала, а дзве вам прынесла. Яны не такія смачныя, як вашы, але … такія прыемныя.

Цётачка, а ці будзе заўтра вечарына ў вас, як заўсёды. А тут і свята на дварэ, Усе Святыя, а мароз ільдом ужо з берагоў прыхапіў, холадна.

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** То супакойся… Будзе і вечарына, і пачастунак, кашы наварым, ды з каўбасамі. То бяжы, мая ты любая, дахаты, адпачні,

*Лідка сыходзіць.*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Язэп! *(Уваходзіць Язэп.)* Пакліч на вечарыну людзей, а бабам, як прыйдуць, дай кудзелю прасці, за працу чвэрць гроша абяцай. Хопіць. Ім і вечарыны досыць. Але ж, я ведаю - праца ўзнагародзіцца павінна. Ты зразумеў?

**ЯЗЭП:** Ужо, ужо, ужо… *(сыходзіць)*.

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Мой шэранькі, ты ж не можаш без людзей, без жонкі ты не можаш, запавет-звычай выконваеш… Мой шэры, мой шэры. Я цябе на кроў дзявочую лапаць буду. Як шчупака *(усміхаецца)* на ўклейку.

*Лідка вяртаецца.*

**ЛІДКА:** Пані Вандаліна! Цётачка, а я ўчора перад сном пашаптала па вашай навуцы:

*Месяц, месяц малады,*
*У цябе рог залаты.*
*Ты ўвесь сусвет абыдзі,*
*А мне пару знайдзі.*
*З кім мне век векаваць,*
*Каб у сне павідаць.*
Але ж я не бачыла нічога…

Як я стамілася адна, паўсюль адна. Хлопцы ў мой бок нават глянуць не смеляць. *(Жартуе.)* Хоць бы адзін сабака, хоць бы адзін воўк, ці мядзведзь у мой бок глянуў, прыйшоў ды пра каханне да мяне сказаў, а мне ў грудзях так горача стане… Можа той сабака да мяне на вашай вечарыне падыдзе… Ці шэры які *(усміхаецца)*.

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Ой, дзеўка, знайшла час, калі прасіць, дый у голас! Ты ж ведаеш, сёння ўсе чаруюць… Вох, пачуты могуць быць твае словы… Паглядзім… Як рака пад ільдом схаваецца, бачу, прыйдзе твой лёс да цябе. Твой лёс…

**ЛІДКА:** Спраўдзіца? Цётачка Вандаліна, калі ўсё будзе, як вы кажыце, я, я для вас усё зраблю.

*Пані Вандаліна пяе песню "Вол бушуе".*

**ЛІДКА:** Вы жартуеце *(выбягае).*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Твой лёс…. Язэп, ты дзе, ці пайшоў людзей запрашаць?

* * *

*Тая ж хата, у хаце госці. Музыкі граюць ледзь чутна, моладзь нешта чакае, перамаўляючыся паміж сабою. З'яўляецца Язэп.*

**ЯЗЭП:** Ой, вечарына. *(Пяе.)*
*Сягодня ў нашай хаце будуць танцы,*
*Віно, піва і патрасуха.*
*Усе апрануты як іншаземцы…*
*Сягодня да спадобы ты такая, як ёсць.*
*Сягодня да спадобы ты такая, як ёсць,*
*А заўтра можаш брыдкай быць.*

*Танцуе рок-н-рол.*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА** *(уваходзячы)*: Язэп! Гэта песні іншых часоў!!! *(Сядае ў крэсла. Лідка з ёю.)*

**ЯЗЭП:** То я перапрашаю! *(Пяе песню "Пайду я ў новую канюшню", спрабуе пець з гледачамі)*. А зараз полька! *(Моладзь танцуе)*. Ойра-ойра *(Запрашае паню Вандаліну танчыць, да танцу запрашаюцца гледачы)*. Ды і кракавяк!!!

**ПАНІ ВАНДАЛІНА** *(пасля танцу)*: Язэп! Ідзі, там нехта ў браму грукае, то запытай, чаго!

*Язэп выходзіць. Моладзь танчыць. Уваходзіць Лідзейка.*

**ЛІДЗЕЙКА:** Вечар добры ў хату! Ці не дазволіце зайсці да вас?

**МОЛАДЗЬ** *(з цікавасцю, перш, чым пані Вандаліна, адказвае)*: Просім.

**ЛІДЗЕЙКА:** І ў горадзе пра вашую вечарыну пагалоска ідзе, і ў мястэчках, вось я і завітаў. Цалую руку пані *(цалуе)*, цалую руку панначцы *(цалуе, Лідка засаромеўшыся вырывае руку)*. А ці дазволіце, пані?

**ПАНІ ВАНДАЛІНА** *(называецца)*: Пані Вандаліна.

**ЛІДЗЕЙКА:** Ці дазволіць, пані Вандаліна, запрасіць да танцу панначку?

**ЛІДКА:** Лідка… Лідка мяне клічуць…

*Танчаць разам польку і "Ойра-ойра". Пані Вандаліна назірае за танцорамі, на вуснах драпежная ўсмешка.*

**ЛІДЗЕЙКА** *(пасля танцу садзіць Лідку на крэсла)*: А дазвольце пачаставаць гаспадароў гэтай хаты і ўсю грамаду. *(Прыносіць мех з прысмакамі: мёд у сотах, шынкі мядзведжыя. Пані Вандаліне даруе пацеркі з бурштыну, як і Лідцы. А ёй яшчэ і бранзалет (пярсцёнак) срэбны на хустцы падае).*

**ЛІДКА:** А, давайце, паспяваем.

**ЛІДЗЕЙКА:** А, дазвольце, пацешыць вас. *(Спявае "Ой сівы конь стаіць". Пад час слоў "А як бы я жыла…" да спеву далучаецца Лідка)*.

**ЛІДКА:** Сумна вы спяваеце…

**ЛІДЗЕЙКА:** Сумна? Сум застаўся ў мінулым, чаго сумаваць: вечарына - добрая, дзяўчынка (паннчка) - прыгожая, музыкі граюць, дзеўкі спяваюць.

*Дзеўкі запяваюць, але да Лідзейкі падыходзяць мясцовыя хлопцы. Спрабуюць Лідзейку "пад мікіткі" ўзяць. Пачынаецца бойка, Лідзейка спрытна раскідвае хлопцаў. Тыя ўцякаць, Лідзейка за імі. Лідка кідаецца за Лідзейкам. Пані Вандаліна спыняе яе.*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Стой Лідка, куда ты імкнешся. Самі вызначаць паміж сабою, хто і навошта. Ты вось падумай, адкуль такі паніч у нашай вёсцы. Мы ж усіх ведаем у наваколлі. І ў горадзе такі паночак на вочы бы патрапіў…

**ЛІДКА:** Ой, цётачка, вы і скажаце. У мяне- аж дрыжыкі па скуры ад думкі пабеглі… Сапраўды, хто ён? Адкуль? І я… А чаму ён ўвесь час ў кажуху? Спякотна ў хаце… Што рабіць, цётка Вандаліна?...

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Ведаю я. Можна вось што зрабіць. Як ён запросіць да танцу, ці размаўляць будзе з табою, ты з яго кажуха нітку выцягні, ды, можа, волас яго ўбачыш на адзенні. Усё да мяне прынясі, і я дапамагу табе, як ён сыйдзе, даведацца - адкуль ён.

*Грукаюць дзверы, на руках (на плячах) задаволеныя хлопцы ўносяць Лідзейку, які саскочыў і падыходзіць да пані Вандаліны і Лідкі.*

**ЛІДЗЕЙКА:** Перапрашаю, бо без слоў развітання адыходзіў. Але ж самі ўсё бачылі. Звычай: хлопцы "паважылі" мяне, і я "выказаў ім павагу"… Таксама па звычаю… Але, калі праз гэта быў да вас, яснавяльможная пані Вандаліна, і да вас, ясная панначка Лідка, не ветлівым, то я перапрашаю.

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** То, як не дараваць такому пану моцнаму, ды і шляхетнаму. Вось і Лідка вам даруе.

**ЛІДКА:** Так. Так. Пану моцнаму і шляхетнаму.

**ЛІДЗЕЙКА**: Ці дазволіце, пані Вандаліна, некалькі слоў найяснейшай панне Лідцы сказаць.

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Так. Так. А я як раз некалькі словаў жанчынам скажу. *(Адыходзіць.)*

**ЛІДЗЕЙКА:** Панначка, панначка. Не судзіце мяне за словы мае, за словы шчырыя, словы ад усяго майго сэрца.

**ЛІДКА:** Вы палохаеце мяне.

**ЛІДЗЕЙКА:** Не, як можна. Панначка такая вытанчаная, такая добрая да людзей. Да мяне. Я ведаў - існуе ў Сусвеце такая прыгажосць і такое светлае сэрца. Але, як убачыў панначку, сэрца маё ўскрыкнула: "Яна!" І жыць без яе надалей немагчыма. Можна хадзіць, есці, спаць, працаваць… Але, гэта не будзе жыццё, калі не бачыць: як блытае свой свет месяц у валасах наймілейшай, не бачыць шчаслівыя вочы адзінай…

**ЛІДКА:** Пан! Паночак! Якія словы вы кажаце! І ажно праз дзве гадзіны знаёмства! Мабыць, пану хлопцы ў галаву пацэлілі. Пану дрэнна?

**ЛІДЗЕЙКА:** Хлопцы? Пацэлілі? Панначка жартуе. А я - не! Я сказаў словы свае да вас, мая найкаханнейшая панначка Лідка. Я - сказаў, а вы, спадзяюся, пачулі іх. Але, дам я вам час зразумець мае словы… Я пакуль сыйду, але ж абавязкова вярнуся. І панначка скажа, ці кранулі мае словы яе сэрца, ці згодна яна адказаць на словы мае. Ці

пойдзе панначка, пані мая, са мною, на ўсё жыццё, аж да скону. Удваіх… Разам, аж да скону… аднаго з нас…

**ЛІДКА:** То сыходзьце!!! Не катуйце мяне. Сыходзьце! Я адкажу вам, як будзе ізноў сустрэча.

*Лідзейка сыходзіць, развітваецца з пані Вандалінай, з людзьмі. Лідка падбягае да пані Вандаліны.*

**ЛІДКА:** Ой, пані Вандаліна! Пані Вандаліна! Ён... ён казаў аб каханні… Клікаў за сабою. Але ж куды?! Цётачка, дапамажыце… Крануў ён сэрца маё, дапамажыце, цётачка мая Вандаліна.

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Добра! Добра! Дапамагу. Людцы, досыць баляваць, час ужо дахаты ісці. *(Народ сыходзіць.)* А мы ўжо да справы. Возьмем нітку і волас ад цябе. Возьмем нітку і волас яго. Ты ўзяла іх ад яго?

**ЛІДКА:** Так. Вось яны.

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Добра, амаль палова справы зроблена. Возьмем дзевяцісіл, івана-ды-мар'ю, воўчую ягаду …*(ціха мармыча, кладучы ў чыгун зёлкі).*

*(Уголас.)*

Ваду праз абух праліваю,
Ваўкалаку, злога духа,
Як абухом адбіваю.
Ад бела ліца, ад (колер) валаса.
Як мы калу не ўжываем,
Так Лідка ніякага гора няхай не знае.
Отча наш…
Як Хрыстос нарадзіўся,
На Ярдане рацэ хрысціўся.
Хрысціў неба і зямлю, і сеяў ваду.
На ўвесь свет перыкі ляцелі.
Як гэтых пырскаў нікому не сабраць,
І карэнне ўсяго ў зямлі не парваць,
І зорак з неба не паздымаць,
Як тапару ў печы не ляжаць,
Так шэраму зверу дзеўкі не відаць:
Здайся пнём і агнём…

*Пані Вандаліна бярэ клубок (скрутак) нітак, палівае зёлкамі, перад гэтым у клубок (скрутак), уцісквае ніткі і валасы Лідкі, ды госця. Лідка выціскае з пальца кроплю крыві на клубок (скрутак).*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Ці ёсць у цябе хустка з крыжамі, якую ты, па маіх словах вышыла ад ранку да вечара, малітвы кажучы, слёзы ад успамінаў па бацьках льючы?

**ПАНІ ВАНДАЛІНА** *(пырскае чароўным узварам на гледачоў, кажучы)*: Паспрабуем, мо, ёсць пераваратні тут, вось я іх…!

*Лідка бярэ клубок (скрутак) нітак і кідае ў бок, куды пайшоў Лідзейка і ідзе за ім.*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Ідзі, ідзі і прынясі мне *(негалосна)*, дай мне, дай мне… І ён-будзе мой!!! *(Пані Вандаліна запрашае гладачоў пайсці за Лідзейкам і Лідкай. Народ бярэ лямпы і ўдзе за Паняй Вандалінай. Апавядае яна аб ваўкалаках, жах які!!!).*

## Дзея II

*На краі поля, ці на краі могілак, зламанае дрэва (ці ў замку корч), у ім тырчаць два нажы. Лідзейка параапранае кажух на левы бок і пераскоквае цераз два нажы. Яго пачынае біць ліхаманка, ён вые ад болю, перакідваецца напалову ў ваўка.*

*З'яўляецца Лідка, аблівае са збана Лідзейку, хустачкай хапае нажы і спрабуе ўцячы. Лідзейка даганяе яе і заступае шлях, але не датыкаецца да Лідкі. З цяжкасцю пачынае з ёй размаўляць.*

**ЛІДЗЕЙКА:** Воў, Лідка, душа мая, спыніся. Куды ты бяжыш, навошта забрала тое што належыць мне, чамууу балюча робіш мяне? Я не чакаў ад цябе такога болю… Навошта? Чаму?

**ЛІДКА:** Ты злы! Ты пераварацень! Ты ваўкалак! Ты мяне хацеў з’есці і душу маю загубіць! А я … я… я так спадзявалася, думала - ты…тыы…. Я … Я пачала кахаць цябе! Я… разам, спадзявалася… *(плача)*.

**ЛІДЗЕЙКА:** Не плач, не ірві мне нутро, вантробы мае, сваімі слязамі… Каб я прагнуў забіць цябе, ці ж не мог я дачакацца цябе ў лесе, калі ты па вёсках бегала, людзям і худобам дапамагаючы? Перастрэў бы дзе - і шукай вецер твае косткі, калі б я быў людажэрам.

**ЛІДКА:** Ты - воўк!

**ЛІДЗЕЙКА:** Воўк! І воўк - таксама! Я шмат кім быў за сваё жыццё. І буду. Я прыходзіў да цябе…, ратаванне маёй душы, любоў мая, аж да скону, наканавана ты была мне. Краем, Лёсам, Звычаем, Тым, чыё Імя не вымаўляецца. Моц вялікая дадзена мне. Сведка я, Сведка прыходу Збаўцы. Сведка яго перамогі над смерцю. Сведка

яго вяртання на нашу Зямлю. І таму не паміраю. І таму я захоўваю Звычай Краю і выконваю яго Волю. А адзін з яго запаветаў: злучыцца чалавек з жонкаю сваёю, і будуць яны адно… Хто я такі, каб не выконваць Загады Яго. Я ж бачыў Веліч Яго, чуў словы Яго…

Твой род ведаў Звычай Краю нашага, ён захоўваў яго. Ты, ад народзінаў, была наканавана мне… Я прыйшоў па сваё, па звычаю. Але ж, калі я ўбачыў цябе, я…, я… адчуў, як затрапятала сэрца маё, я зразумеў - ты адзіная! Аж да скону! Ты - і толькі ты! Я кахаю цябе, Лідка…

**ЛІДКА:** Ты …мяне… *(здзіўлена)* кахаеш… Не маніш? А як мне пайсці за табаю, за табою - ваўком?! А як, як, мне пакахаць ваўка?

**ЛІДЗЕЙКА:** Любая, … воўк - гэта не галоўнае. Ваўком лягчэй у лесе жыць, толькі з прыроджанымі ваўкамі лепш не сустракацца. Шэрыя браты чуюць дух чалавечы ў мяне. І злуюцца… Біцца спрабуюць… А навошта іх забіваць? Таму я ад іх заўсёды сыходжу. Я- чалавек. Але ж гэты чалавек мае патрэбу, каб ты аддала мне мае нажы, бо я, па звычаі, не здольны забраць іх у цябе сілаю і зноў перакінуцца ў чалавека. Назаўсёды, пакуль ты са мною. А каб ты больш даверу мела да мяне - я табе іх аддам.

Вырашай любая, бо сёння ноч, калі Ён прыйшоў на гэты свет, каб спраўдзіліся словы яго, якія ў Кнізе кнігаў. Я павінен, разам з двума Сведкамі ізноў пайсці, прывітаць Яго, падарункі ўскласці да ног Яго… Вырашай, любая, каханне маё, ці пойдзем разам, шлях доўгі, а часу, калі не ў воўчай скуры бегчы, не шмат.

Словы ты мае чула. Словы мае непарушныя. І гэтыя словы: “Я кахаю цябе!” І гэтыя словы: “Вер мне!”

*Знянацку з’яўляецца пані Вандаліна з удзельнікамі вечарыны, у руках у іх вілы, цапы, сярпы, вяроўкі…*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА** *(крычыць)*: Вось пераварацень!! Людцы!! Біце яго, хапайце яго!!!! Дзесяць залатых за яго!!!!"

*Народ рушыць з крыкамі на Лідзейку, наперадзе мужыкі, але Лідзейка ведае старажытную ліцвінскую бойку, і ён на мужыках паказвае яе адмысловыя рэчы… спрытнымі рухамі мужыкі павалены на зямлю, абяззброены, маўчаць у шапку.. шлях на волю замінаюць жанчыны.. адзін крок да іх - і воля!!!! Але... Лідзейка спыняецца, бо біць жанчын - крыўдзіць зямлю…*

*Лідзейка схоплены, яго вяроўкамі вяжуць да слупа.*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Вось ён і мой, давай мне ўжо … Ён да цябе ўжо ніколі не падыдзе, вольнай будзеш ад яго *(ўсміхаецца)* Адмовілася ты ад свайго ваўка…

**ЛІДКА:** Нешта, цётачка, вы кіраваць мною пачалі, загадваеце мне .. ні “калі ласка”, ні “дзякуй”. І ад яго я не адмаўлялася…. Дзіва, крыважэр, а ніводнага нават не падрапаў, толькі адбіваўся, на волю ідучы… Чаму????!! І чаму вы, цётачка, сюды прыйшлі і людзей за сабою прывялі???!! Самі казалі, каб ніводная душа не ведала!

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Лідка, дурная…

**ЛІДКА:** Я не дурная. Я, як і вы - шляхцянка!! Годнасць і гонар маю!! І розум!!

**ЛІДКА** *(звяртаецца да людзей)*: Людзі, вы ўсе ведаеце мяне??!!"

**ЛЮДЗІ:** Так!

**ЛІДКА:** То пакіньце мяне з гэтым пераваратнем, словы маю да яго…За мяне не хвалюйцеся, вы яго дообра да слупа прывязалі. Дый у мяне ёсць *(паказвае нажы ў хустцы)* … *(Падыходзіць да Лідзейкі.)* Навошта табе я? І хто ты, насамарэч?

**ЛІДЗЕЙКА:** Я - Лідзейка, слуга Роду, Крыве-Крывейта Літвы, ужо не адно стагоддзе.. не адзін тузін стагоддзяў… Абраны я быць сведкам. Таму і не ведаю смерці….

**ЛІДКА:** Стагоддзі??? А… кажуць - ты памёр колькі часу назад…?

**ЛІДЗЕЙКА:** Не памёр і не памру. А людцы бачылі, як сыходзіў у лясы стары Крыве-Крывейта, як вучні яго шукалі дзіцянятка, падобнага на яго. Як бралі ў навуку ў Радуньскую пушчу, і праз колькі год з яе выходзіў новы Крыве-Крывейта. І ніводны не бачыў - гэта ізноў быў я...

**ЛІДКА:** Сэрца маё кажа - ты не падманваеш… Вось твае!! *(аддае нажы)*.

*Лідзейка, крэмсціць вяроўкі, б’е нажамі ў камень, і скача спіной наперад, цераз нажы. Выцягвае з каменя нажы, аддае іх Лідцы. Яна пакідае іх у руцэ яго. І яны, узяўшыся за рукі, разам ідуць прэч.*

*Пані Вандаліна пад час размовы нярвуецца, цягне рукі да Лідкі з нажамі, але не рызыкуе замінаць. Калі Лідка і Лідзейка сыходзяць, аднекуль з'яўляецца Панас.*

**ПАНАС:** Што было далей, людзі рознае кажуць. Адны, што, забраўшы нажы, Лідка пайшла ў манастыр, каб замаліць сувязь з ваўкалакам, а Лідзейка на яе чары наклаў, каб яна не памерла. А моц

у Лідзейкі ад Краю, моц бязмежная, бо Край наш Божы, і моц Лідзейкі ад Бога. Іншыя - дурныя - кажуць, не вытрымала Лідка, выхапіла нажы, пабегла, у палонку патрапіла і ўтапілася, а праз гэта горад наш, які не адно стагодзе існаваў і існуе, пачаў звацца Лідай. Брэшуць!!!! А я вам кажу: бачыў я каханне, каханне ўзнікла ў іх, разам яны ідуць па зямлі закаханыя аж да скону. Як я бачыў, пытаецеся? То я на сасне сядзеў, бачыў усё. А чаму на сасне сядзеў? Спужаўся, як Лідзейка пачаў перакідвацца ў воўка! А што я ў лесе рабіў? То ж са свята ад кумы ішоў, Каляды ж, ці Усе Святыя, не памятаю…! Ну, я і засядзеўся ў кумы, у Ляксандры, добрая кума і гарэлка ў яе!! Потым мяне з яе суседзі драбінамі здымалі! З кумы? З якой кумы, ёлупы!!! Не-е - з сасны! Чаго рагочаце, зубы прадаеце, злыя вы. То я змоўкну! Прэч пайду! Сыходжу я ад вас. *(Сыходзіць.)*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Нічога, нічога, не сёння, шкада… Колькі год… Ён будзе мой! Будзе! *(Звяртаецца да гледачоў.)* Вы тут нічога не бачылі. Вы нікому, ніколі не скажаце аб тым, што бачылі тут. Альбо вам прыйдзецца вяртацца да мяне, і тых, каму скажаце, за сабой цягнуць. І прасіць мяне, каб зняла чары… Але ж, каб шлях ваш быў лёгкі - вось мае словы: “Госпаду Богу памалюся, Маці Прачыстай пакланюся. Не сам сабою, Гасподзь са мною, Гасподзь з вамі. Прачыста мамачка, стань ім на помач”.

*Побач, пляскаючы мячамі, шчапіўшыся, прабягаюць латнікі.*

**ПАНІ ВАНДАЛІНА:** Ой, трэба ісці, супакоіць пакінутых латнікаў. Нешта ж яны раз'юшыліся, нешта ж яны свавольнічаюць. Мабыць… але ж не… не, гэта зусім іншая гісторыя… Аб ёй маўчаць муры. *(Сыходзіць.)*

*Пад час дзей гучыць недзе смех дзіцяці, чутны крокі людзей, льецца ў збаны і кубкі нешта, бразгаюць дзверы, чутны пагалосныя песні.*



# *Андрэй Раствароўскі*

## ЗЯМЛЯ, ЯКОЙ УЖО НЕ ЎБАЧЫШ[1]

***Фрагменты ўспамінаў***

### С. 7

Я нарадзіўся ў Вільні ў гатэлі Георг 30 траўня 1899 г. Гэты гатэль у той час быў уласнасцю майго таты, і ў ім, на другім паверсе, жылі мае бацькі. Мой тата Тадэвуш[2], сын Рамана[3] і Марыі з Глогераў[4] нарадзіўся ў 1860 г. у Кавалёўшчыне на Падлессі, быў архітэктарам і разам з тэхнікам-будаўнікам Казімірам Зімерманам меў у Вільні будаў-

[1] Фрагменты з кнігі: Rostworowski Andrzej. Ziemia, ktorej juz nie zobaczysz. Warszawa, 2001.

[2] Тадэвуш Раствароўскі (1860-1828) - архітэктар, мастак, земле-ўладальнік. У 1885 г. атрымаў ступень архітэктара 2 класа ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтва, пасля дадатковай вучобы за мяжой пасяліўся ў Вільні, будаваў дамы, палацы, касцёлы, а пасля 1921 г. чыгуначныя станцыі. Пабудаваў

нічае бюро[5]. Мая маці Зоф'я з Аскеркаў[6], нарадзілася ў 1873 г. у Вялікім Мажэйкаве Лідскага павета, была дачкой Аляксандра Аскеркі[7], сябра паўстанцкага ўраду 1863 г. і Тэадозіі з Грабоўскіх[8]. […]

**С. 76**

Вакацыі 1914 г. праходзілі нармалёва. Купаўся ў рэчцы, лавіў рыбу, рабіў выправы пад парусам. ... У тое лета я першы раз у жыцці назіраў зацменне Сонца, якое зрабіла на мяне вялікае ўражанне. Гэта было



***Тадэвуш Раствароўскі***



***Зоф'я Раствароўская з Аскеркаў***

---

палац Путкамераў у Больценіках, Ваньковічаў у Рудакове, прымаў удзел у праектаванні палаца ў Белавежы, пабудаваў гатэль Св. Георга ў Вільні (зараз "Вільнюс"), касцёлы ў Ландвараве і Салечніках, праектаваў будынак чыгуначнага вакзала ў Белай Падлясцы, міфалагічнымі сцэнамі аздобіў плафоны палацавых залаў у Нароўлі і Дабасні, маляваў партрэты і акварэлі, праектаваў эмблемы Літоўска-Беларускіх дывізій Сярэдняй Літвы. Быў уладальнікам маёнтка Лесня ў гміне Лейпуны (зараз - Lejpalingis) парафіі Лішкаў (зараз - Liskiava) з прыгожым падамініканскім касцёлам. Пасля 1-й Сусветнай вайны жыў у Вільні ў сваёй віле па Мантвілаўскім завулку. Памёр у Вільні, пахаваны на могілках Росы.

[3] Раман Растварoўскі (1826-1906) - землеўладальнік, уладальнік маёнтка Кавалёўшчына з фальваркамі Барыска, Енкі, вёскі Ванева і жончынага спадкавага маёнтка Дабрахі, калятар касцёла ў Ваневе. З 1858 г. міравы суддзя Тыкоцінскай акругі, у 1877 г. прадаў маёнтак, у 1877-80 гг. быў эканомам маёнтка Рахманава пад Шумскам, потым 6 гадоў працаваў у бухгалтэрыі Надвіслянскай чыгункі з Варшаве. Памёр у Кракаве.

поўнае зацменне. Птушкі хваляваліся, святло зрабілася бурага колеру, і калі праз нейкі час дзень пачаў святлець, у прыродзе запанавала шчасце. […]

**С. 452-464**

У 1917 г. у Парыжы памёр брат бабулі Аскеркі Станіслаў Грабоўскі[9]. Пакінуў спадкі: маёнтак Вялікі Мажэйкаў у Лідскім павеце, дамы і пляц у Вільні, нейкія дэпазіты і тастаманты. Таксама засталіся нейкія спадкі і пасля цётак Важынскіх, маці якіх таксама была з Грабоўскіх - другая сястра дзядзькі Станіслава. Цёткі Важынскія памерлі, і апошняя з іх Марыя адпісала сваю маёмасць - маёнтак Ішчална, які знаходзіўся каля Вялікага Мажэйкава, дзецям сваіх кузінаў - Аскеркам і Верашчакам. Справа ўскладнілася, калі сярод прэтэндэнтаў на Ішчалну з'явіліся Лясковічы[10], бо маці Важынскага была з Лясковічаў. З іншага боку ўлады імкнуліся забраць зямлю, якая належала Мажэйкаву для вайсковых асаднікаў.

У апошнім падзеле прынялі ўдзел і Верашчакі[11] (бо сястра Грабоўскага Францішка выйшла замуж за Стэфана Верашчаку) і Аскеркі (па бубулі Тэадозіі з Грабоўскіх, якая была замужам за Аляксандрам Аскеркам). Вырашылі падзяліць маёнтак на 36 частак. 15/36 перайшло да Верашчакаў, 21/36 да нашчадкаў Тэадозіі Аскеркі. Гэта

---

[4] Марыя з Глогераў Раствароўская (1834-1911) - стрыечная сястра этнографа Зыгмунта Глогера, паходзіла з Добраў што пад Тыкоцінам. 2.02.1854 г. пашлюбавалася з Раманам Раствароўскім і мела з ім 9 дзяцей, да таго ж выхавала яшчэ 5 дзяцей свайго швагра Адама. У 1871-73 гг. кіравала маёнткам Кавалёўшчына, а пасля ягонага продажу жыла ў Варшаве, зарабляла тым, што трымала кравецкую майстэрню і рэпетытарствавала.

[5] Будаўнічае бюро Тадэвуша Раствароўскага і Казіміра Зімермана (ці Цымермана - так яго прозвішча пісалася ў міжваенныя гады) распрацоўвала праекты і каштарысы прыбытковых дамоў, касцёлаў, віл, палацаў і займалася тэхнічным наглядам.

[6] Зоф'я Раствароўская з Аскеркаў (1873-1853) - землеўладальніца, у 1898 г. выйшла замуж за Тадэвуша Раствароўскага. Памерла ў Кракаве.

[7] Аляксандр Аскерка (1830-1911) - землеўладальнік, грамадскі дзеяч, уладальнік маёнтка Раёўшчына каля Маладзечна, канфіскаванага расійскімі ўладамі. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, у Вільні займаўся грамадскай дзейнасцю, друкаваўся ў "Кур'еры Віленскім". Пасля выбуху паўстання ў 1863 г. быў сябрам, а потым старшынём паўстанцкага ўраду Літвы. Пасля арышту прыгавораны да смяротнага пакарання, але памілаваны і сасланы на пажыццёвую катаргу ў Нерчынск, потым ва Усол за Іркуцкам. Праз 12 год вярнуўся па амністыі, жыў у Наленчаве і Варшаве. Быў першым рэдактарам варшаўскага "Ateneum". Памёр у Вільні.

частка адышла да яе трох замужніх дачок, якія атрымалі свае часткі ў залежнасці ад колькасці дзяцей. Найбольшай частка, 9/36, дасталася Марыі Мінейка з Аскеркаў, якая мела чацвёра дзяцей. Мая маці, якая мела двух дзяцей атрымала 7/36, а Оля Ваньковіч, як адзіная дачка цёці Гусі Горват з Аскеркаў, успадкавала 5/36 маёмасці. Гэтыя прапорцыі падзелу адносіліся як да нерухомасці, так і да рухомасці, якой дарэчы, было няшмат.

Дзядзька Грабоўскі быў нежанаты і доўгія гады гаспадарыў у Вялікім Мажэйкаве. Маёнтак меў каля 10 000 гектараў і цягнуўся бесперапынным пасам шырынёй ад паловы да двух кіламетраў і даўжынёй каля трыццаці кіламетраў ад лесу і фальварка Жукі пад Васілішкамі, праз Вялікае Мажэйкава, Марцінішкі, Гай, Раманаўцы, Скабейкі, Мікушкі, Лябёдку, Станіслававa да Шаўдзюноў на беразе Нёмана. Далей гэты пас перакрочваў праз Нёман і за ракой маёнтак меў яшчэ 200 га лесу, сярод лясоў так званай Яворскай Руды, якія належалі да Жалудка Лідскага павета. Фальваркі мелі добрыя гаспадарчыя будынкі (некаторыя, як Лябёдка і Станіслававa былі спалены

---

[8] Тэадозія Аскерка з Грабоўскіх паходзіла з Вялікага Мажэйкава, як нарачоная паехала з Аляксандрам у ссылку і праз нейкі час у Сібіры ўзяла з ім шлюб. Памерла каля 1900 г. у Наленчаве.

[9] Станіслаў Грабоўскі герба Тапор быў сынам Караля Рафала Грабоўскага і Касыльды з Цяльшэўскіх. Уладальнік маёнтка Плянты і Мажэйкаў. Меў сёстраў Тэадозію Аскерку, Касыльду Скірмунт (была замужам за Шымонам Скірмунтам), Францішку Верашчаку (была замужам за Стэфанам Верашчакам) і Марыю Скарбак-Важынскую (была замужам за Баляславам Скарбак-Важынскім). Пры падзеле яго маёнтка, які быў выкананы ў 1923 г. спадкаемцы Тэадозіі Аскеркі атрымалі каля 6000 га зямлі ў розных фальварках а спадкаемцы Францішкі Верашчакі атрымалі Вялікі Мажэйкаў. Аднак двор у Вялікім Мажэйкаве, пабудаваны Хадкевічам, быў спалены ў 1915 г. падчас адступлення рускіх войскаў. Засталася дваровая капліца XVIII ст. адрэстаўраваная па праекту Тадэвуша Растварoўскага і афіцына часоў Хадкевіча, у якой і пасяліліся новыя ўладальнікі. Спадкаемцы Касыльды Скірмунт і Марыі Скарбак-Важынскай у падзеле мажэйкаўскай маёмасці не ўдзельнічалі.

[10] Караль Лясковіч да 1820 г. быў уладальнікам маёнткаў Ішчална і Голдава. У Ішчалне пабудаваў палац. Пры канцы XIX ст. у гэтым маёнтку гаспадарыў Станіслаў Грабоўскі, але маёнтак не быў ягонай уласнасцю. З 1923 г. Ішчалну артымаў стрыечны нашчадак Караля - Юзаф Лясковіч (1858 - 1937). Голдава засталося ў руках сям'і Скарбак-Важынскіх.

[11] Верашчакі - нашчадкі Францішкі з Грабоўскіх і Стэфана Верашчакі, які памёр у лютым 1918 г.: старэйшы сын Стэфан, жанаты на Марыі-Анелі з Патоцкіх (1891-1924), яго сястра Яніна (Нінка) - панна з-за зрыву заручын з Юзафам Патоцкім і брат Міхал (Мік). Міхал нарадзіўся ў 1876 г., выпускнік Рыжскай палітэхнікі і сябар Арконіі ў 1895-1902 гг. У 1904 г. ажаніўся з Янінай



***Вялікі Мажэйкаў.*** *Малюнак Н. Орды.*

пад час вайны) і добры інвентар, бо немцы яго не нішчылі. У Вялікім Мажэйкаве меўся вінакурны завод, два млыны і выдатны лес, які не ведаў сякеры. Зямлі былі добрыя, а аграрная культура на вышыні, як пра яе сказаў прафесар Ластоўскі[12]: "гетманская". Калісьці Вялікае Мажэйкава належала гетману Хадкевічу[13]. Да Першай сусветнай вайны гаспадарка грунтавалася на вырошчванні збожжа, якое па меры абмалоту з аднаго фальварку перавозілася ў наступны, ажно покуль

---

(Жанцяй) з Ельскіх і ўспадкаваў яе маёнткі Ясянец і Гутаўшчыну каля Шчучына. У 1923 г. атрымаў Вялікі Мажэйкаў. Не меў дзяцей, і пасля ягонай смерці гэтую маёмасць атрымаў сын Стэфана і Марыі-Анелі Тамаш Верашчака (1914-1940), які меў старэйшую сястру Людвіку (Лілю) - жонку Здзіслава Баржэўскага. Аўтар далей памылкова падаў, што Міхал Верашчака быў жанаты з Грабоўскай.

[12] Раствароўскі пракаментаваў: *"Вацлаў Ластоўскі паходзіў з Менска, дзе з 1917-18 гг. лічыў сябе беларусам. Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі асеў на Віленшчыне. Прафесар, спецыяліст па ўгнаеннях і вырошчванні збожжа і бульбы, публікаваў працы аб феналагічным аспекце пры назіранні за ростам раслін. Ад 1921 г. меў дачыненне да Віленскай станцыі ў Беняконях, потым, да часоў II Сусветнай вайны быў дырэктарам станцыі. Таксама займаўся даследаваннямі ў Сельскагаспадарчай даследчай станцыі ў Ганусаўшчыне* (пад Нясвіжам, *рэд.*) *У 1945-1951 гг. працаваў на кафедры агульнай біялогіі раслін універсітэта ў Познані. Сябар Познанскага таварыства аматараў навук. Перад II Сусветнай вайной друкаваўся ў "Сельскагаспадарчым тыгодніку", пасля вайны - у "Сельскагаспадарчым аглядзе". Апошняя публіка-*

усё збожжа не збіралася ў вялікім збожжавым амбары ў Шаўдзюнах над Нёманам. Праз зіму, у залежнасці ад ураджаю цесляры будавалі адну, дзве ці тры баркі-віціны і ўвесну, па Нёману, шматвяковым шляхам, збожжа везлі ажно да Караляўца (Кенігсберга), дзе яго заўжды прадаваў адзін і той жа гандлёвы агент. Пачынаўся абмен тэлеграмамі, агент штодзённа перадаваў кошты і нарэшце з Мажэй-

---

*цыя - у 1951 г. Верагодна памёр у 1950-х гадах".*

Самае галоўнае тут: *" ... з Менска, дзе з 1917-18 гг. лічыў сябе беларусам"*. Гэта выклікае павагу, дазваляе лічыць яго беларусам і патрабуе распрацоўваць яго біяграфію - людзей такога маштабу мы маем не шмат. Таму, мая кароткая, першасная біяграфія паважанага прафесара:

Вацлаў Ластоўскі (1880, у Lelekancach - у 1954 годзе ў Познані) - батанік, фенолаг і спецыяліст ў галіне сельскагаспадарчых навук. Нарадзіўся ў Леляканцах Віленскага павета. Ягоны бацька працаваў лекарам у ваколіцах Вільні. Вацлаў Ластоўскі скончыў Віленскую гімназію і ўжо з гадоў навучання ў ёй цікавіўся флорай і фаўнай Віленшчыны. У шостым класе гімназіі стаў феналагічным карэспандэнтам прафесара Кайгародава з Санкт-Пецярбурга. Гімназію скончыў у 1901 г., у 1905 г. скончыў сельскагаспадарчы факультэт Пулаўскага інстытута і атрымаў званне агранома 1-й ступені. Пасля гэтага працаваў у старэйшага брата ў сяле Казакоўшчына, паглыбляў веды пра сельскую гаспадарку і селекцыю раслін. Займаўся даследаваннямі ў галіне феналогіі і экалогіі, паглыбляў свае веды з аграметэаралогіі. Уступіў у Віленскае сельскагаспадарчае таварыства, дзе плённа працаваў - у 1906-1909 гг. арганізаваў метэастанцыю, праводзіў палявыя эксперыменты, займаўся селекцыяй. У 1910 г. па яго ініцыятыве было створана Віленскае таварыства сельскагаспадарчых даследаванняў, якое адкрыла эксперыментальную станцыю ў Беняконях. Ластоўскі кіраваў станцыяй на працягу 35 гадоў. Сярод іншых прац, вывеў адаптаванае да прыродных умоў Віленшчыны беняконскае жыта, тыбецкі авёс, авёс Лонгінус, бульбу Альмарыя і раннія гатункі лубіну. У 1924 г. ён быў абраны членам Фізіяграфічнай камісіі Польскай акадэміі навук. У 1929 г. ён быў прызначаны на кафедру глебы і раслін універсітэта Стэфана Баторыя. Ён быў першым дэканам факультэта сельскай гаспадаркі ўніверсітэта (1939 г.). Падчас другой нямецкай акупацыі, арганізаваў падпольныя курсы па аграноміі. У 1945 г. ён пакінуў Беняконі і пераехаў у Познань, працаваў на кафедры глебазнаўства факультэта сельскай і лясной гаспадаркі ўніверсітэта горада Познань. Напісаў каля 60 навуковых прац і некалькі сотняў артыкулаў у прафесійных часопісах - Гл: Witold Staniewicz, Waclaw Lastowski, w: Sprawozdania Poznanskiego Towarzystwa Przyjaciol Nauk, nr 44/45/1955, s.135-137. - *заўвага перакладчыка*.

[13] На пачатку XVI ст. сядзіба, якая аб'ядноўвала Вялікае і Малое Мажэйкава належала Міхалу Наніну, намесніку Мазырскаму, які прыняў удзел у здрадзе М. Глінскага. Таму кароль Жыгімонт Стары перадаў маёнтак Івану Тышкевічу. Унучка І. Тышкевіча - Аляксандра (памерла ў 1593 г.) выйшла замуж за Аляксандра Хадкевіча (памёр у 1578 г.) - старасту Гарадзенскага, і

кава прыходзіла каманда: прадаць! І тады збожжа прадавалася разам з баркамі. Потым пачыналіся разлікі. Я яшчэ паспеў пазнаёміцца з некаторымі сялянамі ў Шаўдзюнах, якія некалькі разоў вадзілі тыя баркі са збожжам.

Наогул, дзядзьку Грабоўскага сяляне ўзгадвалі як добрага пана, але казалі, што ён часцяком упадаў у злосць. Адміністрацыя, эканомы, лясная варта памяталі яго строгім але справядлівым. У дачыненні да непрыстойных ці непаслухмяных - часам нават жорсткім. Паважаў добрых гаспадароў. Меў два замілаванні: паляванне і лес. Некалькі разоў бывала такое, што маючы 5 000 га лесу купляў у суседзяў лес на дровы, бо шкадаваў свае дрэвы. У выніку мы ўсе атрымалі нецярэблены лес, шмат было дрэваў з дупламі ці нават зусім спарахнелых. Шмат было соснаў у 5-6 кубаметраў драўніны з вышынёй ствала ў 30 метраў. Мокрыя нізіны параслі ёлкай, бярозай, алешынай.

Быў вялікім паляўнічым і таму да вайны ўтрымліваў выдатную сабакарню[14]. Меўся адмысловы мураваны будынак, які потым быў перароблены на сушню насення. Стала гаспадарыў тут сорак гадоў і толькі ў 1900 годзе выправіўся ў Парыж, дзе яму так спадабалася, што пражыў там ажно да 1905 г. Чым там займаўся - не вядома, аднак шмат грошай не выдаткаваў, вось толькі да яго замілаванняў дадалося

---

такім чынам сядзіба перайшла да Хадкевічаў. Але ўжо ў XVII ст. маёнтак належаў Нарушэвічам. Каля 1666 г. Аляксандр Нарушэвіч (памёр у 1668 г.) - падканцлер Вялікага Княства Літоўскага перапісаў В.Мажэйкава разам з Дзікушкамі і Лябёдкай сваёй жонцы Аляксандры з Сапегаў. Цэцылія Соф'я Сапежанка (1688-1762) у 1710 г. выйшла замуж за Яна Караля Хадкевічам (1686-1712), і В.Мажэйкава на доўгі час становіцца дзядзінцам Хадкевічаў. У маёнтку доўгі час жыў Адам Тадэвуш Хадкевіч (1711-1745), ваявода Берасцейскі, пашлюбаваны з Евай Чарскай (памерла ў 1769 гг.). Ці доўга маёнтак належаў іх нашчадкам, не вядома, але ўжо іхні сын Ян Мікалай Хадкевіч (1738-1781) жыў у в.Турэц на Наваградчыне. Не вядома, у каго ў 1862 г. В. Мажэйкава купіў Кароль Рафаіл Грабоўскі гербу Окша (памёр у 1857 г., пахаваны ля касцёла ў в. Ішчална), падкаморы Пружанскі, сын Феліцыяна Грабоўскага, маршалка Пружанскага, суддзі апеляцыйнага суду Пружанскага, а потым Лідскага. Ад Караля Рафаіла Грабоўскага маёнтак перайшоў да ягонага сына Станіслава, які, не маючы сваіх дзяцей, перадаў маёнтак сваякам. Вялікае Мажэйкава заступілі Верашчакі. Апошнім гаспадаром маёнтка быў Міхал Верашчака (жанаты з Янінай Ельскай). Міхал Верашчака нашчадкаў не меў, і на ім згас род Верашчакаў, да якога належала Міцкевічава Марыля Верашчака - *заўвага перакладчыка*.

[14] Сабакарня і сядзібная лядоўня знаходзяцца з паўночнага боку саду, што мяжуе з сучаснай вуліцаю Леніна. Над дзвярамі лядоўні захавалася дата, маляваная фарбаю "1790" - *заўвага перакладчыка*.

яшчэ адно - фатаграфія. Вялікая колькасць ягоных фотаздымкаў была зроблена з сапраўдным артыстызмам. Вярнуўся ў 1905 г. і патрапіў у рэвалюцыю - як толькі вылез з брычкі за трыццаць кіламетраў ад Ліды (чыгункі Ліда - Ваўкавыск яшчэ не было) дык у першы ж дзень натоўпы сялян патрабавалі ад яго дрэва, зямлі і "свабоды". Таму загадаў замяніць коней і адразу ж выехаў у Ліду і далей у Парыж. Больш ніколі ў Мажэйкава не вяртаўся. У Парыжы ён і дачакаўся Першай сусветнай вайны, і там, у далечыні ад сваёй маёмасці, якую занялі немцы, жыў вельмі сціпла, з ласкі сваёй былой дамы сэрца, памёр у 1917 г. Мадам Валес атрымала запіс на 300 000 франкаў, бо дзядзька як педант і аматар парадку ва ўсім, выправіў у Парыжы тастамант. Сярод ягоных папер у Вільні засталося шмат фотаздымкаў, разглядаючы іх можна было здагадацца, што ў свой час ён вельмі цікавіўся зоркай польскай сцэны Мечыславай Цвіклінскай[15]. Адзінай навіной паўторнага побыту ў Парыжы было тое, што кожны год на Вялікдзень ці на Вялікі пост (як апавядала нам жонка аптэкара Зыбяртовіча з Шмігераў) у Мажэйкаве забівалі дванаццаць свіней. З іх рабілі "літоўскія вяндліны", шынкі, сухія каўбасы і некалькі вялікіх кавалкаў найлепшага сала. Усё гэта клалася ў прыгожа зробленыя скрынкі з альховага дрэва і экспрэс-поштай дасылалася да дзядзькі ў Парыж. З кім усё гэта спажывалася было невядома, але відавочна, што па-за мадам Валес ён больш нікога не ведаў, бо ніхто і ў ніякіх успамінах яго не ўзгадвае. Меў ён у жыцці два засмучэнні: першы раз калі праз ягоныя лясы будавалася шаша Гародня - Ліда і на працягу трох кіламетраў выцерабілі дваццацімятровую прасеку. А другі раз, калі праводзілі чыгунку Ліда - Ваўкавыск і таксама выцялі кавалак лесу. У другі раз эканом маёнтка атрымаў загад ужыць любыя высілкі, каб чыгуначная станцыя, якая потым атрымала назву Скрыбаўцы, не будавалася на землях маёнтка Вялікі Мажэйкаў. І таму станцыя была пабудавана больш далёка ад маёнтка, чым першапачаткова планавалася. Сам маёнтак быў вельмі стары, бо нават шырокі, высаджаны двума радамі бяроз тракт Баторыя абмінаў яго вакол, каб потым вярнуцца да першапачатковага кірунку. Згадаю мімаходзь, што слынныя літоўскія тракты, абсаджаныя па абодвух баках двума радамі дрэў, якія называліся па

[15] Мечыслава Цвіклінская (1879-1972) - польская артыстка тэатра і кіно, спявачка. Нарадзілася ў тэатральнай сям'і. Дэбютавала на сцэне варшаўскага "Тэатра людовага" ў 1900 г. Выступала ў аперэтачных і оперных ролях у тэатрах Варшавы, Лодзі, Кіева, Менска, Вільні, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Берліна і Дрэздэна. Прымадонна польскай аперэты. Здымацца ў кіно пачала ва ўзросце 54 гады. Сапраўднае імя і прозвішча Мечыслава Трапшо - *заўвага перакладчыка*.

рознаму: Кацярынскія, Напалеонаўскія, былі вельмі старымі, што добра вызначалася ўзростам бяроз, якія штогод ламаліся ветрам ці бурай. І новых дрэў ніхто ніколі не падсаджваў. Шматразова я вызначаў узрост паваленых бяроз і заўжды яны былі часоў Баторыя. Пра гэта ж кажуць старыя хронікі і ўспаміны - Баторы рыхтуючыся да вайны з Масквой загадаў будаваць дарогі.

Мая маці нарадзілася ў 1873 г. у Вялікім Мажэйкаве пасля вяртання яе бацькоў з Сібіры. З даўняй службы, якая памятала яшчэ дзядзьку Грабоўскага, заставалі: кладаўшчык ... Якубоўскі, экономы: Лейка, Зыбяртовіч, Аўгустоўскі, Русецкі, ляснічы Чапля, лакей Палуян, некалькі леснікоў і людзі з фальварковай службы. Маёнтак у часе вайны (Першай сусветная - *заўвага перакладчыка*) пацярпеў адносна мала. Згарэлі два дальнія фальваркі: Станіслававова і Лябёдка. У самым Вялікім Мажэйкаве не знайшлося 100 рублёў, якія патрабавалі казакі за тое, каб яны не спалілі двор. Ніхто з прыслугі не меў ці не пажадаў адкупіцца, і стары, пабудаваны з лістоўніцы дом, які памятаў яшчэ Хадкевіча, згарэў. А разам з ім згарэла шмат каштоўных абразоў, скульптур, бібліятэка і што самае дрэннае - большасць так званага архіва Празароўскага, які датычыў паўстання пад кіраўніцтвам Касцюшкі. Узгадваў гэты архіў гісторык Дубецкі[16]. Нейкая частка архіва знаходзілася ў Вільні дзе была знішчана Другой сусветнай вайной. Пасля таго як сюды ў 1915 г. прыйшлі немцы, гаспадарка пачала развівацца і, пэўна, згарэлыя фальваркі адбудаваліся б, бо прускі маёр, які гаспадарыў у Мажэйкаве ад імя акупацыйнай улады, быў перакананы, што маёнтак стане ягонай уласнасцю і таму рабіў усё, што мог, каб аднавіць гаспадарку. Прыгатаваў матэрыял для адбудовы дома і для гэтага нават аднекуль знайшоў фотаздымкі згарэлага, запусціў вінакурню, прыдбаў сельскагаспадарчыя машыны.

І вось гаспадарка стала супольнай. Кіраўніцтва ў свае рукі ўзялі цётка Верашчака і дзядзька Уладзіслаў Мінейка. Трэба было выселіць адсюль вайскоўцаў, аплаціць не малы падатак за спадкі, каб паменшыць агульную плошчу і ўнікнуць забірання часткі зямлі для вайсковых асаднікаў, трэба было аддаць частку зямлі на парцэляцыю. Прадалі частку лесу ў Шаўдзюнах. І тут старыя першы раз памыліліся. З-за нестабільнасці валюты, яшчэ да ўвядзення злотага, самі пакупнікі

[16] Мар'ян Дубецкі (1838-1926) - гісторык, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Кіеве, працаваў настаўнікам у Роўна, быў сасланы ў Вятку. Пасля вяртання, прыехаў у Варашаву і ўвайшоў у паўстанцкі ўрад. 10.04.1864 г. быў арыштаваны, да 1883 г. знаходзіўся ў ссылцы. Аўтар працы "Рамуальд Траўгут" і некалькіх іншых, адна з прац прысвечана Каралю Прозару. Пры канцы жыцця жыў у Кракаве, збіраў грошы на будаўніцтва гімназіі ў Цешыне.

прапанавалі заплаціць доларамі, але мае сваякі адмовіліся! Палічылі: калі яны прапануюць нам долары, дык маюць нейкі інтарэс і згадзіліся толькі на польскія маркі. І хоць узялі вялікі задатак, якім адразу заплацілі за падатак на спадкі, праз год на астатнія грошы ў марках, узятыя за прыгожыя шматкубовыя сосны, якія былі ўжо падрыхтаваныя да сплаву, можна было купіць пачак запалак.

Праз вайну і першыя пасляваенныя гады шмат што навокал змянілася. Бацька ўжо не адкрыў уласнае будаўнічае бюро, але паступіў на службу ў Акруговую дырэкцыю дзяржаўнай чыгункі і быў заняты адбудовай чыгуначных вакзалаў. Таксама працаваў у Таварыстве архітэктараў і інжынераў, дзе на змену з інжынерам Няводнічанскім старшынстваваў. У Дырэкцыі працаваў разам з інжынерам-архітэктарам Грынцэвічам[17]. Пра праекту майго бацькі была пабудавана большасць вакзалаў на тэрыторыі Дырэкцыі. Найбольш вядомыя вакзалы ў: Белай Падлясцы, Пінску, Лідзе, Ваўкавыску. Таксама ён спраектаваў шэраг меншых вакзалаў на лініях Вільня - Ваўкавыск - Сядлец, Вільня - Маладзечна, Ліда - Баранавічы - Лунінец. Найбольш манументальны і толькі часткова рэалізаваны ягоны вакзал у Берасці. Бачыў праект, гэта павінен быў быць замак ці кастэль, нешта накшталт Пясчанай скалы ці замка ў Недзіцы з чатырма бастыёнамі па вуглах. Яле як справа дайшла да рэалізацыі, дык была выканана толькі палова, і на шчасце, праектант застаўся невядомым.

Былы калега бацькі Цымерман меў бюро разам з інжынерам Шопам, а пасля ягонай смерці - аднаасобна. Праз час ён адкрыў філіял у Варшаве і на гандлях атрымаў заказ на праектаванне раёна Варшавы Бернярова. Маці жыла ў Вільні, часта выязджала ў Варшаву. Як жонка "чыгуначніка" мела ільготны білет, што значна аблягчала вандроўкі па краі. Зрэшты, штораз часцей трэба было заглядваць у Вялікі Мажэйкаў. ... З'явіліся новыя сваякі Верашчакі, якіх я не ведаў раней. ... Верашчакі хоць і атрымалі палову Мажэйкава, мелі яшчэ добрыя маёнткі пад Навагрудкам: Ясянец, Гутаўшчына і Котлаў з прыгожымі лясамі. Гэта былі ваколіцы Свяцязі і Сапліцова (Чомбраў Карповічаў) і літоўскіх пушчаў з "Пана Тадэвуша". […]

Улетку выехаў у Вялікае Мажэйкава. Высадзіўся на станцыі Скрыбаўцы, станцыя мне была знаёмая, бо ў 1919 г. тут выгружаўся

[17] Гіпаліт Грынцэвіч (1876-1933) - інжынер-архітэктар, вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтва. Працаваў у Пецярбургу і Маскве. Удзельнічаў у пабудове сабора Аляксандра Неўскага ў Маскве. З 1919 г. жыў у Вільні і працаваў у Акруговай дырэкцыі дзяржаўнай чыгункі, пабудаваў вакзал у Стоўбцах, выкладаў архітэктуру на факультэце прыгожых мастацтваў ва ўніверсітэце імя Баторыя ў Вільні.

мой 1-шы батальён сапёраў. З станцыі ехаў па рэйках па-нямецкай коннай вузкакалейцы Скрыбаўцы - Васілішкі на ўласнай ваганетцы, якую цягнуў адзін конь. Дарога не была далёкай, каля трох кіламетраў. Калі пераедзеш чыгунку і выедзеш з лесу, ужо бачна вялікая і моцна засаджаная дрэвамі тэрыторыя маёнтка. Прыгожа пабудаваныя будынкі атачалі падворак, трохі збоку стаялі вінакурня і ферма. З боку падворка мелася характэрная для гэтых ваколіц "сушылка сыроў". І, нарэшце, атачоная уласным мурам з брамай сядзіба[18]. Адразу за брамай, на невялікім, пэўна штучна насыпаным гетманам узвышшу стаяў калісьці дом - зараз руіны і ўваход у лёхі[19]. З двух бакоў дома стаялі дзве афіцыны з лістоўніцы стаметровай даўжыні крытыя ламаным гонтавым дахам. Пасярэдзіне абодвух былі стайні, а па чатырох кутах - жылыя пакоі. Згодна з мясцовай традыцыяй у афіцынах стаяла "падручная харугва" гетмана. Ад брамы да двара вяла алея чатырохсотгадовых елак, уздоўж афіцын таксама раслі елкі[20]. За домам пачынаўся сад. Былі там шэрагі грабаў трохметровай вышыні, якія змыкаліся ўверсе, лабірынты, альтанкі, а на пустых месцах раслі пладовыя дрэвы. У канцы, каля мура была капліца. Яе рысунак у свой час выканаў мой бацька[21]. Да 1905 г. забаранялася будаваць капліцы і касцёлы. Таму спачатку "будаваліся" руіны, а потым пісалася паданне аб дазволе адбудаваць "руіны". Пры адпаведных стараннях і праз хабар

[18] Цікава, што ў польскім тэксце прысутнічае менавіта гэтае слова - "сядзіба". І польскім рэдактар тлумачачы сэнс слова “сядзіба” напісаў, што яно ўкраінскае - *заўвага перакладчыка*.

[19] Сядзібны дом - быў будынкам прастакутнай формы на высокім падмурку з высокім ламаным гонтавым дахам. Злева і направа ад сядзібы сіметрычна стаялі два будынкі прыслугі (афіцыны), знешне падобныя на сядзібны дом. Згодна з мясцовымі расказамі у іх месцілася харугва Хадкевічаў. У абодвух будынках былі стайні для 20 коней і памяшканні для вершнікаў. У XIX ст. абодва дамы перапланавалі пад жытло для прыслугі. Зруйнаваны сядзібны дом згарэў у 1915 г. У Першую сусветную вайну захаваліся толькі калоны агароджы.У 1920 г. згарэў левы дом для прыслугі. Апошні гаспадар Мажэйкава - Міхал Верашчака, збольшага перабудаваў ацалелы правы дом пад жытло для сябе. Пакоі адрамантавалі, але ўжо не было ні каштоўнай мэблі, ні каштоўных твораў мастацтва - *заўвага перакладчыка*.

[20] Адбудова сядзібы пачалася на пачатку XVIII ст. пры Адаме Тадэвушы Хадкевічы. Комплекс з'ядноўваў сядзібны дом, вялікі парк (10 га), спачатку з трох бакоў акружаны пладовым садам, мураваную агароджу, флігель, гаспадарчыя пабудовы: сабакарня, лядоўня, два дамы прыслугі - левы і правы, лямус, вялікі склад, альтанка, капліца (пабудаваная ў другой палове XVIII ст., на пачатку XX ст. рэстаўраваная паводле плану архітэктара Тадэвуша Раствароўскага), фантан, млын, дзве сажалкі, побач з сядзібай вінакурня 1839 г. - *заўвага перакладчыка*.



***Брама Вялікага Мажэйкава***

можна было такі дазвол атрымаць.

Ніколі не бачыў столькі камення як тут. Улічваючы, што ўсе муры агароджы былі пабудаваны з палявога каменю, сцены ўсіх будынкаў і апорныя слупы ў аборах і стадолах таксама былі з таго каменю і на палях, нібы пры копцы бульбы, заставаліся крушні дробнага палявога каменю. Што колькі год, калі выпадала сеяць тут канюшыну, вясковыя дзеці збіралі на палях камяні на так званы "адробак". Мясцовыя людзі верылі, што ў гэтых крушнях зімавалі жаўрукі.

Збоку, каля муроў стаяў дом адміністратара, там ужо быў тэлефон. Зараз дом займае пастарунак паліцыі. Адну з афіцын займалі "арыстакраты" дваровай службы: пан Якубоўскі, механік, стальмах, садавод. У другой афіцыне на адным канцы - тры пакоі з кухняй - займалі Верашчакі, другі - чатыры пакоі з кухняй былі зарэзерваваны для нас, г.з. для Мінейкаў, Ваньковічаў, Раствароўскіх. Трэбы было аб'ехаць вёскі, разабрацца ў сітуацыі і выбраць аб'ект, які б нам найбольш адпавядаў. Іншыя дзедзічы не мелі такіх праблем, бо два вялікія

[21] Парк раней меў сіметрычную рэгулярную планіроўку. Складаўся з параднага партэру і сістэмы баскетаў, падзеленых сеткай грабавых, ліпавых і кляновых алеяў. Кампазіцыйная вось парку пачыналася брамай і завяршалася капліцаю. У паўднёва-ўсходняй частцы парку была альтанка. Ад альтанкі захаваліся прыступкі і падмурак. У заходняй частцы знаходзіўся флігель. Ён прастакутны, мураваны, атынкаваны. Вырашаны ў класічным стылі. Захаваўся адносна добра, месцамі абсыпалася атынкоўка, зараз выкарыстоўваецца як жылы дом - *заўвага перакладчыка*.

аб'екты: Вялікае Мажэйкава і Дзікушкі з прыгожымі мураванымі будынкамі адразу перадаваліся Мінейкам і Верашчакам. Астатнія аб'екты не мелі такой каштоўнасці, бо пераважна не мелі будынкаў. Ездзілі брычкамі "ў адзін конь" ... Найбольш нам адпавядаў фальварак Лябёдка, але ў ім не было ніводнага будынка, ані ніводнага дрэва, і публічная дарога бегла праз сярэдзіну падворка, а ў дадатак пад бокам знаходзіліся старыя могілкі. Мы выбралі Скабейкі, невялікі фальварак, які ляжаў каля лесу і меў такія-сякія будынкі, а таксама некалькі дзясяткаў стогадовых ліп і ясеняў. Нашыя хітрацы адразу высунулі тэорыю, што будынкі - гэта цяжар для маёнтка, і трэба іх ацаніць як мага танней. Кошт маёнтка, лясоў і г.д. падлічваўся асобна. Бацька быў у сваім бюро, маці не надта разумела гэтыя рэчы і таму не ўмешвалася. Я таксама нічога ў гэтым не разумеў і да таго ж заканчваў адукацыю (у Варшаўскай Вышэйшай школе палітычных навук - *Л.Л.*) і таму мы аддаліся на волю лёсу. ...

Пасля доўгіх карагодаў і "прымерак", бо ніхто не меў гатоўкі для выплаты, а верагодны атрымальнік грошай не жадаў чакаць, падзел быў прыняты і зафіксаваны. Фальваркі Жукі, Лябёдка, Station-Станіслававa пайшлі на парцэляцыю, таксама як і ўрочышча Чай, пасля высечкі лесу, і вялікія лугі над Лябёдкай. Верашчакі, маючы 15/36 ад спадкаў атрымалі Вялікае Мажэйкава, Марніцішкі і вялікую плошчу лясоў. Мінейкі за свае 5/36 узялі Раманаўцы і частку Баярскага бора. Раствароўскія з 7/36 атрымалі Скабейкі[22], большую частку Баярскага бору і частку Вялікага бору - Жукі, Тамашоўцы і Валоку II. У суме было 950 га прыгожага лесу і 200 га раллі і лугоў. Лес меўся пяццю кавалкамі. Таму трэба было трымаць чатырох леснікоў, што зніжала яго каштоўнасць. Баярскі бор меў 350 га, прылягаў да Скабеек і ўпрыгожваў фальварак. Вялікі бор меў 180 га, знаходзіўся за 15 км ад Скабеек а далей за ім, праз 3 км ляжалі Жукі - 300 га і Валока II на 20 га. Тамашоўцы плошчай у 100 га ляжалі на краі за 6 км ад Скабеек. Адзін з млыноў застаўся пры Вялікім Мажэйкаве, другі, у Тамашоўцах, быў

[22] Пасля адбудовы сядзібы, акрамя палаца і гаспадарчых пабудоў у Скабейках меліся шэсць невялікіх драўляных хатак, у якіх жыла служба. Аднапавярховы палац Раствароўскага быў не вельмі вялікі, але вельмі прыгожы, ён быў пабудаваны з дрэва і атынкаваны. Палац меў падоўжаную форму і два ўвахода па тарцах. Галоўны, парадны, выходзіў на цэнтральную алею, другі ў бок гаспадарчых пабудоў. Палац стаяў на ўзгорку і быў бачны здалёку, быў прыгожа аздоблены і пафарбаваны, што ў асяроддзі кветак і дрэў глядзеўся, як казачны, але ўнутры выглядаў сціпла. Палац у 1942 годзе спалілі партызаны. Сёння ад палаца застаўся толькі паўразбураны падмурак і фрагменты каменных прыступак, якія зараслі хмызняком. Інфармацыя Святланы Талмачовай з "Лідскай газеты" - *заўвага перакладчыка*.

прададзены на агульны рахунак. Скабейкам дасталіся ў карыстанне два возеры за Нёманам, якія праз нейкі дзіўны стары звычай адзін год належалі да Мажэйкава, а другі да Жалудка. Зрэшты, не былі яны паўнаводнымі, здаваліся ў арэнду і прыносілі нам 6 пудоў рыбы (ці каля 100 кг) у год у якасці арэнднай платы, найбольш на Божае Нараджэнне. Шматгадовы арандатар рыбак Заяц калісьці мне тлумачыў, што яму патрэбны тыя азёры не столькі дзеля рыбы (кожны год падчас разліву іх заліваў Нёман і атрымлівалася натуральнае зарыбенне), але ён у тых азёрах хаваў сеткі, якімі таемна, па начах лавіў рыбу ў Нёмане, і гэта давала яму большыя заробкі, чым рыба з азёраў. […]

З-за неабходнасці працаваць на сваёй маёмасці: пабудова дома, аднаўленне гаспадаркі ... на вучобу ў Школу палітычных навук не вярнуўся, хоць мне і засталося зрабіць толькі магістарскую працу. Асеў на сваёй зямлі, і тут чакалі мяне пятнаццаць гадоў інтэнсіўнага і багатага на падзеі жыцця на вёсцы. Трэці раз мае зацікаўленасці памянялі кірунак, на першы план высунуліся практычныя клопаты ...

## Мае жыццё на Наваградчыне, 1924-28 гг.

### Частка 1[23]
### Лёсы і людзі

Хаця падзел маёнтка тэарэтычна наступіў, але на разе ўсё засталося ў агульным уладанні і кіраванні. Палямі і сельскай гаспадаркай апекаваўся дзядзька Стэфан "Сік" Верашчака, парцэляцыю[24] праводзіў Стаць Ванькові\u0447, я апекаваўся лясамі. У дапамогу меў "Зялёнага пана". Гэты быў калега Леха і Тома Мінейкаў па гімназіі ў Харкаве - родам з Камянца Падольскага - Тадэвуш Шыманскі. Лех спаткаў яго пасля дэмабілізацыі і ўгаварыў прыехаць у Мажэйкава. Так "Шумця" стаў адным з незаменных супрацоўнікаў у Вялікім Мажэйкаве.

Але эксплуатацыя лясоў вялася толькі ў Шаўдзюнах - на грунце так званай выбарачнай высечкі, гэта азначае, што купцы куплялі з дадзенага абшару 1000 штук соснаў і высякалі па-чарзе, згодна з сваімі патрэбамі адпаведную колькасць, разложаную ў адносінах да ўсяго

[23] RostworowskiAndrzej. Moje zycie na Nowogrodczyznie lata 1924-1928 // Goniec Kresowy Nr 41. Rok 2003. S.12-16.

[24] Сойм прыняў законы пра аграрную рэформу 28 снежня 1925 г. Прынятая пастанова, паводле якога парцэляцыі, гэта значыць падзелу, падлягала зямельная ўласнасць, якая перавышала 180 га, а на ўсходзе краіны, дзе велізарныя пляцы былі заняты збожжавымі культурамі ці ляснымі ўгоддзямі - звыш 300 га. Для землеўладанняў, якія мелі прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны, усталёўваўся ліміт, роўны 700

абшару. Памятаю, што толькі некалькі першых высечак мелі нейкую вартасць, потым выплаты станавіліся фармальнымі. На іншых абшарах толькі наводзіўся парадак, і меліся нейкія дробныя продажы, прыбіраўся сухастой на апал двара, фальваркаў і вінакурні. Вугаль быў рэччу цалкам невядомай і некалькі гадоў па вайне не выкарыстоўваўся, нават лакаматывы на негалоўных лініях у якасці паліва ўжывалі дровы.

Леснікі былі старога ўзросту і ранейшай вывучкі таксама, як і іхні шэф ляснічы Чапля, які меў каля 70 гадоў, з якіх 50 гадоў служыў у Вялікім Мажэйкаве. Гэты добра закансерваваны на жыватворным паветры стары быў крыніцай інфармацыі - з аднаго боку пра эксплуатацыю лясоў і экспарт, пра махінацыі выбракоўшчыкаў і купцоў, а з другога боку пра фортэлі і змовы сялян, якія прызвычаіліся да "спартыўнага" крадзяжу "на-дурку". Сцвярджаў, што большасць лясных крадзяжоў мела месца менавіта дзеля "спорту" - каб абхітрыць лесніка.

Большасць леснічовак знаходзілася на пачатку вёскі з боку лесу. Была гарантыя, што пакрыўджаны селянін не спаліць яе з помсты, бо гэта б пагражала пажарам усёй вёсцы. І наадварот - спаленне самотнай леснічоўкі было лёгкай справай. За 15 гадоў жыцця на землях Мажэйкава, дзе было больш за дзясятак леснічовак, згарэла толькі адна. Яна самотна стаяла сярод лесу, аднак згарэла з-за дрэннага і старога коміна.

Дарэчы, паліва хапала, былі гады, калі нават трэба было даплач-

---

га. Уладальнік маёнтка асабіста ці праз адпаведныя ўстановы павінен быў на працягу двух гадоў правесці падзел сваёй зямельнай уласнасці. Толькі пры выкананні гэтага тэрміну ён мог атрымаць поўнае пакрыццё ад дзяржавы за згубленую ўласнасць. Пастановай Рады Міністраў на Лідчыне ў 1926 г. прымусова былі прадзеныя наступныя кавалкі зямлі: 100 га з маёнтка Шчучын (фальварак Даўлюдаўшчына) княгіні Мырыі Яны Друцкай-Любецкай, 460 га з маёнтка Спуша (фальваркі Дэмбраў і Лясішча) князя Яўстаха Сапегі, 300 га з маёнтка Жалудок (фальваркі Хацееўшчына і Варацішча) у князя Л. Чацвярцінскага (Гл: Slowo №7(1017) 10 stycznia 1926.). У 1927 г.: 100 га каля мястэчка Жалудок у княгіні Марыі Чацвярцінскай, 200 га каля мястэчка Іўе ў Тамаша Замойскага, 350 га каля мястэчка Шчучын ў Марыі Друцкай-Любецкай, 225 га якія належалі Нясвіжскай ардынацыі Альбрэхта Радзівіла і знаходзіліся ў Лідскім павеце *(Гл: Наша Справа №5(14), 15 студзеня 1927.)* Дзяржава за бюджэтныя сродкі выкупіла надзелы зямлі, і частка іх была перададзена ў гмінны фонд, адкуль зямля дзялілася на невялікія роўныя надзелы (каля 0,24 га) і за 200 злотых перадавалася ў карыстанне сялянам, грошы за гэтыя надзелы сяляне плацілі па частках шмат гадоў. Але зямлі не хапала, і таму праз "камацыю" ўсе, хто меў патрэбу, купіць зямлю не маглі. Малазямелле было галоўнай хваробай сялян Заходняй Беларусі, большасць сялянскіх сем'яў, цяжка працуючы, дзесяцігоддзямі складалі злот да злота каб дакупіць кавалак зямлі - *заўвага перакладчыка*.

ваць, каб  нехта вывез галіны дрэў з высечаных дзялянак. Крадзёж сасны быў спартова-валатоўскай вышынёй сялян.

Найважнейшым лясным інструментам ... было кляймо. Кляймо нельга было пакінуць у лесе без нагляду. Кляймо - такі тапорык, на тупым канцы якога была выгравіравана цяжкая для падробкі манаграма, якой пазначаўся кожны сцяты пень у лесе, а таксама ніз сцятага ствала. Знаходка ў лесе некляймёнага пня сведчыла пра крадзёж і брак нагляду. Спатканне на дарозе некляймёнай калоды на фурманцы сведчыла пра яе незаконнае паходжанне - таксама як і падчас рэвізіі на сялянскім двары. Дасведчанае вока лесніка па зрэзу дрэва адразу бачыла, з якой дзялянкі паходзіць дрэва і магло хутка знайсці прыкрыты імхом пень.

За выняткам ваеннага часу ў маёнтку панаваў узорны парадак. Кожны фальварак, кожны лясны аб'ект меў зробленыя мернікам як мінімум у трох экзэмплярах планы - падфарбаваныя акварэллю, падклееныя на палатне з падзелам на палі, а лес - на кварталы. Планы і дакументы, якія засталіся пасля пажару, былі сістэматычна пакладзены ў тэчкі з вопісамі іх зместу на версе тэчкі. У некалькіх куфрах у Вільні ляжалі тэчкі з былымі судовымі і межавымі справамі, справамі сервітутаў, спрэчкамі аб зямлі - дзе і колькі раз сяляне ўзбуджалі справы і знаходзілі сведкаў, што калісьці карысталіся спрэчнымі землямі - у куфрах былі судовыя доказы для ўсіх выпадкаў. І калі справы даходзілі да суду, то пасля пройгрышу справы сяляне казалі: "А мы думалі, што ў часы вайны дакументы прапалі!". Гэта былі спробы спартова-амбіцыйныя - а раптам атрымаецца!

Дваровая служба ўся без вынятку - каталікі, якія лічыць сябе палякамі. Затое фальварковая служба рэкрутавана з навакольных вёсак і не менш, чым на палову была праваслаўнай - так, як і навакольныя вёскі. Цяжка было зразумець чаму адна вёска хадзіла да касцёла а іншаая да царквы. Прылеглыя з аднаго бока да Скабеек Вырванцы і Тамашэвічы былі на 100% каталіцкія, а вёскі, якія ляжалі з другога бока: Заброеўцы і Бурцічы былі праваслаўнымі, але вёска Агароднікі, якая знаходзілася тут жа, была каталіцкая[25]. Пры кожным маёнтку мелася вёска з назвай Агароднікі, а назва вёскі Баяры сведчыла што тут раней жылі баяры, напрыклад, "баяры путныя".  ...

---

[25] Рыма-каталікі - былыя борці, перасяленцы з Прусіі. Праваслаўныя - былыя ўніяты, беларусы-славяне. Пры канцы XIII ст. землі борцяў канчаткова захапіў Тэўтонскі ордэн. Частка насельніцтва мігрыравала на тэрыторыі Летувы і Беларусі. У Лідскім павеце борці жылі ў двух цэнтрах: у ваколіцах мястэчка Жалудок і ў ваколіцах мястэчка Радунь, да канца XVIII ст. гэтыя два цэнтры складалі адну воласць Борці ці Борцкі павет - *заўвага перакладчыка*.

Толькі разбураныя шляхецкія засценкі, якія знешне нічым не адрозніваліся ад іншых вёсак, былі асобнымі этнічнымі асяродкамі. У Станкевічах, Раўбах, Шамятоўшчыне жылі цэлыя фалангі Станкевічаў, Раўбоў, Шадураў, Шамётаў, якія ўсе былі католікамі і ў хаце размаўлялі па-польску. А ў каталіцкіх вёсках заўжды ўжывалася беларуская мова. Летувіскую наогул у гэтай старане ніхто не чуў, каб пачуць гэтую мову, трэба было ехаць на левы бераг Нёмана і з Гародні рухацца ўніз па рацэ да ваколіц Дукштаў ці Свянцянаў. ...

Цікавым выпадкам была гісторыя з царквой ў Дзікушках. Гэта царква пабудавана ў раманскім стылі без аніякіх цыбулінаў і купалоў у 1835-1840 гг. і была з уніі пераведзена ў праваслаўе. Пры царкве мелася добрая плябанія і ладны кавалак поля, а таксама фруктовы сад. Праваслаўным пробашчам быў тут вельмі цікавы тып - аматар гарэлкі. Не ведаю па чыёй ініцыятыве, падазраю ў гэтым лідскае старoства, раптам у нейкі дзень пробашч і ўся парафія перайшлі ў "уніяты". Былі нейкія святы і набажэнства, ніхто не пратэставаў. Адначасова, старая абарончага тыпу царква ў Скрыбаўцах, была пераведзена ў каталіцкі касцёл, утворана новая парафія і паселены каталіцкі пробашч[26]. Змены ў Дзікушках нават людзям падабаліся, яны казалі, што зараз разам будзем святкаваць святы - праваслаўныя святы спазняліся на 13 дзён. Але гульня ва "ўніятаў" цягнулася не болей 6 тыдняў. У пэўны дзень з'явіліся 4 ці 5 папоў і выгналі нефартуннага "апастату", а на яго месца пасадзілі новага папа - Жаброўскага, і парафія зноў стала праваслаўнай. Тым не менш, у выніку гэтых падзей больш дзесяці сямействаў перайшло ў каталіцтва, а наведванне царквы, якое і раней было мінімальным, зараз упала амаль што да нуля. Толькі нека-

[26] Часопіс "Праваслаўны беларус" пісаў, што Маламажэйкаўская царква вельмі спадабалася чыгуначным службоўцам: католікам з суседняй станцыі Скрыбаўцы, якія і падалі хадайніцтва каталіцкаму біскупу пра передачу ім царквы *(Гл: Горны Аляксандр. Страсці вакол Мураванкі // Поколение. № 2-2013. С. 46.)*. Верагодна, гэта і прадвырашыла далейшы лёс царквы: у 1924-м была адабрана і аддадзена ў арэнду царкоўная зямля, а 10 кастрычніка таго ж года па распараджэнні Міністэрства асветы і рэлігійных вызнанняў і пры паразуменні з вышэйшымі ўладамі Польскай праваслаўнай царквы, праваслаўны прыход у Малым Мажэйкаве быў скасаваны. Пісаліся розныя заявы ў адміністрацыйныя інстанцыі, вернікі звярталіся да варшаўскага мітрапаліта, ураду і дэпутатаў польскага сойму з просьбай пра абарону, але павятовы стараста загадаў царкву зачыніць і ключы ад яе перадаць мясцоваму дабрачыннаму. 25 лютага 1926 года ў Малое Мажэйкава да псаломшчыка прыехаў камендант паліцыі і адабраў ключы ад царквы. Хутка царкву аддалі рымa-каталіцкай парафіі. Знакамітая Маламажэйкаўская царква-цвердзь ніколі да гэтага не была рыма-каталіцкай - *заўвага перакладчыка*.

лькі гадоў сталай працы Жаброўскага, які быў салідным, маральным і прыстойным чалавекам, паправіла хісткую раўнавагу[27].

Затое касцёл у Скрыбаўцах ад пачатку цешыўся добрым навед-

---

[27] У 1921 г. газета "Беларускі звон" пісала пра папа з Дзікушак: *"Цікавае зьявішча, арыгінальнае! Бацюшка ў сваім уласным будынку адчыніў проці волі насялення польскую школу. Дачка скончыла беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні ў 1921 г., цяпер яна здраджвае беларускіх дзетак, калечыць памаленьку іх. А бацюшка стараецца не адставаць ад дачкі. Ён лае грамадзян за тое, што яны ня хочуць слаць дзетак да школы. Будзем цешыць сябе думкай, што гэта зьявішча рэдкае"* (Гл: Беларускі звон №24-1921.). Незадавальненне святаром-паланафілам, вылілася ў незвычайны бок. Па адной з версій, восенню 1924 г. на пасаду псаломшчыка ў прыход Дзікушкі быў прысланы забаронены за нейкія правіны протаіерэй Марк Ячыноўскі (Гл: Николаев К.Н. Восточный обряд. Дорога Рима в Россию (Рим - Польша - Россия). Париж: YMCA-PRESS, 1950. С. 138.). Па другой версіі Ячыноўскі і быў у той час законным настаяцелям храма (Гл: Katolik №47-1925.), верагодна ён замяніў святара-паланафіла, пасля чаго пачаў збіраць подпісы вернікаў за пераход у унію - *заўвага перакладчыка*.

Пра гэтыя падзеі дастаткова шмат пісала прэса таго часу. Напрыклад газета "Беларуская доля" паведаміла: *"Уніяты ў Заходняй Беларусі. У сувязі з развалам праваслаўнае царквы і палянізацыі каталіцтва, у заходняй Беларусі з'яўляюцца новыя рэлігійныя кірункі. З аднаго боку тут пачалі сваю працу амерыканскія метадысты, з другога - уніяты. ... колькі дзён назад у Вільню прыехаў з Лідзскага павету сьвяшч. Лаўров, які зрабіў вышэйшай духоўнай уладзе даклад аб пераходзе на унію цэлага прыходу Дзікушкі з пратаіерэем Ячыноўскім. Каб вярнуць на ложа праваславія адпаўшую парафію, архіяпіскап Хвядос паслаў туды сьвяшч. Дзічкоўскага"* (Гл: Беларуская доля №23-1925.). Польскія газеты паведамлялі: "Праваслаўны прыход на чале з сваім настаяцелям Ячыноўскім перайшоў з праваслаўя ва унію" (Katolik №47-1925.). Ці *"З Вільні даносяць, што цэлы Дзікушскі прыход разам з сваім настаяцелем Ячыноўскім, перайшоў з праваслаўя ва унію"* (Oredownik Wrzesinski №43-1925.). Віленская газета "Слова" пісала: *"Унія. Віленская праваслаўная кансісторыя атрымала паведамленне, што ў вёскі Дзікушкі лідскага павета, цэлая парафія на чале з святаром ... Ячыноўскім перайшла з праваслаўя ва унію"* (Slowo №72(786) 29 marca 1925.). Верагодна, пераход у унію быў ініцыятывай мясцовых улад, а ўніяцкае святарства не мела дачынення да авантурыста Ячыноўскага.

Як бы там не было, але ўжо праваслаўны настаяцель гэтай царквы Барыс Жаброўскі, за сакавік і красавік 1926 г., атрымаў ад польскага ураду матэрыяльную дапамогу ў памеры 65 злотых (Гл: Загідулін А. М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2010. С. 162. ) і такая грашовая падтрымка яму і ўсім іншым праваслаўным святарам рабілася, мела пастаянны характар - *заўвага перакладчыка*.

ваннем як католікаў, так і праваслаўных, а праз год праз шлюбы, шмат асоб перайшло ў каталіцтва. Нажаль, першы пробашч, кс. Вагнер не быў падобны на Жаброўскага. Быў ярым эндэкам[28] і на сваім месцы пачаў змагацца з ветракамі, без сэнсу падаючы ўсе ўрадавыя ініцыятывы як ініцыятывы Маршала Пілсудскага. У ваколіцы ўсеянай *....камі*, з досыць моцна развітай камуністычнай прапагандай - гэта не мела рацыі. З'яўленне *...каў*[29] было выклікана няправільным кірункам урадавай палітыкі, але пра гэта потым.

Суседства ў ваколіцах Скрыбаўцаў было досыць шматлікім і добра прымала ў свае шэрагі прыбышоў. Дзіўным чынам, большасць маёнткаў у Лідскім павеце спадкаваліся па-кудзелі[30] і можа таму наогул вялі рэй пані - яны адсунулі мужчын у цень. У найбліжэйшым суседстве быў маёнтак Малое Мажэйкава Брахоцкіх. Як выключэнне, галоўнай постаццю тут быў старэйшы землеўладальнік Уладзіслаў Брахоцкі. Ён жыў з жонкай і трыма дочкамі[31]. Два старэшыя сыны, былыя афіцэры 13 палка ўланаў былі жанатыя, жылі і гаспадарылі асобна. Аляксандр быў жанаты з паннай О'Рурк з Маргоня а Станіслаў з паннай Кончанка з Вераскава. У Мажэйкаве жыла яшчэ сястра Брахоцкага - пані Эмілія, а ўлетку дом запаўняўся сваякамі, якія з'язджаліся сюды на лета: Мах, Балінскія, Шэмёты, Вейткі, Вільскія.

Другім суседнім маёнткам былі Воўчышкі - пані Яніны Меер з Паплаўскіх - вельмі сучаснай, арыгінальнай і больш радыкальнай за моладзь асобы. Яна раздала частку сваёй спадчынай маёмасці суседскім сялянам, што ў выніку прынесла ёй мянушку "сумашедшая" (вар'ятка)[32]. Яе муж інжынер Аляксандр Меер шмат гадоў быў дарожным інжынерам ў Лідкім старостве, ён меў мянушку Звольна.

Далей, у бок Васілішак быў Гурнофель Фрэда Бразоўскага, які меў ужо нямала гадоў, але ажаніўся з маладой паннай Ю. Праз два гады пасля жаніцьбы памёр, а яна хутка зноў выйшла замуж за кіраў-

[28] Нацыянальны дэмакрат, маецца на ўвазе, член ці прыхільнік гэтай партыі - *заўвага перакладчыка*.

[29] Аўтар мае на ўвазе "асаднікаў" - *заўвага перакладчыка*.

[30] Атрымліваліся ў спадчыну па лініі маці - *заўвага перакладчыка*.

[31] Уладзіслаў Брахоцкі (1857-1932), закончыў гімназію ў Рызе, вышэйшую адукацыю атрымаў у Пулавах - вывучаў аграномію. Акрамя дзедзічнага маёнтка Малое Мажэйкава валодаў яшчэ маёнткамі Вераскаў і Морына ў Наваградскім павеце. З першай жонкай Зоф'яй (з графаў Махаў) меў шасцёра дзяцей. С другой жонкай Катажынай з Бабінскіх (памерла ў 1929 г.) дзяцей не было. Усе яго тры сыны атрымалі вышэйшую адукацыю. Пахаваны ў Ішчалне - Гл: Slowo №51(2858) 3 marca 1932. - *заўвага перакладчыка*.

[32] Менавіта так напісана лацінскімі літарамі - *заўвага перакладчыка*.

ніка млячарні Тумялевіча. Яшчэ бліжэй да Васілішак была Лябёдка пані Іваноўскай з Скіндараў - вялікай спартсменкі, якая гадавала прыгожых коней чыстай крыві. Яе муж, так званы "Казюньця" дапамагаў ёй у гадоўлі коней і сабак-хартоў, а таксама ўгаворваў яе супакоіць запал наезніцы, бо яна шмат разоў падала з каня.

Усе ваколіцы Шчучына княгіні Друцкай-Любецкай (жонка забітага пад Тарэсінам князя), якая жыла ў малым, прыгожым палацы, былі ўсеяны большымі ці меншымі маёнткамі паноў Марачэўскіх, Роўцкаў, Шчукаў, Палонскіх, Скавінскіх, Казлінскіх, Лісоўскіх, Галенбеўскіх, Валіцкіх. ... Далёка, ужо на мяжы суседскіх стасункаў ляжалі Спуша, якая пасля Зарускіх перайшла да князя Яўстаха Сапегі[33] і Скідаль князя Канстантына Чацвярцінскага.

Бліжэй на Нёмана знаходзіліся Ольшавічы, дзе жыла пані Незабытоўская з дзвюма дочкамі - трэцяя дачка ўступіла ў закон (пайшла ў манашкі). Потым ... слынны тызенгаўзаўскі Жалудок князя Людвіка Чацвярцінскага, жанатага з княжной Ружай з нясвіжскіх Радзівілаў. ...

Замыкаючы кола, узгадаем яшчэ пра Стрэліцу паноў Сяклюцкіх, Хацяновічы паноў Шалевічаў і Красулі пані Яноўскай. За Нёманам вялікі, незаселены комплекс лясоў, і таму толькі каля Беліцы ці Дзятлава былі далёкія суседзі, так жа як і раскіданыя вакол і на ўсход ад Ліды двары. Нашы найбліжэйшыя суседзі былі злучаны тэлефонамі, праз нейкі час ва ўсіх з'явіліся аўтамабілі. Дарогі меліся і настолькі дасканалыя, што аўтамабілямі ездзілі круглы год. Таму ў нашым жыцці былі супольныя выезды, раўты, паляванні, тэніс, купанні. Для цэласнасці вобразу нашых адносін трэба дадаць, што ваяводскі цэнтр знаходзіўся ў гістарычным Наваградку, але апрача гісторыі ў горадзе было толькі некалькі дзясяткаў дамкоў - цалкам падобных адзін на аднаго - і, калі ваяводства заняло па-кляштарныя муры, ужо ніводная ўстанова апрача староства тут не магла размясціцца. Акруговы суд, іпатэка, школьнае куратарства, сельскагаспадарчая ўправа, управа малочнага каапературыва былі ў Вільні, земская управа ў Гародні, казначэйства ў Бярэсці, Земляробчае таварыства ў Баранавічах, Дырэкцыя дзяржаўных лясоў у Белавежы. Калі пачціваму грамадзяніну

---

[33] Верагодна, першай пабудовай у закапанскім стылі на гістарычнай Лідчыне быў сядзібны дом Сапегаў у Спушы (сучасны Шчучынскі р-н). Дом пачаў будаваць у канцы XIX ст. Ян Павел Аляксандр Сапега, будаўніцтва закончыў яго сын Яўстафі Каятан Сапега. Сядзіба складалася з пяці жылых пабудоў, аранжарэі, стайняў, цяпліц, галоўны дом неаднаразова дабудоўваўся і паляпшаўся. Сядзібны дом Сапегаў у Спушы быў найбольш цікавым будынкам у закапанскім стылі на Лідчыне - *заўвага перакладчыка*.

трэбы было залатвіць, напрыклад справы парцэляцыі лесу, для чаго трэбы было выправіць палову пуда папер і, выехаўшы ў панядзелак, добра было, калі вернешся ў суботу - часта прахопліваўся і наступны тыдзень. Трэба сказаць, што з гадамі, а менавіта да Другой сусветнай вайны, частка ваяводскіх уладаў усё ж перайшла ў Наваградак, але не ўсе. А калі яшчэ дадаць, што Наваградак ляжаў за 24 км ад чыгункі, і ў гэты горад толькі два разы штодзень можна было даехаць вузкакалейкай, ці аўтобусам ад станцыі Наваельня, дык становіцца зразумелым, чаму ва ўсіх нас з'явіліся прыватныя аўтамабілі[34].

### Грамадскія стасункі і мая барацьба з дзяржаўным скарбам

Неяк хутка я быў уцягнуты ў грамадскія справы. Стаў членам Лідскага сойміка[35] ад Лябёдскай гміны, а ў сойміку ўзначаліў рэвізійную камісію. Стаў членам управы Сельскагаспадарчага таварыства ў Лідзе, старшынём быў суддзя Прыбытка[36]. Стаў членам падатковай камісіі ваяводскага Сельскагаспадарчага Таварыства ў Баранавічах, старшынём якога быў Канстанты Рдултоўскі. Яшчэ, быў у наглядальнай радзе Сельскагаспадарчага сіндыката, гмінным радным у Лебядзе, ва ўправе лідскага Таварыства паляўнічых і ўправе Звязу землеўладальнікаў. Пасады прыбывалі амаль што з кожным выездам. Гэтых выездаў было шмат, таму князь Людвік Чацвярцінскі, старшыня Звязу землеўладальнікаў і праз нейкі час Сельскагаспадарчага Таварыства, Стась Ваньковіч і я былі змушаны часта начаваць у Лідзе, су-

---

[34] У верасні 1925 г. газета "Слова" пісала пра адсутнасць больш-менш прыстойных памяшканняў для лідскай гарадской і павятовай улады. Але галоўная праблема была ў дзіўнай структуры падначаленасці лідскіх уладаў: *"Адміністрацыя (ваяводства) - Наваградак, скарб (казначэйства) - Берасце, структуры Міністэрства сельскай гаспадаркі - Гародня, суды і лясніцтвы - Вільня, адукацыя - Беласток. ... А як добра размешчана Ліда - да Вільні менш за 100 км ... і горад ад спрадвечных часоў цягнецца да Вільні"*. Гл: Slowo № 216 (930) 23 wrzesnia 1925. - *заўвага перакладчыка*.

[35] Павятовы соймік складаўся з паслоў ад горада і гміны. У сельскіх гмінах дэлегатаў выбірала Гмінная рада, у гарадскіх - Гарадская рада на агульным паседжанні з Магістратам пад кіраўніцтвам бургамістра - *заўвага перакладчыка*.

[36] Юльян Грымайла-Прыбытка (1883-1939) на пачатку XX ст. закончыў Рыжскую палітэхніку, да 1914 г. працаваў на пасадах чыноўніка рознага ўзроўню ў Лідскім павеце. У 1920-30 гг. - суддзя. Ягоны брат - Антон Грымайла-Прыбытка, неаднаразова выбіраўся ў Гарадскую раду, быў лаўнікам Магістрата і выдатным лідскім краязнаўцам. Быў арыштаваны ў 1939 г. і хутка памёр у турме - *заўвага перакладчыка*.

польна нанялі пакой на чатыры ложкі ў Альгерда Зана. Нашым чацвёртым таварышам быў Юзаф Славінскі, адміністратар з Жалудка. Найчасцей князю ў яго выездах таварышаваў дырэктар сіндыката Альгерд Зан, унук слаўнага Зана, жанаты на Ядвізе з Марачэўскіх (пасля вайны дырэктарка жаночага ліцэя ў Саскай Кенпе). Зан належаў да самых вясёлых і дасціпных людзей таго часу. Пані Ядвіга была чароўная гаспадыня і з'яўлялася членам управы Сельскагаспадарчага Таварыства, а таксама кімсьці яшчэ ў Коле вясковых гаспадынь, дзе старшынствавала княгіня Ружа Чацвярцінская. Да абавязковых атрыбутаў начлегу належала вячэрняя партыя ў брыдж і неяк хутка аказалася, што я не самы дрэнны гулец. Гуляў заўсёды весела і смела, не звяртаў ўвагі на выйгрышы, якія, тым не менш самі прыходзілі і таму на доўгія гады забяспечылі мне славу майстра картачнай гульні. Пасля брыджу часта наступала партыя чагосьці хуткага, звычайна покеру, які спадабаўся князю. Але князь ніколі не граў настойліва і з высокімі стаўкамі.

Для дапаўнення вобразу, трэба яшчэ дадаць краму далікатэсаў і рэстаран братоў Вінаградавых[37], дзе выдатна кармілі, а крама мела ўсё, што патрэбна ў найлепшым гатунку, віны прывозіліся бочкамі, а закускі і каланіяльныя тавары маглі смела спаборнічаць з аналагічнымі таварамі братоў Пакульскіх ці Гіршфельда ў Варшаве. У выпадку неспадзяванага візіту дастаткова было тэлефанаваць да Вінаградава і пакунак, даручаны кандуктару цягніка, праз дзве гадзіны чакаў на станцыі Скрыбаўцы[38].

І яшчэ, для камплекту, пра Пецярбургскі гатэль ці "Пецяр-

---

[37] Браты Вінаградавы С. і М., Сувальская, 21., Тэлефон - 92. - *заўвага перакладчыка.*

[38] У сярэдзіне лістапада 1931 г. газета "Слова" пісала: *"Антысеміцкія эксцэсы, якія мелі месца ва ўніверсітэцкіх гарадах, прыйшлі і ў правінцыю. Пра гэта кажа ўчарашні дзень у Лідзе, дзе былі выбіты дзве шыбы ў яўрэйскіх крамах: на складзе тавараў для пісьма па вуліцы 3-га Мая Дварэцкага і ў самай вялікай і якаснай краме спажывецкіх тавараў Вінаградава па вуліцы Сувальскай. Гэта адбылося ў 18-45, за некалькі хвілінаў да закрыцця, калі на вуліцах панаваў моцны рух людзей і транспарту. Як і ў першым, так і другім выпадку шыбы былі выбіты каменем, кінутым з вялікай адлегласці. Пасля гэтага ў горадзе пануе напружаная атмасфера, зачынена шмат крамаў. Усю ноч па горадзе хадзілі ўзмоцненыя патрулі паліцыі. Як падазроны, быў затрыманы 18-ці гадовы вучань 5-га класа Гарадской гімназіі Усевалад Малеўскі. На наступны дзень яго адлічылі з гімназіі. Ягоным паплечнікам у гэтай справе быў 15-ці гадовы Ежы Ромер. Зараз у горадзе спакойна. Горад патрулюе паліцыі разам з грамадзянамі-сябрамі "Звязу Стральцоў"*. Гл: Slowo №266(2774) 18 listopada 1931. - *заўвага перакладчыка.*

бургскую цёцю"[39]. Вельмі чысты гатэлік, дзе volens nolens[40] прыходзілася пад час з'ездаў, баляў ці іншых аказій рэзерваваць сябе пакой. Уладарка, пані Глаўберман - дзедзічка гатэля, паходзіла са старой лідскай сям'і Цыдзяровіч, выйшла замуж за добра малодшага за сябе яўрэя з Пінска Глаўбермана. Ён выконваў абавязкі пакаёвага, парцье, пасыльнага і выкідалы. Неяк, пані Глаўберман устанавіла новы клазет са спускам вады, і таму заахвочвала ўсіх пастаяльцаў карыстацца ім, каб ацаніць выгоды. Казала: "Што значыць не патрэбна? Пану Ваньковічу таксама было не патрэбна, але як сеў, дык гадзіну сядзеў!". Наступным разам вітала мяне словамі: "Уй, каб пан ведаў, якую я мела непрыемнасць! Учора ўвечары прыехаў з Вільні цягніком пан адвакат Ю. Вы яго ведаеце. А за ім ідзе такая вымаляваная, такая стройная, такая ўся ў парфуме. І я кажу: "Пан адвакат, я вас вельмі шаную і паважаю, але гэта ў мяне нельга" - "Што нельга?" - "Гэта", і я пальцам паказваю на яе. І што вы думаеце, гэта была ягоная жонка! Дык я мела такую непрыемнасць. Я яшчэ і сёння з-за гэтага хворая".

Калі ж лідскі лётны полк даваў баль, дык я вярнуўся з яго толькі на другі дзень каля поўдня. "Што я мела, што я мела гэтай ноччу", - кажа пані Глаўберман. "Пан, ведае, у мяне самыя самавітыя людзі начуюць. Тут спіць княгіня з Жалудка, тут княгіня са Спушы, а тут графіня Пусяўская. У трэцюю, можа, гадзіну раніцы варочаецца пан Мінейка. Такі п'яны, такі п'яны. Ён, вы ведаеце, такі спакойны, а тут такі п'яны. Я ўжо да раніцы не спала і чакала, што будзе, як вернецца гэты Струміла. Вы ведаеце, ён любіць крычаць, ён любіць спяваць. Ну і што? Ён наогул не прыехаў, а я палову ночы не спала". А праз некалькі дзён: "Вы ведаеце, гэты Струміла не прыстойны чалавек, я яму гэта сказала, дык ён прынёс такую бутэльку адэкалону. Вы павінны яе ўбачыць!".

Як я ужо пісаў, дзяржаўная палітыка і адносіны на нацыянальных меншасцяў і аўтахонаў пакідала жадаць лепшага. Можа не было такіх яскравых памылак, як на Валыні ці Усходняй Галіцыі, тым не менш памылкі былі і давалі адмоўныя вынікі.

Па-першае, адносіны да праваслаўных. Для нікога не было таямніцай, што ў войску праваслаўны не мог узняцца вышэй за ўзровень звязавага. У дзяржаўных органах праваслаўных абыходзілі і спіхвалі на другарадныя пасады. А тым часам польскае праваслаўе парвала

---

[39] У 1929 г. гатэль "Пецярбурскі" Ісака Глаўбермана, вуліца Каменская, 6, з другой паловы 1930-х гг. - гатэль "Еўрапейскі" - *заўвага перакладчыка*.

[40] Volens nolens (лац.) - вольна-нявольна, ці хочаш-няхочаш - *заўвага перакладчыка*.

з Расіяй і мела свайго мітрапаліта ў Варшаве, у семінарыі вучылі польскую мову і казанні па-польску. Новае духавенства, выхаванае ў Польшчы, было патрыятычным і прадзяржаўным.

Другой балячкай было асадніцтва. Не гледзячы на іншыя адмоўныя бакі, яно выклікала крыўду мясцовых у людзей, бо зямля, якая павінна была стаць іхняй, раздавалася чужым "прыхадням" і вельмі часта малавартасным людзям. А калі адбываліся выбары ў гмінную раду, у соймікі, на войта - дык усе месцы былі толькі асаднікаў. Адхіленне ад удзелу ў самакіраванні мясцовых людзей, якія толькі пачынала гарнуцца і прывязвацца да польскай дзяржаўнасці, было памылкай і пхала тых самых людзей прама да *...урткоў*[41]. А гэтыя людзі мелі добрыя якасці і здольнасці. Па-першае гэта былі пачцівыя людзі і ў той жа час знаходлівыя, мелі крытычнае мысленне і пачуцце гумару. З якім гонарам насілі яны першыя бронзавыя Крыжы Заслугі і медалі 3-га Мая! Памятаю, адказ войта гміны Лебяда Сымона Коўчыка, калі нейкі "галічанін"-інспектар лаяў яго за дробны недахоп у гміне: "Я з вас гэты Крыж здыму! - Не вы мне яго далі, не вам яго і здымаць!".

Пра пачуццё гумару сведчыць сцэна, якой быў сведкам. Доўга раіліся радныя на пункце парадку дня - "заробак войта". Няма згоды - прапанова, зрабіць як у іншых гмінах - 200 ці 300 злотых, здаецца астранамічнай сумай, асабліва ў пераклiку на кошт збожжа, яек, малака і масла. Прыхільнікі войта стараюцца абараніць прапанаваную суму, і высоўваюць шэраг аргументаў. Бясплодная дыскусія доўжыцца некалькі гадзін. Пры канцы ўстае стары гаспадар і кажа: "Панове, ужо позна, а да хаты далёка. Я лічу, ці яму дамо 100 злотых, ці дамо 300 злотых, ён як краў, так і будзе красці - аб чым тут спрачацца!" - і ўсе згадзіліся на прапанаванай суме.

Праблема асаднікаў мела і іншы аспект[42]. Калісьці перад пасе-

---

[41] Пэўна маюцца на ўвазе гурткі Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ) - масавай легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай і нацыянальна-вызвольнай арганізацыя працоўных Заходняй Беларусі ў 1925-1927 гг. - *заўвага перакладчыка*.

[42] У ліпені 1934 г. "Кур'ер Віленскі" надрукаваў цікавую інфармацыю аб асадніцтве на Лідчыне. У той час у Лідскім павеце былі 44 гаспадаркі асаднікаў: у Беліцы - 1 гаспадарка, у Няцечы - 20, у Бабрах - 5, у Андрушках - 6, у Караліне - 11 і ў Жуках - 8. 7 надзелаў мелі афіцэры і толькі 2 з іх самастойна працавалі на раллі. Адзін афіцэр меў гаспадарку ў Няцечы і лічыўся вельмі энергічным і эфектыўным гаспадаром, быў актыўным грамадскім дзеячам. Другі ж афіцэр жыў у Бабрах, не вылучаўся сярод беларускага сялянства моцнай гаспадаркай і грамадскім жыццём не цікавіўся. Астатнія афіцэры на зямлі не працавалі і, верагодна, зямлю здавалі ў арэнду. Наогул, з 44 гаспадарак

джаннем сойміка стараста Здановіч[43] абышоў частку дэлегатаў, просячы каб яны згадзіліся з воляй ваяводы і выбралі ў Павятовы аддзел[44] нейкага Мальскага. Уладзіслаў Мальскі атрымаў асаду пад Беняконямі, на зямлі выкраенай з маёнтка Больценікі Путкамераў. Легіянер, добры прамоўца, ён быў ужо старшынём Звязу Асаднікаў. Дэлегаты, якія прыхільна ставіліся да старасты, стараліся растлумачыць яму, што не трэба рабіць гэты крок - прыйдзецца яшчэ шкадаваць. Аднак стараста мусіў выканаць жаданне ваяводы. Мальскі быў абраны, і не прайшло і два гады, як ён "з'еў" Здановіча, паставіўшы яму ў віну, што жонка старасты - уладальніца фальварка Макушын, які потым арандаваў сенатар Сіцінскі. Згодна з польскім законам, стараста не мог мець нерухомасць у сваім павеце. Па-іншаму было ў немцаў, "ландрат" наадварот мусіў мець у сваім павеце нерухомасць.

Я быў непасрэдна замешаны ў тыя бойкі вакол старасты. Як старшыня рэвізійнай камісіі атрымаў загад ваяводскага аддзелу правесці рэвізію гаспадарак павета. Праз тыдзень праверкі ўсіх гаспадарак, адзін з членаў камісіі, асаднік, будучы бургамістр і вельмі пристойным чалавек[45], сказаў мне, што гэта робіцца, каб зняць старасту. Усе было зроблена не прыгожа, але па-закону, аднак некалькі

асаднікаў, у вельмі добрым стане знаходзіліся 11 асад, у здавальняльным стане - 24 асады, у дрэнным стане - 9 асад. - Гл: Kurjer Wilenski №195(3085) 20 lipca 1934 - *заўвага перакладчыка*.

[43] Станіслаў Здановіч, сын Юзафа і Апалоніі з Мікульскіх, нарадзіўся ў 1886 г. Скончыў гімназію ў Пецярбургу. Вучыўся на факультэце права Пецярбургскага ўніверсітэта і прымаў актыўны ўдзел у жыцці польскіх студэнцкіх гурткоў. Пасля заканчэння ўніверсітэта, працаваў прысяжным паверанымў Полацку, і тут шмат гадоў быў сакратаром праўлення польскага Таварыства дабрачыннасці, падтрымліваў сувязі з аналагічнымі арганізацыямі на Лідчыне. Пасля бальшавіцкага перавароту і акупацыі Полацка немцамі вярнуўся ў Лідскі павет, дзе пачаў працаваць спачатку ў якасці члена праўлення Польскай Народнай Рады Лідскай зямлі, а пасля стаў старшынём. Калі ў 1919 г. польскае войска заняло Ліду, быў прызначаны камісарам (старастам) Лідскага павета і выконваў функцыі старасты Лідскага павета на працягу 10 гадоў. Узнагароджаны крыжам ордэна "Polonia Restituta"- *заўвага перакладчыка*.

[44] Павятовы аддзел складаўся з 6 членаў - жыхароў павета, якія выбіраліся Павятовым соймікам. У кампетэнцыю павятовага аддзела ўваходзіла: падрыхтоўка спраў на пасяджэнні сойміка, рашэнне спраў, якія не патрабавалі зацвярджэння сойміка, вызначэнне спосабу выканання пастаноў сойміка; выкананне абавязкаў, вызначаных дзяржаўнай уладай і законамі і інш - *заўвага перакладчыка*.

[45] Маецца на ўвазе Юзаф Задурскі - будучы бургамістр Ліды - з*аўвага перакладчыка*.

дробных памылак не дыскрэдытавалі старасту. На бліжэйшых выбарах, якія праводзіў ужо новы стараста Багаткоўскі[46], я страціў пасаду старшыні камісіі.

Стараста Здановіч, які вывучаў юрыспрудэнцыю ў Пецярбургу, меў свае амбітныя планы. Лідскі павет і так ужо меў 20 вялікіх гмінаў, але стараста штораз адрываў гміны з суседскіх паветаў. Меў надзею, што калі колькасць гмінаў дойдзе да 30, дык яны будуць падзелены на 3 паветы і створыцца Лідскае ваяводства, якое ўзначаліць, зразумела, Здановіч. Аднак калі павет атрымаў 27 гмінаў, быў створаны Шчучынскі павет, у які патрапілі ўсе гміны на захад ад ракі Дзітва. Старастам новага павету стаў Юзаф Сялява, і мая ваколіца перайшла ў гэты новы павет. Але было гэта пазней.

Ваяводамі ў Навагрудку ў той час былі Уладзіслаў Рачкевіч, генерал Янушайціс і Зыгмунт Бачковіч, які атрымаў папулярную мянушку "Кадушкін". Ваявода Бачковіч не выносіў піцця гарэлкі, таму нават на банкетах дазваляў толькі мінеральную ваду. Ведаючы гэта, на такога кшталту мерапрыемствах наш дальні канец стала заўсёды рыхтаваў адмысловыя бутэлькі ад мінеральнай вады ці ліманаду ў які налівалі гарэлку. Неяк, падчас банкету, ужо не памятаю з якой нагоды, можа з-за Сельскагаспадарчай выставы, калі мы добра "запраўляліся" з нашых пляшак (стаяла добрая гарачыня), ваявода, які сядзеў пасярэдзіне стала, устаў і пайшоў на наш канец стала, дзе забраў "падрыхтаваную" бутэльку. Сакратар ваяводы, які сядзеў на нашым краі стала не разгубіўся і выхапіў у ваяводы з  рук бутэльку са словамі: "Пан Ваявода, дазволіць?", потым зграбна схаваў нашу і адкаркаваў сапраўдную бутэльку з мінеральнай вадой.

Падатковая камісія сачыла за абаротамі і даходамі ўсіх грамадзян. Прынцыпам дзяржаўнага скарбу было - усё тлумачыць супраць грамадзян. Выглядала гэта напрыклад так - млын - пры падліку абароту вядома: валец мае такую шырыню (тэхнічныя параметры з дакументаў) можа малоць столькі тон штодзень. Але, каб столькі змалоць, трэба купляць дадатковае збожжа, бо свайго не хапае. Даходнасць ад свайго збожжа - 15%, а пакупнога 5%, але падатак наліч-

---

[46] Генрык Багаткоўскі (1893-1967), лідскі стараста ў 1927-1933 гг. У 1928 г. у Лідзе ажаніўся з сярэдняй дачкой гісторыка Міхала Шымялевіча - Зоф'яй (1907-1996). Генрык Багаткоўскі нарадзіўся ў горадзе Ловіч (каля Лодзі) і зрабіў хуткую кар'еру чыноўніка: у 1926 г. ён абіраецца ў павятовую раду касы хворых Ловіча, ужо ў 1927 г. працуе інспектарам па самакіраванні Наваградскай ваяводскай управы, з траўня 1928 г. - лідскім старастам. Пры канцы 1930-х гг. працуе ў Варшаве на пасадзе інспектара Міністэрства ўнутраных спраў- *заўвага перакладчыка*.

ваецца па-максімуму. Такая практыка даводзіла да роспачы ўладальнікаў. ... Большасць членаў камісіі, самі ўладальнікі ўсялякіх прадпрыемстваў, сядзелі ціха і не пратэставалі. Я не цярпеў такога кшталту рэчы з часоў, калі слухаў лекцыі майго прафесара Балунскага і пачаў выяваць і бараніць нявінных падаткаплацельшчыкаў. Пасля таго, як я сумеў абараніць некалькіх гаспадароў, знайшоў сабе саюзніка ў асобе старшыні Звязу яўрэйскіх купцоў Гдалі, ён пачаў мяне падтрымліваць і дадаваць контраргументы, бо шмат у якіх галінах эканомікі я не арыентаваўся. Аднак няма прарока ў сваёй Бацькаўшчыне, праз год намаганняў, да задавальнення начальніка Скарбовай управы Бушмэна, ... мне давялі, што членам камісіі можа быць асоба, якая мае ў павеце маёнтак, прадпрыемства ці нейкі варштат. А паколькі Скабейкі належаць маёй маці, дык я быў толькі яе даверанай асобай, і таму мяне адхілілі ад пасады. Пасля чаго да мяне прыйшлі паны Гдалі, Вінаградаў з Цыдзяровічам і прапанавалі мне балатавацца ў бурмістры горада. Падзякаваў за прапанову, выпілі мы некалькі бутэлек віна (справа адбывалася ў кабінеце рэстарана Вінаградава), і я адмовіўся, бо меў іншыя клопаты.

З панам Бушмэнам, хоць не беспасрэдна, меў сутычку з іншай нагоды. Часта ездзіў у Ліду і заўжды вырашаў шэраг спраў нашай суполкі. Акрамя іншага, заўжды аплачваў у касе Скарбовай управы ўсе падаткі, і не толькі свае, але і Мажэйкава, Дзікушак, Раманаўцаў. Раптам у верасні выходзіць пастанова, па якой таму, хто не заплаціў падаткі да 1 красавіка, падатак павялічваецца ў 50 разоў. Мы заплацілі ў тэрмін і былі спакойныя да таго моманту, пакуль не атрымалі плацёжныя паведамленні з 50-ці кратнымі сумамі. Рэч ішла пра вялікія грошы, і я з дзядзькам Верашчакай паехаў у Ліду. У начальніка паказалі плацёжныя квіткі і новыя плацёжныя паведамленні і запыталіся, што гэта значыць? Начальнік прапанаваў напісаць заявы і дадаць да іх квіткі. Мы - так, а потым квіткі патрацяцца і вы нас возьмеце "за фрак"! Анулюйце зараз жа! Начальнік не жадае. Не, дык не. Ідзём прама да судовага следчага. Суддзя Чайкоўскі напісаў пратакол, заверыў доказы, даў нам выпіскі і абяцаў заняцца справай. Быў яшчэ два разы выкліканы да судовага следчага, справа стала досыць сур'ёзнай. Касіра арыштавалі, бо такіх выпадкаў аказалася шмат. Камбінацыя была простая. Гэта быў час, калі марка ляцела "з печы ў лоб". Касір прымаў грошы, даваў квіток, але грошы не апрыходаваў, а на нейкі час пускаў у абарот, купляў долары і старыя залатыя рублі, а калі курс чарговы раз падаў, прадаваў частку валюты і прыходаваў грошы. А тут нечаканая пастанова. Справа касіра цягнулася тры гады. Я некалькі раз як сведка атрымоўваў позвы ў суд, а справа ўсё выву-

чалася. Калі аднаго разу не прыехаў, заплаціў 50 злотых за непавагу да суду. ... У выніку ўсё ж касір атрымаў 3 гады турмы, з іх 2,5 адсядзеў ужо пад следствам.

Ведаючы заядласць супрацоўнікаў Скарбовай управы мусіў вельмі ўважліва сачыць за выплатай падаткаў і акуратна весці бухгалтэрыю. Для большай бяспекі наняў Вайтушкевіча - бухгалтара сіндыката, які з добрым вынікам вёў бухгалтэрыю ў шэрагу маёнткаў.

У павеце працавала Сельскагаспадарчае таварыства і тэарэтычна вельмі паспяховы Звяз сельскагаспадарчых гурткоў. Абедзве інстытуцыі рэалізоўвалі сябе ў паляпшэнні сартоў збожжа, закладалі новыя суполкі, пункты збору і перапрацоўкі малака, касы Штэфчыка[47]. Іх праца мела карысць у значнай ступені з-за канкурэнцыі паміж сабой. Звяз гурткоў хутка быў апанаваны асаднікамі, з-за чаго моцна страціў у папулярнасці, улады стараліся гэта кампенсаваць і надавалі яму вялікія фундушы. Гэта прыводзіла да штучнага росту членаў Звязу, бо дзяржаўныя грошы, прызначаныя для падтрымкі земляробаў як крэдыты на будоўлю, насенне, штучныя ўгнаенні выдаваліся толькі праз касу Штэфчыка. Хочаш крэдыт - запісвайся ў члены. Але гэта мела таксам і вялікае выхаваўчае значэнне, бо касы Штэфчыка, акрамя дзяржаўных грошай, працавалі таксама і з прыватнымі ўкладамі і вучылі людзей лічыць грошы, вызвалялі людзей з абцугоў яўрэйскага гандлю і крэдыту. У той жа Лідзе, акрамя сіндыката, больш не было ніводнай неяўрэйскай крамы. Абедзве аптэкі былі яўрэйскія, а калі павятовы соймік адчыніў уласную аптэку, аказалася што былі парушаны законы, бо для адкрыцця трэцяй аптэкі, дзве першыя павінны былі даць згоду. Зразумела, што аптэкі якія ўжо існавалі з-за скнапнасці пажаліліся на парушэнне законаў. Справа дайшла да суду, і толькі майстэрства адвакатаў і прыхільнае стаўленне грамадства ператварыла справу ў бясконцую.

## Частка 2[48]

Будую дом у Скабейках. Зямля была добрая, і праца прафесійных земляробчых інструктараў давала станоўчыя вынікі. Разві-

---

[47] Францішак Штэфчык (1861-1924) - настаўнік, грамадскі дзеяч, эканаміст. Ініцыятар закладання кааператыўных ашчадна-пазыковых касаў, якія атрымалі назву "касы Штэфчыка" - *заўвага перакладчыка*.

[48] Rostworowski Andrzej. Moje zycie na Nowogrodczyznie lata 1924-1928 // Goniec Kresowy Nr 42. 2004 S. 18-21.

валася вытворчасць малака, дзякуючы дзейнасці Сельскагаспадарчага таварыства закладваліся ўзорныя гароды. Прапагандавалася спажыванне гародніны, памідораў. Паляпшалася пагалоўе быдла, свіней і птушак. Рацыянальна размешчаныя станцыі каняводства паляпшалі пагалоўе коней. ... Каля 1930 г. абедзве інстытуцыі - Сельскагаспадарчае таварыства і Звяз сельскагаспадарчых гурткоў аб'ядналіся, каб разам працаваць над паляпшэннем сельскай гаспадаркі. Хоць і знік чыннік канкурэнцыі, але яго замяніла разуменне неабходнасці аб'яднання і ўдасканальвання земляробства[49].

Нажаль, у мяне загінуў напісаны калісьці верш, у якім апісваліся перыпетыі з Сельскагаспадарчай выставай у Лідзе. Верш пачынаўся са слоў:

*Калісьці старшыня Прыбытка, наведаў Варшаву,*
*І яго спытаў міністр: "Што там робіце?"*
*Пальнуў: "Выставу".*
*Слова сказана - кабылка каля плоту,*
*Гэта быў пачатак нашага клопату.*

Міністрам сельскай гаспадаркі тады быў Яніцкі, сябар нашага старшыні, і пачатак верша падобны на праўду. Шмат было клопатаў і працы, але вырашылі ўсе праблемы і ў зграбна спраектаваных павільёнах у Лідскім замку былі выстаўлены адпаведныя экспанаты, а міністр сельскай гаспадаркі адкрыў выставу. Выстава мела вялікі поспех, яе наведалі натоўпы людзей і земляробчых арганізацый. Былі аборы з добра паказаўшымі сябе чырвона-польскімі бугаямі, каровамі, цялятамі. Было шмат першакласных свіней англійскай пароды, былі і пулаўскія свінні. Шмат хатняй птушкі. Сыры і масла, цэлыя гароды, узорна разбітыя на тэрыторыі выставы. Тут трэба ўспомніць нашых інструктараў па земляробству Пісарка, Васілеўскага і агранома Кліковіча, якія зрабілі найбольшы кавалак працы, як па падборы экспанатаў, так і ў суправаджэнні экскурсій. Выстава трывала тры дні, было раздадзена шмат узнагарод, у тым ліку некалькі дзесяткаў медалёў 3-га

---

[49] Улады падтрымлівалі развіццё кааперацыі на вёсцы і ў горадзе. У тыя гады ў Лідскім павеце працавала 12 сельскагаспадарчых таварыстваў, іх дзейнасць была скіравана на дапамогу людзям, якія працавалі на зямлі. Важнай формай вясковай кааперацыі была супольная перапрацоўка і збыт малака і малочных прадуктаў. Першая такая суполка на Лідчыне паўстала ў 1925 г. у Ракавічах, у 1926 г. кааператывы па перапрацоўцы малака ўзніклі ў Тракелях і Дворышчы, у 1927 г. - у Гурнофелі, Бердаўцы, Крупаве. Гл: Slowo № 289 (1002) 18 grudnia 1925.; Kurjer Wilenski №152(901) 8 lipca 1927. - *заўвага перакладчыка.*

Мая, які хоць і мелі толькі сімвалічную вартасць, але вельмі цаніліся. Потым віселі на ганаровым месцы ў хатцы, а ў нядзелю адзяваліся на святочную вопратку. Кола гаспадынь праводзіла курсы шыцця, гатавання, кансервацыі гародніны, а таксама конкурсы прыгожага чытання, якія былі вельмі папулярныя[50].

Адначасова нешта рабілася на сваім падворку. Мы яшчэ жылі ўсе разам у Вялікім Мажэйкаве, але кожны клапаціўся, і як мог, будаваў сваю сядзібу. Верашчакі казалі, што ўсё добра і гэтак, і калі рэшта сваякоў пакіне афіцыну, дык будзе ажно зашмат пустога месца. Цёця Мінейка лічыла, што часы яшчэ няпэўныя, можа яшчэ адбыцца зямельная рэформа і не варта выдаваць грошы на новыя апартаменты, таму свае грошы патраціла, купіўшы супольна дом у Варшаве на Рынку Старога горада №23. Такія ж думкі мелі і Ваньковічы, яны для пачатку пабудавалі малы домік як для эканома і толькі праз нейкі час пабудавалі нармальны жылы дом. Мы думалі інакш і жадалі як найхутчэй пабудаваць дом, каб жыць з камфортам.

Мама і сястра Ружа загадзя разбілі два сады (Ружа для гэтага нават скончыла курсы ў Варшаве і Кракаве) і пачалі высаджваць дрэвы і кусты, высадзілі фруктовы сад і ружарыюм. Залажылі цяпліцы. Адначасова, з бацькам заняліся пабудовай дома. Тата зрабіў праект і выдатна дапамог у будоўлі. Ён успомніў, што падобны дом спраектаваў і пачаў будаваць у Паўлаве[51] для Вітольда Вагнера. Гэта павінен быў быць дом для паляўнічых, у якім з камфортам размясціліся б 12 - 15 чалавек. Перад самай Першай сусветнай вайной дом быў ужо пад дахам, але не закончаны. Для яго будоўлі ўжываліся найлепшыя матэ-

---

[50] 30 жніўня 1924 г. у Лідзе адкрылася сельскагаспадарчая выстава. Выдаткі на выставу склалі 6 000 злотых. Урад даў субсідыю ў 500 зл., такую ж суму ўнеслі лідскія ўлады. Астатнія грошы паміж сабой сабралі абшарнікі Лідчыны. У першы дзень працы выставы, з раніцы, на паседжанні ў зале Народнага банка, прафесар Пазнанскага ўніверсітэта, уладальнік маёнтка Больценікі Адам Жаўтоўскі (жанаты з праўнучкай Марылі Верашчакі) прачытаў даклад аб сельскай гаспадарцы. Каля 13-00 ў замку Гедзіміна адчынілася выстава. Дзеля яе адкрыцця з Наваградка прыехаў ваявода Уладыслаў Рачкевіч. Ваявода ганарова распачаў працу выставы і потым сам агледзеў экспанаты і размаўляў з старшынёй аргкамітэту выставы Юльянам Прыбыткам і сябрамі аргкамітэту. На выставе экспанавалася насенне, розныя пароды быдла, сельскагаспадарчыя машыны лідскай вытворчасці. У павільёне, які арганізавалі княжна Марыя Чацвярцінская, Уладзіслава Ляскович, Гелена Брахоцкая, выстаўляліся розныя вырабы народнай творчасці. Гл: Slowo №199 (616) 2 wrzesnia 1924. - *заўвага перакладчыка*.

[51] Каля вёскі Мерач у сучасным Салечніцкім раёне Летувы - *заўвага перакладчыка*.

рыялы - якасныя сосны з лясоў Вагнера. Адным стрэлам забілі двух зайцаў - Вагнер быў рады выручыць грошы, а мы атрымалі сухое і якаснае дрэва за палову цаны, нават з улікам перавозкі. Наняты праз Зімермана найлепшы майстар-цясляр разбіраў дом у Паўлаве і грузіў яго ў вагоны на станцыі ў Яшунах. Усе выгружалася ў Скрыбаўцах і перавозілася ў Скабейкі. Усё працавала, як гадзіннік, і раптам - катастрофа. Калі было перавезена ўсё, да апошняй цэглы і дахоўкі, памёр майстар і панёс з сабой сакрэт чарговасці разборкі дома і разметкі элементаў. Было нават невядома з якога кута пачынаў. Наняты праз Зімермана новы майстар доўга думаў, але загадкі не разгадаў. Таму прыйшлося з старога матэрыялу будаваць новы дом, дапасоўваючы ўсе элементы ... .

Будоўля доўжылася адзін год. Але і праз год маглі жыць толькі ў адным мансардным пакоі, бо дом яшчэ не быў закончаны. Таму ўвесь вольны час я прысвячаў будаўніцтву і хутка разабраўся ва ўсіх таямніцах гэтага рамяства.

Ад публічнай дарогі вяла свежапасаджаная ліпавая алея. Гэтыя дрэвы я асабіста прывёз з лясніцтва ў Лідзе, дзе іх знайшоў добра падрошчанымі. Паміж уязной брамай і домам меўся кругавы газон, а дарога была высыпана прасеяным жвірам, які прыемна шапацеў пад коламі. Другая знешняя алея вяла ад дома на захад у ружарыюм з бетонным басейнам унутры, вада падагравалася і падпампоўвалася адмысловай помпай. Печы ў доме ставіў слынны "Нёмка" ці Беньямін з Жалудка - цэлая сям'я печнікоў - бацька і тры сыны. Адзін з сыноў быў сапраўдным нямым, ён акрамя печаў, рабіў усе мулярскія працы і, між іншым, будаваў падвалы. Грунтовыя воды стаялі высока, і таму нельга было рабіць глыбокіх падвалаў, а трэба было ставіць іх амаль што наверсе і абсыпаць зямлёй - на паўтараметровай сцяне скляпенне поўнага профілю ў паўкола. Я тлумачыў "немку", што тое, што ён робіць не будзе трымацца - трэба зрабіць скляпенне больш адкрытым. Не, ён не згаджаўся і будаваў "пад сваю адказнасць". Неяк, на закончанае скляпенне ноччу паліўся лівень, і на ранку тырчалі толькі часовыя драўляныя рамы. "Немка" за пару дзён адбудаваў яшчэ раз. Скляпенне высахла, узялося - пачалі вымаць раму, і зноў усё пасыпалася. Толькі тады "немка" пакаяўся. Паднялі сцены на 20 см і зрабілі больш адкрытае скляпенне, прычым частку цэглы зрабілі "на клін". Тады скляпенне вытрывала не толькі зняцце рамы, але і метровы насып зямлі зверху. "Немка" таксама клаў дахоўку на даху, што, з-за ламанага даху, мансардных вокнаў і высунутых ганкаў, было складанай працай. Аднак дах не зацякаў і трымаўся добра. Горш было з падваламі пад домам, дзе паказалася вада, і што бы мы не рабілі, не думала сыходзіць.



Skobejki k. Szczuczyna w Nowogródzkiem – posiadłość A. Rostworowskiego

***Дом у Скабейках***

Пасля нарады са спецыялістамі, вырашылі абкапаць дом ровам, зрабіць дрэнаж з фашынаў, а ваду з рова спускаць на луг. Першыя 6 гадоў гэты дрэнаж працаваў добра, падвалы былі сухія, але потым ці дрэва заплыло, ці заваліла стокі, але ў падвалах зноў паказалася вада. Тады, пры дапамозе Андрэя Брахоцкага[52], які скончыў Варшаўскую палітэхніку па меліярацыі, мы залажылі надзейны дрэнаж з трубаў, і ён надзейна працаваў да самага канца.

У адмысловы спосаб былі зроблены ў падвалах зборнікі ... з

[52] Андрэй Брахоцкі - апошнім гаспадар Малога Мажэйкава. Нарадзіўся ў 1895 г. у маёнтку Малое Мажэйкава. Класічную гімназію скончыў у Вільні, ў 1914 г. быў залічаны на аграрны факультэт Рыжскай політэхнікі. У 1916 г. мабілізаваны ў войска, дзе атрымаў першы афіцэрскі чын прапаршчыка. У 1918 г. уступіў у Афіцэрскі легіён 1-га корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага і ў ліпені 1918 г. вярнуўся ў Малое Мажэйкава, каб фармаваць аддзелы польскага войска ў акрузе. Разам з 13-м палком уланаў у аддзелах генерала Л. Жалігоўскага браў удзел у баях за Вільню. Узнагароджаны найвышэйшым польскім ордэнам "Virtuti Militari" і крыжам заслугі "Litvy srodkowej". У 1921 г. выйшаў у рэзерв і прадоўжыў адукацыю ў Варшаўскай політэхніцы, якую скончыў у 1927 г. з дыпломам інжынера-гідратэхніка. У 1931 г. стаў гаспадаром Малога Мажэйкава. Актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці Лідчыны і ў працы Віленскага таварыства сяброў навукі, якому дапамагаў матэрыяльна. З верасня 1939 г. звестак пра Андрэя Брахоцкага няма - *заўвага перакладчыка*.

імі не было праблем, і таму клазеты, зліў з кухні і ваннай працаваў добра. Падлічыў расход вады і вырашыў, што бак у 2 $м^3$ будзе дастатковым. Бак зрабілі з ацынкаванай бляхі і павесілі пад столь ваннай. У кухні, каля дзвярэй мелася ручная помпа, і кожны дзень з раніцы вартаўнік на працягу паловы гадзіны напаўняў бак з студні, якая з'яўлялася першай пабудовай.

Майстэрствам "немкі" была пабудавана адмысловая сцяна паміж кухняй і ваннай. У сцяне мелася сістэма каналаў, па якіх ішло гарачае паветра разам з дымам ад кухоннай пліты і грэла гэтую сцяну. Такім чынам ванная цудоўна абагравалася. Падагрэў сцяны на лета замыкаўся цэлай сістэмай засавак, і тады дым з кухоннай пліты ішоў адразу ў комін.

Пакоі ў доме былі вялікія і высокія, па старой традыцыі - 3,1 м. Вокны таксама вялікія. Толькі самыя вялікія пакоі мелі асобныя печы, меншыя мелі адну печ на два пакоі. У доме заўсёды было цёпла, і нават у самыя моцныя маразы печы паліліся "на змену", праз дзень. Палілі, зразумела, дрывамі. Пераважна гэта былі вярхі дрэў ці апалыя галіны з эксплуатаваных лясоў. Для гэта дрэва завозілася пад канец зімы, ставілася двое работнікаў, якія пілавалі, секлі і ставілі адну ці дзве горкі дроў - як стагі сена. Дровы сохлі ўсё лета і ўзімку гарэлі, як салома.

Каля 1926 г. тата купіў Ружы дом на вуліцы Мантвілаўскай у Вільні. На Мантвілаўскай знаходзілася так званая банкаўская калонія, бо ў свой час Віленскі земскі банк даваў сваім супрацоўнікам доўгатэрміновыя крэдыты для набыцця пляца і будаўніцтва жылых дамоў. Калонія нагадвала Стары горад у Варшаве, бо кожны з дамоў з фронту меў 3 - 4 акны, і ўсе дамы былі трохпавярховыя. Гэты дом у свой час праектаваўся і будаваўся бацькавым бюро для Коньчаў, і тут падчас пакупкі жыла пані Яленская з Коньчаў.

Гэты дом быў ідэальным для шматлікай сям'і. Важным было знайсці спакойнага і стабільнага здымшчыка, які б заняў трэці паверх. Ім стаў Юзя Тышкевіч, сужэнства якога з Альдонай было бяздзетным. Камяніца мела адзін уваход, бо будавалася для адной сям'і, і таму паверхі былі не ізаляваныя. Меліся вялікія сутарэнні, мелася адна вялікая і адна малая кухня, тры службовыя пакоі і два падвалы. У вялікай кухні стаяў кацёл цэнтральнага ацяплення, які праз трыццаць гадоў без усялякіх праблем дасканала абаграваў усю камяніцу і даваў гарачую ваду ў дзве ванныя, пры гэтым палілася не болей за два вядры вугалю. Сутарэнні былі заглыблены толькі на палову, на іх стаяў высокі першы паверх. З вуліцы праз восем прыступак і ўваходныя дзверы трапляеш у вялікі прадпакой. Адтуль адны дзверы вялі ў дужы салон,

недзе 5х8 метраў, з якога меліся дзверы ў сталовую. Сталовая была крыху меншай, пэўна 4х7 метраў. Са сталовай меўся праход у пакой-крэдэнс, дзе апрача стала, шафы і ракавіны была шафка-ліфт, праз якую стравы падаваліся ўверх з кухні. Вокны салона выходзілі на вуліцу, а дакладней на Лукішскую плошчу і касцёл Св. Якуба. Са сталовай меліся дзверы на вялікую веранду над гаражом на падворку. Шырокія дубовыя сходы вялі на другі паверх.

Другі паверх пачынаўся з малога передпакоя. Адтуль направа і прама дзверы вялі ў два жылыя пакоі. Улева - ванны пакой, які раздзяляў два жылыя. ... Так сама было і на трэцім паверсе, які здымалі Тышкевічы ... .

Тата ... абыходзіў антыквараў і ўвесь час знаходзіў нейкае цуда, абнаўляў яго ў майстроў і абстаўлёўваў дом на Мантвілаўскай. Салон атрымаў два камплекты салоннай мэблі, цудоўныя столікі, англійскі гадзіннік які граў пяць мелодый. На ганаровым месцы вісеў партрэт мамы, намаляваны Людамірам Яноўскім. Сталовая атрымала прыгожы авальны палісандравы стол, такі шырокі, што да яго сярэдзіны немагчыма было дастаць. Пад сталом была ўманціравана ручка. Калі яе пачаць круціць - стол рассоўваўся, запасныя дошкі самі ўскоквалі на свае месцы і за сталом магло сядзець 48 асобаў. Разам са сталом стаялі 16 дубовых крэслаў з высокімі спінкамі.

Дзве дзяўчыны, Стэфця і Зоф'я дбалі пра парадак і паленне печы. Усё блішчэла і ззяла чысцінёй. З падворку запасны ўваход вёў на кухню - на падворку ўзровень грунту быў такі, што кухня аказвалася на першым паверсе. Паміж вуліцай і домам меўся трохметровы пас зелені. Мама пасадзіла два грабы і клумбы кветак. З падворка пад вокнамі сталовай расла высокая вішня, яе крона была на ўзроўні веранды.

Пасля пакупкі дома, мы мелі магчымасць жыць на вёсцы і ў горадзе. Мама з Ружай ахвотна праводзілі зіму ў Вільні, дзе было шматлюдна, шумна і весела. Я прыязджаў сюды час ад часу. Шмат сямействаў землеўладальнікаў праводзіла зіму ў Вільні. Былі балі, тэатральныя прадстаўленні - так званыя "Ахі", раўты, забавы, катанне на санках. Было шмат паненак, вочы ірвала прыгажосць паннаў Шемэт, Еленскіх, Беніслаўскіх, Нітаслаўскіх, Чаховіч, Магдановіч, Мінейкі, Незабытоўскай, Платэр. Да групы старэйшай, але вясёлай моладзі належалі Юзя Тышкевіч, Ясь і Міхал Тышкеічы, Яначак Цывінскі, Стэфан Кагноўскі, Сухоцкі, Друцкі-Любецкі, Геня Ваньковіч, Юстак Струміла, Мах, Багдановічы, Камісы, Лапацінскія, Буйко. Таксама было шмат маладых сужэнстваў, якія таксама бавілі жыццё весела.

Да гэтага трэба дадаць, што Вільня з'яўлалася самым танным горадам у Польшчы. Трэба было моцна паднапяцца, каб за вечар патраціць 100 злотых. Якраз з'явіліся першыя таксі, але яны не мелі каго вазіць. Большасць людзей жыло недалёка, і іх не трэба было вазіць. У горшым выпадку бралі дрожкі, якія каштавала 50 грошаў ці меней. ... Сядаючы на дрожкі можна было сказаць: "Да пана Ваньковіча". Недалёка ад дома была стаянка дрожкаў. На ранку за 20 грошаў можна было даехаць куды хочаш, бо было важна, каб першы кліент быў мужчынам - тады дзень будзе добры. З канца вайны дрожкі былі на "балонах", і таму было прыемна ехаць па бруку. Першы асфальт з'явіўся за пару гадоў перад Другой сусветнай вайной. А як умела рамізнік укладваў на мікраскапічныя козлы шмат валізак і іншы багаж, і пасля гэтага, добра апрануты, па-беларуску панукаў тоўстага, як мяч коніка.

За вокнамі салона мы назіралі іншыя з'явы. Два разы на тыдзень на Лукішскай плошчы адбываўся кірмаш. Дужы наплыў фурманак, гандаль сенам, гароднінай, вырабамі з дрэва і палівам. Прыязджала фурманка (зімой - сані) з высока ўзнятымі аглоблямі. Гаспадар раскладаў торбу з кормам для каня, а сам браўся за справу. Па-першае складваў тавар на продаж на зямлі ... і праз нейкі час дадаваў новы тавар, каб месца не было пустым.

Гаспадарка ў Скабейках ішла сваёй каляёй. Памёр стары эканом Зубуртовіч, ягоная ўдава перасялілася ва ўласны дом у Лідзе. Ад маёнтка атрымала пенсію. Новым эканомам стаў Гайдановіч, таксама добры гаспадар, але трохі хворы чалавек. Потым у яго выявілі рак горла. Акрамя яго ў маёнтку працавалі: вартаўнік, фурман, які з часам стаў і шафёрам, пастух з памагатым, дзяўчына, якая завіхалася з свінямі і птушкай. Жонка эканома займалася малочнымі вырабамі. Рэштай прыслугі былі тры хлопцы, чатыры леснікі і агароднік. Мелася сем рабочых коней. Чатыры кані на выезд, адзін верхавы, 6 - 12 жарабцоў. Бугай, 24 каровы, 10-18 цёлак, чатыры свінаматкі, кнораз і 10-12 свіней. Коні былі напоўпародзістыя, бо мясцовыя кабылы пакрываліся пародзістымі жарабцамі "шведамі". Каровы былі галандскай пароды ..., у такіх кароў тлустаць малака дасягала 4 %, і такая карова давала да 5 000 л малака ў год, што ў мясцовых умовах было вельмі добра. У Скабейках у 1938 г. сярэдні надой за год склаў 3 200 л пры 4,2 % тлустасці.

На пачатку гаспадарання атрымаў ад дзядзькі Антонія з Кенбла "Ноеў каўчэг" - вагон, у якім прыехалі: адзін бычок галандскай пароды, дзе такія ж каровы, пара свінак англійскай пароды, пародзістая кабыла Грэта, якая аказалася сапраўдным траянскім канём. З папераў выні-

кала, што яна паходзіла з Германіі. Спярша патрапіла да Паўла Сулоўскага, які прадаў яе майму дзядзьку. Выглядала добра. Гнядая, тры белыя плямы, грозна рыскала вокам у белым абадку. Калі кабыла некалькі дзён адпачыла, я загадаў яе асядлаць. Доўга чакаў. Нарэшце падвялі кабылу, заношу нагу, каб сесці і праз хвілю ўжо ляжу з другога боку. Сеў з крэсла. Калі ўжо быў у сядле, кабыла везла, як быццам мела найлепшую выездку. Цяжкасці ўзнікалі пры пасадцы. З часам зразумеў, што яна была пякельна далікатнай. Чысціць даводзілася прыціснуўшы бэлькай да сцяны, але і тады крычала і рыдала ўвесь час пакуль яе чысцілі. Запрагаць яе было немагчыма. Як толькі пасы вупражы краналіся гэтай кабылы, яна адразу пачынала ламаць дышаль і добра, калі другі конь пры гэтым не быў паранены. Быў, аднак, час, калі яна была лагоднай, як ягня, можна было да яе дакранацца, падлазіць пад жыватом. Гэты быў час калі яна насіла жарабя. Але так было толькі два разы, а потым стала бясплодная. Мусіў яе прадаць. Купілі яе купцы па конях, мае прыяцелі яўрэі. Папярэдзіў іх, каб былі асцярожнымі. "Каму пан кажа, у нас яна будзе, як авечка". І "авечка" ў той жа дзень зламала руку аднаму з іх. Кабыла вандравала ад гаспадара да гаспадара, сеючы перапалох і знішчэнне. Праз тры ці чатыры гады бачыў, як тагачасны ўладальнік, селянін з-пад Гародні, спрабаваў прадаць яе афіцэру падчас манеўраў. Выглядала добра і грозна глядзела сваім вокам у белым абадку. Яе сын Густ доўгія гады быў маім верхавым канём. ...

У доме жыла кухарка, спярша Франуся, потым Барбара і іншыя служкі. Яны часта змяняліся, бо выходзілі замуж. Нейкі час, па-рэкамендацыі Леана, даўняга кухара з Нароўлі, а ў той час кухмістра і суўладальніка рэстарацыі "Брыстоль" у Вільні, меў кухара і яго памочніка ў адной асобе. Гатаваў нядрэнна, дасканала рабіў закускі, але быў лянівы і замала меў работы, бо ўсё рабіў досыць хутка і потым нудзіўся. Мусілі расстацца. Ён хутка стаў шэфам кухні ў Наваградскім клубе чыноўнікаў.

Дом у Скабейках меў восем пакояў і кухню на першым паверсе, тры пакоі і вялікі хол на другім. Верхнія пакоі былі для гасцей, а на першым паверсе меўся перадпакой, салон, пакой мамы, пакой Ружы, канцылярыя, мой пакой, сталовая, пакой кухаркі, кухня. Акрамя таго: камора, ванная, два клазеты і ўваход у падвал.

У першае лета разам з двума фоксамі жыў пад страхой стадолы. Каб не фоксы, дык мяне напэўна б з'елі шчуры, іх тут было шмат. Страляў па іх са штуцара, іншых адганялі сабакі. Меў там стол, палявы ложак і машынку да кавы, з якой частаваў гасцей. Ежу мне гатавала пані Зубуртовіч. Потым перасяліўся ў адзін з пакояў другога паверха,

які закончылі першым, калі ў іншых яшчэ ішла праца. ... Тут у мяне гасцявала шмат асоб, а хлопцы Чацвярцінскія неяк запыталіся ў маёй маці: "Чаму ў пана Раствароўскага на сняданак ёсць такая смачная кава, а мы п'ем такую дрэнную?". У княжацкім жалудоцкім доме панавала прастата, і штодзень ужывалася кава са збожжа.

## Частка 3[53]
## Пахаванне майго бацькі, віленскага архітэктара і мастака

На трэці дзень пасля манеўраў, прыйшла тэлеграма з паведамленнем пра смерць майго бацькі. Паспеў яшчэ на хуткі цягнік да Варшавы, а ў Варшаве на хуткі цягнік да Вільні. Разам са мной з Пулаваў выехалі цёця Зоф'я Весь, Цёця Лявонція Веруш-Кавальская і Дуда Раствароўская.

У Вільні ў салоне на катафалку ўжо стаяла засыпаная кветкамі труна. Бацька памёр раптоўна, пад час абеду ў рэстарацыі гатэля Георга. Тут жа, у любімым доме, які сам і пабудаваў і дзе працаваў, ён зараз і ляжаў. Пасля паўдня труну перамясцілі ў касцёл Св. Якуба. Прыехаў Стах Раствароўскі, палкоўнік, камандзір 27 палка ўланаў з Нясвіжа, Стэфан Раствароўскі, сын Караля. З кватэры труну перанеслі ў касцёл на пасах, бо блізютка. Было мноства людзей. Яшчэ болей прыйшло назаўтра, на ранішняе набажэнства. Святую імшу адслужыў вялікі сябар бацькі, ксёндз-прэлат Караль Любянец, на хорах граў слынны квартэт ... . Безліч вянкоў і кветак. Пакуль што труну апусцілі ў падзямелле капліцы могілак на Росах. Пахавальніцу, якая была каля праектаванай бацькам пахавальніцы дзеда Аляксандра Аскеркі, спраектаваў калега бацькі архітэктар Гіпаліт Грыневіч. Перанос труны з падзямелля капліцы ў гэтую пахавальніцу адбыўся толькі ўвосень. Таму былі выраблены дзве труны - драўляная і металічная ў сярэдзіне.

У пахаванні прыняла ўдзел дэлегацыя ад Віленскай дырэкцыі чыгункі, дзе бацька працаваў апошнія гады перад пенсіяй. Скончылася жыццё чалавека ціхага, працавітага, які горача любіў Вільню і яе прыгажосць, які любіў мастацтва, быў замілаваны ў гісторыю, на памяць ведаў усе роды і гербы. Памяць дазваляла яму цытаваць цэлага "Пана Тадэвуша", усяго Славацкага, Красінскага, Тэтмайра ... паэтаў італьянскіх і французскіх. Незалежна ад гэтага меў у памяці велізарны запас анекдотаў, гісторый і баек і час ад часу, сыпаў іх феерверкамі. Шмат якія з яго баек потым жылі ў Вільні як бяссмертныя гісторыі,

[53] Rostworowski Andrzej. Pogrzeb mojego ojca Tadeusza, wilenskiego architekta i artysty malarza. // Goniec Kresowy . Nr 43. Rok 2004. S. 15-16.

якія голасна цытаваў Салмановіч у віленскай "Чырвонай страле": "Як жывеш, пане Растваровіч" - бацька адразу адказаў: "Самавітых прозвішч не перакручваюць, пане Салманскі".

Ніхто ніколі не прыводзіў дакладнага спісу работ і будынкаў, зробленых бацькам. Нават мама шматразова казала яму зрабіць такі спіс, але ён заўжды лічыў, што яшчэ рана. Са слоў бацькі памятаю, што будаваў, перабудоўваў, праектаваў ці супрацоўнічаў з 1905 г., калі былі зняты абмежаванні на будаўніцтва, 28 касцёлаў. Лепшыя мастацкія працы, раскіданыя па маёнтках (акварэльны партрэты прыгожых жанчын, у віленскай кватэры была калекцыя з 40 дублікатаў, намаляваных цудоўнай тэхнікай), загінулі ў часе Першай сусветнай вайны, а тое што засталося, загінула падчас Другой сусветнай вайны. Нешта ўцалела ў Кракаве. У 1947-48 гг. мама і Ружа разам з Зімерманам, зрабілі наступны, далёка няпоўны, спіс некаторых прац бацькі:

**Касцёлы:** Рудка, Парафіянаў, Лынтупы, Крэва, Белая Вака, Маляты, Беняконі, Ваверка, Іўе, Суботнікі, Сабакінцы (зараз Першамайск Шчучынскага р-на - *Л.Л.*) і некалькі іншых[54].

**Двары і палацы**: Дабачня - Булгакаў, Даніловічы - Тышкевічаў, Гельваны - Плятэраў, Залаты Паток, Жалудок - Чацвярцінскіх, потым па жаданні гаспадароў Марконі няўдала перарабіў яго, Рудакоў - Ваньковічаў, Ландвараў - Тышкеічаў, Скабейкі - двор для сваёй сям'і. (Яшчэ: Больценікі - Путкамераў, Лынтупы і Раклішкі - *Л.Л.*).

**Шэраг архітэктурна-мастацкіх прац:** У Нароўлі - Хорватаў, афіцына ў Жыржыне, Вяслоў, Віжуны, Боньча.

**Пераробкі і перабудова шэрагу двароў на Літве, Жмудзі, Русі**.

**Вакзалы і чыгуначныя будынкі:** Чэрамша, Масты, Ражанка, Скрыбаўцы, Ліда, Бастуны, Беняконі, Брэст-Літоўскі - разам з архітэктарам Гіпалітам Грынцэвічам, незакончаны. Паравознае дэпо, перароблена ў жылы дом у Мастах, калонія дамоў чыноўнікаў у Лапах, схематычныя праекты вакзалаў: вялікага, сярэдняга і малога - якія потым серыйна будаваліся ў Віленскай дырэкцыі чыгунак.

Гмахі і дамы ў Вільні: дом гатэля Георга, дом гатэля Брыстоль, дом Слізня па вуліцы Гданьскай, даходны ўласны, прададзены Свентажэцкай дом па вуліцы Завальнай, даходны дом па вуліцы Шапэна, дом Коньчаў, праз час уласны дом па вуліцы Мантвілаўскай, фасад гмаху Віленскай дырэкцыі чыгунак па вуліцы Славацкага, 2, палац Тышкевічаў на Набярэжнай (Інстытут усходні), гмах Катроля па

[54] Яшчэ капліца ў Вялікім Мажэйкаве - *заўвага перакладчыка*.

вуліцы Вялікая Пагулянка, гмах сучаснай Гарадской станцыі, ранейшая ўправа Коннага завода.

Некалькі дзясяткаў карцін рэлігійнага зместу для касцёлаў, некалькі дзясяткаў вялікіх палотнаў міфалагічнага зместу для Нароўлі і Дабачні, некалькі дзясяткаў алейных партрэтаў, некалькі сотняў акварэльных партрэтаў, сотні праектаў алтароў, канфесіяналаў, брам, званіц, капліц, надмагілляў, дамоў чыноўнікаў, ад сціплых да люксовых. Некалькі дзясяткаў плафонаў і фрэсак. Некалькі прафесійных артыкулаў у архітэктурных часопісах, і тое, пра што мала хто ведаў - шмат вершаў.

Увосень адбылося перанясенне парэшткаў у пахавальніцу. Прысутнічалі найбліжэйшыя сваякі і сябры. Жаданне мамы, быць пахаванай каля мужа і бацькі не было выканана, яе пахавалі на варшаўскіх Павонзках.

*Пераклад Леаніда Лаўрэша.*

# Ларыса Геніюш - гэта вера ў Беларусь



4 кастрычніка 2012 года ў Лідскім бібліятэчным філіяле № 3 у мікрараёне Маладзёжны быў адкрыты памятны куток Ларысы Геніюш.

Тут устаноўлены знаёмы ўсім бюст паэткі работы скульптара М. Іранькова, развешаны банэры з вершамі і адкрыта выстава твораў.

На пачатку імпрэзы памінальную малітву па Ларысе, Янку і Юрку Геніюшах па-беларуску прачытаў айцец Уладзімір



Камінскі. Ён жа сказаў і слова пра жыццёвы і літаратурны вычын Ларысы Антонаўны.

Дапоўніў айца Ўладзіміра Міхась Скобла, асноўны даследчык жыцця і творчасці Л. Геніюш. З песнямі на словы Л. Геніюш выступіла

Таццяна Матафонава з Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Верш, прысвечаны Ларысе Геніюш, а таксама пераклад верша паэткі на рускую мову прачытаў лідскі паэт Пятро Макарэвіч.

Вершы Ларысы Геніюш чыталі і вучні суседняй лідскай СШ № 13.

Песню лідскага кампазітара С. Бугасава на словы Ларысы Геніюш выканаў хор лідскай царквы Ўсіх Святых.

Завяршыў імпрэзу лідскі бард Сяржук Чарняк,











якi выканаў дзве песні на словы Л. Геніюш.

Як коратка, то і ўсё.

Трэба аднак удакладніць гісторыю самога бюста. Паводле легенды гэта той самы бюст, з якога была знята форма і адліты бюсты ў метале для Зэльвы і Старых Дарог. Бюст доўгі час захоўваўся на сядзібе БНФ у Менску, пакуль не быў перададзены Анатолем Белым, светлая памяць яму, у Лідскі гістарычна-мастацкі музей для ўстаноўкі ў літаратурным філіяле. Але для філіяла, які размяшчаецца ў доміку Таўлая, бюст аказаўся завялікі. Праз некаторы час вырашана было ўстанавіць бюст у 3-м філіяле бібліятэкі, а раптам калі і імя Л. Геніюш





удасца яму надаць.

Пастамент зрабіў уласнымі рукамі старшыня Лідскай арганізацыі ТБМ Лявон Анацка. Банэры былі зроблены на заводзе “Ліпласт”.

Астатняе легла на супрацоўнікаў бібліятэкі.

Такім чынам, на Лідчыне з’явіўся яшчэ адзін літаратурны асяродак і памятная літаратурная мясціна.

Устаноўка бюста дадала веры ўсім лідзянам, што мы ўсе разам дойдзем да Беларусі, пра якую так марыла Ларыса Геніюш.

***Станіслаў Суднік.***

# 100-годдзе Валянціна Таўлая ў Лідзе

8 лютага 2014 года ў г. Лідзе адзначалі 100-годдзе з дня нараджэння беларускага паэта Валянціна Таўлая. Лёс звязваў Валянціна Таўлая з многімі населенымі пунктамі Беларусі. Нарадзіўся ён 8 лютага 1914 г. у Баранавічах, пайшоў у школу ў Лідзе, жыў у Рудаўцы на Слонімшчыне і вучыўся ў Слонімскай гімназіі. Пасля польскіх турмаў і кароткага акрэсу жыцця ў БССР, зноў турмаў працаваў у 1939-41 гг. у лідскай газеце “Ўперад”, быў у падполлі на Навагрудчыне, сядзеў у лідскай турме пры немцах, пасля вайны да 1947 г. працаваў у Менску.




***Кніга “Этапы жыццёвых дарог”***



***Анастасія Каладзяжная прадстаўляе кнігу***

Усе гэтыя этапы жыцця Валянціна Таўлая прадстаўлены ў кнізе “Этапы жыццёвых дарог”, з прэзентацыі якой у Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы і пачаліся ўрачыстасці. Аўтар кнігі супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Анастасія Каладзяжная, аўтар прадмовы Станіслаў Суднік.

“*Факт да факту, падзея да падзеі, і з кнігі паўстае вобраз паэта-змагара і вельмі неардынарнага чалавека. Пры гэтым у*



***Падчас прэзентацыі кнігі, крайняя справа дачка Валянціна Таўлая Галінка Таўлай***

*кнізе вельмі мала чыста аўтарскага тэксту, яшчэ менш аўтарскіх эпітэтаў. Усе эпітэты ўзяты з выказванняў тых людзей, якія ведалі Валянціна Таўлая, якія жылі побач, якія побач змагаліся",* - гаворыцца ў прадмове.

На свята прыехалі сваякі Валянціна Таўлая, землякі з Рудаўкі, і ў першую чаргу з Пецярбурга прыехала дачка Галінка з мужам, акадэмікам Ігарам Мацieўскім і прарэктарам Расійскага інстытута культуры і мастацтваў Юрыем Бундзіным.

І вось вам пецярбургская інтэлігенцыя - што Галінка Таўлай выдатна валодае беларускай мовай, то не дзіва, але на выдатнай беларускай мове размаўляў і Ігар Мацieўскі, які нарадзіўся ў Харкаве і ні дня не хадзіў у беларускую школу. Адным словам - Пецярбург.

Пасля прэзентацыі кнігі ўдзельнікі свята накіраваліся па таўлаеўскіх мясцінах Ліды. Бязлітасная вайна пакінула мала што аўтэнтычнае: згарэла хата, дзе жылі бацькі В. Таўлая, але захавалася турма "На Сыракомлі". На верхніх паверхах сёння тут мэблевая фабрыка, склеп жа фактычна аўтэнтычны, а дзверы камеры № 13 цалкам аўтэнтычныя.

Пасля турмы накіраваліся да рэдакцыі "Лідскай газеты" - спадкаемцы газеты "Ўперад", якая была заснавана ў 1939 годзе, і дзе з першых нумароў працаваў Валянцін Таўлай. У памяць пра гэта на будынку рэдакцыі была адкрыта памятная шыльда. Выканаў шыльду Рычард Груша.

Наступным пунктам маршруту стала бібліятэка імя Валянціна

Таўлая па вул. Фурманава. Бібліятэка носіць імя В. Таўлая ўжо 50 гадоў. Тут да 100-годдзя паэта падрыхтавана выстава твораў, а таксама быў зроблены прыгожы банэр з партрэтам паэта, радкамі верша, здымкам лідскай школы імя Людвіка Нарбута, у якой малы Валянцін пачаў свае ”ўніверсітэты” і дзе напісаў свой першы верш на польскай мове. У ніжняй часцы банэра мосцік цераз Лідзейку




***Памятная шыльда на будынку рэдакцыі “Лідскай газеты”***



***Падчас адкрыцця памятнай шыльды на будынку рэдакцыі “Лідскай газеты”***

недалёка ад вуліцы В. Таўлая ў Лідзе.

Кульмінацыяй святкаванняў стала адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доміку, дзе ў 1939-41 гадах жыў Валянцін Таўлай са сваёй першай жонкай Кірай. Домік ацалеў у вайну, але наўрад ці дастояў бы да нашага часу, каб падчас першага этапу рэстаўрацыі Лідскага замка ў 70-х гадах ХХ стагоддзя яго не абклалі цэглай. Тут размяшчаўся спорткамітэт, што зусім не адпавядала культурнай значнасці будынка, таму з 1994 года грамадскасць горада, і ў першую чаргу ТБМ імя Ф. Скарыны, пачала кампанію па высяленні спорткамітэта і перадачы будынка аддзелу культуры з тым, каб адкрыць тут Лідскі



*У бібліятэка імя Валянціна Таўлая па вул. Фурманава*




*Мемарыяльная дошка Валянціну Таўлаю на доме, дзе жыў паэт, па вул. Замкавай, 7 у Лідзе*



*Галінка Таўлай, намеснік старшыні Лідскага райвыканкама  Віктар Пранюк і скульптар Рычард Груша пры адкрыцці мемарыяльнай дошкі*

літаратурны музей. І нарэшце ў 2010 годзе падчас падрыхтоўкі да “Дажынак-2010” з’явілася магчымасць ажыццявіць задуманае. Раённыя ўлады выдзелілі сродкі, правялі рамонт, і ў доміку быў адкрыты Літаратурны філіял Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Домік зажыў новым літаратурным жыццём.

У савецкія часы на доміку вісела просценькая мемарыяльная дошка, якая нагадвала, што тут калісьці жыў паэт, але ў 90-я гады дошку знялі і згубілі.

Эпапея з устаноўкай новай дошкі пачалася ў 2008 г. Некалькі разоў праекты заварочваліся Гарадзенскай мастацкай радай, пакуль нарэшце перад 100-годдзем справа ўстаноўкі мемарыяльнай дошкі не стала справай гонару Лідскага райвыканкама. Праект дошкі нарэшце быў зацверджаны ў Гародні, былі знойдзены грошы, і вось намеснік старшыні Лідскага райвыканкама Віктар Францавіч Пранюк, дачка Валянціна Таўлая - Галінка Таўлай, скульптар - Рычард Груша адкрылі дошку, завяршыўшы тым самым 20-гадовую гісторыю давядзення да годнага ўзроўню ўшанавання памяці слаўнага сына Беларусі, патрыёта і змагара, выдатнага паэта Валянціна Таўлая.

Непасрэдна пасля адкрыцця дошкі Галінка Таўлай сказала:

*- Калі я сённа пабачыла колькасць людзей, якія прыйшлі на гэтае свята ў бібліятэку... Цяжка было стрымаць пачуцці. Гэта было настолькі ўражліва. Трэба сказаць, што памяць пра Таўлая сапраўды здзіўляе - гэта прайшло столькі гадоў, чалавек пражыў такое непрацяглае жыццё і пакінуў такую добрую памяць пра сябе, пра сябе, як чалавека, які заўсёды быў за Беларусь.*



***Ігар Мацiеўскі і Галінка Таўлай***

Наступным этапам святкавання стала тэатралізаваная пастаноўка з біяграфіі Валянціна Таўлая. Ролю Валянціна выконваў рэжысёр Лідскага народнага тэатра Алег Лазоўскі, а ролю Кіры іграла супрацоўніца Лідскага гістарычна-мастацкага музея Ілона Мерава. І Ліда не была б Лідай, каб не прагучаў той самы першы верш паэта на польскай мове пра верабейку, які В. Таўлай напісаў у Лідзе.

А ў літаратурна-музычнай гасцёўні, апошнім пункце маршруту, можна было нарэшце



***У літаратурна-музычнай гасцёўні сваячкі Валянціна Таўлая з Баранавіч, Ігар Мацiеўскі, Галінка Таўлай, Юры Бундзін***

перадыхнуць, пазадаваць пытанні, выказацца, пачытаць вершы. Выступіла Ніна Пазняк, сенатар ад г. Ліды, намеснік начальніка ідэалагічнага аддзела А. Самсонаў распавёў пра малавядомыя моманты стварэння музея. А нам застаецца сказаць, што на розных этапах сілы і талент для арганізацыі свята прыклалі самыя розныя людзі: Ірына Саўсян - дырэктар цэнтральнай бібліятэкі, Кацярына Серафіновіч - рэдактар “Лідскай газеты”, Ганна Драб - дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея, супрацоўнікі музея Анастасія Каладзяжная і Алесь Хітрун, супрацоўнікі мэблевай фабрыкі і бібліятэкі імя В. Таўлая, і ні аднаго збою, усюды высокі ўзровень культуры. Прыемна, ганарова і амаль усё па-беларуску.

Ліда шануе роднае і ўмее гэта рабіць.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Дарослыя пішуць для дзяцей, *або* Справа Веры Навіцкай жыве ў Лідзе і праз сто гадоў

На працягу амаль што ўсяго 2014-га года Лідскай цэнтральнай рааённай бібліятэкай імя Янкі Купалы праводзіўся літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям", які ставіў сваімі мэтамі прапаганду творчай спадчыны дзіцячай пісьменніцы Веры Навіцкай сярод лідзян, заахвочванне лідскіх паэтаў і празаікаў да напісання твораў для дзяцей.




Спачатку некалькі слоў пра Веру Сяргееўну Навіцкую, чыё імя носіць конкурс. Адкрыў як пісьменніцу Веру Навіцкую слынны лідскі краязнавец Вале-





ры Сліўкін. Дзіцячая пісьменніца жыла ў канцы XIX - пачатку XX стагоддзя, і горад Ліда можа лічыць яе сваёй, бо ў Лідзе Вера Навіцкая жыла шмат гадоў і нават з'яўлялася начальніцай мясцовай прыватнай жаночай гімназіі. Вера Навіцкая - аўтар некалькіх дзіцячых кніг прозы пра дзяўчынак-гімназістак. Ёсць падставы лічыць, што шэраг сваіх твораў яна напісала менавіта ў нашым горадзе. Дарэчы, некалькі гадоў таму назад творы лідскай дзіцячай пісьменніцы былі перавыдадзены ў Расіі.

На працягу конкурсу імя Веры Навіцкай у Цэнтральную раённую бібліятэку былі дасланыя дзіцячыя творы каля дзясятка мясцовых літаратараў, а таксама з Баранавіч і Наваградка, галоўным чынам - вершы (каля двухсот). Усе дасланыя творы пазней увайшлі ў выдадзены бібліятэкай зборнік "Дарослыя - дзецям" (60 ст.). У прадмове да зборніка старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік адзначыў, што рускамоўныя пісьменнікі Беларусі, такія як Кандраццеў, Навіцкая і інш. аказаліся найбольш забытымі, бо як рускамоўныя сталіся незапатрабаваныя беларусамі, а, як жыўшыя не ў Расіі, былі чужыя той жа літаратуры рускай. А творы, напісаныя рускамоўнымі пісьменнікамі Беларусі канца 19-га - пачатку 20-га стагоддзя, маюць свае гуманістычныя і мастацкія вартасці. Напісаныя ў Беларусі, яны ўтрымоўваюць часцінку Беларусі і не могуць сходу адкідвацца як не нашыя. А для Ліды Вера Навіцкая на сёння - найбуйнейшы лідскі дзіцячы пісьменнік усіх часоў, таму



конкурс і носіць яе імя.

А 17 снежня ў канферэнц-зале Цэнтральнай раённай бібліятэкі адбылося падвядзенне вынікаў конкурсу, для чаго было складзена журы, узначаліў якое намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Уладзімір Самсонаў. Цырымонія падвядзення вынікаў адбылася ў рамках чарговага пасяджэння членаў літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", што дало магчымасць лідскім літаратарам больш даведацца адзін пра другога ў плане дзіцячай творчасці, раскрыць калег па літаратурным "цэху" і як аўтараў добрых, цікавых і павучальных твораў для дзяцей.

Так, напрыклад, нямала дзіцячых твораў пакінуў у спадчыну маленькім лідзянам Смарагд Сліўко, многія з гэтых твораў, сярод якіх сустракаюцца не толькі вершы, але і казка, п'еса, загадкі, гумарынкі і г.д., даслала на конкурс яго ўдава Ірына Нікадзімаўна. Задумка напісаць дзіцячую кнігу вершаў з'явілася год назад у Ўладзіміра Васько, і на сённяшні дзень паэт мае ў сваім твор-чым багажы ўжо больш за трыццаць вершаў менавіта для дзяцей. Удзел у конкурсе дзіцячых твораў з нечаканага боку раскрыў лідзянам паэта і краязнаўца Станіслава Судніка - як празаіка (апавяданне "Мама, дай!", у якім расказваецца аб тым, як першабытныя людзі пачыналі гаварыць, як да іх прыйшла мова). Самы юны ўдзельнік конкурсу - навучэнец ліцэя № 1 Андрэй Шпілеўскі.

Вядоўца імпрэзы Галіна Курбыка дала магчымасць кожнаму з прысутных удзельнікаў конкурсу выказацца, нешта дадаць, нешта



патлумачыць, проста прачытаць колькі вершаў.

Кампетэнтнае журы вырашыла, што ў конкурсе будуць вызначаны два пераможцы. Імі сталі згаданыя вышэй Уладзімір Васько (2-я прэмія) і Станіслаў Суднік (3-я прэмія). Акрамя дыпломаў, пераможцам былі ўручаны і сапраўдныя прэміі. Астатнія ўдзельнікі конкурсу былі заахвочаныя дыпломамі за ўдзел, а Ірына Сліўко атрымала спецыяльны дыплом за папулярызацыю творчасці Смарагда Сліўко. 1-я прэмія сёлета не ўручалася.

Мяркуецца, што літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай стане яшчэ адной лідскай культурнай традыцыяй. Наступны такі конкурс плануецца правесці праз два гады.

Такім чынам у Лідзе ўжо ёсць музычны конкурс імя Канстанціна Горскага, мастацкі пленэр імя Бранiслава Яманта, літаратурны конкурс "Дарослыя дзецям" імя Веры Навіцкай. Чакае сваае чаргі фальклорны фестываль (конкурс) імя Земавіта Фядэцкага.

***Алесь МАЦУЛЕВІЧ.***

***На здымках** Кацярыны Лук'янец і Станіслава Судніка - фрагменты імпрэзы.*

# Створаны новы бюст Янкі Купалы





25 лютага 2015 года ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылося ўрачыстае адкрыццё бюста Янкі Купалы, які зрабіў бярозаўскі скульптар Яўген Лукашэвіч. Трэба адзначыць актыўную ролю ў гэтым бярозаўскай арганізацыі ТБМ, бо бюст выкананы на дабрачыннай аснове і падараваны Лідскай бібліятэцы.

На імпрэзе прысутнічалі вучні трох 8-х класаў СШ № 1 г. Ліды. Актыўны ўдзел у імпрэзе бралі сябры Лідскай гарадской арганізацыі. Пра повязь Купалы з Лідай распавядаў старшыня арганізацыі Станіслаў Суд-





нік, песні на словы Я. Купалы спяваў намеснік старшыні Сяржук Чарняк.

Але асноўны цяжар мастацкай часткі імпрэзы лёг на плечы навучэнцаў Лідскага музычнага каледжа, якія дружна падтрымалі свята сваім мастацкім выкананнем твораў на словы Янкі Купалы.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# 3-я Лідскія чытанні

## *Да 175-х угодкаў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча*

15 красавіка 2015 года ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшлі III Лідскія чытанні, прысвечаныя 175-годдзю з дня нараджэння бацькі беларускай нацыі Францішка Багушэвіча.

У чытаннях прынялі ўдзел прадстаўнікі Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"; навуковыя супрацоўнікі ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей"; бібліятэкары ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы"; школьныя краязнаўцы Лідскага раёна; настаўнікі гісторыі школ г. Ліды.

Пасля прывітальнага слова загадчыка аддзела абслугоўвання і інфармацыі ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" Ненартовіч С.К. выступіў педагог дадатковага навучання А.У. Блахіна, які ў гонар першай кніжкі Францішка Багушэвіча "Дудка беларуская" зайграў на трох тыпах беларускіх дудак.

Першай з дакладам "Айчына, праўда і свабода як мастацкі ідэал паэзіі Францішка Багушэвіча" выступіла кандыдат філалагічных навук, БДУ, г. Менск, Багдановіч І.Э. Затым з дакладам "Немец" і "жыд" як кантэкстуальныя сінонімы ў творчасці Францішка Багушэвіча" выступіў кандыдат філалагічных навук, БДУ, г. Менск, Запрудскі І.М. Наступнае паведамленне на тэму: "Багушэвіч у Доцішках" зрабіла Юрго В.М., метадыст ДУК "Воранаўская раённая бібліятэка". Спавешчанне на тэму: "Папулярнасць творчасці Францішка Багушэвіча ў Лідзе"



*А.У. Блахін*



*Ірына Багдановіч*



*Ігар Запрудскі*



*В.М. Юрго*



*Г.А. Велькашынская*

зрабіў краязнавец з г. Ліды Леанід Лаўрэш. Наступны даклад "Вывучэнне творчасці Францішка Багушэвіча ў школьнай праграме" прачытала настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 1 г. Ліда Велькашынская Г.А. Даклад "Францішак Багушэвіч у паўстанні 1863 года: легенды, здагадкі і факты" зачытаў рэдактар часопіса "Лідскі



***Леанід Лаўрэш***



***Алесь Хітрун***

летапісец", г. Ліда, Суднік С.В. "Лідскія матывы ў творчасці Францішка Багушэвіча" раскрыў навуковы супрацоўнік літаратурнага аддзела ДУ "Гістарычна-мастацкі музей"Алесь Хітрун. Напрыканцы з мультымедыйнай прэзентацыяй "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай…" выступіла галоўны бібліёграф ДУК "Лідская раённая бібліятэкі імя Янкі Купалы Курбыка Г.Р. Завяршыў чытанні бард Сяржук Чарняк песнямі на словы Францішка Багушэвіча і іншых беларускіх паэтаў.



***Станіслаў Суднік***

Падчас чытанняў на экране змянялі адзін другі кадры з відамі Кушлянаў і экспазіцыі тамашняга музея Францішка Багушэвіча. Дыск перадаў у Лідскую бібліятэку дырэктар Кушлянскага музея Алесь Жамойцін. Другі відэашэраг быў створаны ў Лідзе па выніках паездкі Станіслава Судніка і Алеся Хітруна па Багушэвічавых мясцінах у Кушлянах і Жупранах. Не карэктна было



*Г.Р. Курбыка*



*Сяржук Чарняк*



*Падчас чытанняў*

праводзіць чытанні і не пабыць у Кушлянах і Жупранах, не паглядзець, як ушаноўваецца памяць чалавека, які абвясціў усяму свету Беларусь.

Падчас чытанняў прагучала заўвага, што Багушэвіч у нас не

даўшанаваны. Так, да 175 угодкаў па ўшанаванні Ф. Багушэвіча зроблена не шмат. Хаця "Белпошта" выдала мастацкую марку, а 21 сакавіка правяла спецгашэнне маркі і канверта першага дня. Было некалькі мерапрыемстваў па Беларусі (у тым ліку ў Гародні). "Беларускі кнігазбор" выпусціў грунтоўны том выбраных твораў. Падтрымліваюцца ў прыстойным стане помнікі ў Смаргоні і Жупранах.

Аднак трэба згадаць яшчэ адзін вельмі важны момант, а менавіта - у касцёле ў Жупранах на пачэсным месцы вісіць партрэт Ф. Багушэвіча. На тэрыторыі Беларусі ў касцёле вісіць яшчэ толькі адзін партрэт пісьменніка - партрэт Уладзіслава Сыракомлі ў Нясвіжы. Таму можна смела гаварыць, што як бы там ні было, а Францішак Багушэвіч у Беларусі не занядбаны, сведчаннем чаму і праведзеныя ў Лідзе на высокім узроўні чытанні.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Ірэна Стасевіч-Ясюкова



21 сакавіка 2011 года памерла доктар габілітаваны, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, кіраўнік Камітэта гісторыі навукі і тэхнікі Польскай акадэміі навук, аўтарка шматлікіх публікацый **Ірэна Стасевіч-Ясюкова**.

Нарадзілася ў **Лідзе** (1929?), адукацыю пачала ў Лідзе, даатрымала ў **Беластоку**. Як прафесар Польскай акадэміі навук і Варшаўскага ўніверсітэта ўсё навуковае і даследчае жыццё звязала з Варшавай. Была ганаровым амбасадарам Падлесся ў Польшчы і за мяжой.

Як гісторык навукі займалася пераважна 18-м стагоддзем. Пад яе рэдакцыяй выйшла манументальная праца “Уклад піяраў у навуку і культуру ў Польшчы XVII-XIX ст.”

Прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова з мужам Ежы Ясюком (Ежы Ясюк працаваў дырэктарам Музея тэхнікі ў Варшаве) сабрала найвялікшую ў Польшчы праз многія гады калекцыю пісанак (каля 2000 штук). Пра пісанкі, фарбаванкі, крашанкі, накляянкі, авяянкі, накрапянкі ведала, здаецца, усё. Калекцыя пачалася ад пісанкі, якую падарыў будучы муж, а зараз 1200 штук экспанатаў калекцыі выстаўлены ў асобным будынку ў Цеханаўцы. Выдала шэсць томікаў кніжак пра пісанкі, падрыхтавала сёмы, прысвечаны найрадчэйшым экзэмплярам. Заразіла ахвотай да збірання пісанак многіх сваіх дактарантаў.

Ірэна Стасевіч-Ясюкова была шчырым сябрам Беларусі, пачынаючы з 1992 года пастаянна наведвала Ліду і Беларусь. Супрацоўнічала з мясцовымі грамадскімі арганізацыямі, у першую чаргу з Таварыствам польскай культуры на Лідчыне, а таксама з Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Заснавала гістарычна-біяграфічную серыю “Знакамітыя палякі Лідчыны”, але кнігі, якія выходзілі ў гэтай серыі былі пра ўраджэнцаў Лідчыны і Беларусі. Пачынаючы з 2-й кнігі пані Ірэна пастанавіла, каб кніжкі выходзілі на польскай і бела-

рускай мовах, дзякуючы чаму шырокаму беларускаму чытачу сталі даступныя біяграфіі многіх выбітных лідзян. Выйшлі кнігі Паўла Камароўскага і Аляксандра Колышкі **“Людвік Нарбут. З гісторыі гістарычнай свядомасці палякаў на Лідскай зямлі”** (1999), Ядвігі Гарбоўскай і Кшыштафа Якубоўскага **“Ігнацій Дамейка (1802-1889)”** (2000), Ванды Грамбецкай **“Станіслаў Баніфацы Юндзіл (1761-1847)”** (2003), самой Ірэны Стасевіч-Ясюковай **“Казімір Нарбут (1738-1807)”** (2004), Ганны Мар’і Келяк **“Пра крэсавы гербарый Элізы Ажэшкі”** (2005), Яраслава Куркоўскага **“Мацей Догель (1715-1760)”** (2006), Ірэны Стасевіч-Ясюковай **“Ксёндз Станіслаў Роек (1908-1996). Незвычайная біяграфія нязломнага крэсавага каплана”** (2007), Яраслава Куркоўскага **“Бернард Сыруць (1731-1784)”** (2009), Мар’яны (Марыі) Магдалены Бломберг **“Вандалін Шукевіч. Сын Лідскай зямлі, даследчык і грамадскі дзеяч (1852-1919)”** (2010). Акрамя таго Ірэна Стасевіч-Ясюкова напісала і выдала кнігу **“Лідзянка. Пра Марыю Стасевіч - маю маму - успаміны”** (2008). Гэтыя кніжкі стварылі выдатную галерэю партрэтаў выбітных лідзян, а многія, падрыхтаваныя ўжо, чакаюць выхаду.

Пахавалі Ірэну Стасевіч-Ясюкову 30 сакавіка ў Варшаве. Вечная памяць слаўнай лідзянцы.

***Станіслаў Суднік.***

# Уладзімір Хрышчановіч



15 верасня 2011 года ў Лідзе на 67-м годзе жыцця пайшоў у іншы свет беларускі нацыянальны дзеяч **Уладзімір Канстанцінавіч Хрышчановіч.**

Уладзімір Хрышчановіч прыйшоў у беларускі нацыянальны рух у пачатку 90-х гадоў. У 1994 годзе быў абраны намеснікам старшыні Лідскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэньне", а пасля заснавання Партыі БНФ - намеснікам старшыні Лідскай гарадской арганізацыі Партыі БНФ. Адначасова быў кіраўніком Лідскай Слабадской суполкі ТБМ. Вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Лідскага гарсавету ад БНФ "Адраджэньне".

У 1999 годзе падчас сумнавядомага расколу БНФ Уладзімір Хрышчановіч застаўся на пазіцыях Зянона Пазьняка і быў абраны старшынём Лідскай гарадской арганізацыі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ (з 2004 года Лідскай раённай арганізацыі), а таксама сябрам Сойму КХП БНФ.

Уладзімір Хрышчановіч быў ініцыятарам і рухальнай сілай многіх адраджэнцкіх праектаў на тэрыторыі г. Ліды і Лідскага р-на.

У. Хрышчановіч прымаў непасрэдны ўдзел ва ўстаноўцы крыжоў на магілах паўстанцаў 1863 года паміж вёскамі М. Ольжава і Мохавічы, крыжоў на магіле ксендза Адама Фалькоўскага ў Лідзе і на месцы бітвы лідскай шляхты з войскамі ваяводы Хаванскага ў Беліцы.

За адраджэнцкую дзейнасць неаднаразова прыцягваўся да адказнасці. За ўдзел ва ўстаноўцы крыжа на магіле ксендза Адама Фалькоўскага ў 1997 годзе У. Хрышчановіч (праваслаўны) быў прысуджаны да штрафу.

Займаўся краязнаўствам, збіраў краязнаўчыя матэрыялы, удзельнічаў у краязнаўчых мерапрыемствах, выступаў з артыкуламі ў друку. Пасля смерці ў "Лідскім летапісцы" быў надрукаваны яго



***Крыжы паміж Малым Ольжавым і Мохавічамі, якія ўстанаўліваў Уладзімір Хрышчановіч***

матэрыял пра дзеячоў Беларускай незалежніцкай партыі Саковіча, Маракова, Ваўчка. Апекаваўся магіламі беларускіх патрыётаў.

Працуючы на Лідскай дыстанцыі шляхоў зносін вёў пастаянную асветніцкую і прапагандысцкую дзейнасць сярод лідскіх чыгуначнікаў, распаўсюджваючы вялікі аб'ём адраджэнцкай літаратуры. Апошнія шэсць гадоў, пасля выхаду на пенсію, штотыднёва распаўсюджваў 35 нумароў газеты "Наша слова" і некалькі нумароў "Лідскага летапісца" (часопіс купляў за свой кошт).

Трымаўся на нагах да апошняга. Памёр, але з шыхту не выйшаў. Хай будзе суцяшэннем яму і нам, што памёр у незалежнай Беларусі, якую так моцна любіў.

Пахаваны ў Лідзе на могілках па Гарадзенскай дарозе.

***Станіслаў Суднік.***

# Анатоль Кулеш



21 сакавіка 2014 г. на 87-м годзе жыцця не стала лідскага краязнаўца, настаўніка, грамадскага дзеяча і журналіста **Анатоля Куляша**. Анатоль Фёдаравіч быў адным з пачынальнікаў сучаснага лідскага краязнаўства. Асабліва шмат у гэтым кірунку ён працаваў апошнія гады, нават у сакавіку апублікаваў некалькі артыкулаў у "Лідскай газеце".

Нарадзіўся Анатоль Фёдаравіч Кулеш у позні майскі вечар, 5 траўня 1927 года пад самае свята Юр'ева дня. Вёска Збляны Лідскага раёна, дзе яму пашчасціла прыйсці на свет, раскінулася ўздоўж правага берага Нёмана ў самым цудоўным на свеце прыродным кутку. Тут Анатоль спазнаў першыя словы, першыя літары, тут прыйшло першае каханне. Тут усё было першым. Але ў І7-гадовым узросце жыццё прымусіла пакінуць гэты багаты, цудоўны, жыватворны край.

Анатолю Куляшу прыйшлося пачаць вучобу ў польскай школе першай ступені з адным настаўнікам. Выкладанне прадметаў вялося толькі на польскай мове.

У шосты клас Анатоль пайшоў ужо пасля вайны - 1 кастрычніка 1944 года - у Лідскую СШ №1. Праляцелі 4 гады. Паўстала пытанне: як быць далей пасля заканчэння сярэдняй школы? У гэты час з-за недахопу настаўнікаў сельскіх школ, у Лідскай педна-вучальні была адкрыта "спецгрупа" па падрыхтоўцы настаўнікаў пачатковых класаў з гадзічным тэрмінам навучання. Туды прымалі слухачоў, якія мелі сярэднюю і дзевяцікласную адукацыю. Шмат што вабіла туды вясковага хлопца: стыпендыя, інтэрнат, а галоўнае - праз год ты становішся самастойным чалавекам. Канчалася нястача, беднасць, галеча. Вучоба ішла лёгка, без напругі. Скончыўся год, мелі быць выпускныя дзяржаўныя экзамены. Перад тым адбылося "размеркаванне". Размеркавалі на працу ў Лідскую працоўную дзіцячую калонію МУС.

Праз год вылузаўся з калоніі і стаў настаўнікам матэматыкі Споркаўскай сямігодкі за 5-6 кіламетраў ад Ліды.

Летам 1951 года А.Ф. Куляшу прапанавалі пасаду другога

сакратара райкама камсамолу і адначасова ўзначаліць аддзел прапаганды. А ў раёне поўным ходам ішла калектывізацыя аднаасобных гаспадарак у гаспадаркі калектыўныя – калгасы. Але гэта быў ужо не 1939 год. Што ўяўляюць сабой калгасы, сяляне добра ведалі. Таму, як маглі, супраціўляліся.

У гэты час (1951 г.) былі арыштаваны сябры і аднавяскоўцы А. Куляша за ўдзел у моладзевай патрыятычнай антысавецкай арганізацыі, але на яго ніхто не паказаў.

Праца ў камсамоле не задавальняла, а пайсці па асабістым жаданні з выбарнай пасады – партыйнай ці камсамольскай, савецкай – можна было двума шляхамі: здзейсніць злачынства, ці калі цябе не выбяруць на наступны тэрмін. Але А. Куляшу ўдалося з малымі стратамі зноў стаць настаўнікам, ужо ў Шай-бакоўскай школе.

Шмат гадоў А. Кулеш прысвяціў краязнаўству. Яго ўдзел у краязнаўчай рабоце можна падзяліць на тры перыяды: знаёмства з родным краем у дзіцячыя і школьныя гады, у час збору матэрыялаў для напісання дыпломнай работы пры заканчэнні геаграфічнага аддзялення фізіка-геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта на тэму “Фізіка-геаграфічная характарыстыка Лідскага раёна” і ў час работы пазаштатным экскурсаводам Лідскага бюро падарожжаў і экскурсій.

У выніку шмат матэрыялаў апублікаваў у рэспубліканскіх, абласных і мясцовых перыядычных выданнях.

Працуючы настаўнікам геаграфіі ў школах горада, склаў фізіка-геаграфічны атлас раёна. У яго ўвайшлі фізіка-геаграфічная, геолага-геамарфалагічная карты, геалагічны разрэз і комплексны геамарфалагічны і раслінны профіль тэрыторыі раёна. Склаў гіпсаметрычную крывую рэльефу Лідскага раёна ахарактарызаваў рэжым рэк: Нёмана, Дзітвы, Лідзейкі.

Нарэшце была выдадзена кніжка А. Куляша пад назвай “Горад Ліда: гісторыя, легенда, факты” - папулярны гістарычна-геаграфічны нарыс.

Працаваў у складзе рабочай групы па напісанні кнігі “Памяць. Ліда і Лідскі раён”. А яшчэ ў шуфлядзе А. Куляша засталіся тры нявыдадзеныя кнігі.

***Станіслаў Суднік.***

# Пятро Макарэвіч



*Жыў па-людску і рабіў нямала,*
*Разліваў, як сонца, весялосць...*
*А мая персона выклікала*
*Найчасцей -*
*няўдзячнасць або злосць.*

12 снежня 2014 года пайшоў з жыцця сябар Лідскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны, паэт **Пятро Макарэвіч.** Памёр а 18-й гадзіне за шахматнай дошкай у шахматным клубе.

Нарадзіўся Пётр Макарэвіч 15 красавіка 1938 года, у вёсцы Шынкі Крупскага раёна, што на Меншчыне, на беразе рэчкі Можа. Яму ішоў чацвёрты гадок, як пачалася Вялікая Айчынная вайна, бацьку і дзвюх старэйшых сясцёр вывезлі у Германію. На долю адной маці выпаў клопат пра астатніх пецярых дзяцей: двух хлапчукоў і траіх дзяўчынак. У сям'і ж ўсяго было сем чалавек.

Далей у Макарэвіча ўсё ішло так, як ў большасці беларускіх хлопцаў: вучоба ў школе, служба ў арміі, вучоба ў педагагічным інстытуце імя Горкага (бібліятэчны факультэт). Будучы студэнтам трэцяга курса ён звязаў сваё жыццё з прыгожай маладой дзяўчынай Янінай, ураджэнкай в. Дубчаны, што на Лідчыне. Праз два гады нарадзілася дачушка Юля, а яшчэ праз два, у 1966 г. - Дзіна.

У 1964 г. пасля заканчэння вучобы быў накіраваны на пасаду загадчыка Лідскай раённай бібліятэкі, дзе працаваў каля года.

Затым пасада інструктара райкама КПБ, потым перайшоў на працу ў органы дзяржаўнай бяспекі. Праз пяць гадоў звальняецца, папярэдне адсядзеўшы ў каталажцы. Пасля ўсяго гэтага вельмі цяжка было знайсці працу.

У 1971 годзе каля года адпрацаваў на Лакафарбе грузчыкам, а затым каля трыццаці гадоў аддаў працы карэспандэнта на Лідскім радыё і ў рэдакцыі мясцовай газеты "Уперад" (зараз "Лідская газета").

Працаваў на міжраённай выратавальный станцыі, быў “маржом” і заядлым шахматыстам. На працягу многіх гадоў быў сябрам Лідскай рады ТБМ.

Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг паэзіі: “Злітак”, “Расінкі беларускіх слоў”, “Птица свободы”, шматлікіх публікацый у розных выданнях.

Правесці Пятра Макарэвіча ў апошні шлях прыйшлі сябры ТБМ і ўся літаратурная грамада Ліды.

Пахавалі паэта 14 снежня на старых лідскіх могілках па Гарадзенскай дарозе.

***Станіслаў Суднік.***

## ПАЖЫЦЦЁВЫ КОДЭКС

Не нашу ў кішэні дулю
З дзён зялёных да сівых:
Выпускаю слова куляй,
Нават горкае, услых.
Ставяць пасткі браканьеры
Мне, дзяўбуць у пух і прах.
Ды пляваў я на кар'еру!
Вабіць толькі волі пах.
Рабалепнаму хай свеціць
Бляск уладны медаля.
Даражэй за ўсё на свеце -
Годнасць людская мая.
Для людзей маёй пароды
Пернік горшы за бізун.
І за лёс свой непагодны
Не пускаю я слязу.
Прад начальствам я ніколі
У жыцці не шапкаваў.
Раб касы, сякеры, поля -
Па-кавальску верш каваў.

## МОЙ ЗАПАВЕТ

Несупынна, - бачу я і чую –
З апантанай прагай маньяка
Слова беларускае карчуюць
Рычагом двухмоўным знатака.

Божа мой! Куды і дзе ні ткніся –
На завод, у чын, тэлеэкран –
Гутаркі па-роднаму звяліся,
Прэцца адусюль трасянкі здань.

Ну чаго нам лезці на хадулі?
Дзе прыстойнасць,
годнасць, гонар наш?
Дзесяцімільённы люд абулі
У расейскамоўны камуфляж.

Сам сябе зжывае край са свету.
Вось ужо тутэйшыя сычы
Абрусілі й “Лідскую газету”:
Толькі назвай нашаю гучыць...

З мовай маці ў сэрцы –
роднай, боскай –
Жыў, жыву і буду дажываць.
Ля сцяны бацькоўскай –
не Крамлёўскай –
З продкамі жадаю спачываць.

## СУК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Расейска-ангельскі лінгвіст
Сячэ сук уласнай цытатай.
За што гэтак спецыяліст
Ганьбуе дар продкаў багаты?

Хаўруснікам даў тапары.
Схапілі яны й бензапілы,
Каб пнямі лыселі бары,
Каб ляснула мова ў магіле.

Як здані ў іржы небыцця
Сякеры з-пад Эльбы і Віслы.
Сягоння над дрэвам жыцця
Навала ад Волгі навісла.

Ужо сук наш ледзьве ліпіць
Пад рэхам тапорным кароны...
Ды скіне хам'ё й будзе жыць
Вякі беларуская крона!

## РАСІНКІ БЕЛАРУСКІХ СЛОЎ

Сную рытмічныя караλі
З радкоў былога, явы, сноў,
Каб смагу вуснаў наталялі
Расінкі беларускіх слоў.

Расінка да расінкі – чаркі
Налью паўнютка ад душы.
І на напой крыштальна яркі
Аматар вершаў набяжыць.

Не кожны – дэгустатар тонкі:
Ў людзей няроўны густ і смак.
Усклікне першы: "Самагонка!"
Другі – "Бальзам",
а трэці – "Шлак".

Вось майстра здзекаў і пародый
З наскоку пляжыць: "Сукін сын!
Такога свет не знаў смуроду;
Зарыфмаваны лье палын!"

А іншы выбухне: "Памыі
На чынавецтва і на лад!".
І з тэлевізараў такія
Б'юць слова роднае з гармат.

І пракурорскім тонам хвацка
Агучыць цэнзар вырак-гром:
"Настой атрутны прэ на бацьку!
Трэ скуру драць з яго жыўцом!"

Ды як ні будзе, як ні стане
Кляйміць гайня паслугачоў –
Пад куляй не папоўню стайню
Магільшчыкаў ярчэйшай з моў...

Я ткаў і буду ткаць каралі
З радкоў вар'яцкай явы й сноў,
Каб толькі з праўдай рыфмавалі
Расінкі беларускіх слоў;

Каб мой унук і ўнук унука
На ўтульных даланях вякоў
Жыў – крочыў вольна,
шчыра, пругка
У водары гаючых слоў!

## І СЛОВА – СЛАВА БЕЛАРУСА

*Зямляку-касманаўту*
*Уладзіміру Кавалёнку*

Ў закутак самы дарагі –
У край глыбінны вёскі Белай
Вязу я водпуск на лугі,
Маленства дзе як птушка пела.

"Дальбог такі, як быў, сынок,
І ўсё па-нашаму гаворыш...
А мой не едзе Васілёк", -
Мне скардзіцца суседка ўголас.

Я суцяшаю як магу –
Усмешкай, жартам, успамінам,

Як мы дурэлі ў мурагу,
Як, падшыванцы, рвалі міны.

Дзяцінства сына нагадаў,
Бы пасадзіў ёй на прыполік.
“Мне ж да бацькоў рукой падаць,
А Васілёк ваш – у Анголе...”

“Ды што пісьмо? Паперкі шмат!
Самога ўлашчыць бы вачыма.
Нібы работы тут няма,
Ля дому, ў бацькавай хаціне”.

І, нахіліўшыся на кій,
Лагодна кажа знізу ўгору:
“Пятрок, сто год ты гарадскі,
А проста, як і мы, гаворыш...”

І сапраўды (ад пахвальбы
Аж сэрца ёкнула балюча):
Не родным словам свае лбы
Мы без патрэбы часта мучым.

Ці з яблыкам, ці з агурком
Дзень прагандлюем на базары,
А вернемся ў вясковы дом –
“Вучона”, “рускай”
мовай жарым.

Акцэнт – карова на ільду –
Слых рэжа ў Гродні і за Глускам.
І гэту коўзкую хаду
Сур’ёзна лічым мовай... рускай?!

Ды сам вялікі Леў Талстой
Да смерці ёй не авалодаў!
А мы у прастаце сваёй
Валодаем... тыдзень без году...

Па-роднаму скажы, спытай –
Казеляць вочы, як на турка
Ці скаляць зубы ўсе, бадай,
Адукаваныя прыдуркі.

Лячу, акрылены, ў прасцяг:
Мне слова маці свеціць зоркай!
І ажывае Млечны Шлях
Зноў словам роднае гаворкі!

## БЕЛАРУСУ

Няўжо табе ява не згоркла?
З-за ласкі няпрошанай шэльмы
Над роднай спрадвеку старонкай
Хамее чужая гаворка,
Душу васільковую шчэміць.

Нашчадак Скарынаў, Гусоўскіх,
А лёс твой амаль што жабрацкі.
Дык выплюнь ураз тэлесоскі
Службістаў – нягоднікаў хвацкіх,
У карак гані падгалоскаў!

Нас лічаць яны за балванаў,
Як быдлу, ткуць шоры і путы.
Твой тузін гадоў змарнаваны,
Твой тузін гадоў змардаваны,
На “пяць” выдае хеўра чмутаў...

Змахні павуцінне піяру,
І знікне, і згіне брыда.
Даволі ўжо бзікаў пачвары.
Хай жывіць народныя мары
І слова, і справы ўладар!

## ПАРА ЗАВЕСЦІ ДРОТ У ЛЫЧ

Развесіў хвацкія вусы
На хутары ячменны колас.
У дакалгасныя часы
Тут гаспадарыў бацькаў голас.

Калі з “казой” не раз у год
Каля кутоў каморнік шастаў,
Казаў: “Пара завесці дрот
У лыч тарноўскаму начальству!”

Замоўк тых дзён
гвалтоўны зброд.
Зямлі і ў бацькі – два аршыны.
А ў дзесяць сотак агарод
Цяперака – абуза сыну.

Каб пустазеллем не здзічэў,
Увесь засейвае ячменем.
І не касой яго ссячэ –
Камбайн уміг адорыць зернем.

Чаму ж шчыміць паўсотні год
І забывацца не жадае
Душы сялянскай крык пра дрот?
Свінчо й сучаснае капае...

## УСТАВАЙ, СУАЙЧЫННІК, З КАЛЕНЯЎ

Я на зломе вякоў і на зломе эпох
Бачу: ідалы ўміг рассыпаюцца прахам,
А рэжымам закляты бы чартапалох
П’едэстал пасмяротна бярэ адным махам.

Ды пілуе найлепшых дзяржаўны тартак.
У фаворы Дзям’ян, у выгнанні – Шаляпін.
Колькі ж слаўных сыноў і дачок нашых так
Па-вар’яцку загубім, загадзім, пршляпім?!

Як да ганьбы такой дакаціўся народ?!
Славу нацыі, імя сусветнае – БЫКАЎ –
Слініць, топча паклёпамі скошаны рот
На кісельным экране са свістам і гікам?!

Уставай, суайчыннік, зкаленяў! Не трусь!
Годзе нам свет смяшыць і гібець як папала.
Беларускае слова – жыве! І - жыве Беларусь!
Ёсць Скарына у нас, Багдановіч, Купала.




У пачатку красавіка 2012 г. ў Лідскай друкарні выйшла кніга паэзіі лідскай паэтэсы **Тацяны Сямёнавай** “Осенний вальс”. 128 ст. Наклад 200 асобнікаў.



У траўні 2012 г. у Полацку выйшла кніга лідскага краязнаўца **Леаніда Лаўрэша** “Грэка - каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне”, 128 ст. Наклад 115 асобнікаў.




У траўні 2012 г. у менскім выдавецтве “Кнігазбор” выйшла анталогія аднаго верша “Птица свободы”, складзеная з перакладаў вершаў сотні беларускіх паэтаў на рускую мову, зробленых сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў лідскім паэтам **Пятром Макарэвічам**. А назва кнігі ўзята па назве верша Вольгі Іпатавай. 120 ст. Наклад 200 асобнікаў.




У жніўні 2012 г. выйшла кніга вершаў **Ірыны Багдановіч** "Душа лістападу".




У кастрычніку 2012 г. у рэлігійнай арганізацыі Санкт-Пецярбурга "Хрысціанскае таварыства "Библия для всех" выйшла ў свет кніга прозы ўраджэнца г. Ліды **Дзяніса Летуноўскага** "Ефремова гора". Наклад 2000 асобнікаў, 416 ст.




У канцы 2012 г. выйшла кніга вершаў **Дануты Бічэль** "Іду сцяжынкаю да Бога". Наклад 300 ас., 172 ст.




У лютым 2013 года ў Лідзе абмежаваным накладам выйшла кніга паэзіі **Яніны Догель** “На дасвецці”, 24 ст.



У красавікуа 2013 г. у Менскім выдавецтве "Лімарыус" выйшла кніга **Леаніда Лаўрэша** “І зорнае неба над галавой...”. Нарысы з гісторыі астраноміі. 268 ст. Наклад 200 асобнікаў.




У пачатку траўня 2013 г. Дзяржаўная ўстанова адукацыі “Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці № 2 г. Ліды” выдала альбом-казку “Як зайкі лес падпалілі” з малюнкамі дзетак і вершаваным тэкстам **Станіслава** і **Рымы Суднікаў**.




У жніўні 2013 г. у Лідскай друкарні выйшла кніга прозы **Ўладзіміра Васько** “Лясная рапсодыя”. 200 ст. Наклад 150 асобнікаў.




У верасні 2013 г. да 690-х угодкаў з дня заснавання г. Ліды выйшла кіга твораў лідскіх паэтаў, прысвечаная гэтай даце, **“Мой горад - гонар мой”**.




У верасні 2013 г. да 690-х угодкаў з дня заснавання г. Ліды выйшла **“Кніга рэкордаў Лідчыны”**. У 2012 годзе рэдакцыя "Лідскай газеты" (галоўны рэдактар Кацярына Серафімовіч) пачала працу над гэтым праектам. Ідэя стварэння кнігі належыць рэдактару аддзела фотаілюстрацыі газеты **Лілеі Лапшыной**.




У 2013 г. у Смаленску ў выдавецтве “Наапрэс” выйшла кіга **Валера Санько** “Грэх на іх нязмыўны”. 146 ст. Наклад 100 асобнікаў.




У лістападзе 2013 г. у Менску ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла кніга лідскага паэта **Алеся Стадуба** “Дотык волі”.




У канцы 2013 г. у Смаленску ў выдавецтве “Наапрэс” выйшаў раман **Валера Санько** “Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе”. 612 ст. Наклад 50 асобнікаў.




У пачатку студзеня 2014 г. у Лідзе выйшла кніга **Леаніда Лаўрэша** “Ліда ўчора і сёння. Гісторыя горада ў выявах”, 152 ст. Наклад 300 асобнікаў.




У студзені 2014 г. у Лідскай друкарні выйшла кніга **Анастасіі Каладзяжнай** “Этапы жыццёвых дарог”, 146 ст. Наклад 200 асобнікаў.



У пачатку 2014 года ў Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” ў серыі “Беларускі кнігазбор” выйшла кніга **“Валянцін Таўлай. Выбраныя творы”**. Укладальнік Анатоль Клышка. 416 ст. Наклад 1000 асобнікаў.




У пачатку 2014 года ў Гарадзенскай друкарні выйшла кніга **І.І. Гарбачэўскага** “Лидская партизанская зона”. Другое выданне. 180 ст. Наклад 500 асобнікаў.

У чэрвені 2014 года ў Лідскай друкарні выйшла кніга **Аляксандра Каранюка** “Сэнс жыцця”. 532 ст. Наклад 400 асобнікаў.







У чэрвені 2014 года ў Менску ў выдавецтве “Харверст” у серыі “100 выдатных дзеячаў” выйшла кніга **Леаніда Лаўрэша** “Вандалін Шукевіч”. 64 ст. Наклад 1500 асобнікаў.

У пачатку кастрычніка выйшла кніга **Валерыя Мацулевіча** “Чалавек са свечкай”. 72 ст. Наклад 100 асобнікаў.






У лістападзе 2014 г. у Лідскай друкарні выйшла кніга **“60 лет в пути. Лидские тепловые сети”**. Укладальнік П.Г. Гардзеёнак, дырэктар ЛЦС у 1990-1998 гг. 176 ст. Наклад 500 асобнікаў.




У снежні 2014 г. у Менску ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла кніга прозы лідскага паэта **Алеся Стадуба** “Мільянерка”. 88 ст. Наклад 100 асобнікаў.




У сакавіку 2015 г. выйшла першая кніга лідскага паэта **Алеся Мацулевіча** “Леў і ключы”. 92 ст. Наклад 100 асобнікаў.

У траўні 2015 г. у выдавецтве "Кнігазбор" (г. Менск) выйшла кніга выпускніцы Ганчарскай СШ **Ганны Шаўчэнкі** (Серэхан) "Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленне рамантычнай традыцыі ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя". 184 ст. Наклад 200 асобнікаў.







У чэрвені 2015 г. у Лідскай друкарні выйшла кніга вершаў лідскай паэтэсы **Ірыны Бараздзіной** "Из соли, сахара и перца".

У жніўні 2015 г. у Менску ў выдавецтве "МАЭН" выйшла кіга **Валера Санько** "Сучаснае беларускае літаратурнае жыццё". 280 ст. Наклад 99 асобнікаў.



# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ



## ПЕРАКЛАДЫ

## ПРОЗА



## ДРАМАТУРГІЯ



## МЕМУАРЫ



## ЛІТАРАТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

## МЕМАРЫЯЛ



**Ад лідскіх муроў**.
Літаратурна - мастацкі зборнік № 8 за 2012-2015 гг.
На беларускай мове. Ліда. 2015. 440 с.
Гарнітура “Таймс”, папера афсетная. Наклад 150 асобнікаў.

Наша слова

№ 15 (1218) 15 КРАСАВІКА 2015 г.

Будучыня беларускай мовы хвалюе беларусаў

130 гадоў з дня нараджэння Сымона Рак-Міхайлоўскага

*Падпісны індэкс: 63865*

# Сайт газеты “Наша слова”

Наша слова

У расійскім Екацярынбургу адкрылі помнік Уладзіміру Мулявіну

***naszaslowa.by***



*Уладзіслаў Абрамовіч*



*Міхал Шымялевіч*



*Антоні Грымайла-Прыбытка*



*Аляксандр Снежка*

**Вадзім Вераб'ёў. *Партрэты сяброў рэдакцыі газеты "Ziemia Lidzka".*** *Аловак. 2015 г.*



**Міхась Інькоў (нар. у 1954 г.). *Бюст Ларысы Генію́ш.***
*Гіпс.* Лідскі бібліятэчны філіял № 3. Мікраараён Маладзёжны.
Устаноўлены ў 2012 г.